# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

## № 5

1925

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ



БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

Пад рэдакцыяй З. ЖЫЛУНОВІЧА
Я. ЛІМАНОЎСКАГА і І. ШЫПІЛЫ

№ 5
1925

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК——1925

## НАШЫ СУПРАЦОЎНІКІ:

Александровіч А., Арэшнікаў П., Байкоў П., Баліцкі А., Баравы М., Барашка Іл., Буйло К., Бядуля З. (Ясакар), Бываеўскі Н., Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С., проф., Гарбацэвіч В., Гартны Ц., Грамыка М., Гурло А., Гэрчыкаў І., проф., Дзяржынскі Ў., Друшчыц В., Дубоўка Ў., Журба Я., Замоцін І., проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ў., проф., Колас Я., Купала Я., Каранеўскі Я., Кацэнбоген С., проф., Круталевіч А., Лёсік Я., Ліманоўскі Я., Маразоўскі М., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Неманскі Я., Нодэль В., Пічэта Ў., проф., Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М., проф., Родзевіч Л., Сербаў І., проф., Смоліч А., Сянькевіч А., Трус П., Харэвіч А., Хэрсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Чарвякоў А., Чарот М., Чарнушэвіч Н., Чорны К., Шатэрнік М., Шукевіч-Трэцьцякоў Р. і інш.

# ШЧЫРАЯ ДУША

## Ц. Гартны

### I

Паграбок на глухой гразкай вуліцы; тры вакны, два ў дваровай сьцяне, адно ў вулічнай, шуляваньнем на зямлі; мурзатыя, замэзганыя шыбы тушаць убогае праменьне сьвятла. Над гразкімі дзьвярыма, з паламанаю клямкаю, чуць прыметная бляшка—Хільшчык Шлёма Брыкер.

Каб і ня ўкмеціў бляшкі, то можна было-б пазнаць, што ў паграбку—хільня. гарбарня: ад дзьвярэй да сьметніку, што галеецца нездалечку, у кутку двара, пры дзюравым плоце, дарожка з мяздры, з вузенькіх кончыкаў, чорных і жоўтых рамухоў. Пры сьцяне, побач вушакоў, тачыла сьцёртае, прыроблена да шчарбатага цэбрыку, чорнага-чорнага, як-бы з дзёгцю зьлепленага; густая, у сініх тлустых скалках вада, тухлая—нясе на ўвесь двор, мяшаючы імпат з густым смуродам бярозавага дзёгцю. Адчыняюцца дзьверы—прэ струменем з паграбка, запаўняе двор і мкне на вуліцу. За некалькі хат чутно, што блізка шкурнік, гарбарня...

Ужо год, як Шлёма яе адчыніў. Два гады цягаўся па мястэчках, ад аднаго да другога гаспадара, шукаў работы, хоць-бы колькі, хоць дваццатак пар. Выпадкова знаходзіў, але не надоўга—на тыдзень, на пяць дзён, а пасьля —гуляй або йдзі далей. Куды-ж далей?

Работы пасьля вайны стала менш; дзе ёсьцека—кожны сабе пакідае. Падзяліцца—не выпадае.

Шлёме надаела вандраваньне, выпрошваньне, як ласкі, зарабіць на кавалак хлеба. Стомленым, змардаваным вярнуўся з вайны—доўгае, цяжкае адняўшае ад яго гібель сілы, здароўя.

Балюча бадзяцца—то не маладыя годы, калі і мора па калені: здаровым быў, ня лічыўся ні з чым, а цяпер—адчуваў, каб прытулак, асталяваньне: жыцьцё вымагала, годы... Калі-ж жыць, як вечна бадзяцца?

Трапіў у павет—усё-ж цэнтр, хутчэй можна дастаць спосаб да жыцьця, калі й ня будзе свае работы. Ды ў павеце, як-ні-як, рамяство ня так пала, як у мястэчках. Гэткія думкі прывялі ў Ручаў ужо пад восень, якраз проціў сэзону гарбарскага рамяства.

Спыніўся ў карчме, распытаў, разьнюхаў—ёсьць. Знашоў купца, небагатага, але гэткага, які мог даць у тыдзень пар трыццаць выцяжак. Абнадзеіўся Шлёма: ураз выстараўся памяшканьня і адчыніў майстэрню—у тым-жа паграбку.

Узяў падручнага хлапчука—мачыць, вешаць, мазаць... І ў першы месяц зарабіў нічога сабе. На другі—яшчэ больш. Купцу спадабалася работа, хваліў вырабленыя выцяжкі, здольнасьць Шлёмы і разам-жа абяцаў даць работы да вялікадня, а мо' і далей.

Шлёма абнадзеіўся, ускрыліўся рознымі думкамі, пачаў будаваць пляны, як і што вылюдзіць сваё жыцьцё. Ці-ж не чалавек, ды добры майстар, ды работы ёсьць, ды работа добрая.

Пазнаёміўся з дзяўчынаю Этляю Чухес—швачкаю, добраю, спакойнаю сялянкаю. Да работы—хоць якой—і стараньне і хэньць. Спадабалася—няхай сабе й небагатая, бяз бацькі, некаму пасагу даць, самой трэба справіць паліто, сукенку, чаравікі. Ну, дык што? Забабоны, няйначай,—браць пасаг за маладою: ласьне Шлёма мешчанін? Калі ён думаў пра гэта? Дзе яны, гэткія думкі, маглі найсьці ў ім месца? Гарбар, дэмократ, амаль што не з шаснаццаці год. Пасьля—войска, фронт, агітацыя. Пэўна, толькі з бальшавікамі. Шлёма падтрымоўваў іх усюды, ва ўсім і мо' далучыўся-б да партыі, каб у яго жыцьці ўсё пашло іначай, раўней, лягчэй. А то—ранілі, паўтары гады марнеў у шпіталях, цярпеў, сох, ападаў настроем. Жыцьцё няслося, разьвівалася, а ён заціраўся, адпіхаўся ўбок, узад, адставаў... Ці-ж з ім адным гэта рабілася? І цягнула ў партыю, і тут-жа казлытала нейкая нерашучасьць, смутнае адзнаньне таго, што можа негадзіцьмецца сам для адказнае, дысцыплінове працы... А ў душы—з ёю, з бальшавікамі, за савецкую ўладу, за рэволюцыю... Бо раней гэтулькі цярпеў, гэтулькі пакутваў!

Зарабіў—пададзеў Этлю, жаніўся пасавецку і разьлічыў падручнага: жонка мяла выцяжкі, вешала, мазала. Год, цэлы год пасабляла Шлёме...

Пасьля радзіла—большы клопат, сям'я...

Як у людзей—вядома, і на далей жыцьцё будавацьмецца звычайным ладам. Ужо кідаў Шлёма думкамі наперад, меркаваў, будаваў пляны і азіраўся на работу: абы яна была. Чорная, брудная, гразкая—няхай сабе. Горшае праміпуў, падсабраў сілы, акрыяў крыху за год, а яшчэ-б выпаў гэткі другі—мо'-б і сабраў капейку на чорны дзень. Ды ці-ж будзе гэткі далей? Ну, 21 год—галодны, недарод, а пасьля паправіцца ўсё—і ўраджай і гаспадарства—гэтак судзіў Шлёма каля тройцы, самым летам, маючы ў майстэрні пар сто выцяжак. То-ж ня жарты—летам столькі работы! А к восені—чаго клапаціцца?

Хіліў, чарніў, мяў, стругаў і падпяваў Шлёма.

## II

Канчалася ўся партыя—удалая вышла: мяккія, гладкія выцяжкі—адна ў адну, хоць на выстаўку. Вага—люба ў рукі ўзяць. Мяздра, як сонца, жоўтая, пухкая. Дзіва, як удаліся! Чамусьці лепей, як усе партыі дагэтуль. Шлёма браў кожную ў рукі, ламаў у наску, згортваў у скрутак, нюхаў і цешыўся.

Што Мордух скажа! Гэткі тавар даю! заграніцу ня сорам пасласць.

У нутры паднімалася лісьлівасьць, гардлівасьць да сябе, да свае здольнасьці: „Сапраўды, я ня дрэнны майстар. Што далей, то спрытней раблю, здатней. Пастараешся—і самому цікава“.

Нават жонцы пахваліўся: удалася партыя. Вось занясе Мордуху і той расплывецца ад здавальненьня—паглядзі ты, Шлёма! Што ён варт!

Не хацеў, каб той зашоў у майстэрню, пакуль уся работа ня кончыцца, не паглянцуецца. Браў у лік яе грошы і маўчаў.

Нарэшце кончыў, абцёр стол, павесіў хвартух, і адным днём сабраўся нясьці гатовы тавар да гаспадара.

Ускінуў ужо на плечы, каб ісьці, як тут—Мордух стук дзьвярыма.

— Гатовы?

— Бачыце, вось. Як золата выцяжкі!—ня стрымаўся Шлёма.

— Золата, але ўсё ўжо змолата.

Мордухава прыказка была на гэты раз ня сьмешнай ні самому Мордуху, ні Шлёме.

— Больш няма работы,—уздыхнуў Мордух:—Дзе там! патэнт душыць, збыту нізваньня. Хто-ж заплаціць за боты возам жыта? Трэба іншых спосабаў шукаць.

Ад гэтых слоў Шлёму крэпка цяло за сэрца: усе пляны—прахам.

— Няўжо больш ні партыі?—запытаў.

— Ні штукі, браце.

Мордух вылажыў Шлёме апошнія грошы, што належалі яму, падзякваў за добры выраб і пашоў.

— Прынясі тавар...

Шлёма аднёс выцяжкі, вярнуўся да хаты і расказаў жонцы.

Што-ж яна паправіць, чым пасобіць?

— А мо‘ ў другога трапіцца?—пытала.

Шлёма ня ведаў, што казаць, ня пэвен быў, што трапіцца дзе... Ужо чуў, што прыпынілася работа ня толькі ў яго аднаго. З мястэчак ішлі тыя-ж чуткі—няма работы. А калі будзе?

Шлёма, канчаючы партыю, меркаваў адпачыць--было як. А цяперака клопат забіў галаў, атуманіў яго, занепакоіў.

Дзень-ада-дня хадзіў ён па горадзе, пытаў, пераймаў ад сялян пару прышваў, халяву...

Перакідаўся асьмакамі, як кажуць, квэцаўся толькі: прыдзе ў майстэрню, выхіліць за поўгадзіны, варочаецца да гасподы. А назаўтра вычарніць яшчэ хутчэй...

Паглядзіць на сталы—мяртвасьць адна: ролька прывязана на гвазьдзе, сабачкі паўтыканы за сталом; сталька, пачыстка, шкло—нярухомы; столь—пустая, толькі цьвікі тырчаць; застоілася вада ў бочцы, высахла вяроўка. Няпрыглядны і ўтройчы нудней стаў паграбок.

А дале, з часам, пачаў раставаць загон, які сабраў Шлёма за работу. Ціснуўся, ціснуўся, абрэзваў то ў адным, то ў іншым. Вынікала патрэба—адкладаў: авось будзе работа, авось будзе работа. У страве радчэй паказвалася мяса, на стале часьцей бяз хлеба; за кватэру зацягнуў на месяц...

Пасьля вынікла думка, чаму-б ня кінуць кватэру, а перайсьці ў паграбок—усё адно пустуе, а плата нарастае. Ці-ж нельга будзе прыстасавацца і ў тым выпадку, калі падпадзе работа? Пры сьцяне, на палову пляцу, ложак, столік, зэдлік... Вось толькі адно—дзіця. Малому ды ў гэткую затхласьць! Шкада, шкада! А з другога боку, падумаўшы, дык лепш купіць малака на тыя грошы, якія-б меў аддаць за кватэру.

— Праўда, Этля?

Этляківала нерашуча галавою, паціскала плячыма—пэўна ў чыстай кватэры лепш, прыямней, а што парадзіш, калі даводзіцца.

І ў адзін дзень перабраліся. Пакуль абвыклася Этля! Вярнула нос, балела галава, як ні сьцеражыся—упэцкаешся: кожная мясьціна набрыняўшы дзёгцем, лоем.

Папляміласа адзежа—не адмыць. На чыстым, белым целе маладзіцы й малога пашлі прышчыкі, болькі... Дзіця закапрызіла...

— Чуеш, Шлёма, нельга так далей,—казала Этля мужу.

— А што я зраблю?

— Хай-бы прашоўся дзе ў мястэчка, авось трапілася-б работа...

— Цудная—усюды застой; работы, як рукой адняло, нізваньня.

Усё-ж на адным тыдні прашоў у два мястэчкі: Вышкі і Кублі. І дарэмна: у Вышках—усе гарбары сядзелі без работы, у Кублях рабіў толькі Шолам Фляйш. Меў поўсотні вырабіць, ласьне-ж падзеліцца сямейны?

Вярнуўся Шлёма бяз нічога; болей адчаяўся, хмурнеў: бо сібернаю зданьню выглядала нядаўнае мінулае, страшнае, жахлівае.

Думаў, зышло ў бяздоньне, навекі зьнікла, а тут, ізноў закульгаў. Хоць-бы не пасьлізнуцца, крый чаго.

Цяперака—трое, галоўнае—малое. Зьвязаны рукі ў яго і ў жонкі. Куды памкнешся?

## III

Сядзелі ўдваіх, Шлёма і Этля, на пустым стале і абгаворвалі свой стан. Малое забаўлялася сталькаю й шклом. Паднімала, кідала—сталька зьвінела.

— Не разьбі, малое, ня купіць зараз: добрая сталька.

— Навошта яна, калі бяз дзела сам.

— Будзе, ці-ж на заўсёды так.

— Калі яно будзе; верасень, сэзон мусіў-бы быць, а глядзі—ні скурынкі.

— Яшчэ гразі няма; людзі абыходзяцца бяз ботаў.

— Відаць ужо, што й гразь нічога не прынясе.

— Разуверылася, як бачу.

— А ты не?

Шлёма храбрыўся, не паддаваўся.

— Ня зусім.

— Які ты моцны стаў! А як-жа жыць будзем, калі далей так будзем сядзець?

— Не прапаў у скрутныя часы, ня згіну й цяпер.

— Нябось, гаворыш так, а думаеш іншае.

Пэўна думаў Шлёма іншае: думаў, дзе-б наткнуцца на работу...

У гэты дзень выпадкова бліснула надзея: зашоў чалавек з Вутак здаць тры пары выцяжак. Патаргаваўся і выказаў нездаваленьне, што за дваццаць вёрст трэба вязьці работу—у мястэчку няма майстра. На жарты сказаў:

— Прыехаў-бы, Шлёма, і на аднаго старчыла-б работы ў нас.

Шлёма хапіўся за думку. Праверыў:

— Кажаце?

— Сапраўды. Мястэчка нелапое, шаўцоў з дзесятак, ці-ж не далі-б табе работы!

Падумаў.

— Прыяжджай!

Праз колькі дзён Этля выправіла мужа ў мястэчка. Шлёма пехам прышоў у Вуткі, азнаёміўся, як і што, пагутарыў з шаўцамі, парадзілі перабрацца—ужо праз тыдзень перабраўся з сям'ёю. Малюпаткую каморку наняў, прыладзіўся і пачаў рабіць... Нельга сказаць, каб з дастаткам, а з большага, урыўкамі.

Хлеб сяк-так даставаў. Жонка пасабляла, пакуль магла: скора ў хату дастаўся новы прыбытак—радзілася другое дзіця.

Жыцьцё ідзе, вымагае свайго, хоць-бы яму ставіліся цяжэйшыя перашкоды. Блутаная штука, гэта жыцьцё! Разьбяжыцца—ня спыніць, пабяжыш—ня пускае.

У цеснай каморцы цясьней стала. Згруджаны імпат душыць народжанае. Восень паддзімае з-пад падрубы на неападложаную хату. Пясок з зямлі трапляе на стол, у калыску малому. Ад бруду не ўцячы... Праз месяц—акаросьцелі абое малых. Патрэбен ратунак—больш паветра, сьвятла, падлогі хоць якое.

Шлёма памкнуўся сюды-туды: выпусьце хату, калі ласка, дзеці гінуць.

Куды там! У таго не дастроена, той ужо здаў, трэці баіцца смуроду. Каму-ж міла дыхаць дзёгцем?

Прасіў, шукаў, кратаў спагады людзкое—ні водгуку... Разумеў, што тут ня злосьць у людзей, не бойкот, а нельга, ніякавасьць.

Хоць на вуліцу...

Вакола чужыя. Ды якое-ж спагады прасіць?

Не прасіў дагэтуль.

І Этля адчаянна разводзіла рукамі:

— Прападом, Шлёма.

Шлёма згаджаўся:

— Крута стала.

Раскідаў розумам.

Дзе выйсьце?

Асталося адно—адважыцца прасіць сястры, што ў Амэрыцы. Шлёма ведаў, што муж яе бяз працы, што самі жывуць дрэнна, але куды кінуцца? Параіўся з Этляю:

— Напішу Лэі.

Не хацелася гэтага Этлі, ой, як не хацелася! Мела гонар, як-ні-як: здаровыя, маладыя, могуць працаваць, а просяць. А ну й падумае яшчэ: лянуюцца рабіць, ласы на амэрыканскія талеры...

А не прасіць—тады што?

— Як хочаш, Шлёма.

— Напішу, бо йначай... Хата свая трэба, дзяцей абараніць, кусок хлеба захаваць...

Якраз трапілася хата—сходна: Лейба раіць купіць, няскончаную, дзьвесьце рублёў. Добрая хата!

— Напішу Лэі, Этля?

Чамусьці хацеў, каб жонка згадзілася.

— Пішы.

Адным вечарам сеў і напісаў доўгае, падрабязговае, шчырае пісьмо. Выказаў усю боль, усе недастачы, усю скрутнасьць свайго стану. „Гіну—хоць на вуліцу“.

Паслаў, а сам натужна, сьціснуўшы зубы, цягнуў лямку: зьбіраў па пары, па аднэй выцяжцы работу, хадзіў да шаўцоў, выпрашваў, перай-маў ад сялян. На хлеб, абы на хлеб. Плата за хату душыла нямерна: месяц—і дваццаць пудоў. Абнасіліся, закарэлі, набрынялі дзёгцем. Сталі завядаць дзеткі—кароста зьядала. Этля часьцей скардзілася на болі галавы, на колькі ў баку. Куды-ж, у дрэннай, малюткай каморцы? У пяць столак горай павятовага паграбка!

Ды мала таго: пад вялікдзень стала гінуць работа. Боты—паспраўлялі, хто мог, перад калядамі, на зіму, а к лету? Навошта каму? Босымі можна абыйсьціся.

У шаўцоў безрабоцьце,—безрабоцьце ў Шлёмы... У іншых мястэчках—купцы; праўда, менш, як гэта было раней, да вайны—прыватны гандаль выціскаецца дзяржаўным, але ёсьць купцы ў іншых мясцох. У Вуткох—няма. Мясцовы рынак, а якая яго ўёмнасьць? Каб пракарміць сям‘ю з чатырох душ, трэба зарабляць хоць-бы дзесяць чырвоных рублёў у тыдзень,—а на гэтыя грошы, колькі пар выцяжак трэба вырабіць? Пар дваццаць—адкуль іх узяць?

Бяда ўзмацнялася. Этля ападала настроем, разуверзалася ў швагерцы, абезнадзейвалася. Шлёма—мацаваўся, суцяшаў жонку, верыў у сястрынае спачуваньне.

— Горш было, Этля. Пражыў тое—няўжо згінам цяпер?

— А што рабіцьмеш?

— Нойдам скутак.

— Дзеці пагінуць, пакуль тое будзе.

Праўда, бачыў Шлёма, з дзяцьмі—дрэнна. З жонкаю—таксама. Дзеці—удалыя, разумныя—шкада. Клапаціўся аб іх—зваў фэльчара, сьціскаўся ў цесным—плаціў пудамі і грашыма.

І ўсё не паддаваўся...

## IV

Было пасьля вялікадня. Пара халаднаватая стаяла. Замаразкі. Сьняжок. З хаты—ня выйдзеш ні стары і ня вынесеш малога. А як-бы трэба было сьвежага паветра Шлёмавым дзеткам! Зьмізарнелі за зіму, зьехалі ў вузельчыкі. Фэльчар кожны раз, калі-б ні наведваў—казаў пра гэта, угаворваў: „Дайце дзеткам чыстае паветра!“ Цёплае апрананьне прыдбаць, у лахманох-бы,—і тых няма.

Вялікаднем Лейба папярэдзіў Шлёму, што на хату маецца другі ахвотнік; прыцаняецца, але ён, Лейба, даў слова, што хата абяцана Шлёме. Даў тэрмін.

Шлёма занэрваваўся. Добры выпадак, і выскаўзьне з-пад ног— ой, ой! Што рабіць? Зварочваўся думкамі да Амэрыкі. Паспрабаваў кінуць лішняе пісямко—можа першае не дашло? Сумляваўся. Дзень-ададня хадзіў на пошту, пытаў, ці няма чаго яму, Шлёме Брыкеру. Надазаляў паштальёну і начальніку пошты—у пагаворку вашло. Няхай сабе—ён верыў, што будзе, што нешта ды адкажа сястра.

Нарэшце дачакаўся—ужо каля тройцы... За некалькі дзён да сьвят паштальён прынёс пісьмо—з Амэрыкі. Ніадкуль і нідзе ніякае перапіскі Шлёма ні з кім ня вёў.

З Амэрыкі.

З трывогаю, з хваляваньнем прачытаў. Сястра паведамляла, што выслала яму сто талераў. Зьбірала доўгія месяцы—адкладала ад патрэб, сьціскаліся. Убачыла, што больш ня можа—толькі сто талераў. Вось калі! Трэба-ж ёй прасіць выбачэньня! Яна, Лэя, уваскрасіла іх, выратавала! Ня думалі, не спадзяваліся.

— Сто талераў!

Шлёма заскакаў ад радасьці; панёсься да Лейбы, расказаў, што дастаў грошы, што хутка выплаціць хату. А дакончыць можна будзе пасьля, абы ўвайсьці ў прасторнейшае памяшканьне, даць дзецям больш паветра, асталявацца як-колечы.

Казаў жонцы:

— Вось бачыш, Этля, ты ня верыла.

— Дзякуй ёй.

— Прызнацца, і я ня думаў і не чакаў.

Праз месяц перабраліся ў сваю хату—12 на 10. Вялікая, прасторная. Чатыры акны. Вядома—ні падлогі, ні таркоўкі, ні асыпкі на столі.

На лета зышло. А к зіме—зьбіраў крупінкамі, урыўкамі, капейкамі: то пол, то лавы, то стол, то цабэрак. На восень насыпаў гару, зрабіў перагародку: для жыльля—асобна, для майстэрні—таксама свой куток...

І ў скутку—паправіліся дзеці, паздаравела жонка.

Разгарнуцца ёсьць дзе.

Як далёка было гэта ад тых часоў, калі Шлёма пакутваў на вайне і пасьля вайны, а далей—у чужой цеснай каморцы!

Хваліўся суседзям, хваліўся вутчанам:

— Добра жыву! Чаго хацець? Багатых убораў? Ласашчаў? Хата ёсьць. Хлеба пуд запрацую, бульбы куплю, бурак вырасьце і годзе.

Хто скардзіўся на жыцьцё—Шлёма не дае гаварыць:

— Чаго табе трэба?—кажа нездавольнаму:—хату маеш, хлеб ёсьць—добра...

Праз месяц пасьля гэтага выпадкова стрэўся Шлёма з сваім старым таварышам—некалі працавалі разам. Дванаццаць год ня бачыліся.

Разышліся абудвых дарогі.

— Гарбаруеш усё?

— Як бачыш.

Было відно, было чутно.

Цягнула дзёгцем. Брудная, парваная рубашка, зашмальцаваныя рукі, чорны твар.

Таварыш быў чыста адзеты—шмат год, як кінуў гарбарства.

— Як жывеш, Шлёма?

Ласьне хлусіць свайму таварышу?

— Добра.

Таварыш не паверыў—нічога ня сьведчыла пра дабро.

— Ты глядзіш на мяне? Дарма! Наша работа—чысьцей ня будзеш. Але пасьля таго, як я жыў,—я пан. Пан, браце Тарасе, пан. Папершае—маю хату. На хлеб зарабляю. Што мне больш трэба? Дажылі—чаго хацелі: помніш, як некалі змагаліся за свабоду? Помніш, як панаглуміліся з нас стражнікі, паліцыя? А цяпер—свая ўласьць, правы для працоўнага народу...

Расказаў усю гісторыю свайго жыцьця з часу расстаньня—да дробкі, як і што яно складалася, як ішло.

Ой, як было дрэнна! А цяпер Шлёма хваліўся.

— Ладжу з сялянамі—падтрымліваюць пацїху. Зарабляю. Мала? А што мне больш трэба? Пададзецца? Ня дбаю пра гэта. Знаюць, Шлёма Брыкер—хільшчык... Табе—іншае. Ты пашоў па службе, некалі цікавіўся гэ-

тым, чытаў многа, не расставаўся з кніжкаю. Памятаеш — хілілі выцяжкі, а ты ўсё рассказваў прачытанае. Табе—іншае. А мне? Гарбар, рабочы. Маю сілу, маю здароўе—цягну. Грошай—думаю паверыш—ня зьбіраю. Навошта мне грошы? Мне трэба кусок хлеба, трэба для гэтага праца— вось і ўсё.

Таварыш ішоў у коопэратыў, Шлёма праводзіў.

— Вунь дзе мая хата: бачыш, пакуль толькі два акны кончыў, а другія забіты дошкамі, плот не агароджаны. Але затое ёсьць месца працаваць. Сьмярдзіць—мне, больш нікому. Сонца ёсьць. Што-ж больш трэба, калі ёсьць сонца ў хаце? Для мяне, для дзяцей!

— Дзеці—выздаравелі, а былі, братка ты мой, як пяцелечкі, худзенькія, брудныя. Цяпер—як птушкі: трапечуцца, жывуць, рэзьвяцца. Вясёлыя, за мілы пане... Пададзеў. Сабе, як там ня было, а дзяцей—трэба даглядзець. Што яны вінны за маё гора?

Шлёма быў радасны - выказваў Тарасу ўсё, што мулялася на душы, што хацелася даўно выказаць, ды ня было каму.

— Ты прыехаў сюды па справах; думаеш—выявіш, як сьлед? Хто яго разьбярэцца з нашымі людзьмі. Як ні кажы—ня добра, колькі ні давай— мала. Праўда, шмат беднаты, галаты, але многа ніякавата жывуць. Пры цары плацілі мірскія, падаткі ў два разы большыя. Кругавая парука ціснула нямерна, як у Забрыдзі, а цяпер усё-ж мармычуць: дрэнна, дрэнна. Дзе найсьці граніцу дабру?.. Паглядзі, як я жыву: запрацуеш — купіш, зьясі, а не—цісьніся. А ласьне тут працы нойдзеш? Дзе тая праца— урыўкамі, хапунцом, сяк-так... А паверыш, здаволены. Зусім здаволены. Савецкі лад—цешыць душу, аблягчае палажэньне, весяліць-весяліць. Ня хлушу ні поўслова—шчыра кажу... Бо, сапраўды, мучыўся пры цары, цярпеў пры старым ладзе і .. нічога. А калі цяпер пацярплю крыху? Ці-ж то вечна? Паправімся—да лепшага ідзе няма чаго казаць... Грэшна ня бачыць...

Памаўчаў, а пасьля папрасіў:

— Тарас, зайдзі да мяне; хоць адвык, ня бойся, што сьмярдзіць дзёгцем—мала што. Наша гарбарскае рамяство, што зрабіць. Паглядзіш, як я жыву... Паверыш, вельмі рад, што стрэў цябе, што магу пагутарыць ад душы, шчыра, як з добрым таварышам. Падумай —усіх загубіў, адышоў. Жыцьцё заціскае, спыняе на адным месцы. Куды-ж рушыш з сям'ёю? Кажуць, Хведар Шмуцік разбагацеў—хату паставіў, гаспадарствам завёўся. Лейзар, гэты кручаны, папусьціўся жонцы і гіне. А Бэрка Цыбулевіч састарыўся... Карп згінуў — добры чалавек, ручы, таварыскі... Ну, зайдзі, я так рад, што спаткаўся!..

## V

На стале кляцістая цырата. Здаецца, чыстая, а цягне дзёгцем. Заслончык, пара столкаў забруджаных. Пагнуты стары самавар—кіпіць, бурлоча. Этля тупае вакол стала, прыбірае. Пачысьціла шклянкі, на талерцы

падала сітніцы, на другой—масла, на іспадку—мёду. Даўно сабраліся сустрэць госьця—Тараса. Двое малых балуюцца з жоўтымі шкуратамі пры стале. У другім кутку, пры акне--каток. Праменьні, грэючы, выцягнулі кроплі тлустасьці. Блішчыць крук. Стос выцяжак, пар да дваццаці—чакаюць глянцу. На прыпечку, каля ямкі, місачка з клеем. Цабэрак вады сьмярдзючае пры катку.

Шлёма з Тарасам за сталом.

— Паглядзі,—хваліцца Шлёма:—-вось якая хата. Абоўьня! Параўнаю з тым паграбком, што ў павеце жыў, або з тым сьвінушкам, з якога месяцы тры выбраўся і за які дваццаць пудоў плаціў, і думаю: як далёка я пашоў! Проста панам зрабіўся. Глядзі—падлогі яшчэ кусок, вунь дзе зямля; але столькі прасторы, што хапае і на падлогу, хапае і на пустое месца. Ёсьць дзе спаць, дзецям ёсьцека дзе павярнуцца. А тады—страшна падумаць!..

Этля слухала — усё-ж бляды яе твар — ухмылялася. Праўду кажа Шлёма. Але па яе, Этліных думках, нельга здавальняцца. Ці-ж толькі ў гэтай хаце, яшчэ не даканчанай, халоднай—усе мэты іх жыцьця?

Маўчала маладзіца, налівала чай, нясьмела прасіла Тараса закусіць:

— Чым маем.

Чарнявая, калісьці стройная, срогая жыдоўскім хараством, саромілася Этля таму, што Шлёма сядзеў у зашмальцованай рубашцы, у шкураным фартусе, на якім каргамі ліпеў лой, бруд, браў з талеркі вялікімі запэцканымі рукамі лустачкі сітніцы, ці таму, што не якраз, як таго-б хацелася, пачаставалі госьця?

— Былі часы, — успамінаў Шлёма: — помніш, што думалася тады? Зробім партыю, аднясем Бураку і на гарэлку траяк. Ці думалася, што ня будзе работы? Канчаецца ў адным месцы—сабачку і стальку ў кішэню ды ў другое... А часамі і пагуляць тыдняў пару не бракуе. Вось калі!.. А цяпер? Вунь шавеляцца пры стале двое малых—ня дай есьці? Ці дазволіць сэрца? Тымчасам работы скупа. Вось партыю сабраў, калі другая набярэцца! Стругаеш і здэцца-б—тысяча пар, каб гэта тысяча пар! Цяжка гэта. Толькі мая крэпасьць выручае. Я моцна верую, бяз зависьці, бяз зайздрасьці... Абы кавалак хлеба, ды не сьвяцілі целам малыя... Ня кажа, нутро ня кажа крыўдавацца на жыцьцё. Ці-ж усім роўна? Гэта-ж не комунізм той, калі параўняюцца ўсе, гэта пераход пакуль што... Цяжэй—пацярпі, лягчэй—радуйся... А рукі, вось, пакуль цягнуць. Можна націснуць, налегчы... Калі занядужае чалавек, тады... Каб гэтак, як цяперака, і на далей, братка ты мой,—панам дзела.

— Кінь ужо хваліцца,—пераняла Этля.

— А чаго-ж? Таварыш,—трэба праўду казаць.

— Табе ўжо лепей, як усім...

— Ня лепш, ну й ня горш. А помніш, Этля, паграбок, катушок? Помніш? Сонца жадны былі, дзеці гібелі.

Змаўчала.

— Бачыш, Тарас! Хата заліта сонцам. Ад раньня да ночы. Дзецям—разгарненьне, хоць кацёлку качай. Хата—абозьня. Чаго-ж хацець? Чаго дамагацца? Сілы не бракуе—работы зьбяру. Калі больш, калі менш—не памру...

На твары ў Шлёмы багатая ўхмылка, настрой уздымам.

Тарас пазіраў на таварыша й думаў: „Якая залатая натура! Якая шчырая душа! Колькі гэткіх у сьвеце?“

А на стале шыпеў-дымеў пагнуты, аблезлы самавар.

Урэчча, 13/III.

## З ПОЭМЫ „ЯРЫЛА“

**Ясакар**

*(Адрывак з песьні дзесятай)*

### ПЕСЬНЯ

У „Ярылы“ вочы-сонцы—
Сэрца шчырага ваконцы,
Васільковыя магніты,
Два пажарышчы з блакітаў.
І „Ярыла“ не бядуе—
Ён задумаў песьню-думу.
Ён прабуе гусьляў голас,
Залаценькі струнны волас.
Колік круціць, колік верне,
Ці той зык на струнах верны.
Гусьлі чулыя на волі
Загулі, як роі пчолаў.
Пальцы-дзівы, пальцы-чары
Сеюць песьні на абшары.
Гукі-сьмехі, гукі-стогны
Млеюць, сьпеюць няпрытомна.
Пальцы ўюцца матылькамі,
Дрыжаць белымі зьмяйкамі.
І, здаецца, іх тут соткі—
Стада беленькіх лябёдкаў.

* * *

А „Ярылава“ малжонка
Вядзе гутарку-гамонку:
—Між аблочных між карунаў,
Пад віхром гусьлярскіх струнаў
Аб тваёй жыцьцёвай сьцежцы
Расскажу табе нарэшце.
У гусьлярскіх гуках-граньнях
Твой шчасьлівы лёс схаваны.
Твая песьня ў цэлым краі
Ўзварухне усіх ратаяў.

Пры рабоце ў ліхалецьце
Тваё граньне адгукнецца.
Сярод дзікіх панскіх зьдзекаў
Над гаротным чалавекам
Ты прыгоньніку у грудзі
Кінеш песьню ў дзіўным цудзе,
Сыпнеш віхры дум бязбрэжных,
Дум агнёвых і мяцежных.

* * *

І малодка далей кажа,
Як вянок той пляце-вяжа:
—Усё народнае хаценьне,
Сэрца шчырага імкненьне
Заіскравіцца крыніцай,
Нібы пацеркі на нітцы,
На гусьлярскіх струнах-чарах.
З струн на вольныя абшары
Пойдзе росным карагодам
Зноў к народу ад народу.
Будзеш думкі праць, як праха,
Будзеш думкі ткаць, як ткаха,
Ў каляровыя дываны.
Ці то званы ці нязваны
Будзе слухаць, любавацца,
Нібы песьняй роднай маці.
Запяеш ты дзіўным складам,
Загаворыш зычным ладам,
Сыпнеш пукам красак зграбных
Ці шаўковых ці ядвабных.
Нібы ніткай залатою,
Нібы стужкай агнявою,
Замацуеш словы сьпевам,
Замацуеш думкай сьпелай,
Думкай волі бурна-хмельнай,
Думкай радасьці вясельнай.
Лёгкакрылую частушку
Пусьціш птушкаю-пяюшкай
Над кудзерцамі гушчараў,
Над грудзьмі палёў, папараў.

* * *

І твая частушка-песьня—
Усюль жаданы госьць пачэсны,

Ўецца жаўранкам над збожжам,
Ей араты заварожан.
Б'ець галінкаю ў ваконца,
Ў павуціны валаконца.
Лезе дзеўчынцы на кросны,
Як туман пахучы, росны.
І твая частушка-дзіва
Зернем ядраным над нівай
Будзе сеяцца-кружыцца
Ад мяжыцы да мяжыцы.
Ў баразну з насеньнем ляжа.
Ой, шчасьлівая зямля-жа!—
Песьняй вешчай апляцёна,
Нібы кужалем бялёным.
І твая частушка-кветка
Зашуміць узімку, ўлетку,
Нібы веча вялікана
Ад кургана да кургана.
І запоўніць сьпевазвонам
Поле, лес, шнуры, загоны,
Рэчку, луг, гумно, сялібу,
Каб сьпяваць усе маглі-бы.
І захмеліць пярунамі
І стацьветнымі агнямі
Дні і ночы год за годам
Сэрца цэлага народу.

* *
*

І красуня кажа слоўка,
За прымоўкаю прымоўка:
—То ня дзяцел робіць стуку,
Ня зыгзыца вешчыць „ку-ку",
Ня гудзіць гушчар-дуброва,
Ня шуміць лясок хваёвы,—
То па кузьнях ідзе грукат,
Па кавадлах гучны стукат.
Молат бразьне па жалезе,
У жалеза спрытна лезе;
Лезе зубам гартаваным
І галоўкай сталяванай.
Прыганяты панскі кліча,
Кавалёў прыгонных лічыць:
—Гэй, грымні, каваль, па сталі,
Да работы ўсе каб сталі!

Вы ланцуг даўжэзны куйце,
Засталюйце, загартуйце,
Каб ня рваўся, каб ня трэснуў,—
Ланцугом зьвяжэце песьню!
Словы песьні ашалелай
Раскідаюць клічы-стрэлы
І трапляюць простым людзям
Вастрынёю ў сэрца, ў грудзі.
Люд мяцежыцца ў мяцежы,
Хам на пана праўду рэжа.
Задушэце песьню тую—
Цэлы сьвет яна збунтуе.
Але гусьлі граюць сьмела,
Сыплюць песьні, сыплюць стрэлы,
Не баяцца панскіх катаў,
Ланцугоў, жалезных кратаў,
Граюць з ветрам на раздольлі.
Гэй, лавеце ветра ў полі!

* * *

І таемная дзяўчына
Сказ зьвязала такім чынам:
Тваё племя—песьні-кветкі,
Люд па вёсках—твае дзеткі.
Лес—твой бацька, поле—маці,
Цэлы сьвет—тваё багацьце.
Замест жонкі, замест мілай
Аж да самай да магілы
Маеш гусьлі. Грай на ніве,
Люду роднаму на дзіва!

* * *

Аддала „Ярыле“ гусьлі,
Цалавала моцна ў вусны,
І дружка свайго „Ярылу“
На зямельку палажыла.
На кані сваім крылатым
У убраньні у багатым
Паднялася аж за хмары
На нябёсныя папары.
Сьнежным лебедзем мільгала,
Заблішчэла зоркай малай,
Нібы ў пухкі шоўк нябёсны
Гаспадыня незайздросна

Вастрынёй уткнула лоўка
Шпільку з залатой галоўкай.

* *
*

У бурносе з зелянівы
Над пшанічнай коўдрай-нівай,
Над далінай, па-над гаем
Ясна раніца гуляе.
А над ёй, над галавою,
Што кудзерыцца між хвояў,
Цёмна-сіні шоўк мігціцца,
Як мурожная травіца.
А ў шаўку у тым нябёсным
Сонца тчэ на срыбных кроснах
Рукавіцы залатыя,
Пояскі—праменьні тыя.
Ходзіць раніца ў разлогі,
Па расіцы мые ногі,
Дзьмухне ветрам па асіне,
Цягне ніткі з зычнай сіні.
Як пацягне, дык зазвоне
Шэра птушка на загоне.
Разальлецца срыбра-злотам
Над загойданым чаротам.
Бродзіць раніца ў абшарах,
Раскідае сонцажары,
Будзіць траўку, будзіць кветкі:
— Уставайце, мае дзеткі!
Вам гатовае на раньне
З росак-кропелек сьняданьне!

* *
*

На мяжыцы пад калінай
Сьпіць „Ярыла", а галіна
Нібы пальцам зачапіла
Струны гусьляў з усёй сілы.
Гусьлі гучна затрасьліся:
„Гэй, „Ярыла"-друг, прачніся!"
Ён прачнуўся. Што за справа:
Ці то сон, ці гэта ява?—
Пад калінавым кусточкам
Невялічкія сьлядочкі
Ножак дзеўчынкі-малодкі
Засталіся ў папаротках.

Рваў „Ярыла“ мяту-руту,
На сьлядочкі клаў у жмуты,
Каб адціскі пальцаў, пятак—
Ножак беленькіх пячатак
Буйны вецер не разьвеяў,
Каб пясочкам не засеяў,
Каб іх людзі не стапталі,
Каб дажджы не размывалі.

---

*(Адрыўкі з песьні адзінаццатай)*

## ВОСЕНЬ

Па шчаціне зжатай нівы
Восень чэша сваю грыву
І качаецца па лужах,
Муціць рэчку, кругі кружыць.
Пясок трусіць па рудаўках,
Пеніць сьліну на канаўках.
Медзяныя кудры клёнаў
Пазурамі рве і стогне.
Плюне лісьцем па каменьнях,
Раптам змоўкне ў задуменьні.
Па вільготным агародзе
Восень смутна ходзіць-бродзіць,
Пераскочыць праз парканы,
Кіне вокам у туманы.
Ў зарасьняк зірне з журбою,
Кашляне па ім крывёю.
А з нябёсных дробных вокнаў
Дождык ніткамі валокнаў
Сыпе, падае на стрэхі,
Нібы кідае гарэхі.

## КУПАЛЬЛЕ

Гралі гусьлейкі ў дуброве,
Гаварылі чары-словы:
— Хто тут з красак харашэйша,
Хто з дзяўчынак наймілейша,
У каго у вочах росы,
У каго, як мёды, косы,
Хто ад гусьляў сьпеўных млела,—
Хай бялюсенькае цела
Зграбна краскамі пакрые,
Хай на грудкі—цьвет лілеі,

Хай на ножкі кладзе ружы,
Хай для ручак рута служыць.
Белы плечыкі лябёдкі
Хай цалуюць папароткі.
Хай на шыйку—васілёчак,
На галованьку—вяночак.
У такім сваім убраньні
Хай стаіць пад сонцазьзяньнем.
Гэта дзеванька удала.
Будзе імя ёй Купала.

* * *

І зрабіла так дзяўчына,
І стаяла такім чынам
На вялікім папялішчы,
Дзе пагасла ўжо агнішча.
Сонца краску цалавала,
Бела цела абвівала
Залаценькаю тканінай
У калёры пераліўным.
Голас дзеўчыны-красуні
Ў тахт гусьлярскім гучным струнам
Зажаўроніў хмельным словам:
— Гэй, выходзьце ўсе з заховаў,
Хто ў купальскім карагодзе
Тутка шчасьцейка знаходзіў!
Вось у сонечным пажары
Павыходзілі к ёй пары.
З агняцьветнага вяночка
Рвала парачкам лісточкі.
І казала, гаварыла,
Як вучыў гусьляр „Ярыла“:
— Шлюбавала вас Купальле,
Цёмна ночка атуляла.
Вам пасьцелькай—шоўк травіцы,
Амывала вас расіца.
Кроў у жылах пламянела.
Нібы яблычак той сьпелы,
Кветку шчасьця вы зрывалі
На купальскім ночным балі.
Хай вам шчасьце назаўсёды
Свае кружыць карагоды!

* * *

Між палямі, між лясамі
Рэчка ўецца паясамі,
Багатэрскай сівай броўкай,
Гучна-срыбнаю падкоўкай
Ўецца, гнецца ўлева-ўправа.
То зірне ў гушчар кудравы,
То абцягне ўзгорак стромкі
Шлюбным кругленькім пярсьцёнкам;
А то роўным, простым шляхам,
Пазасланым белай бляхай,
Рэчка мерыць шыр пашніцы;
Сонцу, месяцу, зарніцам
Рэчка служыць люстрам ясным,
Калі сьвецяць, калі гаснуць.

Акопы.
Чэрвень, 1924 г.

# КВЕТКА ПАЖОУКЛАЯ

**М. Зарэцкі**

*(Апавяданьне)*

1

Дзіўны гэты Арончык. Гэта-ж ён так назваў яе:

— Кветка пажоўклая...

Калі-ж Булановіч хацеў распытаць што пра гэту жанчыну, Арончык махнуў нецярпліва:

— Эт, кінь ты. Ня варта аб гэтым...

І не сказаў нічагутка.

А Булановіча яна зацікавіла. Яна перш за ўсё—прыгожая жанчына, з павабнай, трошку сумнай, ціхай усьмешкай. Нявысокага росту, стан досыць зграбны, з мяккай акругласьцю формаў. На твары троху цьмяная бледасьць і маршчынкі навокал вачэй—гэткія маленькія, празрыстыя. Як усміхаецца, тады зьбіраюцца праменьчыкамі, ахінаюць вочы ціхай, ласкавай прыветнасьцю. Тады ў вачох зьнікае тая дзіўная палахлівая маркота, якая часам халадзіць іх, робіць пустымі, далёкімі. Тады ў іх зеленаватыя агоньчыкі—вясёлыя, гарэзныя. І зірнуць тады ў іх, дык ня стрываеш, каб ня ўсьміхнуцца самому. Бо зеленаватыя агоньчыкі—яны пранікаюць дужа глыбока, соладка казытаюць сэрца і поўняць яго нейкім гульлівым уздымам.

Булановіч даўно чуў пра яе, але пазнаёміўся толькі нядаўна.

Так было. Хадзілі разам з Арончыкам дзіцячыя дамы аглядаць. Зашліся аж на саменькі край гораду, туды, дзе раскошнымі купамі сады разгарнуліся, дзе пачынаюцца дачы.

Дом № 30. На Чэрненскай вуліцы. Жоўценькі, сьвежы. Зьзяе вясёлымі вокнамі, задорна ўсьміхаецца зграбнымі высокімі ганкамі.

Як увашлі яны ў дом, плоймай абсыпалі дзеці, зазьвінелі ў вушшу звонкім сьмехам—вясёлым, бязрупатным. Сярод іх выхавальніцы плаваюць зважна, напускаюць на твары ўсьмешку салодкую. Яе ня было, Булановіч адразу заўважыў.

Спыталіся:

— Дзе загадчыца дому?

Дзеці—хорам бязладным:

— У садзе... Цёця Марына ў садзе... Мы паклічам... зараз...

І пабеглі навыперадкі.

Праз хвіліну прышла. У простай сукенцы, у хвартуху. Відаць, нешта ў садзе рабіла. З Арончыкам пасяброўску спаткалася.

— А!.. Арончык!.. Якім ветрам цябе прынясло?

Руку пацiснула моцна, парыўчата. З Булановічам тож прывіталася. Зірнула з цікавасьцю, сказала выразна:

— Гарнова.

І затрымала погляд на ім. Але на момант адзін. Зараз-жа зьвярнулася да Арончыка:

— Ну, чаго прышлі? Рэвізію наводзіць?..

— Вядома, бо да вас, мусіць, ад самага стварэньня сьвету ніхто ня прыходзіў...

— О не, якраз памыліўся. Такога дабра, як вы, заўсёды хапае. Надакучыла нават...

Булановіч усьміхнуўся.

— А вы-б гэткіх гасьцей мятлой выганялі!

— Экономіка не дазваляе: на мётлы нам мала грошай даюць... Ну, але што ўжо з вамі рабіць,—хадзем, глядзеце нашае царства.

Як аглядалі дом, Булановіч увесь час сачыў за Гарновай. Думаў сабе:

„Няўжо гэта тая, пра якую калісь гаварылі так многа, якую ведаў блізка ўвесь горад?“

І дзівіўся. Здаецца, нічога асаблівага: прыемная жанчына, прыгожая, вабная. Столькі жаноцтва ў ёй, столькі ласкі—да дзяцей асабліва...

— І гэта тая, перад імем якое часам дрыжэлі нашыя ворагі? Гэта яна?..

Як агледзелі ўсё, зашліся ў пакойчык, што лічыўся канцэлярыяй дому. Там сядзелі, гутарылі. У часе гаворкі Булановіч спытаўся:

— Скажэце, калі ласка, ці здавальняе вас гэтая справа?

І ўбачыў тады, як вочы ў Гарновай холадам, пустатой працяліся, як засьвяцілася ў іх нешта такое, што падобна было да спалоху або да нейкай журбы палкай, балючай. Загаварыла новым, ціхім і працяжлівым голасам!

— Ці здавальняе, пытаецеся? Як вам сказаць... Усяк бывае. Бывае так, што й зусім здавальняе...

Яна змоўкла, задумалася. Булановічу прыкра стала. Каяўся, што аб гэтым пачаў. А Арончык бесцарамонна лэпнуў яе па плячы.

— Ну, ты ўжо й насупілася. Яшчэ раскіселішся часам...

Арончык, відаць, добра ведае Гарнову. Дый ня дзіва. Булановіч тут новы зусім чалавек, а Арончык тут з самага свайго нараджэньня. І вядома яму ўсё-чыста, што было ці што ёсьць тут у горадзе.

Гарнова, аднак, не зьвярнула ўвагі на Арончыкаў жарт. Праўда, усьміхнулася, але і ўсьмешка была ўжо ня тая.

Булановічу было не па сабе. Адчуваў сябе нібы вінаватым у тым, што настрой у яе сапсаваўся. Трэба было нешта сказаць, працягнуць

гутарку. І ён пачаў гаварыць аб карыснасьці працы па выхаваньні дзяцей, аб новых кірунках у гэтай працы. Вышла яшчэ горш, бо ў голасе яго неяк міжвольна праточвалася асьцярожнае спачуваньне, быццам хацеў угаварыць, улашчыць. Ад гэтага ў вачох у Гарновай засьвяцілася дасада і злосьць. Слухала, а потым адрэзала раптам:

— Кіньце навукі чытаць, сама ўсё ведаю добра...

Яшчэ часінку сядзелі, потым Арончык узьняўся.

— Ну, паехалі. Бывай!

Як разьвітваліся, Булановіч стрэўся поглядам з Гарновай. Убачыў ў вачох яе смутак і разам нейкае замяшаньне. Нібы стыдалася яна за свой дзівачны настрой.

Як ішлі назад, Булановіч думаў пра Гарнову. Тачыла думкі вострая назольлівая цікавасьць. Спытаўся ў Арончыка:

— Што яна за жанчына?

Вось тады і назваў Арончык яе:

— Кветка пажоўклая...

А чаму? Адкуль узяў гэта ён?—не разумеў Булановіч.

А Арончык больш не хацеў гаварыць. Сказаў толькі:

— Эт, кінь ты... Ня варта аб гэтым...

2

З таго часу ў Булановіча з думак ня сходзіла Гарнова. Часам сам сабе дзіваваўся: чаму гэтак моцна й глыбока запаў у душу яе вобраз? Ды так упарта, станоўка думкі гняце, мігціць заўсёды ў ваччу плямай нязводнай—не пазбыцца ніяк.

— Мо' закахаўся?

Сьмешна робіцца самому пры гэтай думцы. Закахаўся... Ды не, гэта ня тое, гэта бывае ня так. Ён-жа ведае добра, што значыць — кахаць: было калісь гэта. Тады—лятуценьні, парываньні, кроў агнём бушуе, бурліць непакойна. А тут—не. Тут проста цікавасьць нейкая. Але цікавасьць глыбокая, моцная, якая пераходзіць у назольлівую, дакучлівую патрэбнасьць. Хочацца выведаць усё, разгадаць. Хочацца бліжэй падыйсьці да яе, прыглядзецца, у самае нутро пранікнуць, каб пазнаць, што дзеецца там, глыбока-глыбока, пад гэтым халодным, нібы палахлівым бляскам зеленаватых вачэй.

Булановіч яшчэ раз хацеў распытаць у Арончыка. Злавіў яго неяк на дарозе і затрымаў.

Арочнык сьпяшаўся, як і заўсёды. Бег некуды на якуюсь нараду ці пасяджэньне. Спыніўся, як Булановіч яго затрымаў, сказаў, дасадліва зморшчыўшы лоб:

— Ну, што табе? Справа якая? Некалі мне!..

Булановіч ня знаў, як пачаць. Хацеў, каб як неўзаметку, а тут ён адразу пытаецца. Хацеў нават змоўчыць, але так моцна жадалася пачуць што-якое пра Гарнову.

Пачаў проста:

— Ведаеш, Арончык, мяне дужа зацікавіла тая загадчыца дому, ну... гэта... Гарнова... Скажы, што ты ведаеш пра яе?..

Арончык яшчэ больш зморшчыў лоб.

— Ды кінь ты, Булановіч! Што гэта табе закарцела? Ці ня ўлюбіўся ты часам на старасьці?..

— Ды не, проста цікава. Скажы, дзе яна працавала раней?

— Ну, слухай. Працавала ў надзвычайнай комісіі, займала ладную пасаду, добра працавала, была вядома ўсім тутэйшым „контрам“, як спрытная чакістка з пільным вокам і сталёвай цьвёрдасьцю. Ну, а потым нешта зьмянілася, страціла свой запал, сваю энэргію ўпартую. Цяпер—сам ведаеш—закапалася ў дзіцячым доме, гатуе нам моладзь на зьмену... Ну, годзе?.. Бывай, бо мне, да-душы, няма часу...

І пабег. Пакінуў у Булановіча яшчэ большае нездавальненьне. Аж раззлаваўся ён на Арончыка.

— Чорт нейкі... Бегае, нікае, ніколі сталага месца ня мае. Нават пагутарыць часу няма.

А думкі, як і раней, гняло цяжкае дакучлівае пытаньне і ў ваччу лунаў бледны твар з вачмі загадкова-халоднымі, поўнымі смутку.

Праз колькі дзён была агульна-гарадзкая партыйная сходка. Булановіч прышоў у тэатр яшчэ тады, як жоўтыя рады крэслаў бяздушна блішчэлі сухой пустатой і толькі дзе-ні-дзе самотна чарнелі невялічкія купкі людзей, парушалі гулкую цішыню бубнявай гаворкай.

Булановіч сеў адзаду на самым праходзе, сачыў пільна за дзьвярмі, якія што далей, то часьцей і часьцей расчыняліся, прапускаючы новых людзей.

Чакаў яе, Гарнову. З дасадай адводзіў вочы ад незнаёмых людзей зноў і зноў упінаў іх у дзьверы.

Прабег Арончык угрунь з портфэлем пад пахай. На хаду прывітаўся з ім, нібы задзівіўся:

— Ты тут ужо?

— Тут,—адказаў Булановіч і рад быў, што Арончык пабег. Чамусьці прыкра было, не хацелася з ім цяпер гаварыць.

Заля ўсё напаўнялася, гудзела гоманам аднамерным, бурлівым. У ім разбаўляліся, танулі ўсе паасобныя зыкі, блыталіся ў дзівосным бязладзьдзі. Толькі часам сьмех звонкі жаночы ўзьлятаў рэзкім зыкам і вызначаўся сярод агульнага гуду.

Булановіч усё пазіраў непакойна на дзьверы. Ужо пачало мітусіцца балюча ў вачох, ужо—ня людзі, а плямы аднастайныя, прыкрыя. Хацеў адвярнуцца, але раптам угледзеў Гарнову. Яна яго пазнала, заўважыла. Падышла да яго.

— Добры вечар! Ці пазналі мяне?

— Вядома, пазнаў. Добры вечар! Сядайце.

Яна села побач. Раптам чагось засьмяялася, зірнула на Булановіча вясёлым іскрыстым поглядам. Вочы бліскучыя тонкай сеткай прыветных маршчынак убраліся, працінаюць гарэзным агоньчыкам.

Булановіч зьдзівіўся.

— Чаго вы?

— Успомніла, як вы былі ў нас. Помніце, вы мне гэтак сур'ёзна тлумачылі, быццам угаварвалі?..

— Ды не... Я проста выкладаў сваю думку. Я-ж ня ведаў, што вам не падабаецца, калі чалавек сур'ёзна гаворыць...

— А вы, мусіць, любіце сур'ёзна гаварыць? І заўсёды вы так?..

— Таксама, мусіць, як вы заўсёды жартуеце...

— Не, я часам тож сур'ёзна магу...

Булановіч хацеў штось сказаць, але ў гэты момант узьнялася заслона і пачалася сходка. Нейкі час сядзелі моўчкі, слухалі ўважна, што гавораць. Булановіч заўважыў на сцэне Арончыка, паказаў Гарновай.

— Глядзеце, ён і там ня ўседзіць спакойна, круціцца, як верацяно.

Яна ўсьміхнулася, не адказала нічога. А праз хвілінку нахілілася да яго, спыталася ціха:

— Слухайце, ці любіце вы сходкі?

— Як гэта—ці люблю... Я нават ня ведаю, як гэта можна сходкі любіць. Можна справу любіць, часткай якой і сходкі зьяўляюцца...

— Не, я дык люблю сходкі. Асабліва, калі вялікія, дзе многа людзей, дзе ў бурлівым уздыме выяўляецца агульная згода, дзе чалавек разбаўляецца ў масе, дзе ён губляе сябе, забываецца на сваё асабістае, а жыве, поўніцца гэтым агульным магутным уздымам. Там нейк робішся сьмелым, адважным, пазбаўляешся ўсякіх сумненьняў, усякай жудасьці жыцьцёвай.

Яна троху змаўчала, падумала.

— Калісь было многа такіх пекных хвілінак. Цяпер ня тое, цяпер нейк шэрае ўсё. Нудна часам...

Булановіч зірнуў на яе з цікавасьцю. Але сказаў нібы зусім бязуважна:

— Усяму свой час. Цяпер, вядома, мінуліся гэтыя, як вы кажаце, пекныя хвіліны. Затое працы цяпер ня менш і нудзіцца часу няма.

Яна быццам ня чула яго слоў. Угледзелася некуды ў прасьцяг задуменным поглядам. Потым зноў загаварыла:

— А дрэнна аднаму, цяжка. Думкі розныя, пустата... Моцы няма, бо моц толькі ў грамадзе, калі так зьлієшся з усімі, калі гарыш захапленьнем магутным. Эх, было калісь!..

Яна нават уздыхнула. І ўсё глядзела некуды ў пустату. А на твары смутак глыбокі сьвяціўся, адбіваўся ў вачох ціхім зеленаватым бяздоньнем.

Булановіч глядзеў на яе і чуў, як аднекуль з глыбі ўсплывае ў яго нейкае няяснае, непакойнае пачуцьцё, нейкая зыбучая хваля салодкага

суму. Быццам перадаваўся яму настрой Гарновай, быццам той смутак, што халодным бяздоньнем спавіў яе вочы, быццам ён і яго захапляў, блізіў да яе, навяваў глыбокую сымпатыю да гэтай жанчыны.

Булановіч зрабіў над сабой патугу і абярнуўся да сцэны. Гвалтам прымушаў сябе слухаць прамоўцу, стараўся ўкласьці ў мазгі кожнае слова, кожную думку. Каб толькі разьвеяць гэты непатрэбны настрой.

І выходзіла так: словы запаміналіся, сказы ўкладаліся цалком ў галаву, біліся там, гудзелі гудам траскучым, а недзе ў глыбі ціхенька, але ўпарта вілася асобная думка—дакучлівая, настойная, сьвідравала нутро цурочкам ціхага суму.

Як злавіў сябе Булановіч на думцы на гэтай, узлаваўся і на сябе, і на Гарнову. Рашыў:

— Калі так, дык пайду.

І хоць нешта цягнула астацца, нешта прыкоўвала да месца,—перамог сябе, узьняўся.

— Ну, я пайду. У мяне ёсьць надта пільная справа. Бывайце!..

Стараўся не глядзець ёй у твар, ня бачыць вачэй яе смутных. Яна затрымала яго руку. Сказала шчырым прыяцельскім голасам:

— Слухайце, заходзьцеся вы калі-небудзь да нас. У нас да-душы няма ніводнага чалавека, з якім пагаварыць можна-б было.

Ён усьміхнуўся.

— Дзякую за комплімэнт.

— Не, сапраўды. Калі будзе час вольны, прыходзьце.

І калі ён ужо завярнуўся ісьці, дадала:

— Буду чакаць.

— Добра Можа калі і прыду.

І вышаў. Па вуліцы пасігаў шпарка, размашыста, бубнеў сабе пад нос:

— Ого! Іш, ты, як яна. Так часам і сапраўды ў гісторыю ўлезеш. Так і вабіць, так і зацягвае, быццам якое бяздоньне таемнае... Не, брат, пачакай, не паддамся. Ня хлопчык маленькі... Во толькі сход прапусьціў нізавошта...

Гэта так ён казаў, запэўніваў сам сябе ў гэтым, хацеў, каб так думаць. Але думкам хіба загадаеш? Хіба прымусіш сваё ўяўленьне не маляваць таго смутнага твару, тых вачэй выразьлівых, ахінутых зеленаватай плёнкай таемнага суму?..

## 3

— Дзядзька Булановіч! Вам цёця Марына запіску прыслала.

Булановіч няўцямна зірнуў на дзяўчынку маленькую. Адразу нават ня ўспомніў, не зразумеў, у чым справа. Потым схапіўся:

— Гарнова...

Узяў невялічкі кавалак паперы, разгарнуў.

„Тав. Булановіч! Прашу вас прысьці сёньня ўвечары да мяне, маю сказаць нешта важнае. Гарнова“.

— Нешта мае сказаць, просіць прыйсьці... Што за штука?

І ён пачаў рабіць розныя здагадкі. Углыбіўся ў думкі і на дзяўчынку забыўся. Тая пра сябе напамянула.

— Цёця Марына прасіла, каб адказ далі.

— А...

Адказ... Які-ж адказ? Пайсьці ці не?.. Але—чаго-ж там... Баіцца ён хіба, ці што? Вядома—пайсьці. Нават цікава, што скажа яна.

— Перадай, што—добра.

— Бывайце!

У Булановіча думкі роілам завіхрыліся, зблыталіся ў зыбучы бязладны клубок. І толькі да болю яскрава, выразна стаяла ў галаве турбуючым гнётам:

— Што яна скажа?

Цэлы дзень мардаваўся сярод плоймы напружаных думак, здагадак. А як горад ужо захінуўся ў душную вопратку летняга вечара, пашоў да Гарновай.

Дзіўна бывае ўвечары на ўскраіне гораду. Па завулках крыўлястых, вузенечкіх, па куточках прытульных змрок нікае неяк старожка, цікуючы. Хавае ў сябе пад палой усё-чыста, на абрысы прадметаў воўну накладае густую, робіць іх акруглымі, мяккімі. Абымае, сьціскае будынкі чарнатой непрагляднай, цалуецца з вокнамі—бліскучымі засланкамі.

І ціха, бязьлюдна ў завулках глухіх. Як ідзеш, толькі гукі крокаў уласных раскідаюцца гулкай чаргой, прабіваюць пухкі застой цішыні. Ды часам насустрач пераборам блытаным прыляцяць з-за рогу нечаканыя крокі нейкай кампаніі і дружная гутарка, сьмех раптам абудзіць напружны спакой. Выбухне ўраз з маўклівае цемры, празычыць над вухам і неўзабаве сьціхне недзе адзаду. Здалёк яшчэ раз адгукнецца гульліва-прарэзьлівым сьмехам.

Булановіч ледзь адшукаў той дом, дзе калісь быў разам з Арончыкам. А знашоўшы, часінку стаяў, уваходзіць ня важыўся. Зьбіраў думкі да ладу, апошні раз меркаваў, як яму лепш абыйсьціся з Гарновай. Потым узьняўся на ганак, таргануў моцна званок.

Вышла незнаёмая жанчына, мусіць, з выхавальніц тутэйшых. Яго, пэўна, пазнала, бо запрасіла адразу:

— Заходзьце!

І павяла некуды ў задні пакой.

Перад дзьвярмі Булановіч спыніўся, азірнуўся зьдзіўлена, недаўменна. З-за дзьвярэй няслася жвавая гутарка, сьмех. Відаць, сышлася нейкая вясёлая кампанія.

Але ўжо позна было разважаць. Увашоў сьледам за жанчынай, што яго прывяла. Перш-на-перш убачыў Гарнову. Сядзела на крэсьле каля стала і глядзела на яго ўпартым гарэзьлівым поглядам. На твары—

весялосьць, задорнасьць гульлівая, з вачэй праменьнем іскрыстым пырскае сьмех. А вакол яе—колькі дзяўчат, хлопцаў таксама.

Адзін асабліва яскрава адбіўся ў ваччу ў Булановіча. Сядзеў ён воддаль, асобна. Яшчэ малады, але лысы—лоб закаціўся на самае цемя. На папяляста-шэрым твары разьліта сумная лятуценнасьць, журба ціхамірная. Здавалася—нейкае ціхае гора яго ахінула, прыціснула, налажыла на твар сваю цяжкую пячатку.

Як увашоў Булановіч, сьціхлі ўсе на хвілінку. Вітаючыся з ім, шчупалі прыкрымі цікавымі поглядамі. А потым зноў загаварылі, зарагаталі, не зважалі больш на яго.

Булановіч сеў воддаль і ня знаў, што рабіць. Расло ўнутры нездаволеньне. Лаяў у думках сябе, што прышоў і меркаваў, як-бы хутчэй уцячы.

Гарнова падышла да яго, села поплеч.

— Я думала, вы ня прыдзеце... Я чакала вас дужа... сапраўды...

Булановіч зірнуў на яе з задзіўленьнем.

— Я не разумею ўсё-ткі, што можа ў вас быць такога, аб чым так пільна трэба сказаць мне.

— Ёсьць нештачка. Ня надта пільнае, праўда... Але не, не... дужа пільнае, такое, з чым нельга чакаць, з чым я не магу, ня ўмею чакаць.

Вочы яе напружна загарэліся шчырым агнём. Булановіч адвярнуўся, ня мог глядзець у гэтыя вочы. Цягнулі яны да сябе чароўным магнэсам, абуджалі ў грудзёх бурлівае, палкае.

— Дык, я спадзяюся, вы скажаце зараз гэтае „нештачка“?

— Зараз? Не, гэта ня можна... не, не скажу...

— Дзякую. Дык нашто-ж я цягнуўся сюды вярсты дзьве. Хіба на тое, каб пабачыць гэтую вашу кампанію?..

Яна нібы засмуцілася. Праказала пакрыўджаным голасам:

— Няўжо вам так цяжка прысьці да мяне? Дык ня варта было сябе турбаваць, не пашлі-б і годзе...

Булановіч падумаў і прызнаўся самаму сабе, што схлусіў, што йшоў ён сюды ня толькі затым, каб пачуць гэтае „нешта“. Проста цягнула, каб пабачыць яе, каб пабыць з ёй, пагутарыць. І сорамна троху зрабілася. Праказаў нібы ў замяшаньні:

— Не, ня ў тым... але многа работы, час дарагі...

— У, падумаеш—многа работы... Хлусіце вы, во што...

— Не, выбачайце, вы ня маеце права мяне дакараць за гэта, бо ня мелі яшчэ часу пераканацца ў тым, што я здольны гаварыць няпраўду.

— Ат, ведаю я вас усіх...

Маўчалі хвілінку. Яна ўтаропіла вочы ў падлогу, думала аб нечым, церабіла нэрвова сукенку. А Булановічу чамусьці весела стала, захацелася гаварыць. Аб глупстве якім, аб драбноце, абы не маўчаць. Ён запытаў жартаўліва:

— А гэта ў вас, мусіць, вялікі сакрэт, трэба гаварыць пры зачыненых дзьвярах?

— Вядома. Затым я вам сёньня і не скажу нічагутка... Слухайце,—раптам пачала яна сур'ёзна і шчыра.—Вы выбачайце, але гэта вышла зусім неспадзявана. Я сапраўды хацела пагутарыць з вамі. Мне хочацца многа чаго сказаць вам. Але сышліся вось гэтыя... прынясла іх нялёгкая... Во што, дайце мне абяцаньне, шчырае, сяброўскае, што вы прыдзеце да мяне калі-небудзь пасьля. Самі ведаеце, без запрашаньня... Добра?

Булановіч троху падумаў.

— Добра, прыду. Ня думайце, што мне так ужо прыкра прыходзіць да вас...

— Ну, вось і добра. Тады я скажу вам „нештачка"... Абавязкова скажу.

Яна зірнула на яго ваблівым, хітраватым поглядам, які ў Булановіча ўзьняў у нутры прыемнае, лёгкае абурэньне, прымусіў яшчэ раз сказаць:

— Добра, прыду.

Потым гаварылі аб чым-пападзя. Між іншым Булановіч спытаўся:

— Хто гэта той лысы, з вачмі гэткімі сумнымі?

— А гэта настаўнік адзін, Абшарскі. Мой абажанец. Вельмі кахае мяне...

— І ня мае ўзаемнасьці?

— Вядома. Але нішто, не дакучае, больш моўчкі глядзіць сумнымі вачмі ды ўздыхае. Я ўжо прывыкла...

Булановіч уважна паглядзеў на Абшарскага. Стрэўся на момант з яго нярухомым поглядам і адвярнуўся міжвольна з пачуцьцём нейкай грэблівай жаласьці. Так адварачваюцца, калі стрэнуцца з ліхаманкаванапружаным поглядам хворага.

А Абшарскі быццам застыгнуў, упяўшы ў іх бок свае адзервянелыя вочы. І ўвесь час, пакуль не пашоў, Булановіч адчуваў на сабе гэты ўпарты, ліпучы погляд.

Прыкра было. Затым і не сядзеў доўга. Устаў, разьвітаўся з усімі. Гарнова яшчэ раз шапарнула:

— Дык прыходзьце калі. Мо' ў нядзелю ўдзень... пойдзем гуляць куды-небудзь. За горад, далёка-далёка...

Абшарскі таксама ўзьняўся.

— Нам па дарозе, здаецца. Пойдзем разам.

Булановіч зьвярнуў увагу на яго голас. Якраз такі, якога ён і чакаў: ціхі, марудны, працяты нейкай зморай цяжарнай.

Адказаў:

— Калі ласка. Весялей будзе ісьці.

Пашлі. Ладны час абодва маўчалі. Потым пачаў гаварыць Абшарскі.

— Скажэце, калі ласка, вы даўно знаёмы з Гарновай?

— Не, усяго толькі з тыдзень ці два.

— Толькі?—быццам зьдзівіўся ён.

Троху змаўчаў.

— Ну, як яна ўпадабалася вам?

Булановіч не чакаў гэтага запытаньня. Ня знаў, што адказаць.

— Выбачайце, але я не разумею—як, з якога боку ці ўпадабалася...

— Наогул, з усіх бакоў: як жанчына, як чалавек, ну... як працаўніца...

— Так сабе...

Булановіч наўмысьля так адказаў бязуважна. Чакаў, што будзе далей.

— Не, мусіць вы мала яе ведаеце. Яна надта добрая жанчына. Гэткая харошая, ласкавая, ветлая. Я скажу вам ад шчырага сэрца, што такую жанчыну трудна знайсьці... Колькі ў ёй жыцьця, колькі прыгожых, чароўных рухаў душы! Яна быццам саткана ўся з дзівосных перажываньняў, з квяцістых мар, з хараства нязвычайнага...

І пашоў, і пашоў. Пацягнуў сваім ціхім, аднатонна-пявучым голасам. Здаецца, не зважаў ён ні на Булановіча, ні на ўсё, што навокал яго. Углыбіўся ў сябе, сам сабе гаварыў.

А Булановіч думаў:

„Ткі не на жартачкі ён закахаўся ў яе. Бедны поэта! Ці ведае ён, што трухляцінай нясе ад яго поэтычных дыфірамбаў, што сам ён выдае нейкім трухлявым пасьледкам даўно прамінулых гадоў“.

А Абшарскі ўсё гаварыў, усё выслаўляў сваю каханую. Урэшце ўжо надакучыла Булановічу. Расла дасада, злосьць на яго. Быццам ня мае аб чым гаварыць больш, як толькі аб ёй...

І дужа рад быў Булановіч, калі, урэшце, яго падарожнік спыніўся й сказаў:

— Ну, я налева.

— А я направа.

Разьвіталіся. Абшарскі зьнік у цемры неяк ціха, нячутна, быццам і ня было яго тут, быццам ня йшоў з ім Булановіч, а толькі думаў пра яго.

Булановіч пашоў сваёй дарогай. Думаў, ідучы:

„Дзіўны чалавек. „Не от мира сего“...

І наогул было ўражаньне ў Булановіча, што акунуўся ён у нейкі асобны, дзіўны сьвет, у якім ён чужы і яму ўсе чужыя.

А Гарнова здавалася восеньскай кветкай, якая жоўкне сярод быльля сухога і яшчэ песьціць погляд сваім астатнім сумным хараством.

4

За горадам бесканцовай стужкай выпрасталася чыгунка. Стужка жоўтая з паскамі чорнымі, з дзьвюма жалезнымі, цьвёрдымі жыламі.

А прайсьці з поўвярсты па чыгунцы ў далеч,—там лес разгарнуўся абапал, на чыгунку ўсьпёрся, сьціскае яе, хавае зайздросна ў сваім гушчарным нутры.

Стромкі, сухі бор. Блішчыць сьвежай жоўцьцю ствалоў, песьціць погляд сваёй цёмнай зелянінай прытульнай. І зьвініць звонам напружанаціхім, празрыстым.

У гэты бор пашлі Булановіч з Гарновай. Ішлі па гладкім абрусе чыгункі, любаваліся шырокім, вольным прасьцягам.

У Гарновай твар сьвяціўся радаснай сьвежасьцю, вочы блішчэлі маладым захапленьнем.

Булановічу яна падабаецца сёньня. Сёньня ў ёй многа хараства, многа дзівоснай павабнасьці. Сёньня Булановіч ня зводзіць вачэй з яе твару, смагла ловіць тонкія рухі яго і адчувае, як нутро соладка растапляецца, расплываецца ў пачуцьці прыгожым, яскравым.

Як увашлі ў лес, Гарнова спынілася.

— Вы ня ведаеце, як люблю я чыгунку. Я бачу ў ёй нешта вялізнае, дужае. Мне часам здаецца, што гэта людзі пабудавалі сабе шлях да новага невядомага жыцьця. Забудзешся часам на тое, што станцыі ёсьць, паўстанкі, разьезды, што канец ёсьць гэтай магутнай гадзюцы. І здаецца тады, што каб пашоў па ёй, пашоў далёка-далёка, ня спыняючыся, не азіраючыся, дык-бы й прышоў у тое новае жыцьцё... А яшчэ могілкі я люблю... за іх спакой, цішыню... Бо часам дужа хочацца гэтага спакою... Але чыгунка бліжэй мне, больш захапляе... Ведаеце што, я памру на чыгунцы...

Булановіч міжвольна здрыгануўся. Ня словы зьдзівілі яго, а тон, якім былі яны сказаны. Так сур‘ёзна, так пэўна яна іх сказала, і ў вачох у яе Булановіч угледзеў тую дзіўную, халодную пустату, якую бачыў у іх у часе першага знаёмства. Ён хацеў нешта сказаць, але Гарнова не дала. Раптам ажывілася, пацягнула яго па адхону.

— Пойдзем у лес, у самы лес... Далёка, глыбока, туды, дзе няма нікагуткі, дзе толькі сасонкі адны... Ну, хутчэй, хутчэй...

І яны блізка што ўгрунь пасігалі па лесе.

Пад нагамі мякка паслаўся мохавы дыван. Як ступаеш, угінаецца пухка, падатна. Запахла смалой. Лес ахінуў цішынёй глыбокай, старожкай.

Булановіч затрымаўся.

— Дык куды-ж мы, слухайце...

— Пойдзем, пойдзем... далей...

Ішлі яшчэ. Зашлі ў самыя нетры. Урэшце вышлі на невялічкі прагалак. Там Гарнова спынілася, змарана апусьцілася на мохам засланы дол.

— Сядайце!

Булановіч паслухаўся.

— Я вам зараз скажу... тое, што абяцала... Толькі бліжэй вы... ну, бо гэта сакрэт...

І прашаптала на вуха:

— Я пакахала вас... чуеце, ну?..

І вышла так, што Булановіч зусім ня зьдзівіўся, хоць і не чакаў гэтага, ня думаў пра гэта. Ён узяў абедзьвюма рукамі яе галаву, упіўся поглядам у бліскучыя вочы. Сказаў, выгаварваючы паасобку кожнае слова:

— Ты... мяне... любіш?.. А я цябе?..

Яна весела засьмяялася.

— Ну, вядома...

Яшчэ раз абдала гарачым поглядам і потым схавала свой твар у яго на грудзёх. Шаптала:

— Ты дрэнны... Ты ня думай, што ты добры... Не, цябе ня варта любіць, бо ты мучыў мяне, ня прыходзіў ка мне, нават, як клікала я.

Ён узьняў яе галаву, зазірнуў ласкава ў зеленаватыя вочы.

— Няпраўда. Я прыходзіў. І сёньня прышоў...

— Так, праз цэлы тыдзень... Не, не, нядобры...

Ен ня даў ёй больш гаварыць. Пацалункам вусны закрыў. Абняў яе горача, сьмела.

Яна раптам страпянулася, вырвалася.

— Не, пойдзем... Я ня хачу, каб было так... ня трэба... Лепш любіць, адчуваць заўсёды гэтае нявычарпанае, бурлівае пачуцьцё нездавальненьня.

Ён хацеў затрымаць яе, але ўбачыў у іскрыстых вачох ціхую просьбу, смутны дакор. Пашлі тады.

Ішлі моўчкі. Булановіч быў пад уплывам таго, што толькі што адбылося. Правяраў сябе, сваё пачуцьцё і бачыў, што ня схлусіў ён там. Грудзі поўніла шчырая ласка, пяшчота. Гарнова была яму дарагая і блізкая.

Як вышлі на палатно чыгункі, Гарнова зазірнула гарэзьліва ў твар яму, засьмяялася:

— Ну, чаго ты стаў гэткі маўклівы? Мо' нездаволен? Дык бяры свае словы назад...

Ён то-ж усьміхнуўся.

— Ня варта. Лепш няхай будзе так, як было.

Яна з пяшчотай прытулілася да яго, зірнула вачмі, поўнымі шчырай удзячнасьці.

Далей да самага дому гаварылі аб усім усякім, жартавалі. Як падходзілі к дзіцячаму дому, Булановіч убачыў на ганках фігуру Абшарскага. Ён упяў ім насустрач свой сумны нярухомы пагляд.

Булановічу неяк прыкра зрабілася. Быццам сорамна было перад гэтым чалавекам. А Гарнова--нібы-то што... Падышла да яго, пасяброўску руку ціканула.

— Вы ўсё сумуеце, мой рыцар няўцешны?..

Твар Абшарскага асьвяціўся ўсьмешкай шчасьлівай, а ў бліснуўшых раптам вачох Булановіч прачытаў усё тое, аб чым калісь так дакучліва пеў яму гэты незадачлівы палюбоўнік.

І Булановіч падумаў:

— Ці ёсьць у каханьні маім хоць палавіна таго, што цьвіце ў грудзёх гэтага недалужнага чалавека!..

5

З таго часу заўладала Булановічам пачуцьцё. Ён доўга думаў аб тым, як назваць яго, як растлумачыць. І кончыў тым, што прызнаўся сам сабе—гэта любоў. Мо трэба-б было неяк іначай назваць яго, іншую даць яму назву, але слова такога няма.

І разважаў Булановіч:

— Якая бедная наша мова людзкая! Колькі розных разуменьняў прыходзіцца пакрываць адным словам. Любоў... І пяшчотная ласка маткі да дзіцяці свайго, і адважная, шчырая адданасьць барацьбіта сваёй справе, свайму колектыву і гэтае агнёвае, бурнае, што кроў растапляе ў жылах, што грудзі віхурыць прагавітым жаданьнем... Усё—любоў...

І дзівіўся Булановіч, чаму гэткія, зусім непадобныя пачуцьці адным словам названы.

А сэрца тымчасам рабіла сваё, сваё дыхтавала. Яно поўніла нутро чароўным захапленьнем; думкі, настрой—усё чыста пакрывала адбіткам непазбыўнае смагі.

І цягнула туды, да яе, да тых прыветных, іскрыстых вачэй, у якіх гэтак дзіўна сплятаецца смутак з гульлівым агнём весялосьці, у якіх часам адкрываецца гэткае прыгожае, чароўнае бяздоньне. І цяжка цяпер Булановічу ўстрымацца, каб не пайсьці туды, на край гораду, дзе жоўценькі домік ветла ўсьміхаецца высокімі ганкамі, вабіць ружовай прытульнасьцю. Там, у маленькім пакойчыку, так шпарка, так радасна праходзяць хвіліны, так прыемна галаву засьцілаюць ап'яненьнем салодкім.

І часта ходзіць Булановіч туды, у гэты жоўценькі домік. Аддае яму ўсе свае вольныя гадзіны. А калі часам ня ўдасца схадзіць, калі некалькі дзён ня бачыць яе, тады нутро разьядае нуда і сэрца маркотаю садніць.

Было нешта так. Ня бачыўся цэлых тры дні. На чацьверты моцы ня стала, пашоў, хоць і работа была. Пашоў ужо ўвечары, як горад замігціўся агнямі прыветнымі, як тлум гарадзкі ахінуўся прыглушанай таёмнасьцю.

Гарнова ў двары была. Як убачыла Булановіча, кінулася да яго з бурнай радасьцю.

— Як добра, што ты прышоў. Як я рада... Ведаеш, гэтыя дні што толькі са мною рабілася... Я думала, ужо канец, ня стрываю. Гэткая пустата, гэткі адчай. Зьнялюбела ўсё чыста, усё назаляе, цяжарыць...

Яе голас зьвінеў нявыводнай журбой, за сэрца Булановіча кратаў. Ён з ласкай абняў яе, прытуліў да сябе, глядзеў з каханьнем у твар.

— Дарма ты так, любая. Ня трэба гэтага. Трэба перамагаць сябе, трэба пазбыцца гэтага разлому душэўнага... І чаму ты так мардуешся? Хіба цябе ня можа жыцьцё захапіць? Хіба ня бачыш ты, колькі ў ім новага, бурлівага зьместу, колькі творчай, радаснай сумятні?.. Гэта-ж—сьмех проста: адчай, пустата... Сорамна табе, во што...

А яна маўчала—ціхая, смутная. Мо' зусім і ня чула таго, што ён ёй казаў? Бо ў вачох свая асобная думка сьвяцілася—захаваная, таёмная.

Ён тож перастаў гаварыць, моўчкі лашчыў яе, поўны дзівоснай глыбокай пяшчоты. Яму чамусьці здавалася, што далёкая яна, незразумелая, цёмная. Загадка неразгадная. І такая—яна яшчэ больш яму любая, дарагая. Далёкая і разам блізкая, родная.

Толькі крыўдна, што не паказвае яна душы свае, што нібы хавае ад яго беражліва нутро сваё, тыя думкі балючыя, страшныя, што адчай, пустату наганяюць, што труцяць жыцьцё ёй нязводнай атрутай.

І ён ёй сказаў:

— Слухай, чаму ты такая няшчырая? Чаму ты ня ўсё мне гаворыш?

Яна зірнула на яго, не разумеючы.

— Як, што не гавару? Я нічога ад цябе не хаваю. Я нікому больш ня выказваю настрою свайго, думак турботных. Толькі табе ўсё адкрываю, бо ты гэткі дужы, цьвёрды... І добры ты. Ты не сьмяешся над маёй слабасьцю. Ты заўсёды хочаш зразумець, уцешыць. Я за гэта люблю цябе, за гэта ты дараг мне.

Яна памаўчала троху, потым ізноў пачала:

— Ведаеш, любы, мне часам сорамна бывае. Я не магу сабе дараваць таго, што сышлася з табою... Я—эгоістка вялікая... Мо' дзеля таго, каб дастаць сабе нейкую ўцеху, падтрыманьне, я прынясу табе няпрыемнасьць, няшчасьце. Я часам гневаюся на сябе за тое, што пакахала цябе і з твайго боку выклікала каханьне...

Ён спыніў яе.

— Чаму ты гаворыш так... Быццам табе ўжо ўсё згінула, пагасла ўсё ў жыцьці. Глупства гэта. Проста—часовы настрой. Мінецца ён, разьвеецца—і ўсё будзе добра. І зноў сонейка заграе ў гэтых любых вочках.

Яна сумна ўсьміхнулася.

— Ды не, нашто абманваць сябе. Ня будзе так. Я ўжо асуджана. Я ўжо падышла да канца, да мяжы... Я многа жыла—поўным, бурлівым жыцьцём. Я растраціла моц сваю, той невялічкі запас, што быў у мяне. А цяпер—няма чым жыць...

Булановіч не разумеў нічагутка. То яму здавалася, што словы гэта адны—пустыя, сэнтымэнтальныя—і тады прыкра было, нездавальненьне раджалася, гаснула добрае пачуцьцё. А часам праўдай жывой выдавала ўсё гэта, палохала страшэннай жудасьцю, паліла трывогу вострую, непакойную. І тады бушавала, буяла ў грудзёх пачуцьцё дзіўнай пяшчоты. Хацелася не адхадзіць ад яе, быць з ёй кожную хвілінку, няўпынна глядзець на яе, любавацца.

Трывога тачыла грудзі чарвяком атрутным. Здавалася, што калі пойдзе ён ад яе, дык на век страціць яе. І згасьне тады тое ружовае, сьветлае, што цяпер дрыгаціць гэткай чароўнай краскай у сэрцы.

Ужо позна было, а Булановіч яшчэ сядзеў у Гарновай. Ня мог пайсьці, ня мог кінуць яе—сіл не ставала. А яна тож—калі зьбіраўся ісьці, калі гаварыў пра гэта,—сьціскала яго сударгава, тулілася да яго палахліва.

— Не, ня йдзі... Пачакай яшчэ... Ня кідай адну... Страшна мне, цяжка аднэй...

У пакойчыку прытульным цурочкам цякла цішыня, навявала чароўную згоду. Здаецца, век-бы сядзеў вось так удваёчку і адчуваў, як сэрца з сэрцам вядзе бясслоўную ціхую гутарку.

Раптам Гарнова ўзьнялася.

— Пачакай, Алесь, я пакажу табе нешта.

У шуфлядзе сярод груду розных паперак знашла адну пісульку маленькую і дала яму. Ён прачытаў:

„З гэтага часу будзь ты праклята. Няхай табе жыцьцё будзе горкаю доляй. Бацькава пракляцьце спасьцігне цябе на тваім ганебным шляху“.

Булановіч зірнуў на яе дапытлівым поглядам. Яна, мусіць, зразумела яго нявыказанае запытаньне і адказала:

— Гэта так... маленькая ільлюстрацыя да жыцьця да майго... Цікавая рэч, сапраўды? Такіх дакумантаў я маю даволі...

Булановіч гарэў упартым жаданьнем узнаць усё чыста, узнаць пра ўсе драбноты яе жыцьця. Здавалася, што толькі ўзнае ён, і зараз-жа знойдзецца тое, што дасьць выхад з тупіка, у які яна трапіла, што зьнішчыць яе глыбокі адчай.

Мо' тады ўсё гэта здасца нікчэмным і сьмешным? Мо' разьляціцца, як дым, гэты дзіўна-сплецены, незразумелы клубок адчайнага смутку?

Булановіч узяў яе за руку, ахінуў яе поглядам, поўным шчырай, глыбокай пяшчоты, сказаў:

— Марына, родная... Раскажы мне ўсё чыста пра жыцьцё пра сваё. Мне ўсё здаецца, што хаваешся ты, што ня хочаш выказаць мне свае патаёмныя думкі... Ведаеш, мне дужа крыўдна і цяжка робіцца, калі аб гэтым падумаю.

Яна ўсьміхнулася ласкавай, добрай усьмешкай.

— Ды не, Алесь. Я не хачу хавацца і не хаваюся. Я табе ўсё гавару, аб чым думаю. А расказваць пра жыцьцё?—Доўга гэта і непатрэбна... Але вось што... я раскажу табе. Раскажу тое, што дасьць табе магчымасьць многа чаго зразумець. Слухай...

—Перш-на-перш—гэта табе, пэўна, вядома—я дачка памешчыка з Віленшчыны. Ты ня ведаў гэтага? Так, так... Самага сапраўднага пана з тысячамі дзесяцін зямлі. Рэволюцыянэркай я рана зрабілася, як толькі навучылася глядзець на жыцьцё крытычна, разьбірацца ў ім. Ну, вядома, эсэркай спачатку была. А жыла ў бацькі і часам карыстала яго асаблівую любоў да мяне на нашую справу. Бацька й ня знаў, што тыя гасьцінцы,

якія дае ён дачцэ, ідуць на змаганьне з такімі, як ён. Ну, як там было—ня цікава... Галоўнае пачынаецца ўжо пасьля Кастрычніка. Я ўцякла з дому з адным чырвонаармейскім атрадам у той час, як савецкае войска адступала з нашай мясьціны. Уцячы мяне прымусіла многа прычын. Былі й асабовыя чыста... каханьне было. Але гэта глупства... Вось з гэтага часу і пачалося маё жыцьцё. Я да вас далучылася, увабрала ў сябе тыя парываньні, той запал, што гарэў тады полымем буйным у сэрцы паўстаўшых работнікаў. Я тады пачула тую магутную волю колектыву, аб якой я калісь табе гаварыла. Я зьлілася з ёй, у ёй растапілася, працялася наскрозь агульнай думкай сталёвай, агульным бурлівым пачуцьцём...

— І як лёгка, добра было тады! Ведаеш, Алесь, я ўвесь час была тады быццам у нейкім хмелі чароўным, я не прыкмячала, як ляцеў звар'яцелы час. І як добра тады працавалася! Ніколі ня чуваць было зморы. А працаваць многа прыходзілася... Дзе, на якой справе я працавала—ты ведаеш... І вось нешта раз я атрымала ліст ад бацькоў. Тады нішто яшчэ: лаяліся, вядома, заклікалі вярнуцца назад. Я адказала ім. Напісала вось так, слова ў слова: „Ня лічэце мяне вашай дачкой"... Мне тады проста сьмешна было з усяго гэтага. Між упартае працы гэта была нібы забава маленькая. А яшчэ троху пасьля здарылася тое страшнае, што, мусіць, навекі адбілася на маім нутры...

— Да мяне прышоў брат. Ён працаваў у аднэй патаёмнай контр-рэволюцыйнай організацыі і ў той час быў прыціснуты да сьцяны. Яшчэ колькі дзён і ён павінен быў трапіць у нашыя рукі. Ён прышоў да мяне шукаць абароны, ён спадзяваўся, што я, як сястра, ратую яго. Ах, як прасіў ён мяне, каб я пасабіла яму ўцячы заграніцу, як ён кляўся, прысягаў, што ня будзе больш весьці сваю контр-рэволюцыйную працу. Бедны, ён так спалохаўся небясьпекі, што думаў толькі аб тым, каб выратаваць сабе жыцьцё. Мо' каб хто чужы так прасіў, я-б ня ўстрывала, дала яму ратунак. Але гэта быў брат, а ў той час нікога я ня лічыла такімі ворагамі, як сваю радню...

— Яго расстралялі. Так. Я сама падпісала сьмяротны прыгавор... А ўсё такі я многа тады змагалася сама з сабой. Шавалілася троху кроўнае пачуцьцё. Мае рукі дрыжэлі, як у ліхаманцы, калі я падпісвала гэтую страшную паперку... Хутка пра гэта дома прачулі. Тады вось і пераслаў мне бацька гэту пісульку. І, ведаеш, цяжка мне стала, як я прачытала яе. Быццам нешта навалілася на мяне, прыдавіла страшэнным, жудасным цяжарам. Праўда, я хутка пазбылася гэтага пачуцьця, я затапіла яго ў моры напружанай, ліхаманкавай працы. Але сьлед застаўся. Я пачала часам задумвацца, чагось сумаваць. І пачула, як ліпучай павуцінай пачынае абвязваць мяне страшэнная змора. А разам раджалася пачуцьцё адзіноты, нездавальненьня...

— Апала навальніца бурлівая, жыцьцё пачало ўкладвацца ў сталыя рамкі. Пачалася другая работа—руплівая, нудная. Я лішняй пачула сябе,

не магла прыстасавацца да гэтае новае працы. І зазьзяла чорным бяздоньнем у душы пустата. Холад ахінуў. Сумна так стала.

Гарнова змоўкла, задумалася. Была такая ціхая, смутная. Потым схапянулася раптам, прыціснулася сударгава да Булановіча, задрыжэла ўся.

— Алесь, любы мой... Я табе ўсё... усё чыста скажу аб сабе... Мне ўночы часам дужа страшна бывае. Нейкі сьмяртэльны спалох надыходзіць... Крычаць тады хочацца, зваць каго, каб прышлі, каб быў хто са мной.

Зноў сьціхла. Ціша ў пакоі старожкай, злавеснай зрабілася. І раптам гэтую цішу працяў зазыўны прарэзьлівы гудок цягніка. Ён быў поўны дзіўнага, сьмелага задору, у ім воклікам бурным зычэла магутная вешчая воля.

Гарнова ўсхапілася. Загаварыла быццам зачараваная, быццам у сьне:

— Во... ён кліча мяне... Ён вабіць мяне сваім настойлівым крыкам. Ён знае, што я прыду да яго, што ў яго буду шукаць ратунку сабе... Алесь, ты ня ведаеш, як я люблю чыгунку... Яна будзе магілай маёй...

Булановіч маўчаў, апанаваны цэлай бурай розных пачуцьцяў. Жаль цісnуў сэрца, ахіпаў яго агнём балючай пяшчоты. І разам давіла мазгі нешта цяжкае, незразумелае, нешта такое, што поўніла нутро напружным непаразуменьнем...

А ноч усё цякла, усё пасувалася.

У вокнах ужо зашарэла...

6

Сягоньня замардаваўся Булановіч. Цэлы дзень упартай, рупатлівай работы падарваў сілы. Як прышоў урэшце дамоў, паваліўся на ложак, зьнябожаны. Па целе прыемнаю хваляй расьцяклася цягучая млявасьць, а ў галаве туман захістаўся зыбучай плёнкай. Сон цяжарна зьвесіў павекі.

Ужо ледзь не заснуў Булановіч, але раптам нехта ў дзьверы паляпаў.

— Увайдзіце!

Памалу адчыніліся дзьверы і ўсунуўся сваёй доўгалыгай нязграбнай фігурай Абшарскі.

Яго Булановіч ніяк не чакаў. Надта зьдзівіўся. А Абшарскі прывітаўся, сеў ля стала і пачаў маўчаць. Булановіч тож нічога не гаварыў, сачыў за ім моўчкі. Чуў, што не здарма Абшарскі прышоў, што мае нешта сказаць. І дужа карцела пазнаць гэта „нешта“, але нядобра было запытацца. Чакаў, каб сам ён пачаў.

Урэшце Абшарскі пачаў сваім ціхім, маркотным голасам:

— Т. Булановіч, я прышоў да вас пагаварыць аб надта важнай справе...

— Калі ласка.

— Я ведаю, вас дужа зьдзівіць тое, аб чым я скажу вам, але... усё роўна... я павінен гэта зрабіць...

Ён ізноў памаўчаў, быццам падбіраючы словы.

— Во што, т. Булановіч, я хачу з вамі пагаварыць аб Гарновай...

— Калі ласка. Я слухаю.

А сам падумаў:

— Прэтэнзіі хіба хоча свае заявіць...

Ахапіла цікавасьць. З нецярплівасьцю чакаў, што скажа далей.

— Т. Булановіч... я ня ведаю, як вам гэта лепей сказаць... Я хачу прасіць вас, каб вы... жаніліся на Гарновай...

Булановіча нібы варам абдалі. Усяго ён чакаў ад Абшарскага, толькі ня гэтага. Глядзеў на яго, няўцямна выпяўшы вочы.

Абшарскі неяк замятушыўся, заварочаўся на месцы.

— Вас гэта дужа зьдзівіла? Я знаў, што так будзе... Мне цяжка было гаварыць аб гэтым... Але, вы паслухайце... Я вам скажу ўсё... Бачыце, я люблю яе, дужа люблю... Мо' гэта якая асаблівая любоў, не такая, як за-звычай, ня ведаю... І я не магу бачыць, калі яна мучыцца, калі пакутуе гэтак...

— Выбачайце, а чаму вы думаеце, што калі я з ёй ажанюся, дык яна ня будзе мучыцца?

— Я знаю, я пэвен у гэтым. У яе гэта з адзіноты. Ёй трэба такі чалавек, які-б быў каля яе, які-б яе падтрымаў, памог пазбыцца таго адчаю, які часам яе ахапляе...

Булановіч яго перапыніў.

— Выбачайце яшчэ раз... А чаму вы думаеце, што гэткім чалавекам павінен быць я? Чаму вы, напрыклад, самі ня будзеце такім?

Абшарскі ціха ўздыхнуў.

— Я не магу... Яна не захоча, бо яна ня любіць мяне. А вас яна любіць, я знаю, я бачу...

Колькі хвілінак маўчалі абодва. Потым ізноў Абшарскі пачаў:

— Т. Булановіч, вы павінны зрабіць гэта. Я вас дужа прашу... Ратуйце яе, ня дайце ёй загінуць... Яна-ж гэткая добрая, гэткая любая...

Голас дрыжэў у Абшарскага, а ў вачох бліснулі сьлёзы. Булановічу шкода было гэтага недалужнага чалавека. Хацелася ўцешыць яго, заспакоіць. І дзіўнай, незразумелай здавалася гэткая шчырая самаахвяра, гэткая зьнявага да самога сябе, гэткая адданасьць другому. Ён сказаў яму ласкава:

— Слухайце, т. Абшарскі, вы ўгадалі, што мяне дужа зьдзіўляць вашыя словы. Вядома, што я пэвен у іх шчырасьці. Я надта дзякую вам за вашую даверлівасьць... Але сказаць вам што-небудзь я цяпер не магу. Я буду думаць аб гэтым...

Абшарскі яшчэ сядзеў колькі хвілінак. Ужо выходзячы, сказаў Булановічу:

— Я ўчора ў яе рэвольвэр знашоў... Я адабраў яго...

Булановіч здрыгануўся міжвольна...

— А яна што?

— Яна сьмяялася... Кажа—гэта я так, для забавы дастала, а страляцца ня маю замеру...

Як пашоў Абшарскі, Булановіч яшчэ доўга ня спаў. Думкі павадкай біліся ў галаве, у ваччу мітусіліся пярэстыя вобразы. Твар Гарновай ня сходзіў з вачэй, усё лунаў—смутны, прыгожы, будзіў у сэрцы пачуцьцё шчырае. І часам ужо гатова была скласьціся пастанова, часам гаварыў сам сабе:

— Так, я павінен ратаваць яе, я павінен з ёй жыць, быць заўсёды пры ёй, я павінен памагчы ёй пазбыцца яе згубнага настрою, вярнуць яе да жыцьця...

І маляваліся вобразы новага супольнага жыцьця—вобразы пекныя, але поўныя нейкай атрутнае млявасьці, таго, што мякчыць чалавека, што падцінае яго волю. І вось гэта палохала. Проці гэтага паўставала нешта ў сярэдзіне, перасьцерагала. Нейкі голас шаптаў:

— Зацягне, завалачэ ў багну бязвольля. Сам тады прападзеш...

Так цэлую ночку змагаўся з сабой. Заснуў пад самае раньне з пастановай пайсьці заўтра параіцца з Арончыкам. Ён добры хлапец, разумны. Не памыліцца, дасьць добрую раду.

Прасну́ўся Булановіч гадзіне а 10. Насьпех выпіў чаю і пабег шукаць Арончыка.

Знайсьці Арончыка ня так было лёгка. Гэта-ж такі чалавек, што ня можа пабыць на адным месцы. Ён-жа проста кіпіць ад навалы бурлівай энэргіі, ён у клапотах, у працы знаходзіць сабе асаблівую асалоду.

Булановіч злавіў яго недзе на пасяджэньні. Чакаў з поўгадзіны, пакуль кончыцца, потым пашлі разам.

Вуліца млела ў паўдзённай сьпякоце. Сонца быццам прыхілілася да зямлі, прыціснула горад сваім густым, душным зьзяньнем, усклала на ўсё адбітак санлівай нярухомасьці.

Было цяжка ў гэтым вары пякельным. Зморана спыняліся ногі, цела ўсё нібы распускалася, сьцякала бясьсільна ўніз. Хацелася сесьці, адпачыць.

Булановіч з Арончыкам у сад гарадзкі завярнулі. Там абабралі мясьцінку прытульную, селі на лавачку ў засені.

Арончык на гэты раз не сьпяшаўся. Ці мо' нейкім дзівам час вольны меў, ці мо' й яго гарачыня троху прабрала, троху зьменшыла нявычарпаны запас яго энэргіі. Сядзеў спакойна, уважна слухаў, аб чым апавядаў Булановіч. А той расказаў усё папарадку. Прызнаўся Арончыку ў тым, што паміж яго і Гарновай было, расказаў і пра Абшарскага. Як скончыў расказваць, запытаў у Арончыка:

— Скажы мне цяпер—шчыра, папрыяцельску: што я павінен зрабіць? Толькі сур'ёзна скажы, не жартуй, не аднеквайся...

Арончык насупіў свае густыя поўкругам бровы, надуўся, напружыўся. Відаць, моцна, станоўка думаў. А потым бровы высока ўзьняў, пакрывіўся паважна й пачаў:

— Слухай, што я скажу табе, Булановіч. Зірні ты сам сабе ў нутро, падрахуй свае сілы і дай адказ самому сабе: ці здолееш ты яе ратаваць? ці здолееш выцягнуць яе з гэтае процьмы? Калі так, дык жаніся. А калі не,—лепш не пачынай, бо часам сам можаш трапіць у багну. Ты-ж ведаеш, што гэта за штука—каханьне. Гэта-ж слабасьць... так, слабасьць. Гэта такое зельле, якое многа дужых людзей паламала, зьвярнула іх з пэўнага шляху... Ты добра падумай аб гэтым.

І, памаўчаўшы, дадаў:

— А ёй трэба-б было памагчы. Яна многа чаго нам зрабіла і можа-б яшчэ сякую-такую карысьць прынясла. Трэба-б было памагчы...

Булановіч Арончыка шчыра падзякваў. Больш ня пытаўся, нават кінуў гаварыць пра гэта. А як разышліся, пачаў упарта абдумваць справу, пачаў правяраць сам сябе.

— Ці хопіць сілы? Ці здолею?..

Ня мог адказаць, бо ня было яснасьці ў думках, бо ў галаве ружовы, душны туман хваляваўся. І больш увагі прыцягвалі апошнія словы Арончыка:

— Трэба-б было памагчы...

Яны мацней заселі ў мазгох, бо адпавядалі настрою, пачуцьцю. І хацелася на іх адных грунтавацца, толькі іх мець на ўвазе.

Трэба памагчы... Вядома, трэба... Ён павінен гэта зрабіць. Ён зробіць гэта...

Пастанова крэпла, расла, пераходзіла ў імкненьне магутнае. А вобраз Гарновай сьмела ўставаў у ваччу, вабіў, цягнуў да сябе, абураў грудзі нецярплівасьцю прагнай, жаданьнем як найхутчэй зрабіць тое, што стала ўжо канчатковым, пэўным рашэньнем.

7

Ціха, паволі асядае на горад цёплы, ласкавы вечар. Ахінае прытульнасьцю ціхай, шэпча на вуха санлівым шолахам дрэў.

Аб чым шэпча?

Мо' аб тым, як добра палаць агнём прамяністым каханьня, як добра адчуваць непазбыўную душную смагу, жаданьне нязьведаных радасьцяй, палкіх уцех? Мо' аб тым, як прыемна млець у чароўнай зьнямозе, у дзівоснай напружнасьці ўстурбованых нэрваў?

Мо' аб тым так соладка шэпча ласкавы вечар? Мо' аб тым пяюць ціхую песьню таёмныя дзіўныя шолахі?..

Булановіч з Гарновай знашлі сабе ў садзе цудоўны прытулак. Добра тут—у самым глухім куточку, пад ветлай, разложыстай яблыняй! Тут так ціха, што чуваць, як сэрца б'ецца ў грудзёх. Тут адны яны, адмежаваныя ад усенькага сьвету, цалком адданыя свайму пачуцьцю.

Гарнова прытулілася шчыльна да каханка свайго, схавала галаву ў яго на грудзёх. Сядзіць нярухліва, быццам прыслухваецца да ўцехі, да

шчасьця свайго, быццам баіцца, каб лішнім рухам, лішнім словам ня спудзіць гэтага чароўнага, салодкага настрою.

А Булановіч неспакойны. Турбуе назойлівая, упартая думка, не дае спакою. Сёньня ён павінен сказаць Гарновай аб тым... Сёньня ён павінен прапанаваць ёй тое, на што рашыўся колькі дзён назад. Кожную хвілінку хоча пачаць ён, хоча выказаць усё. Але нешта спыняе. І стыгнуць на вуснах нявыказаныя словы.

— Што яна на гэта? Як адкажа?..

Нібы страшна чагось, сіл на хапае сказаць.

Але ўрэшце адважыўся.

— Ведаеш, любая, я хочу нешта сказаць табе, слухай...

Яна ўзьняла галаву, упялася ў яго чакаючым поглядам.

— Марынка! Я надумаў нешта зрабіць. Я хочу зьмяніць нашы адносіны. Мы пакахалі адзін аднаго—шчыра, моцна... Мы адзін аднаго разумеем... Чаму нам ня жыць разам, ня стаць мужам і жонкай?..

Чуў Булановіч, што неяк нязграбна, карузла выходзіць. Дасадліва моршчыўся, ждаў, каб хутчэй яна што сказала, каб разьвеялася гэтае прыкрае ўражаньне.

А яна маўчала. Доўга маўчала. Мабыць думала, як лепей яму адказаць. Потым пачала:

— Алесь! Ты выбач мяне, але я табе проста скажу: не хачу я гэтага... і не зраблю. Я ня хочу псаваць сабе апошнюю ўцеху. Я ведаю, як гэта будзе: шэрасьць, нуда, беспрасьвецьце. Усё тое прыгожае, што ёсьць цяпер, што захапляе, хвалюе,—усё гэта зьнікне... Не, я ня хочу так... ня трэба... І ты, Алесь, не настайвай. Кінь гэту думку...

Булановіч не чакаў такога звароту. Гэтыя словы зьдзівілі яго. І разам яны падлілі ў агонь масла. Замест таго, каб згадзіцца, каб кінуць пра гэта, ён ахапіўся цяпер упартым жаданьнем дабіцца свайго. Ён увесь гарэў пачуцьцём, ён у палкай пяшчоце галубіў яе, цалаваў ёй у рукі. І настойна, упарта прасіў, каб згадзілася. А калі яна адмаўлялася, ён яшчэ больш захапляўся, яшчэ з вялікшай сілай настайваў.

І тады толькі схапянуўся, як заплакала Гарнова, затрапяталася ў моцным сударгавым рыданьні. Тады змоўк, ня ведаў, што рабіць. Не разумеў, чаму Гарнова заплакала.

А яна парыўчата гаварыла скрозь сьлёзы:

— Дрэнны ты, злы... Ты мучыш мяне, ты псуеш мне настрой, зьдзекуешся над пачуцьцём над маім. І толькі затым, што табе хочацца так... Усе вы такія... бяз сэрца, эгоістыя...

І ўсё плакала бесьперастаньня. Булановіч ледзь суцешыў, заспакоіў яе. Пагадзіліся на тым, што ён даў слова ніколі нават не гаварыць аб гэтым. Гарнова тады заспакоілася, зноў прытулілася да яго і толькі раз-па-разу ўсхліпвала, быццам пакрыўджанае дзіцянё. А як расставаліся, Гарнова сказала яму з ласкавым дакорам:

— Алесь, любы мой... Ты ніколі ня крыўдзі мяне... Ты-ж знай, што наша каханьне—гэта астатняя ўцеха мая, гэта прыгожая акраса астатніх дзён...

Ён перапыніў яе:

— Што ты гаворыш усё—астатняя, астатняя... Марына, кінь ты настрой гэты свой. Навошта гэта? Адно, мучыш і сябе і мяне...

Яна не адказала нічога. Толькі глыбока-глыбока ўздыхнула.

Праз колькі дзён пасьля гэтага Булановічу ўсё-ткі прышлося яшчэ раз гаварыць з Гарновай на гэтую тэму.

Было так. Ён неяк позна ўвечары вяртаўся з чыгункі: езьдзіў на вёску па службовых справах. Проста з вакзалу накіраваўся ён да Гарновай.

На галоўнай вуліцы яшчэ гарэлі агні, яшчэ сноўдаліся гаварлівай гурмай начныя гулякі. А ў завулках, куточках глухіх ужо ўсё сьціхамірылася. І вокны ня сьвецяць ужо тупа-бліскучымі засланкамі, не цалуюцца з цемрай чарнільнай. Схаваліся, зьніклі, быццам і званьня іх ня было ў гэтых мізэрных хібарках, што палахліва адступілі з дарогі цьмянымі плямамі.

У дзіцячым доме, куды падышоў Булановіч, тож было цёмна. Але тое акенца, якое Булановічу добра знаёма, якое заўсёды спыняе на сабе яго погляд,—гэта акенца яшчэ сьвяцілася прыветным агончыкам.

— Значыць, ня сьпіць.

Дзьверы чамусьці адчынены. Мусіць, ёсьць нехта чужы, бо звычайна іх запіраюць.

Булановіч прашоў проста да пакою Гарновай і, не папытаўшы дазволу, адчыніў дзьверы. І ўбачыў ён: Гарнова на ложку сядзіць, а перад ёй на каленах Абшарскі.

Асалапеў Булановіч. Хацеў адразу назад павярнуцца, але Гарнова спыніла.

— Алесь, пачакай! Што ты спалохаўся?

Абшарскі памалу ўзьняўся, сеў у кутку, вінавата ўтупіўшы лысую галаву. Булановіч не разумеў нічагутка. Глядзеў дапытліва ў вочы Гарновай, чакаў тлумачэньня.

Яна засьмяялася.

— Ну, чаго ты глядзіш так? Быццам цябе аглушылі... Ці мо' цябе зьдзівіла гэтая сцэна, га? Я табе зараз скажу: мой паважаны рыцар сёньнека чэпіцца да мяне цэлы вечар. Усё просіць... і, ведаеш, аб чым? Згадай... Аб тым, каб я за цябе замуж пашла. Ты, пэўна, і ня знаў, што маеш гэткага добрага свата...

Булановічу прыкра неяк стала. Дасада ўзьнялася на Абшарскага. Што яму трэба? Чаго ён гэтак турбуецца? Чаго ён назаляе вечна. Лезе з сваімі паслугамі? І ведае ўсё, гэты нязначны, недалужны чалавек, усё прыкмячае, аб усім дазнаецца! Быццам цень нейкі, сочыць усюды, за ўсім...

Булановіч нічога не адказаў Гарновай, і наколькі хвілін запанавала маўчанка цяжарная. Потым Абшарскі загаварыў. Гаварыў вінаватым голасам, быццам хацеў перапрасіць Булановіча, выпраўдацца перад ім.

— Я гаварыў аб тым, аб чым калісь вам казаў, т. Булановіч. Я жычу толькі дабра... Я хачу, каб Марына Паўлаўна была шчасьлівая, каб яна не пакутвала...

Раптам Гарнова ўзлавала, абурылася.

— Якое вам дзела? Хто даў вам права аба мне клапаціцца? Я маю сьвядомасьць і сама знаю, што трэба рабіць...

Яе голас дрыжэў. У вачох гарэлі, пераліваліся аганькі гневу.

Абшарскі моўчкі ўзьняўся.

— Марына Паўлаўна! Паверце мне, што я ніколі не хацеў вам зрабіць што благое. Усё, што мучыць вас, мучыць ня менш і мяне... а можа яшчэ больш, бо я...

І не даказаў. Вышаў шпарка з пакою—высокі, сутулаваты, нязграбны. Пакінуў за сабой уражаньне нейкай напятасьці, нялоўкасьці.

У Булановіча цяпер ня было ўжо ані крушыначкі злосьці. Замест таго жаласьць зьявілася да беднага Абшарскага. Ён сказаў Гарновай з дакорам:

— На што ты так з ім. Ён-жа так любіць цябе. Яму ты даражэй за ўсё...

— Я знаю гэта, Алесь. Але-ж часам не хапае цярплівасьці. Назаляе гэта каханьне маўклівае, нуду наганяе... А часам злосьць возьме. Тады й пакрыўдзіш яго нізавошта... Але глупства. Пасьля ўлашчыцца.

У той вечар ня было паміж Булановічам і Гарновай звычайнай блізкасьці, звычайнай ласкі. Гарнова была далёкая нейкая, чужая. Увабралася ў сябе, адгарадзілася ад яго халоднай, сухой пустатой сваіх глыбокіх вачэй. І сама ўся была халодная нейкая, ціхая.

Булановічу здавалася, што вінават у гэтым Абшарскі з яго недарэчным учынкам. Зноў востра тачылася ў сэрца прыкрая злосьць. Разам з ёй унутры бязладнасьць раджалася нейкая, раскіданасьць. Ня знаў, як падыйсьці да Гарновай, як разагрэць яе холад лядзяны.

І даў тады сам сабе слова ніколі больш не гаварыць з ёй аб жаніцьбе, ня крануць больш гэтага пытаньня.

8

Прашло два тыдні. Булановічу яны праляцелі бліскавіцай-маланкай. Увесь час быў нібы ў чадзе і не прыкмячаў, як чарадой аднамернай мігаюць гадзіны. Аддаўся цалком пачуцьцю, утапіў у ім усю істоту сваю, ачмуціў сьвядомасьць ружовым туманам.

Часам схапянецца, зірне сам на сябе з задзіўленьнем. Падумае: „Што-ж гэта? Чым гэта кончыцца ўсё?“

І з жахам адчувае, як глыбей і глыбей уцягваецца ў атрутнае дрыгвяное бяздоньне, як губляе моц сваю, волю. А спыніцца, вярнуцца—ня змога.

Гарнова дзіўнай стала ў апошні час. Рэдка цяпер весялосьць маладая асьвеціць яе сумныя вочы. Рэдка калі зазьвініць яе задорны, гарэзьлівы сьмех. Больш усё ціхая, смутная. Задумленьне маўклівае ня сходзіць з паніклага твару.

І з Булановічам яна дзіўная нейкая. То халоднай няўважнасьцю яго сустракае, быццам далёкі ён стаў ёй, чужы, быццам ужо зьнялюбеў. А то раптам закіпіць пачуцьцём бурным, парыўчатым, эгарне яго ласкай нястрымана-гарачай.

Булановіч бачыць гэта і думае часта аб гэтым. Напружвае розум свой, хоча згадаць, зразумець, што робіцца з ёй. І ня можа. Толькі трывогу няясную ў сабе распальвае, прымушае сэрца балюча зьнібець у нейкім нявыразным прадчуваньні.

Была субота. У гэты дзень Булановічу заўсёды бывае многа работы. Толькі к самому вечару зволіўся і адразу пашоў да Гарновай. Засьпеў яе ў дварэ. Сядзела ўпацёмку, не паліла сьвятла. І як Булановіч прышоў, нейкі час у змроку сядзелі. Так больш чароўнасьці ціхай, прытульнай, калі вакол змрок снуе сваю шэрую павуціну, калі мякка загортвае абрысы прадметаў, сьцірае рубы, усё робіць такім павеўным, расплыўчастым. Тады прыемна напінаюцца нэрвы і пачуцьці асабліва глыбокімі робяцца.

Булановіч у змроку зусім ня бачыць Гарновай. Толькі мяккімі контурамі рысуецца пляма няясная. Але блізкасьць яе адчуваецца моцна, настойліва. Будзіць, уздымае непакойнае пачуцьцё, казытае сэрца гарачай пяшчотай. Хочацца яшчэ большай блізкасьці, хочацца зьліцца зусім, патануць у захапленьні глыбокім.

А Гарнова сёньня чамусь вынікае ласкі яго. Быццам баіцца яе, быццам палахліва стрымлівае сябе. І Булановіча ахапляе нездаволеньне смаглае, турбуе нутро палкім жаданьнем. Нездаволеньне пераходзіць у нейкую крыўду, у гнеў. Здаецца, ня любіць ужо, надакучыў ёй, зьнялюбеў. Каб сілы хапіла—устаў-бы й пашоў. На штоназаляць, набівацца дарэмна сваім пачуцьцём!

Але замест гэтага бярэ яе рукі, сьціскае, гладзіць пяшчотна, абымае нясьмела любы, падатлівы стан.

— Марынка, галубка мая. Чаго ты такая маркотная? Чаму маўчыш усё, мяне сторонішся? Мо' ўжо ня любіш, мо' назаляю табе?

Яна адказвае нібы з нейкай дасадай, але ласкава:

— Ды не... Кінь ты, як табе ня сорамна! Ну, проста настрой такі. Думаю я... Я, Алесь, многа думаю цяпер. Мо' затым часам і мала ўвагі табе аддаю... Калі-ж галава крышыцца з думак. Ведаеш, Алесь, я баюся, каб не звар'яцець. Часам ужо няпрытомнасьць нейкая находзіць. Тады страх агнявы калоціць усю. Усё тое ў ваччу, што было калісь... Праходзіць перад вачмі гэткай выразнай, страшэннай чарадой...

Яна часінку маўчала.

— Слухай, Алесь, ці дужа ты любіш мяне?

Замест адказу, ён горача сьціснуў яе кволую, мяккую руку.

— А што-б ты аддаў за мяне? Што-б ты мог ахвяраваць, каб было патрэбна для мяне?

— Ня ведаю. Здаецца, што я не пашкадаваў-бы для цябе нават жыцьця...

Яна ўсьміхнулася.

— Уга... Як многа!.. Але дарма ты гаворыш так. Гэта звычайна кажуць усе, як сядзяць з любай дзе-небудзь у ціхім, прытульным пакоі... Ну, скажам так. Я-б памірала і сказала табе, что хачу, каб і ты памёр разам са мной. Ну вось, скажы: ці згадзіўся-б ты? Толькі шчыра адказвай. Ну?

Булановіч троху падумаў.

— Ведаеш, Марына, гэта-б залежала ад моманту. Вось цяпер, мне здаецца, я-б ня спыніўся перад гэтым...

Яна не дала яму кончыць.

— Глупства ты кажаш. Ніколі-б ты не зрабіў гэтага. І ніхто-б у сьвеце так не зрабіў.

Булановіч падумаў і ў думках з гэтым згадзіўся. Чамусь раззлаваўся сам ня сябе.

— Дашоў да чаго... да чаго раскіселіўся... Не разумею ўжо, што гавару...

Устаў і нэрвова засігаў па пакоі. Быў унутры нейкі разлад. Нейкі нутраны голас узьнімаўся, паўставаў проці тае ўлады, якую забрала над ім пачуцьцё, проці бязвольля, слабасьці, што ўсяго спавілі ланцугамі ліпучымі, што аплялі, акруцілі павуціньнем атрутным.

Гарнова тож узьнялася, запаліла сьвятло. Булановіч зірнуў на яе і здрыгануўся міжвольна. Убачыў твар, працяты адчайнай, бязьмернай мукай. Здалося Булановічу, што гэта страшэнная мука пратачылася ў кожную рыску яе твару, у кожную рыску ўклала яскравы адбітак душэўнага болю.

Яна села за стол, застыгла ў нярухомасьці ціхай. Быццам сама прыслухвалася да болю свайго, быццам аддалася ва ўладу свайго пачуцьця.

А Булановіч гарэў непакойным агнём глыбокага жалю. Сэрца дрыготна сьціскалася. Хацелася суцешыць, згладзіць з любога твару гэты страшэнны адбітак мукі душэўнай. Але слоў ня было, ня знаў, што сказаць. І моўчкі стаяў, глядзеў на яе з спачуваньнем, з жалем глыбокім.

Яна раптам устала. Загаварыла ціхім, парыўчатым голасам:

— Не магу я тут быць... Цяжка чамусьці. Быццам гэтыя сьцены душаць мяне, грудзі сьціскаюць. Я пайду, Алесь... К прыяцельцы сваёй схаджу... мо' разьвеецца настрой. А ты, Алесь, ня йдзі нікуды. Мне хочацца, каб ты тут быў, каб я кожную хвілінку знала, дзе ты, уяўляла

цябе. Ты тут будзь... Я хутка прыду, толькі прайдуся... А калі спазьнюся, ты ўсё роўна чакай... Я хачу так, Алесь. Чакай, пакуль ня прыду...

Яна стала апранацца. Булановіча скрабанула трывога нейкая нявыразная. Ён зьвярнуўся да Гарновай:

— Марына! Ноч цяпер, куды ты адна? Лепей я таксама пайду... Я правяду цябе, там пачакаю...

Яна нібы страпянулася.

— Не, не... ня трэба... я адна... я зараз вярнуся... Ты пачакай тут, Алесь...

А як выходзіла, падышла да яго, узяла абедзьвюма рукамі яго галаву, зазірнула ў вочы гарачым, кахаючым поглядам.

— Любы ты мой! Апошняя ўцеха мая!..

І пацалавала доўгім-доўгім пацалункам...

Булановічу пацягнуліся нуднай чарадой хвіліны чаканьня. Плылі яны так аднамерна, марудна. Так дзіўна закалыхвалі, наганялі тупую, млявую нярухомасьць. Думкі ў галаве быццам спыніліся, закамянелі. Толькі па ўсёй істоце ціха, паволі перабягалі лёгкія хвалі пачуцьця нявыразнага, краталі кволым павевам нейкія балючыя, чулыя струны. Была нейкая нявымоўная асалода ў гэтым дзіўным пачуцьці. І прыемна было чакаць так, у ціхай маўклівай самоце, у нярухомасьці млявай.

Плылі, цягнуліся хвіліны марудныя, грамазьдзіліся ў грузка-паўзучыя гадзіны.

Гарнова ўсё ня прыходзіла. Булановіча памалу пакінуў спакой, зьмяніўся вострай турботай. Цяпер хадзіў па пакоі, узрушаны, спыняўся разпо-разу і пільна прыслухоўваўся да начной цішыні, шукаў гуку знаёмых крокаў. Ахапляла нецярплівасьць, дасада, калі вуха не лавіла ніякага зыку, калі звонам маўклівым пела ў вушшу глухая цішыня. І хадзіў, усё хадзіў па пакоі.

У вакно зазірнула шэрым, падсьлепаватым вокам раніца. Палахліва кранула сваёй празрыстай рукой бяздушны сьвет лямпы, і зрабіўся ён нейкі мутны і цьмяны. І чым далей, тым больш урываўся ў пакой сьвежы сьвет раніцы, гарэзьліва варушыў па куткох пасьледкі начнага змроку, накладаў на ўсё адзнаку дзённай цьвярозасьці.

Булановіча агарнула трывога. І расла, усё расла ў грудзёх, білася ў сэрцы боем няроўным, балючым. А думкі цяпер празрыстай яснасьцю працяліся, рэзалі галаву ліхаманкавай работай. Без канца сьвідравала мазгі:

— Што з ёй? Куды яна пашла? Чаму так забавілася? Чаму яго прымусіла чакаць?

Не знаходзіў адказу і мучыўся ў палкай трывозе. І быццам наўмысьля, каб павялічыць тую трывогу, прыляцеў знадворку доўгі, гулкі гудок цягніка. Быў ён сьвежы такі, сакавіты, быццам памыўся ў золкай вільгаці раніцы. Зычэў молада, сьмела, нібы выхваляўся задорам сваім, нібы дражніўся сваёй вясёласьцю гульлівай.

Гэты гудок працяў Булановіча сударгавай дрыготай. Ён пачуў у ім зласьвеснасьць нейкую, нейкае страшнае напамінаньне.

Жудаснай хваляй апанавала новая думка, абярнулася ў здагадку страшэнную.

Схапіў шапку й пасьпешна вышаў на двор.

9

Паветра ахінула ядранай зольлю. Было яно шэра-сталёвае, цьмянае, бо золак толькі яшчэ пачынаўся.

Ціха было. Але ва ўсім адчувалася жывая напружанасьць нейкая. Быццам ночны спакой праціналася памалу яшчэ стрыманай энэргіяй і паднавалам яе во-во ўжо гатоў быў рассыпацца ў сумятлівую дзянную рухавасьць. І застыгла ў шэра-сталёвым паветры маўкліва-трывожнае чаканьне.

Булановіч шпарка пасігаў па вілаватых завулках. Сьвежасьць раніцы не заспакоіла, а яшчэ больш нэрвы зайстрыла. Трывога жудаснай хваляй паласкала нутро, халадзіла сэрца лядзянай пустатой, па целе ўсім пускала дрыготу нэрвовую. У ваччу плямай жывою стаяла Марына, такая, якою была ў апошнюю хвіліну. Твар сьвеціцца мукай пякельнай, вочы— бяздоньне пустое, халоднае. І быццам чакае яго, быццам кліча, просіць спагады. А ў вушшу няўпынна словы зычаць яе:

— Любы ты мой! Апошняя ўцеха мая!..

Чаму яна зноў так сказала—„апошняя ўцеха?“ Няўжо яна што падумала?

І пажарам бурлівым расла ў грудзёх упэўненасьць у самым страшэнным. Штурхала яго, прымушала бегчы ўгрунь. Куды? Аб гэтым нават ня думаў. Само сабой цягнула туды, дзе гадзюкамі ўюцца сталёвыя рэйкі, адкуль часам ляціць гэты зазыўны прарэзьлівы вокліч.

Чыгунка спаткала яго мёртвай цішынёй. І гэта зьдзівіла. Як бег, думаў чамусьці, што тут павінна быць рухавасьць, жыцьцё, што тут няўпыннай чарадой павінны грымець жалезныя волаты, што тут няма ночы, няма спакою. Аж—маўкліва ляжаць чорныя, мокрыя рэйкі, быццам пацягваюцца ў перадранішнім сьне. У абодва бакі хаваюцца, точацца ў воўну тумана бялясага.

І ўспомніў тады Булановіч, што заўсёды бывае так, што чыгунка тож мае сабе адпачынак. І сьціхаміраўся троху. Але ня зьнікала трывога. Бо цішыня на чыгунцы здалася чамусьці таёмнай, старожкай. Быццам здрадліва сочыць за ім, хціва хавае ад яго нешта пад палой туману паўзучага.

Стаяў троху, думаў.

— Што-ж цяпер? Куды? Хіба туды, дзе лес, дзе хадзілі калісь?..

І пашоў, акунуўся ў золкі туман. Як к лесу падходзіў, ужо дзень расплыўся поўным сьветам. Сонца чырвонай мятлой маханула па макушках сасонак, уліло ў паветра нешта прыветнае, цёплае.

У лесе птушкі align="left"рознагалосьсем пярэстым з цішой застыглай спрачаюцца. Льлюцца іх песьні цурочкамі пекнымі, мітусяцца, блытаюцца ў вецьці, снуюць жыцьцё раніцы—сакавітае, радаснае.

А Булановіч ня чуе гэтых сьпеваў чароўных, ня бачыць таго хараства, што вакол раскідаецца малюнкамі пекнымі. Ён упяўся вачмі ў бесканцовую йстужку чыгункі і йдзе, углыблёны ў сябе. Ён ня знае, што можа быць там, за туманам. Ён не ўяўляе нават, што можа ждаць яго там. Але здаецца чамусьці, што во-во, яшчэ колькі крокаў—і будзе нешта страшнае, жудаснае.

Булановіч і ня прыкмеціў, як зашоў далёка ў лес і толькі тады спыніўся, як насустрач вылецеў цягнік. Прамчаўся, прагрымеў, ашаламіў сваім рухам магутным і зьнік за зваротам, вільнуўшы жалезным хвастом.

Тады Булановіч схамянуўся. Завярнуў назад і падаўся на станцыю. Думаў, ідучы:

„Што-ж гэта я, як звар'яцелы? Калі й здарылася што, дык-жа напэўна заўважылі... Туды трэба, на станцыю. Ды мо' й нічога ня было? Проста, стварыў сабе дурацкі настрой"...

Ён стараўся заспакоіць сябе, пераканаць, што няма нічога трывожнага, што дарма ён узрушыўся толькі. Ён азіраўся наўкола і бачыў, што ўсё вакол такое звычайнае, простае. Сонца, як і заўсёды, залаціць пожню вясёлым праменьнем. Птушкі цьвіркаюць прыветна, бязрупатна. А вунь—і людзі насустрач. Мужчына з кабетай. Сьпяшаюцца некуды, захапіліся жвавай гаворкай. Як з ім параўняліся, зірнулі на яго абое з цікавасьцю і, прамінуўшы, зноў пачалі сваю гутарку.

К вакзалу падышоў Булановіч зусім заспакоены. Прашоўся разы два па пэрону бязьлюднаму, потым пашоў у пакой дзяжурнага агэнта. Як уваходзіў, зноў пачуў неспакой у сярэдзіне, але стрымаў сябе, зьвярнуўся да агэнта звычайным спакойным голасам, быццам яго мала цікавіла тое, аб чым хацеў запытацца.

— Скажыце, калі ласка, у вас сёньня ўночы нічога ня здарылася на чыгунцы?

Агэнт зірнуў на яго вострым, дапытлівым поглядам, і гэты пагляд спалохаў Булановіча.

— А вас чаму гэта цікавіць?—запытаўся агэнт.

— Я маю на гэта прычыны, аб якіх вам сказаць не магу.

— Хто вы такі?

Булановіч сказаў. Агэнт здаволіўся, мусіць.

— Так, у нас было сёньня здарэньне...

У Булановіча пахаладзела нутро.

— Якое здарэньне?..

Ї мімаволі голас яго задрыжэў.

— Сёньня а 3 гадзіне ўночы цягнікам зарэзала адну жанчыну.

Булановіч міжвольна абапёрся аб стол, бо слабасьць—цягучая нейкая, ліпкая—паплыла па ўсім целе, падкасіла ногі. Быццам гнёт навеліўся цяжарны, прыдушыў, прыціснуў, скомчыў пачуцьцё ў балючы, даўкі клубок. Але яшчэ шаваліласе слабая надзея. А мо' не яна? Ці мала-ж выпадкаў бывае?..

— Слухайце, а яе не пазналі? Невядома, хто яна такая?..

Чакаў адказу, як свайго сьмяротнага прыгавору. А агэнт адбіваў роўным спакойным голасам. І ўсё дапытліва ўглядаўся ў яго.

— Так, яе пазналі. Гэта—Гарнова, адна комуністка тутэйшая.

Тады быццам парвалася нешта ўнутры ў Булановіча. Быццам адкрылася бяздоньне страшэннае і згінула ў ім усё тое, што поўніла жыцьцё, што ўцеху давала. Заныла ў грудзёх пустата, холадам атуліла сэрца, выціснула сьлязу скупую, балючую.

Потым захацелася ўбачыць яе, зірнуць апошні раз. Здавалася, што тады налягчэе, што тады ня будзе гэтай даўкай пустаты ў сэрцы.

— Дзе яна?

— Тут, у пакгаузе. Вартуюць яе, але вам можна будзе паглядзець

Як ішлі, Булановіч рыхтаваў сябе да самага страшнага, бо добра ведаў, што можа зрабіць з чалавекам волат жалезны.

Вартаўнік прапусьціў іх. Булановіч убачыў на падлозе нешта накрытае бразэнтам. З краю кроў сочыцца.

Гэта яна! Гэта тое, што нядаўна было чалавекам!

Агэнт адгарнуў бразэнт. Адзін толькі момант глядзеў Булановіч. Ня мог глядзець, адвярнуўся. Не пазнаў ён Гарновай, бо гэта ўжо была не яна: жалезны волат зрабіў сваё дзела.

Моўчкі вышаў Булановіч з пакгаузу і ціха пасунуўся ў горад.

Вакол купалася ўсё ў палкім сонечным сьвеце. Усё зьзяла жыцьцём—вечна-маладым, вечна-прыгожым, усё пыхала маладосьцю і сілай.

Булановіч не ўважаў ні на што. Углыбіўся, утуліўся ў сябе, прыслухваўся к таму, што дзеецца там, унутры. Стараўся ўяўляць сабе Гарнову, будзіў у думках вобраз яе. І калі паўставала яна ў ваччу—прыгожая, смутная,—тады ахапляў пякучы жаль. Ня верылася, што няма яе. Здавалася, што яшчэ стрэнуцца яны, што будзе яшчэ тое чароўнае, ружовае, што было дасюль, што аздабляла жыцьцё.

Сам таго не прыкмячаючы, Булановіч падышоў да дзіцячага дому. З сярэдку яго вылучаўся вясёлы, бязрупатны гоман дзяцей. А на ганках сядзеў пануры Абшарскі. Ён спаткаў Булановіча сваім цяжкім, нярухомым поглядам. Булановіч дагадаўся адразу, што Абшарскі ўжо знае. Ён падышоў да яго, моўчкі прывітаўся. Абшарскі комчыў у руках нейкую паперку. Потым даў яе Булановічу і той прачытаў:

„Згубіла сваё месца ў жыцьці... Дык навошта жыць?

М. Гарнова“.

Гэта яна напісала. Гэта яе апошнія словы. Але адкуль узяў гэту запіску Абшарскі? Як яна магла трапіць яму?

І злосьць узьнялася на Абшарскага. Дурная, прыкрая злосьць. Злаваў на Абшарскага за тое, што ён усё знае, што ён таксама, а мо' яшчэ больш шкадуе яе, што ён таксама любіў яе. І сам адчуваў Булановіч, што злосьць гэта нядобрая, брыдкая, але ня мог яе перадалець.

А Абшарскі гаварыў яму з сумным дакорам:

— Вы не ратавалі яе, вы не здалелі... А якая яна была добрая!..

У вачох у яго Булановіч убачыў сьлёзы. Не адказаў нічога. Адвярнуўся й пашоў. Ішоў усё шыбчэй і шыбчэй, быццам хацеў уцячы ад гэтага недарэчнага чалавека, ад гэтага дому, ад усяго таго, што перажыў тут, што асадкам гнілым асела на сэрцы.

Гарадзкі тлум канчаткова яго ацьвярозіў, вярнуў да звычайнай жыцьцёвай сьвядомасьці. І, побач з глыбокім жалем, зарадзілася ўнутры нібы здаваленьне нейкае.

А мо' так лепей? Для яго лепей, бо разарвала тыя ліпучыя путы, павуціньне тое атрутнае, што хмелем спавівала волю яго, што цягнула ў прыгожую, але грузкую, дрыгвяную багну.

І лягчэй рабілася на сэрцы. Узьнімалася бадзёрасьць, смага да гэтага сумятлівага, пярэстага жыцьця, поўнага здаровага, магутнага руху.

А тое, што было, адлятала некуды ў далеч, здавалася даўно-даўно мінулым, ахіналася туманам зыбучым.

Успомніліся словы Арончыка:

— Кветка пажоўклая...

Так. Кветка пажоўклая. І таму адляцела, адпала ад дрэва жыцьця, зволіла месца здароваму, сьвежаму.

І ня мала было такіх кветак, што прыцягнуліся к сонцу Кастрычніка, што закрасавалі ў ім цьветам жывым, пышна-дзейным.

Але глыбока ўрасьлі карані ў атрутна-гнілую глебу, набраклую лёкам сьмяртэльным.

І ня вытрымалі палкага сонца.

Пажоўклі...

# З ДАРОГІ

**Аркадзь Моркаўка**

1

Эх, вы, думкі мае, бунтаўніцы,
Як дарогі вы сьвет аплялі.
Хто паставіць вам межы, граніцы,
Калі сьвет у палон вы ўзялі?!

Конік дробненькі ймчыць мяне шпарка.
Вёска ймчыцца...—„Стары, сутрымай!
Мне здалося, ці што? гэта-ж арка!“
—„Гэта мы сьвяткавалі тут май“.

2

Вось і вёска, падпёртая кіем,
Вось і вуліцы вузенькі шнур,
І сяляне, здаецца-ж, такія,
Але вокам хітрэйшы прышчур.

Вось і школа, дзе дзірак нямала,
Як ня мала й бязногіх сталоў,
Толькі з сьцен пазірае Купала
На капу маладняцкіх галоў.

3

Быццам тое-ж балота імшыстае,
Быццам той-жа жняі галасок,
І ўгары—неба чыстае, чыстае,
І між жыта—мяжы паясок.

Але новыя песьні зьвіваюцца,
Ды сасоньнік узьняўся другі,
Ды са твараў сялянскіх змываюцца
Кросны доўгай сялянскай тугі.

* * *

Пачынаецца вабнымі зорамі,
Серабром беларускіх начэй,
Калі будні здаюцца узорамі,
Ды зіяюць—мана!—ўсё ярчэй.

Пачынаецца першымі крокамі,—
Толькі раз келіх свой асушу!—
І далей ручаямі шырокімі,
Бы атрутамі труціць душу.

Над сусьветам, над буднямі шарымі
Разьвярнуцца-б ушыркі і ўглыб.
Але дзе! пад жыцьцёвымі хмарамі
Дагніваеш, бы сточаны грыб.

Ой да, будні мае, чым вы сталіся?!
Дзякуй вам і за боль, і за пот!
А вы, песьні, дзе вы ўзмацаваліся,
Выхаванцы сялянскіх клапот?!

# ПЕРАПЛЁТ

## Ц. Гартны

Промень барэльефы камiноў
На зялёны поплаў зьвёў...
Выхiлястаю дарогай
Дыму скруткi плывуць логам..
Гонiць iскры на расу...
Стук ў заводзе—мо' касу
Б'е рабочая рука?..
Нiва пераплёты збажыны
Да фабрычнае сьцяны
Падцягнула з-пад гаёў...
Песьня б'еццa батрака
У цьвёрдасьць чорных камiноў...
Зовы перапевы падалi,
Гукi к нiвам паплылi,
Аддалiся за грудком,
Абляцелi хмызьняком,
Замiраючы ўдалi.
З хат, з каморак цесных па бруку
Блутным радам ў роўны цуг
Сьлесароў жывы ланцуг
Зазьвiнеў ў адказ гудку...
Вось-вось чуе гукi ўжо пастух,
Бачыць, дым крыху атух—
Праца шолам завяла:
Будзе серп i будзе плуг.
Вецер цiха лiсьцем шалясьцiць—
Гай трапеча, гай ня сьпiць;
Птушак стройны перапеў
Да заводу паляцеў,
Ў вокны брудныя прынiк...
Чуй-жа песьню, працаўнiк.

Сплецен, зьвіты дзіўны пераплёт
Жыцьцятворачых прыгод;
Б'юць крыніцаю яны
Няўміручае красы...
Дзе ні глянь—відны, відны
Нявычэрпныя скарбы
Завяданьня і сяўбы,
Няўміручае красы
З веку ў вечныя часы...

8-III-25.

## НОЧ У ГАРАХ

### А. Гурло

Ноч-чараўніца спусьцілася ціха,
На горныя высі раскінула шаты.
Вось чутны яе прымірэнчыя ўздыхі...
А месяц, адзеўшыся ў срэбныя латы,
Прастор аксамітны чаруе, варожыць.
І горныя высі, аблітыя бляскам,
Сплятаюцца стройна ў малюнак прыгожы,
Ў прыемную, ціхую ласкаю казку.
Нядарам у цішы вось гэтае ночы,
Што так разьляглася ў адзеньні срабрыстым,
Ня хочацца думаць, самкнуць свае вочы,
Ня хочацца траціць уздым урачысты,
Што ў сэрцы буяным плюскоча крыніцай.
Іду я між гораў знаёмай пуцінай,
Іду, ня журуся, хоць сам—чужаніца,
Мяне не палохае клёкат арліны,
Які не знаёмы,—як буславы клёкат
У нашай ці ночнай ці ранішняй цішы.
Хачу я залезьці на горы высока,
І лезу ўсё вышай і вышай і вышай.

Кіславодзк.

## ЛЯЗГІНКА

### А. Гурло

Звон зурны і чанура і тары [1]),
Што ў сугучнасьць зьліліся адну,
Павялічваюць сэрца удары,
Каб істоту маю ўздрыгануць.
Разгулялася ў скоках лязгінка—
Чуць ня скінецца з твару чадра [2]),
Пляск далоняў ды дзікія крыкі
Раздаюцца што-хвілі падрад.
Мне зайздросна пайсьці з ёй у пары,
Каб кружыцца ў буяным віру,
Падлічыць яе сэрца удары,
Глянуць ў вочы яе скрозь чадру.

Кіславодзк.

---

1) Музычныя прылады.
2) Пакрывала, якім хаваюць твар.

## КАЎКАЗ

### А. Гурло

Даўно аб краі я гэтым марыў,
Хацеў я бачыць край чар—Каўказ,
Дзе Дэман калісь з красой-Тамарай
Вялі аб жыцьці чароўны сказ.
Цяпер стаю я на вышы ўзгор'я
З красой абшараў, нібы абрус,
Адкуль відочан узор Пяцьгор'я,
Адкуль відочан сівы Эльбрус.
Я повен сілы ў чароўным краі,
Дзе зырка сонца удзень пячэ,
А ўночы вецер зурной іграе
Ды месяц ясны малюнак тчэ.
Прастор прыгожы шмат родзіць думак,
Ўлівае ў сэрца ён сілы шмат,
Між гор бруіцца, журчыць Падкумак—
Ніколі ўпынку яму няма,
З-пад гораў рвуцца упартай плыньню
Руччы-крыніцы жывой вады,—
Калі нап'ешся—боль сэрца гіне
І гіне змрочнасьць нямой жуды.
І вось я повен ўсім тым сугуччам,
Што тут разьліта, што тут жыве,
І сьпее, сьпее напеў жывучы,
А радасьць шчасьця сьпяваць заве,
Заве і кліча, як постаць жніва;
Насьпеўшы колас паклон мне б'е.
Вярнуся хутка жыцьцём шчасьліва
Я к новай працы і барацьбе...

Кіславодзк.

## НА КВЕТНЫМ УЛОНЬНІ

**Я. Журба**

Сёньня з першай песьняй раньня
Я пашоў у поле
Любавацца,
Пацяшацца
Сонцам і прывольлем.

Тут красуе,
Прамянюе
Жыта і пшаніца,
Сонца шчыра тут сьмяецца,
Поле залаціцца.

Каласочкі,
Лепясточкі
Шастаюць-гуляюць,
Тут зарніцы,
Навальніцы
Песьню мне сьпяваюць.

Мітусяцца матылёчкі
Кліньнямі ў паветры.
І я чую,
Як сьпяваюць
Земляныя нетры.

Тут званочкі,
Васілёчкі
Мне прывет кідаюць;
Хмелем-шчасьцем тут цьвяточкі
Сэрца напаўняюць.

П'ю я радасьць,
П'ю я сладасьць
Сонца, сьпеваў, кветак,
І вясёлы і бадзёры
Йду я праз палетак.

Заразіць хачу я шчыра
Цэлы сьвет сягоньня
Бодрым сьмехам,
Песьняй-рэхам
З кветнага улоньня.

Гэй, сябры, сюды хадзеце,
Ў каго боль на сэрцы:
Песьні, краскі,
Сонца ласкі
Не дадуць памерці!!!

15-VI-25.

# ІНТЭЛІГЭНЦЫЯ, ЯК СОЦЫЯЛЬНА-ЭКОНОМІЧНАЯ КАТЭГОРЫЯ

**С. Я. Вольфсон**

## I

Досыць значная літаратура, ахвяраваная досьледам пытаньня аб інтэлігэнцыі, як аб соцыяльнай катэгорыі, *у істоце* разглядае яго з наступных пунктаў погляду.

1. Інтэлігэнцыя, як незалежная соцыяльная група, ня існуе. Інтэлігэнты, або людзі, якія дасягнулі пэўнага ўзроўню разумовай кваліфікацыі і якія набываюць пэўны запас ведаў, не складаюць ніякай самастойнай клясавай катэгорыі, а таксама не належаць ні да якога соцыяльнага слою клясавага грамадзянства. „...Ні да воднай існуючай клясы інтэлігэнцыю нельга далучыць“, зазначае М. І. Туган-Бараноўскі, „але, з другога боку, інтэлігэнцыя ня можа складаць і самастойнай клясы sui generis... Інтэлігэнцыя не складае сабою самастойнай клясы і разам з гэтым не ўваходзіць у склад якой-небудзь іншай клясы. Іншымі словамі, інтэлігэнцыя прадстаўляе сабою злучэньне профэсыянальных грамадзянскіх груп бяз сталай клясавай ахварбоўкі“... [1])

Пры іншай формуліроўцы гэткае палажэньне скіроўваецца да таго, што інтэлігэнцыя прадстаўляе сабою групу, якая складаецца з найбольш адукаваных выхадцаў з усіх кляс грамадзянства, групу, якая знаходзіцца *па-за клясамі* або *над клясамі* „...Асобныя, больш-менш яскрава выяўленыя індывідуальнасьці ўсіх кляс і станаў складаюць па-заклясавую і па-застанавую групу інтэлігэнцыі“... (Іванаў-Разумнік).

Для Маўрэнбрэхэра інтэлігэнцыя зьяўляецца „кучаю людзей *найрозьнейшых заняткаў і жыцьцёвага становішча*“, аб‘яднаных зроднасьцю *культурных інтарэсаў*.

Бердзяеў у свой час заяўляў, што „звыш-клясавая інтэлігэнцыя ёсьць тая частка чалавецтва, у якой ідэальны бок „чалавечага духу перамог групавую абмежаванасьць“...

Такім чынам, інтэлігэнцыя зьяўляецца такой соцыяльнай катэгорыяй, якую можна пазнаць толькі пры дапамозе суб‘ектыўна-этычнага памеру. Інтэлігэнцыя — катэгорыя *па-за*клясавая, *над*-клясавая, *звыш*-клясавая.

---

[1]) М. І. Туган-Бараноўскі. „Основы Политической Экономии“, выд. IV, стар. 363.

2. Інтэлігэнцыя не складае сабой самастойнае групы, але яна належыць да розных кляс і станаў грамадзянства. Няма інтэлігэнцыі, як непадзельнай адзінкі, а ёсьць інтэлігэнцыя дваранская, буржуазная, дробна-буржуазная, сялянская, пролетарская і г. д. Гэта ўсё адукованыя колы, разумова-кваліфікованыя верхавіны клясы, якія звычайна зьяўляюцца яе ідэолёгамі і організатарамі.

Густаў Шмолер разьмяркоўвае інтэлігэнцыю па ўсіх тых клясах, на якія, па яго думцы, падзяляецца грамадзянства—гэткіх кляс ён налічае пяць. І вось, у першай з гэтых кляс мы сустракаем, разам з буйнымі зямляўласьнікамі, фабрыкантамі і рант'е, вышэйшых чыноўнікаў, дактароў і мастакоў з даходам ад 8.000 марак; у другой клясе знаходзяцца чыноўнікі і прадстаўнікі лібэральных профэсій з меншым даходам, прыкладам, ад 3.000 да 8.000 марак; у трэцяй клясе, разам з рамесьнікамі, дробнымі гандлярамі і г. д., інтэлігэнты з даходам ад 1.700 да 2.700 марак. Таксама з чацьвертай і пятай клясай. Грамадзянства падзелена на пяць кляс— *кожная з іх ліку мае сваю інтэлігэнцкую праслойку.* Інтэлігэнцыя, як адзіная соцыяльная катэгорыя, ня існуе.

У марксызьме мы часта спатыкаемся з такім самым падыходам да пытаньня. „Інтэлігэнцыя, як організованая група, змацованая аднароднасьцю соцыяльнага складу і экономічна-ідэолёгічных інтарэсаў у прыродзе ня існуе,—безапэляцыйна заяўляе тав. А. Б. Залкінд. Інтэлігэнцыя найбольш сьвядомая частка тае ці іншае грамадзянскае клясы. Інтэлігэнцыі столькі, колькі ў даным грамадзянстве асноўных соцыяльных падзелаў і кожная з гэтых „інтэлігэнцый“ мае свой асабісты твар, якраз адпавядаючы сапраўднай істотнасьці тае клясы, якую яна найбольш сьвядома ўвасабляе і абараняе“[1]).

3. Інтэлігэнцыя па тым месцы, якое займае ў клясавым грамадзянстве, належыць да *адной* з кляс, зьяўляючыся яе складанай часткай. Інтэлігэнцыя—частка вядомай (адзінай) клясавай групы. Часьцей за ўсё інтэлігэнцыю пры гэтым залічаюць або ў склад дробнай буржуазіі, або да пролетарыяту. „Да якой клясы адносім мы інтэлігэнцыю?“ пытаецца т. А. В. Луначарскі. „Інтэлігэнцыя належыць не да буржуазнай клясы, ва ўласным сэнсе гэтага, не да капіталістычнае ўласьніцкае клясы і не да пролетарыяту... Але асноўныя кадры інтэлігэнцыі належаць да дробнай буржуазіі“ [2]). З пункту погляду т. Луначарскага, інтэлігэнцыя „па сваёй прыродзе дробна-буржуазная“.

Некаторыя прыхільнікі таго погляду, што інтэлігэнцыя складае частку якое-небудзь аднае клясы, далучаюць яе да рабочае клясы. Яшчэ Добралюбаў вызначаў інтэлігэнцыю, як „мысьлячы пролетарыят“.

---

[1]) А. Б. Залкінд. „Очерки культуры революц. времени“ М. 1922 г., стар. 129.

[2]) А. В. Луначарскі. „Интеллигенция в ее прошлом, настоящем и будущем“. М. 1924, стар. 36.

У марксыцкай літаратуры паняцьце „інтэлігэнцыя“—з аднаго боку, „пролетары разумовай працы“, „інтэлігэнтны пролетарыят“—з другога—часта ўжываюцца, як сынонімічныя.

Макс Адлер у сваёй кніжцы „Der Sozialismus und die Intellektuelen“ адзначае, што ў выніку апошняй вайны і тых здарэньняў, якія яна выклікала, можна лічыць канчаткова ўсталяваным той факт, што і „разумовы працаўнік зьяўляецца пролетарам таксама, як і ўсякі, хто працуе ў майстэрні або рудні“...

4. Інтэлігэнцыя разглядаецца, як асобная кляса капіталістычнага грамадзянства апошняй эпохі.

Ужо ў сярэдзіне 90-х год Кароль Каўцкі адзначыў, што на месцы сярэдняе клясы, якая гіне (разам з зьнішчэньнем дробных прадпрыемстваў), высоўваецца капіталізмам „новая сярэдняя кляса“—інтэлігэнцыя. У сваёй полеміцы з Бэрнштэйнам ён дакладна разьвіў сваё разуменьне інтэлігэнцыі, як асобнае клясы. „Усё ўзрастаючая інтэлігэнцыя ёсьць кляса, якая перад барацьбітом-пролетарыятам ставіць важныя і цікавыя пытаньні“—такі вывад зроблены Каўцкім у выніку свайго аналізу.

Н. І. Бухарын таксама лічыць, што інтэлігэнцыя складае асаблівую „прамежную клясу“.

Аўтары сэнсацыйных у свой час выступленьняў па пытаньні аб інтэлігэнцыі, ідэолёгіі так званай „махаеўшчыны“—Вольскі-Махаеўскі і Эўг. Лазінскі кваліфікавалі інтэлігэнцыю, як асаблівую клясу разумовых працаўнікоў. „Гэта кляса ўпрывілеёваная і эксплёататарская, якая жыве непрацоўным прыбыткам неаплачанай працай ручных працаўнікоў“ [1]).

Інтэлігэнцыя ёсьць асаблівая панская кляса, якая ўсё павялічваецца ў колькасным стасунку, усё больш узмацняецца ў якасным і ўсё больш падулашчае свайму ўплыву ўсе сфэры грамадзянскага жыцьця. Наколькі самастойнай лічылі прадстаўнікі гэтага напрамку клясу інтэлігэнцыі, можа сьведчыць хоць-бы той факт, што яны не адзін раз пачыналі гаварыць аб „наступным сусьветным панаваньні інтэлігэнцыі“...

У сваім артыкуле „Интеллигенция, как социальная группа“ („Обозрение“ 1904 г. № 1) быўшы марксысты і цяперашні чорнасотнік А. Ізгоеў робіць падзел грамадзянства на 4 асноўныя клясы, выдзяляючы, побач з земляўласьнікамі, яшчэ дзьве вялікія клясы: фізычных працаўнікоў і разумовых працаўнікоў [2]).

Вядома нават спроба, зробленая амэрыканскім соцыолёгам Гэнтам разглядаць інтэлігэнцыю, як групу, якая складае *цэлых дзьве клясы* ў шасьціклясавым капіталістычным грамадзянстве. Адна з гэтых кляс—кляса „грамадзянскіх служачых“ social servants, другая retainers—кляса працаўнікоў у галіне прамысловасьці, гандлю і фінансаў...

---

[1]) Эўг. Лазінскі. „Что же такое, наконец, интеллигенция“. С. П. Б. 1907 г., стар. 258.

[2]) У далейшых сваіх разважаньнях Ізгоеў імкнуўся разглядаць інтэлігэнцыю, як падгрупу клясы інтэлігэнтных працаўнікоў але ў гэтай спробе безнадзейна заблытаўся.

5. Інтэлігэнцыя разглядаецца, як асаблівы соцыяльны пласт клясавага грамадзянства, які не зьяўляецца, аднак, зусім констытуцыёванай клясай, і з прычыны гэтага павінен разглядацца, як міжклясавая групоўка.

Я думаю, што з пяці асноўных вышэйпаданых поглядаў на інтэлігэнцыю, як на соцыяльную катэгорыю, у якія-б прабаваў згрупаваць тыя пункты погляду, якія існуюць па гэтым пытаньні, найбольш правіловым зьяўляецца апошні. Удасканаленьне яго зьяўляецца маёй мэтай.

Перш за ўсё: што гэта за інтэлігэнцыя, як соцыяльная катэгорыя? *Інтэлігэнцыя зьяўляецца міжклясавай прамежнай—паміж пролетарыятам і дробнай буржуазіяй—групоўкай, якая складаецца асобамі, існуючымі на продаж сваёй разумовай (інтэлектуальнай) энэргіі.*

Дзеля таго, каб апраўдаць такое разуменьне інтэлігэнцыі, нам трэба зьвярнуцца да асобных момантаў, якія характарызуюць яе становішча ў грамадзянстве.

## II

Фактам, які не падлягае ніякаму сумненьню, зьяўляецца існаваньне ў бягучым часе ў кожным клясавым грамадзянстве больш-менш значнай праслойкі, якую можна вызначыць тэрмінам „інтэлігэнцыя“.

Ні адзін соцыолёг, экономіста, політык, выўчаючы клясавае грамадзянства сучаснасьці ў яго розных формацыях, пачынаючы Злучанымі Штатамі Амэрыкі і Францыяй, канчаючы Кітаем і Індыяй, ня можа абмінуць таго факту, што на долю гэтага грамадзянства так ці іначай мае ўплыў прысутнасьць у ім таго соцыяльнага ладу, які называецца інтэлігэнцыяй. Бяз прысутнасьці інтэлігэнцыі немагчыма даць нарыс клясавага спэктру сучаснага грамадзянства. У гэтым рашучы і вычэрпваючы адказ на пытаньне: ці зьяўляецца інтэлігэнцыя самастойнай соцыяльнай катэгорыяй.

Яшчэ ў 1910 г. М. І. Туган-Бараноўскі ў полеміцы з „Вехами“ адзначаў той факт, што ў Францыі слова „intellectuels“ пачынае ўжывацца для азначэньня нейкае *грамадзянскае групы.* У Нямеччыне слова „intelligenz“ усё часьцей ужываецца, як найменьне значнай соцыяльнай адзінкі, якая займае пэўнае месца ў соцыяльна-экономічнай орбіце краіны. У аднэй з сваіх апошніх прац Каўцкі зьвяртае асаблівую ўвагу на нараджэньне ў капіталістычным грамадзянстве соцыяльнага ладу, „які ў часе ўкладаньня Эрфурцкай програмы яшчэ ня йграў ніякай ролі і фігураваў, галоўным чынам, у якасьці дадатку да буржуазіі... З таго часу ён надзвычайна ўзрос лікам і зрабіўся адметнай ад буржуазіі сярэдняй групай“... Колькасную велічыню гэтага кола Каўцкі вызначае для Нямеччыны лічбай у 2.377.000 чалавек к 1907 г., з паказаньнем уласьцівай яму, рэзкай тэндэнцыі на ўзрастаньне.

У склад профэсыянальных саюзаў СССР уваходзяць звыш 1.600.000 працаўнікоў разумовай працы,—каля 30% профэсыянальна-організованага пролетарыяту Савецкай Фэдэрацыі. Ва ўсіх эўропэйскіх краінах мы маем

пад тэй ці іншай назвай профэсыянальныя саюзы працаўнікоў разумовай працы. Колы інтэлігэнцыі абхапляюць значныя кадры сучаснага грамадзянства, дзеля гэтага ігнараваць іх, як соцыяльна-экономічную адзінку, больш ня мае магчымасьці ні адзін дасьледчык. Сапраўды, спрабуйце вызначыць клясавыя адносіны Нямеччыны, Італіі, Зл. Штатаў, СССР, ігноруючы стан інтэлігэнцыі. Выяўляецца відавочны прабел, рэзкая прамежнасьць у клясавым спэктры. Калі ў краіне існуюць мільёны людзей аб'яднаныя нейкім прынцыпам у організованую адзінку, як, напрыклад, француская конфэдэрацыя працаўнікоў разумовай працы [1]), якая выступае ад імя гэтых мільёнаў або соцень тысяч, абараняе іх экономічныя інтарэсы, устанаўляе нормы іх працы і г. д., дык паўстае пытаньне, якая іншая об'ектыўная адзнака ляжыць у грунце данага аб'яднаньня, апрача тэй ролі, якую аб'яднаныя йграюць у гаспадарчым жыцьці, і месца, якое ім належыць у экономічным процэсе? Калі дасьледчык экономічнага становішча данае краіны мільёны людзей вызначае пад аднэй рубрыкай „*інтэлігэнцыя*", дык зусім ясна, што дасьледца сваё кваліфікаваньне грунтуе на *об'ектыўна-экономічным*, а не на якім-небудзь іншым факце. І толькі гэты апошні об'ектыуна-экономічны факт прымушае працаўнікоў разумовай працы аб'яднацца ня толькі ў нацыянальныя, але нават і ў інтэрнацыянальныя вытворчыя організацыі, якой, напрыкл., зьяўляецца Інтэрнацыянал Працаўнікоў Асьветы (існаваўшы з 1920 г. пад назвай Парыскага Інтэрнацыяналу Пэдагогаў і перайначаны Брусэльскім конгрэсам у жніўні 1924 г.). Інтэрнацыянал Працаўнікоў Асьветы ў § 7 свайго статуту абвяшчае сябе адзінай міжнароднай організацыяй, яднаючай тыя нацыянальныя організацыі працаўнікоў асьветы, якія грунтуюцца на пляцформе клясавай барацьбы, „дзеля пасьпешнага кіраваньня барацьбой за палепшаньне матэрыяльнага, бытавога і культурнага становішча працаўнікоў асьветы".

Інтэлігэнцыя, як самастойная катэгорыя, існуе ў клясавым грамадзянстве,—гэта значыць, што яна мае свой клясавы твар, што соцыолёг павінен заўсёды ставіць пры ёй клясавы коэфіцыэнт, бо ў грамадзянстве, падзеленым на клясы, ня можа быць цэлай соцыяльнай катэгорыі, якая-б знаходзілася па-за клясамі, бо гэта значыла-б, што гэта катэгорыя жыве асобна ад грамадзянства. Соцыяльныя катэгорыі або адзіночныя асобы пад уплывам пэўна выяўленых грамадзянскіх прычын могуць ствараць ілюзію сваёй па-заклясавасьці, але гэта толькі ілюзія. „Ілюзіі гінуць, факты застаюцца" гаварыў Пісараў. Ілюзіі надклясавасьці гінуць, а непарушны факт складаецца з таго, што кожны з нас ня можа існаваць без таго, каб ня мець пэўнага месца ў грамадзянскім процэсе гаспадарчасьці, а ў грамадзянстве, падзеленым на клясы, гэта значыць,—належаць да тэй ці іншай клясавай групоўкі. Адно з двух: або інтэлігэнцыя не складае ніякай асаблівай

[1]) Конфэдэрацыя гэта падзелена на 12 сэкцый: музычнага і драматычнага мастацтва, графічнага і плястычнага м-цтва, настаўнікаў, служачых, пісьменьнікаў, працаўнікоў прэсы, асоб вольных профэсій, навуковых працаўнікоў і тэхнікаў.

соцыяльнай катэгорыі, або да яе нельга падыходзіць з суб'ектыўным памерам, які ў прыстасаваньні да соцыяльнай групоўкі пераходзіць у фікцыю.

На прызнаньні „моральнай вышыні" (Туган-Барануоўскі) або „разумовай актыўнасьці" (Аўс. Кулікоўскі) немагчыма будаваць адзначэньне такой соцыяльнай групоўкі, якая абхапляе мільёны людзей і мае пэўную ролю ў экономічным лёсе краіны і організоўваецца ў профэсыянальныя аб'яднаньні. Суб'ектыўную азнаку „моральнай вышыні" і „разумовай актыўнасьці можна вынаходзіць у данай асобы, дык і тут шмат прастору для спрэчак: белагвардзейскія газэты, напрыклад, выхвалялі „моральную вышыню" вялікага ўчынку Конрадзі, які забіў савецкага пасла Вароўскага, або польская шляхта выхваляла такі самы „моральна высокі "ўчынак бандыта Мурашкі і ў часы царызму шмат хто лічыў Пурышкевіча ўвасабленьнем „народалюбія"; у эпоху мяшэчніцтва шмат хто лічыў, што ўдала перавезьці цераз пас загараджаючых атрадаў $1/2$ пуда сала, значыць выявіць максымум „разумовай актыўнасьці" і г. д. Спрабуйце-ж пабудаваць на пяску суб'ектыўнага крытэрыуму азначэньне якое-небудзь соцыяльнае групоўкі. Адзіны ўжытны для гэтай мэты крытэрыум об'ектыўны, а такім об'ектыўным крытэрыумам зьяўляецца спосаб існаваньня данай групы і месца, якое яна займае ў гаспадарчым процэсе. Пры дапасаваньні да інтэлігэнцыі гэта значыць, што яе перш за ўсё можна вызначыць, як групу, існуючую на продаж сваёй разумовай (інтэлектуальнай) энэргіі. Магчымы пярэчаньні: „А як быць з тэй інтэлігэнцыяй, якая існуе не на продаж сваёй разумовай працы?" На гэтае пытаньне трэба адказаць: асоба, якая існуе іншым, чым паказаны, спосабам, не належыць да соцыяльнай катэгорыі інтэлігэнцыі, яе клясавая прыналежнасьць вызначаецца зусім об'ектыўнай азнакай, месцам, якое яна займае ў вытворчасьці.

Ва ўласьніку ўсеагульнай электрычнай кампаніі Вальтэр-Ратэнау можна адшукаць шмат суб'ектыўных адзнак, якія часамі зьвязваюцца з паняцьцем „інтэлігэнтнасьці"—высокую разумовую кваліфікацыю, вялікія веды і інш., але для соцыолёга ўсе гэтыя адзнакі ня маюць зусім ніякага значэньня. Вальтэр-Ратэнау—уласьнік фабрык, існуе шляхам прыўлашчэньня дадатковага кошту дзесяткаў тысяч працаўнікоў,—значыцца ён належыць да клясы капіталістых і да соцыяльнай катэгорыі інтэлігэнцыі ня мае ніякага дачыненьня. Вы можаце і маеце права назваць яго *„інтэлігэнтным буржуа"*, але яго клясавая прыналежнасьць будзе вызначацца, зразумела, другім словам; прэдыкат у гэтым выпадку нічога не мяняе. Існуюць інтэлігэнтныя буржуа (Вальтэр-Ратэнау, Лесьлі Уркварт, Рабушынскі), існуюць інтэлігэнтныя памешчыкі (Родбэртус-Ягецаў, Шульгін, Крупенскі), існуюць інтэлігэнтныя пролетары, існуюць інтэлігэнтныя сяляне. Тут слова „інтэлігэнтны" ўтоесамлівае словы „высока адукаваны", „культурны"; усе гэтыя асобы, якія называюцца намі па традыцыі інтэлігэнтамі, існуюць, як члены розных кляс. Соцыолёг пры аналізе інтэлі-

гэнцыі, як пэўнай катэгорыі, народжанай капіталізмам у цягу, прыблізна, апошніх шасьці дзесяткаў год, займаючай віднае месца ў сучасным клясавым грамадзянстве, мае права ня лічыцца з ёю. Інтэлігэнтны буржуа, ну дык што-ж, што інтэлігэнтны,—яго клясавая характарыстыка заключаецца ў тым, што ён буржуа, што ён існуе на прыбытак ад капіталу. Соцыолёг лічыць яго прыналежачым да буржуазнае клясы, дзе даны інтэлігэнт і тысячы такіх самых інтэлігэнтных буржуа складаюць унутраную праслойку найбольш адукаваных, найбольш кваліфікаваных членаў данае клясы, якія часта выступаюць яе ідэолёгамі, г. зн. найлепш выяўляюць яе інтарэсы, яе настроі, надзеі і г. д. Пакольні соцыолёг цікавіцца інтэлігэнцыяй, як соцыяльнай катэгорыяй, ён можа бяз усякага сумненьня абыйсьці ўсіх гэтых інтэлігэнтных членаў розных кляс і вызначыць існасьць гэтае соцыяльнае катэгорыі, вызначыўшы тыя об'ектыўныя адзнакі, якія яе характарызуюць.

Тая акалічнасць, што, побач з асобнай групоўкай інтэлігэнцыі, існуюць і асобныя інтэлігэнты, якія належаць да розных кляс,—багата вынікамі ў тым сэнсе, што, дзякуючы ёй, умацаваўся такі погляд, што няма інтэлігэнцыі, як непадзельнай адзінкі, а ёсьць толькі буржуазная, пролетарская і іншыя клясавыя „інтэлігэнцыі". Трымацца такога погляду ёсьць самая вялікая памылка. Інтэлігэнцыя—гэта асаблівая клясавая групоўка і яна неперастае быць ёю ў залежнасьці ад таго, што, побач з ёю, існуюць у кожнай клясе свае інтэлігэнцкія праслойкі—будзем так называць скупнасьць інтэлігэнтных (разумова-кваліфікаваных) членаў данае клясы. І наадварот, інтэлігэнтны памешчык не перастае быць ім ад таго, што ў сучасным грамадзянстве існуе самастойная соцыяльная катэгорыя інтэлігэнцыя.

Падзяляць інтэлігэнцыю на пролетарскую, буржуазную, сялянскую і г. д. зусім памылкова. Перш за ўсё, што азначае самы выраз „пролетарская інтэлігэнцыя?" Ужываючы яго, жадаюць падкрэсьліць, што тыя інтэлігэнты, якія складаюць даную групу, або: 1) вышлі з пролетарскага стану або 2) спачуваюць барацьбе працоўнае клясы, даюць ёй тэорэтычнае выпраўданьне або 3) вядуць пролетарскі спосаб жыцьця. Ні тое, ні другое, ні трэцяе не дазваляе гаварыць аб тым, што існуе пролетарская інтэлігэнцыя, як такавая. І сапраўды. Даны інтэлігэнт вышаў з пролетарскага стану, але ці-ж гэта хоць-бы ў якой-небудзь меры вызначае яго клясавае становішча? Выходца з пролетарыяту, ён можа быць капіталістым, памешчыкам, інтэлігэнтам, г. зн. членам клясавае групоўкі, якая называецца інтэлігэнцыяй і яднае асоб, існуючых на продаж сваёй разумовай энэргіі. Зразумела, што прыналежнасьць да тэй ці іншай клясы *ў сучасны момант*, а не клясавая гэнеолёгія павінны класьціся ўгрунтаваньнем клясавага аналізу данага тыпу. Форд—буржуа, незалежна ад таго, што ён быў слесарам. Бэбэль (у 1903 г.)—інтэлігэнт (гэта значыць, належыць да клясавай групоўкі—інтэлігэнцыі), хаця-ж ён быў раней токарам. Соцыолёг мае

перад сабою толькі клясавы prasens. Можа можна будзе тады гаварыць аб пролетарскай інтэлігэнцыі, залічыўшы да яе тых інтэлігэнтаў, якія спрыяюць пролетарыяту, якія зьяўляюцца пролетарскімі ідэолёгамі? Але-ж погляды, настроі, пераконаньні асобы або групы аніяк не вызначаюць іх клясавага коэфіцыэнту. Апошні вызначаецца выключна тым месцам, якое займае гэтая асоба або група ў процэсе вытворчасьці. Клясавая-ж самасьвядомасьць ніяк ня можа зьяўляцца клясаствараючым фактарам. Ад таго, што інтэлігэнт Маркс быў ідэолёгам працоўнае клясы, ён усё-ж такі не пераставаў быць інтэлігэнтам, таксама як тыя амэрыканскія працаўнікі, сябры голтэраўскіх саюзаў, якія знаходзяцца ў палоне капіталістычнае ідэолёгіі, не перастаюць быць ад гэтага пролетарамі. Об'ектыўнае клясавае адзнакі пры соцыолёгічным аналізе ніякім чынам нельга падмяніць суб'ектыўным крытэрыумам ідэолёгічнага парадку. Такую замену мы маем, калі гаворым аб пролетарскай інтэлігэнцыі, з мэтай паказаць гэтым, што даная група інтэлігэнцыі спачувае клясе працоўных, згодна з ёю, тэорэтычна разумее яе барацьбу.

Таксама мы маглі-б назваць сялян, што зьяўляюцца ідэолёгамі працоўнае клясы, пролетарскімі сялянамі. Але гэта deductio ad absurdum. Дык чаму-ж мы гаворым аб пролетарскіх інтэлігэнтах? Таму, што ніяк ня можам прывыкнуць да фактаў існаваньня самастойнай соцыяльнай катэгорыі інтэлігэнцыі аб існаваньні якой бязумоўна ясна сьведчыць кожны перапіс насельніцтва, кожны экономічны агляд, кожны падрахунак профэсыянальнага руху.

Застаецца трэці довад: пролетарская інтэлігэнцыя—гэта тая, якая вядзе пролетарскі спосаб жыцьця. Але-ж да першапачатковых ісьцін марксызму належыць тое палажэньне, што ўзровень жыцьця ня можа зьяўляцца крытэрыумам клясавае прыналежнасьці. Працоўны селянін, крамнік могуць весьці зусім аднолькавы спосаб жыцьця, але яны будуць зьяўляцца членамі розных кляс у залежнасьці ад тых розных месц, якія займаюць у вытворчасьці. Уласьнік невялікага заводу ў провінцыяльным мястэчку і Стыннэс вядуць розны спосаб жыцьця, іх „standart of life" вельмі розны, а паміж тым яны члены аднае клясы. Назваць інтэлігэнта пролетарскім з прычыны таго, што ён вядзе пролетарскі спосаб жыцьця, значыць мець не матэрыялістычнае прадстаўленьне аб клясах, а цягнуцца ўсьлед за д'Этан і Дэканам з іх тэорыямі аб падзеле кляс паводле ўзроўню жыцьця. Гэта значыць, браць крытэрыумам клясы высьмеены Марксам у палеміцы з Гэйнцэнам „разьмер кашалька".

Спроба, распластаваўшы соцыяльную катэгорыю інтэлігэнцыі на шэраг пластоў (буржуазная, пролетарская, сялянская і г. д.), раздрабніць яе паміж асобных кляс павінна быць адкінута, бо яна цягне за сабою прызнаньне не рачаіснай досыць значнай клясавай адзінкі сучаснага грамадзянства і грунтуецца на азначэньні клясавага коэфіцыэнту па азнаках суб'ектыўнага парадку.

А можа больш верыгодным зьяўляецца, у такім выпадку, імкненьне, не раздрабняючы інтэлігэнцыю паміж розных кляс, далучыць яе адзіным пластам да якой-небудзь клясы, залічыўшы яе часткай гэтае клясы? Такія спробы рабіліся, як мы ўжо адзначалі, раней, у стасунку да буржуазіі, дробнай буржуазіі, пролетарыяту.

Такім чынам, ці сапраўды, што інтэлігэнцыя- гэта буржуазія, як зазначыў з дубаватай просталінейнасьцю В. Шуляцікаў? У аднэй провінцыяльнай нямецкай газэце я прачытаў, памятаю, апавяданьне нейкага „навочнага сьведкі", які ўцёк з Савецкай Расіі і апавядаў аб тым, што ўсякага, хто носіць рукавічкі, у Маскве лічаць „буржуем" і цягнуць у „чэка"... Дык вось з такога „рукавічнага" пункту погляду ці магчыма прызнаць інтэлігэнцыю належнай да буржуазіі. Марксызм гэтага ніяк не дазваляе зрабіць. Кляса ўласьнікаў капіталу, сродкам існаваньня якіх зьяўляецца прыбытак, дасьць толькі ўспомніць аб асноўных кадрах інтэлігэнцыі—аб настаўніку, доктару, інжынэру, пісьменьніку і аб дзесятках іншых відаў працаўнікоў разумовай працы, існуючых на *продаж сваёй працоўнай сілы,* каб пераканацца ў тым, што да гэтай клясы не належыць інтэлігэнцыя. Дзе капітал, якім яна ўладае? ці можа гэтым капіталам, па прыкладу махаеўцаў, абвясьціць веды? Але датыкацца гэтага мы будзем яшчэ ніжэй. Дзе тая дадатковая каштоўнасьць, якую прыўлашчвае сабе інтэлігэнцыя? Досыць толькі паставіць гэтыя пытаньні, каб зразумець усю недарэчнасьць кваліфікаваньня інтэлігэнцыі, як складанай часткі клясы буржуазіі.

Значна большай увагі варта паняцьце абвясьціць інтэлігэнцыю часткай дробнай буржуазіі або часткай працоўнае клясы. Тое і другое мае пад сабою азначаныя з паверхні пэўныя падставы. Дробная буржуазія—прамежная кляса, што знаходзіцца паміж канечнымі пунктамі капіталу і працы. Мноства інтэлігэнтаў мае клясавы інтарэс ідэнтычны з інтарэсам рамесьніка, саматужніка, дробнага крамніка. Вольна практыкуючы доктар, правазнаўца, мастак і іншыя прадстаўнікі так званых лібэральных профэсій, займаюць у гаспадарчым процэсе месца такое самае, як саматужнік рамесьнік, серадняк-гаспадар. І калі-б соцыолёг меў-бы справу выключна з гэтымі інтэлігэнтамі, дык меў-бы права, па прыкладу тав. Луначарскага, залічыць інтэлігэнцыю цалком у склад дробнай буржуазіі. Аднак, побач з інтэлігэнтамі—дробнымі буржуа, існуе столькі сама, а магчыма і значна больш інтэлігэнтаў, якія працуюць сваю працу на тых самых умовах, як і пролетары, якія займаюць падобнае ім месца ў гаспадарчым жыцьці. Пытаньне аб рамесьніцкім і пролетарскім пластох інтэлігэнцыі мы дакладней разгледзім ніжэй. Пакуль толькі адзначым: у катэгорыю інтэлігэнцыі складаным элемэнтам уваходзяць пролетары; гэтага факту досыць дзеля таго, каб прызнаць немагчымым залічэньне ўсяе гэтае катэгорыі ў склад дробнай буржуазіі; і наадварот, у гэтую катэгорыю ўваходзяць такім самым складаным элемэнтам рамесьнікі-саматужнікі,—значыцца, яе

нельга залічыць у склад працоўнае клясы. І тое і другое ў роўнай меры няўхвальна.

Такім чынам, застаецца непарушным вышэйазначанае наша дапушчэньне: інтэлігэнцыя зьяўляецца самастойнай клясай.

Але прызнаць інтэлігэнцыю самастойнай клясай мы ня можам з прычыны таго, што месца, якое займаюць у гаспадарчым процэсе асобы, складаючыя даную соцыяльную катэгорыю, ня зусім аднолькава і, значыцца, таксама ня зусім аднолькавы іх антогонічныя адносіны да членаў іншых клясавых груповак. Мы ніжэй пастараемся паказаць, што калі ўсе асобы, складаючыя катэгорыю „інтэлігэнцыі", існуюць праз эксплёатацыю сваіх ведаў, што дазваляе нам аб'яднаць іх у адну клясавую групоўку, то адначасна з гэтым некаторыя з іх прадаюць сваю працоўную сілу ў якасьці пролетараў, другія скарыстоўваюць яе ў якасьці саматужнікаў-рамесьнікаў. Гэтая акалічнасьць і не дазваляе нам прызнаць інтэлігэнцыю самастойнай клясай і дае падставу разглядаць яе, як міжклясавую групоўку, г. зн. як такую соцыяльную катэгорыю, у якую ўваходзяць асобы, становішча якіх у сыстэме народнай гаспадаркі—тое самае з беспасрэднымі „суседзьмі" данае групоўкі па клясавым спэктры. Гэтымі „суседзьмі" ў стасунку да інтэлігэнцыі зьяўляецца працоўная кляса і дробная буржуазія.

## III

Нам належыць перш за ўсё паказаць, што інтэлігэнцыя характарызуецца тым, што асобы, якія належаць да данай соцыяльнай катэгорыі, існуюць шляхам продажы сваёй разумовай (інтэлектуальнай) энэргіі.

Тут перад намі паўстае старое пытаньне, што немагчыма зрабіць выразны падзел паміж працаўнікамі разумовай працы (Kopfarbeiter) і фізычнымі працаўнікамі (Manuelle Arbeiter). Зразумела, гэта пярэчаньне адносна правіловае ў тым стасунку, што ўсякі працаўнік разумовай працы ў часе выкананьня працоўнага процэсу адначасна з разумовай траціць і фізычную энэргію—і наадварот: усякі працаўнік фізычнае працы ня можа абыйсьціся бяз траты нэрвова-мазгавой энэргіі. Але з гэтага зусім не вынікае, што мы наогул павінны адмовіцца ад разьмежаваньня працаўнікоў разумовай і фізычнай працы. Псыхофізыолёгі з свайго боку ня мыляюцца, адмаўляючыся ў апошнія часы ад традыцыйнага падзелу працы на „фізычную" і „разумовую". Гэтым адмаўленьнем яны падкрэсьліваюць, што дзейнасьць цэнтральнай нэрвовай сыстэмы і дзейнасьць пэрыфэрычных органаў з іх нэрвова-мускульнымі апаратамі неразрыўна зьвязаны адна з другой. Але тыя-ж псыхофізыолёгі прымушаны прызнаць, што ў працоўнай дзейнасьці чалавека—у залежнасьці ад яе характару—устанаўляецца сталая залежнасьць паміж мазгавой і мускульнай працай[1]). Дыялектыка навучае нас ніколі і нідзе не ра-

[1]) Гл., напрыклад, ахвяраваны гэтаму пытаньню артыкул д-ра В. І. Рабіновіча— „Механизм утомления с рэфлексологической точки зрения" у зборніку „Психофизиология

біць абсолютных падзелаў. Мы ведаем, што нават такія, здавалася-б ясныя паняцьці, як „жывое“ й „мёртвае“,—ня зусім пэўныя. Жывы організм часта мае ў сабе мёртвыя клеткі, а пасьля сьмерці чалавека шмат якія клеткі яго організму яшчэ жывуць. Але-ж з прычыны гэтага мы не адмаўляемся рабіць падзел паміж жывым чалавекам і трупам!.. Таксама-ж мы не адмаўляемся называць скульптара працаўніком разумовай працы, а цяжарніка—фізычнай, ня гледзечы на тое, што скульптар ня мае магчымасьці абыйсьціся бяз траты мускульнай энэргіі, а цяжарнік—бяз траты разумовай энэргіі.

Вядомы дасьледца ў галіне псыхотэхнікі Шлезынгэр не прызнае магчымасьці зрабіць падзел паміж працаўнікамі разумовай і фізычнай працы, грунтуючыся, напрыклад, на тым, што „калі ў бухгальтэра рукі застаюцца чыстымі і яму зручна насіць белы каўнерык, дык праца яго нічым не цяжэйшая і не натужнейшая, чымся разумовая праца працуючага каля варстату[1]). Але, зазначаючы гэта, Шлезынгэр не зьвяртае патрэбнай увагі на той факт, што ў часе нарэзкі шпіндэля або шліфоўцы калібра мазгавая праца грае *дапаможную* ролю, а пры бухгальтэрскім падрахунку яна мае самаважкае значэньне.

*Працаўнік, у працоўных процэсах якога асноўную, пануючую ролю грае трата разумовай, нэрвовай энэргіі, а трата фізычнай, мускульнай энэргіі грае дапаможную, падуладную ролю, зьяўляецца працаўніком разумовай працы—і наадварот.*

Падкрэсьлім тут і тое, што разумовая праца, зьвязаная з дзейнасьцю нэрвовых цэнтраў, як ужо зацьверджана шэрагам навуковых вынаходак апошняга часу, паддаецца пэўнаму об'ектыўнаму падрахунку.

Проф. Л. С. Мінор у сваім дакладзе І-му Ўсерасійскаму Псыхо-Нэвролёгічнаму зьезду адзначаў, што працамі Мэрэ і Флёране зацьверджаны факт павялічэньня даўленьня соннай артэрыі ў часе разумовай працы, г. зн. выклікаецца больш моцны прыліў крыві к мазгом. Адначасна гэтымі самымі аўтарамі зацьверджаны вельмі вялікага значэньня факт, што ў часе разумовай працы павялічваецца і тэмпэратура мазгоў на 0,2°—0,3 С. Нарэшце, профэсарамі Кёнігсбэрскага Унівэрсытэту Кэстнэрам і Кніпінгам даведзена, што ў часе разумовай працы трацідца мінімальная колькасьць калёрый (на колку дроў патрэбна 420 кал. у гадзіну; на сьціраньне пылу ў пакоі—100 кал. у гадзіну, а на напружаную разумовую працу ўсяго толькі 6 кал. у гадзіну), але разумовая праца выклікае павялічэньне распаду мазгавой матэрыі, а ў зьвязку з гэтым павялічэньне колькасьці фосфарнае кіслаты ў крыві [1]).

---

труда“ (ГИЗ, Ленінград, 1925 г.), артыкул В. А. Лявіцкага—„Умственный труд и утомляемость“, „Наука и техника“ 1922 г. № 2-3, лекцыі па профэсыянальнай гігіене проф. Н. А. Вігдорчыка, выдан. „Книга“, Ленінград, 1925 г., В. В. Ефімава—„Утомление и борьба с ним“, „Транспечать“, Ленінград, 1924 г.

Г. Шлезынгэр. „Психотехника и наука о производстве“. М. 1922 г., стар. 28.

[1]) Профэсар Л. С. Мінор. „К вопросу о питании тружеников ума“, „Русская клиника“ М. 1924 г., № 1.

У апошнія часы вучоным удалося выдзеліць з крыві разумова змардаваных людзей асаблівую моцна дзеючую матэрыю, якая названа „атрутай змардаваньня“ (кэнотоксын). Калі такую матэрыю ўвясьці ў кроў зусім здароваму, нічым не змардаванаму чалавеку, дык у яго адразу выяўляцца ўсе адзнакі разумовага змардаваньня: фізычная кволасьць, млявасьць, апатыя, няўменьне ўтрымаць сваю ўвагу на чым-небудзь і г. д. [1]).

Такім чынам, мы бачым, што ў нас ёсьць пэўныя падставы на тое, каб гаварыць аб разумовай працы, як аб асобнай ад фізычнай, і працаўніка, у якога гэты род працы зьяўляецца пануючым у працоўным процэсе, называць працаўнікам разумовай працы. Дасьледваньне нэрвовапсыхічнай сфэры пэдагогаў, напрыклад, зробленае ў Расіі проф. Кашкадамавым, проф. Залкіндам, д-рам Паповым, Інстытутам выўчаньня профэсыян. хвароб імені Обуха і інш., устанавілі, што сярод пэдагогаў сустракаецца маса нэрвова-псыхічных адхілаў ад нормы, абумоўленых профэсыяй. Так, напрыклад, дасьледваньне Обухаўскага Інстытуту дало 50% лёгка-нэрвовых і 26% цяжка-нэрвовых (цяжкая істэрыя, шызоідны нэвроз, цяжкая нэўрастэнія і г. д.) пэдагогаў. Этнолёгія хваравітасьці паказвае ў 30% выключна профэсыянальны ўплыў і ў 38% насьледна конституцыйны плюс профэсыянальны ўплыў [2]).

Дзейнасьць настаўніка, пісьменьніка, інжынэра зьвязана ня толькі з працай цэнтральнай нэрвовай сыстэмы, але і з працай пэрыфэрычных органаў. Дзейнасьць гэта ажыцьцяўляецца ня толькі мазгавой коркай, але й нэрвова-мускульным апаратам. Аднак, пераважнасьць працы першага роду і выклікае спэцыфічныя хваробы, якія і паказваюць усю значнасьць гэтае пераважнасьці.

Мы адзначалі вышэй, што клясавае становішча інтэлігэнта (члена соцыяльнай групоўкі („інтэлігэнцыя“) вызначаецца тым, што ён існуе, прадаючы сваю разумовую энэргію. Паглядзім-жа, якім спосабам інтэлігэнт сваю працоўную сілу (разумовую працу) абарачае ў сродак для існаваньня.

У прыдатку да так званага 4-га тому „Капіталу“ Маркс адзначае, што пры разумовай працы („нематэрыяльнай вытворчасьці“ па яго тэрмінолёгіі) магчымы два выпадкі:

1) У выніку яе зьяўляюцца тавары, спажывецкія каштоўнасьці, якія маюць самастойны выгляд, асобны і ад ствараючага і ад спажываючага, г. зн. такія рэчы, якія могуць існаваць і ў прамежнасьці паміж вытворчасьцю і спажываньнем і такім чынам могуць зьяўляцца ў цягу гэтага прамежнага часу, як продажныя тавары, напрыклад, кнігі, малюнкі,—словам, усе продукты мастацтва, якія існуюць асобна ад творчай дзейнасьці мастакоў, іх ствараючых.

---

[1]) Д-р Г. І. Гордон, „Гигиена умственного труда“. Выд. „Современные проблемы“. М. 1925 г., стар. 62.

[2]) Д-р І. Г. Раўкін. „Обследован. нервно-псих. сферы педагогов раб. просв.“ 1924 г., № 23.

2) Вытворчасьць непадзельна ад спажывецкага акту, як гэта мае месца ва ўсіх мастакоў-выканальнікаў, у актораў, настаўнікаў, дактароў, папоў і г. д.[1]).

Датыкаючыся ахарактарызаваных ім выпадкаў, Маркс говорыць, што „тут капіталістычная вытворчасьць ужытна толькі ў вельмі абмежаванай меры“.

Можна лічыць зусім бяссумненным, што Маркс ставіў пашырэньню капіталістычнае вытворчасьці на сфэры разумовай працы толькі *колькасныя* (але-ж зусім ня прынцыповыя) граніцы. Рачаіснасьць, што абкружала Маркса, давала права яму сказаць, што „выяўленьні капіталістычнай вытворчасьці ў гэтай галіне (разумовай працы. С. В.) так малазначны ў параўнаньні з усёй галіной вытворчасьці, што іх можна пакінуць зусім бяз увагі“[2]). Ня прыходзіцца гаварыць, што тыя выяўленьні капіталістычнае вытворчасьці ў галіне разумовай працы, якія дазволена было цалком ігнараваць Марксу, у нашы часы варты вялікай увагі. Тое, што падчас Маркса было выключэньнем—капіталізацыя разумовай працы,—у нашы дні зьяўляецца істотным фактам экономічнага жыцьця: перад намі паўстаў факт окупацыі капіталізмам амаль што ўсёй тэрыторыі разумовай працы.

Маркс дае масу прыкладаў капіталізацыі разумовай працы. Ён гаворыць аб „навуковых і мастацкіх вытворцах“, якія працуюць на гандлёвы капітал. Адзначае, што „настаўнікі ў вучэбных установах могуць зьяўляцца простымі наймітамі для прадпрыемцы ўстановы“ і г. д., і г. д. Гэтыя выпадкі, аднак, Маркс быў прыхільны разглядаць, як *адзіночныя*. Але зьяўляючыся *адзіночнымі* ў часы Маркса, гэтыя выпадкі сталі *тыповымі* для нашых дзён.

Калі Маркс характарызаваў пануючыя ў галіне разумовай працы формы, як пераходныя да капіталізму (гл. „Теории прибавочной стоимости, ч. I, приложение“), дык у нашыя часы мы маем пэўныя падставы, каб зацьвердзіць, што ў XIX стагодзьдзі пераходная стадыя скончылася, і капіталістычная вытворчасьць моцна абхапіла сваімі клюшнямі разумовую працу. Ужо Маркс пачынаў гаварыць аб тым, што ў Англіі існуюць „вучэбныя фабрыкі“. За 60 год, што мінулі з таго часу, вучэбныя, газэтныя, тэатральныя, больнічныя і ўсялякага гатунку іншыя „фабрыкі“ ў галіне разумовай працы сталі самымі звычайнымі, вельмі тыповымі зьявамі. Напрыклад, сучасная газэтная справа цалком пабудована на капіталістычных прынцыпах, і журналісты вялікай эўропэйскай або амэрыканскай газэты—тыповы „фабрычны рабочы“, які прадае сваю працоў-

---

[1]) Кароль Маркс. „Теория прибавочных ценностей“. Выд. Ком. У-ту імя Зіноўева; Петраград. 1923 г. стар. 277. (Мною папраўлена—„потребительного акта“, дзякуючы таму, што ў перакладзе ёсьць памылка. С. В.)

2) Ibidem 277.

ную сілу. „Ужо даўно мінуў—піша П. Кержанцаў—той час, калі пэрыодычны друк быў адбіткам думак асобных таленавітых журналістых, калі газэта або часопісь організоўваліся наўкола аднаго вядомага літаратурнага імені, якое давала напрамак выданьню. Такія газэты і часопісі зусім зьніклі ў буржразным грамадзянстве. Асобны пісьменьнік ужо ня мае магчымасьці рабіць уплыў на грамадзянскую думку пры дапамозе якогась „свайго" выданьня. Агульныя ўмовы капіталістычнае гаспадаркі, а часткова надзвычайная дарагоўля тэхнічнага абсталяваньня газэты „свели на нет такие попытки". Цяпер газэта заўсёды зьяўляецца ўласнасьцю партыі, сындыкатаў, вялікіх фінансавых банкаў і г. д. У газэтнай справе за апошнія часы асабліва яскрава выяўляецца імкненьне да сындыцыраваньня газэтных прадпрыемстваў. Нават асобны буйны капіталісты ўжо ня мае сіл рызыкаваць і весьці справу на свой кошт. Зьявілася экономічная патрэба ў аб'яднаньні цэлага шэрагу выданьняў. Такім чынам, стварылася некалькі буйных газэтных трэстаў асабліва ў Англіі і Амэрыцы. Славуты газэтны сындыкат лёрда Норкліфа ў працягу якіхнебудзь 10 год набыў сабе ва ўласнасьць наступныя буйнейшыя выданьні Англіі: „Times" „Dailly Mal", якая друкуецца адначасна ў трох гарадох—Лёндоне, Парыжы, Манчэстэры, вячэрнюю газэту „Euenig News", нядзельную „Weekly Dispatsch", штодзенную ілюстраваную „Dailly Mirror", некалькі провінцыяльных выданьняў, некалькі тыднёвікаў і штомесячнікаў усялякага роду (агульных і спэцыяльных). Гэты сындыкат усё пашыраецца і купляе ўсё новыя й новыя газэты. У Англіі некалькі такіх газэтных спрутаў [1]).

Відавочнае прадстаўленьне аб капіталістычным характары сучасных капіталістычных выдавецтваў могуць даць наступныя лічбы, якія датычаць Англіі: газэта „Дэйлі Мэйл" выплачвала дывідэнду ў 1911—1913 г. 12%, 1914 г.—17%, 1917 г.—15%, 1920 г.—20%.

„Дэйлі Мірор К°" мае асноўны капітал у 1.050.000 фунтаў стэрлінгаў, а прыбытак яго за 1923 г. складае 414.446 фунтаў. Выдавецтва „Асошыэйтэд Ньюспэйпэрс Лімі́г" уладае асноўным капіталам у 2.600.000 фунтаў, і прыбытак яго за 1923 г. вызначаецца лічбай 667.928 фунтаў [2]).

Хто чытаў „Медную Марку" Сынклера, той добра ведае, што прадстаўляюць сабой „газэтныя фабрыкі" Амэрыкі. Нават малады расійскі капіталізм пачаў будаваць падобныя „фабрыкі". Гісторыя з газэтай „Русская Воля" шмат каму памятна. Нядаўна быў апублікованы ліст Леоніда Андрэева, у якім гэты вялікі пісьменьнік наракае на тое, што, стаўшы рэдактарам „Русской Воли", ён зрабіўся „таварам", якім бяз усякае цэрэмоніі гандлююць. Адзін прадпрыемца, перадаючы газэту

---

[1]) В. Кержанцаў. „Газета". М. 1919. Выд. „ВЦИК", стар. 8.

[2]) Запазычаю гэтыя даныя з артыкулу А. Чэкіна—„Печать современной Англии"- „Современник", 1925 г., № 1, стар. 244.

другому, разам з іншым інвэнтаром прадае яму рэдактара і супрацоўнікаў... У цікавых запісах Жана Брусона, сакратара нябожчыка Анатоля Франса, ёсьць вельмі цікавыя старонкі, якія абрысоўваюць процэс працы Франса на „изделия“ па заказах купляўшай яго эўропэйскай прэсы [1]).

Капіталізм стварыў газэтныя фабрыкі, фабрыкі вучэбныя, фабрыкі здароўя і г. д. Гэтыя фабрыкі прыналежаць капіталістым-прадпрыемцам на іх працуюць шматлікія кадры наёмных рабочых—журналістых, настаўнікаў, дактароў і інш. Калі ў свой час Маркс меў, як мы бачылі, досыць пэўныя падставы на прызнаньне капіталістычнага процэсу ў галіне разумовай працы вельмі слаба выяўленым, дык у бягучым часе мы гэтага больш зрабіць ня можам.

Дзеля ілюстрацыі таго, якую вялікую ролю мае прыватны капітал, напрыклад, хоць-бы ў справе народнай асьветы, можна адзначыць, што з ліку 897 пачатковых школ (1 ступені) Парыжу, 450, г. зн. большая палова, зьяўляюцца ў нашыя часы прыватнаўласьніцкімі вучэбнымі ўстановамі.

У краіне найвышшага разьвіцьця капіталізму—у Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах—уся справа народнай асьветы знаходзіцца ў руках капіталістычных арганізацый, якія багацеюць і нажываюцца на ёй таксама, як і на нафце, вугалю і бавоўне.

Вось як, напрыклад, клясыфікуе Эптон Сынклер вышэйшыя вучэбныя ўстановы Паўночнай Амэрыкі: Колюмбійскі унівэрсытэт—банкірскага дому Моргана; Пэнсільванскі унівэрсытэт—Злучанай газавай кампаніі; Каліфорнскі унівэрсытэт—Трэсту гідра-электрычнай энэргіі; Кэнвэрскі унівэрсытэт—Колёрадзкай кампаніі апалу і жалеза; Мінесодзкі унівэрсытэт—Рудніковага трэсту; Манатанскі унівэрсытэт—Наконузкай мядзянай кампаніі і г. д.

Дзеля таго, каб зрабіць сапраўдную ацэнку капіталістычнага характару сучаснага амэрыканскага унівэрсытэту, адзначым, што, напрыклад, маемасьць Колюмбійскага унівэрсытэту фірмы Моргана ацэньваецца ў 75 мільёнаў доляраў, а яго гадавы даход перавышае 7 мільёнаў.

Старым словам „Комуністычнага Маніфэсту“ пра доктара і правазнаўцу, поэту і чалавека навукі, якіх буржуазія абярнула ў сваіх наймітаў, апошняе дзесяцёхгодзьдзе надала новага сэнсу. Гэты сэнс у тым, што мы можам вызначыць факт існаваньня ў сучасным грамадзянстве соцень тысяч і мільёнаў працаўнікоў разумовай працы, якія зьяўляюцца пролетарамі, г. зн.—калі зноў гаварыць словамі „Комуністычнага Маніфэсту“,—якія прымушаны прадаваць сябе ў розьніцу і зьяўляюцца таварам такім самым, як і ўсякі іншы прадмет гандлю. Мы ўжо давалі некаторыя досыць значныя лічбы, якія характарызуюць лічбовы склад такіх профэсыянальна-організованых пролетараў. У сваіх тлумачэньнях, даданых да

---

[1]) Гл. Жан Жак Брусон. „Анатоль Франс в халате“. Выд. „Время“. Ленінград. 1925 г., стар. 255 і інш.

Гэрліцкай праграмы Кароль Каўцкі так малюе гэты процэс стварэньня ў Нямеччыне мільённай арміі працаўнікоў разумовай працы—пролетараў.

„З 1882 г., да 1907 г. колькасьць служачых земляробства, прамысловасьці і гандлю ўзрасла ад 307.000 да 1.291.000, паміж тым, як наёмных працаўнікоў, ва ўласным сэнсе,—толькі ад 10.705.000 да 17.836.000 чал., колькасьць-жа самастойных—ад 5.191.000 да 5.490.000. Значыць, колькасьць самастойных засталася амаль што нязьменнай, колькасьць наёмных рабочых ня зусім падвоілася, а колькасьць служачых тымчасам павялічылася ў чатыры разы. Найбольшае павялічэньне ліку служачых выяўляецца ў прамысловасьці: ад 99.000 да 686.000—амаль што ў 7 раз, а паміж тым колькасьць прамысловых рабочых павялічылася троха больш, як у 2 разы, узросшы ад 4-х мільёнаў да 8,5 мільёнаў. З кожнай тысячы занятых прамысловай дзейнасьцю ў сельскай гаспадарцы, прамысловасьці і гандлі было:

| | у 1882 г. | у 1907 г. |
|---|---|---|
| Самастойных . . . | 320 | 223 |
| Рабочых . . . . | 661 | 725 |
| Служачых . . . . | 19 | 52 |

Колькасьць працуючых на пасадах дзяржавы, абшчын і царквы, а таксама асоб вольных профэсій, узрасла ня так шмат, але ўсё-ж болей за агульны ўзрост насельніцтва. Гэтыя катэгорыі, калі ня лічыць арміі і флёту, якраз абхаплялі ў Нямеччыне ў 1882 годзе 579.000, у 1907 г.—1.087.000,—павялічэньне на 88%. А тымчасам агульная колькасьць насельніцтва павялічылася ўсяго толькі на 37%, а сярод прамысловага насельніцтва павялічэньне было на 52%. Падлічыўшы колькасьць дзяржаўных служачых і іншых чыноўнікаў і асоб вольных профэсій разам, атрымаем групу досыць featureрознародных элемэнтаў, якіх ахвотна яднаюць пад найменьнем „новага сярэдняга стану", або інтэлігэнцыі. Гэты новы стан меў у 1882 г. 886.000, а ў 1907 г.—2.337.000, г. зн. на 1.491.000 болей. А „стары" „сярэдні стан", меўшы ў 1882 г. 5.190.000, складаўся ў 1907 г. з 5.490.000, значыць павялічыўся на працягу таго самага часу толькі на 300.000 [1])".

Такі самы процэс, які Каўцкі характарызаваў вышэйпаданымі словамі ў стасунку да Нямеччыны, мае месца ва ўсякай капіталістычнай дзяржаве. Сучасныя Францыя, Англія, Амэрыка налічваюць мільёны працаўнікоў разумовай працы—пролетараў, якія скадаюць прыкметную клясавую праслойку. Аб колькасьці такіх працаўнікоў па СССР даюць прыблізнае прадстаўленьне наступныя лічбовыя даныя, якія датычаць профэсыянальных саюзаў і амаль што цалком абхапляюць працаўнікоў разумовай працы. 1-га студзеня 1924 г. налічвалася членаў: у „Всеработпросе"—498.000, у саюзе „Совработников"—691.000, у „Медсантру-

[1]) Кароль Каўцкі. „Пролетарская революция и ее программа". Бэрлін. 1923 г., стар. 49-50.

де"—337.000,—у „Рабісе"—72.000, а ўва ўсіх чатырох пералічаных саюзах—1.608.000. Гэта лічба зьяўляецца мінімальнай у вызначэньні профэсыянальна-організованых працаўнікоў разумовай працы па СССР, бо тая колькасьць працаўнікоў фізычнай працы, якая ўваходзіць у склад пералічаных чатырох саюзаў з лішкам компэнсуецца тымі працаўнікамі разумовай працы, якія зьяўляюцца сябрамі астатніх 19 саюзаў.

Капіталістычная экспансія імпэтна распаўсюджваецца ў галіне разумовай працы, у той меры, у якой капіталісты робіць гэтую працу продукцыйнай. Калі-ж і якую-ж працу капіталісты лічыць *продукцыйнай? Продукцыйная праца* ў сыстэме капіталістычнай вытворчасьці—гаворыць Маркс—ёсьць такая праца, якая прыносіць для асобы, даючай ёй прыстасаваньне, дадатковую цэннасьць, або, іначай, тая, якая *об'ектыўныя* ўмовы працы абарачвае ў капітал, а іх уласьніка—у капіталістага, значыцца,—праца, якая стварае свой уласны продукт у выглядзе капіталу"[1]). У другім месцы Маркс падкрэсьлівае, што мэта капіталістычнай вытворчасьці—*абагачэньне, узрастаньне цэннасьцяй*, г. зн. захаваньне ранейшай цэннасьці і стварэньне дадатковай цэннасьці. І гэты *спэцыфічны продукт* процэсу капіталістычнае вытворчасьці капітал атрымоўвае толькі праз памен на працу, якая з прычыны гэтага завецца „*продукцыйнай працай*"[2]).

Калі мы гаворым аб „продукцыйнай працы"—у тым стасунковым разуменьні гэтага тэрміну, якое ахарактарызаваў Маркс,—дык мы гэта паняцьце зьвязваем, зразумела, не з конкрэтнай, прадметнай формай выяўленьня працы, а з тымі грамадзянскімі ўмовамі, праз якія яна рэалізуецца. Мы знаходзім у Маркса вельмі цікавыя ілюстрацыі таго, як капіталізм робіць працу продукцыйнай". „...Мільтон, напісаўшы „Потерянный рай", быў непродукцыйным працаўніком, а пісьменьнік, працуючы на свайго выдаўца фабрычным спосабам, зьяўляецца продукцыйным працаўніком. Мільтон напісаў свой „Потерянный рай" пад уплывам тых самых імкненьняў, якія прымушаюць шаўкаўнічнага чарвяка выраблядь шоўк. Гэта было дзейнае выяўленьне яго прыроды... А лейпцыгскі літаратурны пролетар, што фабрыкуе кнігі пад начальніцтвам свайго выдаўцы... зьяўляецца продукцыйным працаўніком з прычыны таго, што яго вытворчасьць з першага моманту падуладна капіталу і мае на мэце толькі павялічэньне цэннасьці гэтага капіталу. Сьпявачка, якая прадае сваё сьпяваньне на сваю рызыку,—непродукцыйны працаўнік, але тая-ж самая сьпявачка, нанятая антрэпрэнёрам, які прымушае яе сьпяваць, каб набываць грошы,—продукцыйны працаўнік, бо яна павялічвае капітал"[3]).

Сярод соцень тысяч літаратурных працаўнікоў у нашыя часы бадай ня знойдзецца некалькіх дзесяткаў, працуючых падобна Мільтону толькі пад уплывам свайго інстынкту, зроднага з патрэбай шаўкаўнічнага чар-

---

[1]) Маркс. „Теории приб. ценности". ч. I, стар. 270.

[2]) Ibidem—272.

[3]) Ibidem—273.

вяка вырабляць шоўк. Уся гэта армія складаецца з „лейпцыгскіх літаратурных пролетараў“, якія фабрыкуюць артыкулы і кнігі для сваіх выдаўцоў... Діккенс або Тургенеў яшчэ тварылі, як Мільтон, але бот капіталізму раздушыў шаўкаўнічных чарвякоў літаратуры і навукі, падобна таму, як капіталістычная сякера зьнішчыла чэхаўскія вішнёвыя сады... Калі Сыцін і Маркс спрачаліся паміж сабой за тое, каб атрымаць права на выданьне твораў Леоніда Андрэева, дык Андрэеў з цынічнай шчырасьцю сказаў: „Пісьменьнік усе роўна што простытутка. Хто больш заплаціць—за тым і пойдзе“...

Капітал набірае ў пролетарскую армію мільёны працаўнікоў разумовай працы. Ён ставіць іх сабе на службу, робіць іх працу „продукцыйнай“, г. зн. выкачвае з яе сабе на патрэбу дадатковую цэннасьць. Апошняя акалічнасьць часамі выклікае сумненьне. Спынімся дзеля гэтага троха на ёй, зьвярнуўшыся да тых асноўных груп працаўнікоў разумовай працы, у стасунку да якіх капітал ажыцьцяўляе дабываньне дадатковай цэннасьці.

Раней за ўсё паглядзім, як стаіць справа з так званымі ўдзельнікамі продукцыйнага процэсу: інжынэрамі, інструктарамі, адміністрацыйна-тэхнічным пэрсоналам прамысловага прадпрыемства. Усё гэта працаўнікі разумовай працы, якія, строга кажучы, беспасрэднага ўдзелу ў продукцыйным процэсе ня прымаюць. І з прычыны гэтага разважаюць: інжынэр матэрыяльных цэннасьцяй сам не стварае, значыцца, ён не стварае і дадатковага продукту, значыцца, капіталісты ніякага дадатковага кошту з яго працы атрымаць ня можа...

У чацьвертым „Социальном письме“ Родбэртус ужо часткова паказаў бязгрунтоўнасьць такога пункту погляду. Маркс-жа зусім яго разьбіў. У прыдатку да I ч. „Теорий прибавочной стоимости“ ён гаворыць:

„З разьвіцьцём спэцыфічна-капіталістычнага спосабу вытворчасьці, пры якім шмат якія працаўнікі займаюцца вырабам аднаго якога-небудзь тавару, адносіны, існуючыя беспасрэдна паміж іх працай і прадметам вытворчасьці, зразумела, павінны быць вельмі рознымі. Напрыклад, вышэйадзначаныя працаўнікі на фабрыцы ня маюць ніякага беспасрэднага стасунку да вырабу сыравіны. Працаўнікі, што зьяўляюцца дагляднікамі над тымі працаўнікамі, якія прымаюць беспасрэдны ўдзел у гэтым вырабе, стаяць яшчэ троха далей; адносіны інжынэраў зноў-такі іншыя, і працуюць яны, галоўным чынам, сваёй галавой і г. д. Але ўся маса гэтых рабочых, уладаючых працоўнай сілай рознай цэннасьці, дае вынік, які—калі мець на ўвазе толькі вынік процэсу працы—выяўляецца ў таварах або ў якім-небудзь матэрыяльным продукце; усе разам яны, як працаўнікі, складаюць жывыя машыны вытворчасьці гэтых продуктаў, падобна таму, як усе яны—з пункту погляду процэса вытворчасьці, узятага цалком—мяняюць сваю працу на капітал і аднаўляюць грошы капіталістых у форме капіталу, або як цэннасьць, якая павялічваецца

ў процэсе працы, самаўзрастаючую цэннасьць. Якраз капіталістычнаму спосабу вытворчасьці ўласьціва разьбіваць розныя формы працы, а таксама, значыцца, і разумовую і фізычную працу, або тыя формы працы, у якіх пераважае той ці іншы бок яе,—і разьмяркоўваць іх паміж рознымі асобамі, што, аднак, не перашкаджае матэрыяльнаму продукту быць агульным продуктам гэтых асоб, або не перашкаджае іх агульнаму продукту абарачвацца ў прадметы матэрыяльнага багацьця; з другога боку, гэта таксама ані не перашкаджае таму, і ніяк не мяняе таго, што адносіны кожнай з гэтых асоб паасобна да капіталу зьяўляюцца адносінамі найміта і ў гэтым асаблівым сэнсе зьяўляюцца адносінамі продукцыйнага працаўніка. Усе гэтыя асобы ня толькі прымаюць беспасрэдны ўдзел у вытворчасьці матэрыяльнага багацьця, але й мяняюць сваю працу беспасрэдна на грошы, як на капітал, і з прычыны гэтага беспасрэдна аднаўляюць для капіталістых ня толькі сваю заработную плату, але й дадатковую цэннасьць. Іх праца складаецца з аплочанай працы плюс неаплочаная дадатковая праца [1]).

З яснасьцю, якая не пакідае месца аніякім сумненьням, Маркс давёў, што інжынэр і ўсякі іншы працаўнік разумовай працы, служачы ў капіталістычным прадпрыемстве, зьяўляецца таксама, як і працаўнік фізычнае працы, об'ектам капіталістычнае эксплёатацыі. Я хацеў-бы даць яшчэ адну ілюстрацыю да гэтага палажэньня. У апошнія годы на фабрыках Зл. Штатаў зьявілася новая пасада—так званага вучонага консультанта. Такі консультант ня мае перад сабой ніякіх практычных заданьняў, ён атрымоўвае заработную плату за тое толькі, што займаецца ў габінэце або лябараторыі, зробленай для яго пры фабрыцы, якой захоча тэорэтычнай працай, і сваімі чыста тэорэтычнымі дасягненьнямі „дзеліцца“ з гаспадаром фабрыкі. Дзе-ж тут, здавалася-б, месца для прыўлашчаньня дадатковай каштоўнасьці? Чалавек вядзе абстрактна-тэорэтычную працу, як-жа можна яго эксплёатаваць. Ня прыходзіцца, аднак, гаварыць аб тым, што сучасныя амэрыканскія ўласьнікі аўтомобільных заводаў або нафтавых вытакаў менш за ўсё падобны да мэцэнатаў. І калі яны плацяць вялізную заработную плату сваім вучоным консультантам, дык зусім не па ўзвышаных мотывах протэктарства навукам, як яны самі аб гэтым часамі заяўляюць ва ўласных газэтах, а па мотывах зусім іншага характару... Тэорэтычныя вынаходкі консультанта нарэшце абарачваюцца ў адзін з элемэнтаў таго агульнага продукту, які выробляецца на фабрыцы і дае капіталістаму дадатковы кошт. Гэкслі некаліcь сказаў, „што калі нацыя заплоціць за магчымае зьяўленьне Уата, Дэві або Фарадэя сотні тысяч фунтаў золатам, дык яны абойдуцца ёй дарэмна“. Уат працаваў, як і Мільтон, накшталт шаўкаўнічнага чарвяка. Але чыкагаўскія і бостонскія фабрыканты запіраюць Уатаў і Фарадэяў

---

[1]) Ibidem 278.

у свае фабрычныя ляборатоиры, плоцяць ім тысячы фунтаў золатам і ведаюць, што яны абыходзяцца „дарэмна“. Капіталістычная мясасечка нашых дзён умее абярнуць мазгі Мільтона і Уата ў дадатковы кошт.

Пераходзім да другой катэгорыі працаўнікоў разумовай працы. Гэта—катэгорыя асоб, разумовая праца якіх можа прымаць прадметную форму: мастак, скульптар, пісьменьнік, композытар. Зусім відавочна, што гэта катэгорыя працаўнікоў ажыцьцяўляе сваю працу ў рэчы-тавары. Статуй, малюнак, кніга, рукапіс—такі самы тавар капіталістычнага рынку, як ложак, боты, чакаляда.

Лёмбард Парыскага муніцыпальнага пазыковага таварыства не дарма-ж ухваліў нядаўна выдаваць пазыкі драматыстым пад рукапісы новых сцэнічных твораў...

У вельмі цікавай працы швэйцарскага марксыстага Лю Мэртэна „Die wirtshaftliche Lage der Künstler“ знаходзіцца добры аналіз твораў мастацтва, як тавару [1]).

Законы рынку ў поўнай меры рэгулююць у сучасным грамадзянстве каштоўнасьць твораў мастацтва. Попыт форміруе, у пераважаючай большасьці выпадкаў, стыль, зьмест, характар літаратурнага, музычнага, маляўнічага твору. Лю Мартэн, а таксама Пауль Дрэй даюць шмат прыкладаў таго, як гандаль дае сучаснаму мастаку строга абумоўленыя дэтальнымі паказаньнямі заказы на творы мастацтва і як гэтыя заказы дакладна выконваюцца [2]).

На творах мастацтва гандляры часта нажываюць шматтысячапроцантны прыбытак. Бываюць выпадкі, калі малюнак, прададзены мастаком за некалькі сот франкаў, па мінаваньні вядомага часу, пачынае ацэньвацца сотнямі тысяч, як, напрыклад, было гэта з малюнкам Дэш „Танцовщица на шесте“, які быў адданы мастаком за 500 франкаў, а потым прададзены за 450.000 франк. у той самы час, як яго творца пакутваў у бяднотцве. Гэта не адзінкавыя, а вельмі тыповыя выпадкі.

Вытворца тавару, праз які ажыцьцяўляецца разумовая праца, можа зьяўляцца об'ектам капіталістычнай эксплёатацыі ў тэй самай меры, як і ўсякі іншы вытворца. Акцыянэрнае таварыства, уладаючае выдавецтвам, выплачвае сваім сябром дывідэнд з тых самых сродкаў, што і акцыянэрнае таварыства, уладаючае ткацкай фабрыкай: з дадатковага кошту. Капіталісты-выдавец не аплачвае дадатковае працы наборшчыка, мэтранпажа, карэктара, аўтара, прычым яго прыбытак набіраецца, галоўным чынам, з аўтарскага дадатковага кошту, бо цэннасьць кнігі ў асноўным ствараецца аўтарам. (У найбольш чыстым выглядзе гэтая акалічнасьць выяўляецца ў выдавецтвах, дзе выдавецкая справа аддзелена

---

[1]) Lu Marten. Die wirtschaftliche Lage der Künster. Verlag. Georg Müller. München, 1914. s. 180.

[2]) Гл. Paul Dreu. Die wirtschaftlichen Grundlagen der Malkunst. Verlag Cotla. Leipzig, 1910.

ад друкарскай). Апавядаюць пра Гэргарда Гауптмана, што адзін раз ён атрымаў ад свайго выдаўцы запытаньне, ці ня будзе пярэчыць вялікі пісьменьнік супроць таго, каб яго найменьнем назваць вілу, пабудованую выдаўцом. Гауптман адказаў: „Калі ласка. Калі ня ў славу майго таленту, дык на ўспамін аб тэй працы, якую я ахвяраваў на ўзбудаваньне гэтай вілы"... Паўтарыць гэтыя словы яшчэ большую рацыю маюць сотні менш вядомых пісьменьнікаў—тых, каго Маркс называў „лейпцыгскімі літаратурнымі пролетарамі". У стасунку да разглядаемай катэгорыі працы, пытаньне, здаецца нам, выяўляецца досыць ясна. Магчымасьць іх капіталістычнай эксплёатацыі відавочна.

Не такім ясным, з першага погляду, здаецца палажэньне тае катэгорыі працаўнікоў разумовай працы, якая ня мае магчымасьці матэрыялізаваць сваю працу. Музыка, настаўнік, сьпявач, доктар, артыста, правазнаўца не абарачваюць сваю працу ў матэрыяльныя об'екты. У часе іх працы, адзначае Маркс, акт вытворчасьці супадае з актам спажываньня. Такім чынам, можна дапускаць, што, не ствараючы тавару, праца гэтай катэгорыі працаўнікоў не стварае і дадатковага кошту. Маркс засьцерагаў такім чынам выращаць пытаньне. Крытычна разьбіраючы погляды Адама Сьміта на паняцьце продукцыйнай працы, Маркс адзначаў, што адносіны паміж антрэпрэнэрам і артыстым тыпова капіталістычныя. „...Ён", кажа Маркс аб антрэпрэнэру, "купляе гэтую, так званую, „непродукцыйную працу", паслугі якой „зьнікаюць у момант іх выкананьня" і не замацоўваюцца або не рэалізуюцца ў асобным „прадмеце, які захоўваецца ў цягу нейкага часу або ў прадажным тавары" (апрача як у іх самых)... Продаж гэтых паслуг грамадзе зьвяртае антрэпрэнэру заработную плату і дае прыбытак. І паслугі, купленыя ім такім чынам, даюць яму магчымасьць аднаўляць іх, г. зн. ён сам аднаўляе фонд, з якога яны аплачваюцца"[1]). І сапраўды, калі мы раней казалі, што той прыбытак, які атрымоўвае ўласьнік выдавецтва, нічым ня розьніцца ад прыбытку ўласьніка ткацкай фабрыкі, дык ці ёсьць у нас падставы на тое, каб устанаўляць якую-небудзь *прынцыповую* розьніцу паміж прыбыткам уласьніка выдавецтва і антрэпрэнэра—уласьніка тэатру? Я думаю, ніякіх падстаў на гэта няма.

З аднаго боку, мы маем капіталістага—уласьніка пабудовы, мэблі, дэкорацыі, бутафорыі, рэквізыту, гардэробу і г. д., а з другога боку—артыстага—уласьніка голай працоўнай сілы, пазбаўленага об'ектыўных умоў, патрэбных для прыстасаваньня яго працы, які з прычыны гэтага робіцца об'ектам капіталістычнай эксплёатацыі. Прыбытак уласьніка тэатру ў істоце тое самае, што і прыбытак уласьніка выдавецтва. Тое самае можна сказаць—мы аб гэтым ужо гаварылі раней—адносна ўласьніка вучэбнай установы, уласьніка больніцы і г. д. Па ўсёй гэтай лініі мы спатыкаемся з працаўнікамі разумовай працы, адносна якіх можна

[1]) „Теории приб. ценности", стар. 175.

з пэўным правам паўтарыць словы „Комуністычнага Маніфэсту“, што „яны толькі тады могуць існаваць, калі знаходзяць працу, а знаходзяць яе толькі па той час, пакуль іх праца павялічвае капітал“.

Працаўнік разумовай працы займае на біржы працы такое самае месца, як і фізычны. У сучаснай Амэрыцы пэдагог ня мае магчымасьці атрымаць пасады, мінуючы прыватнае агэнцтва так званай „Конторы па найму настаўнікаў“, дзе прэтэндэнт на пасаду настаўніка падупадае самай пахабнай экспляатацыі.

Апрача гэтага, трэба адзначыць яшчэ адну акалічнасьць, правілова падкрэсьленую тав. Б. І. Горавым у адным яго артыкуле аб інтэлігэнцыі[1], якая складаецца з таго, што процэс тэхнікі часамі дае магчымасьць аматэрыялізаваць нават такія праяўленьні разумовай працы, якія раней лічыліся зусім недаступнымі для ажыцьцяўленьня ў матэрыяльных об ектах. Такія „нематэрыяльныя (зразумела, у ўмоўным сэнсе слова), абсолютна індывідуальныя формы выяўленьня нашага „духу“, як голас, рух, міміка, могуць быць зафіксаваны ў такіх зусім „матэрыяльных“ продуктах, як пласьцінка грамофона, істужка кінэматографу. Тыя самыя „комэдыянты, акторы, музыкі, опэрныя сьпявакі, балетныя танцоркі“, аб якіх так грэбліва гаварыў Сьміт, цяпер маюць удзел у буйнейшых галінах прамысловасьці зусім „матэрыяльнага“ характару таксама, як пісьменьнікі ў кніжнай і газэтнай справе. Ёсьць вельмі значныя групы актораў, якія працуюць выключна для кінэматографу і такім чынам маюць удзел толькі ў стварэньні матэрыяльных продуктаў[2]).

Адзначу таксама, што нават там, дзе, з прычын об'ектыўных умоў, разумовая праца ня можа абярнуцца ў тавар, капіталісты ствараюць, так сказаць, „сымболі тавару“, і гэтыя „сымболі“ пускае ў зварот. Тэатральны білет зьяўляецца такім самым таварам капіталістычнага рынку, як і ўсякі іншы тавар. Лепшым довадам гэтага зьяўляецца існаваньне цэлай катэгорыі гандляроў-спэкулянтаў гэтым таварам—так званых тэатральных барышнікаў. У вялікіх больніцах эўропэйскіх і амэрыканскіх гарадоў прадаюцца таксама асаблівыя білеты на права карыстацца мэдыцынскай дапамогай (тут існуе і таварны прэйскурант, рэгулюючы цэны на доктарскі тавар у залежнасьці ад цэлага шэрагу адзнак: стаж доктара, популярнасьць, спэцыяльнасьць і г. д.). І тут мы маем справу з таварам, „сымболізуючым“ разумовую працу, якая не падлягае аматэрыялізаваньню.

Такім чынам, у стасунку да ўсіх трох катэгорый, на якія мы падзялілі працаўнікоў разумовай працы, можна лічыць пэўным, што яны падлягаюць капіталістычнай экспляатацыі у якасьці наёмных працаўнікоў.

Гэта экспляатацыя сустракае тым больш энэргічны адпор, чым больш яна разьвіваецца. Досыць зьвярнуцца да тых адносін, якія ў сучасны момант існуюць паміж працаўнікамі разумовай працы розных

---

[1]) Б. І. Гораў—„На идеологическом фронте“. ГИЗ. М., 1923 г., стар. 29.

катэгорый і адпавядаючымі прадпрыемцамі, каб пераканацца ў тым, што тут адбываецца самая заўзятая клясавая барацьба паміж пролетарам і капіталістым.

Каб паглядзець, якія формы набывае гэтая барацьба, зьвернемся, для прыкладу, да працаўнікоў мастацтва. Профэсыянальная прэса працаўнікоў мастацтва выяўляе сотні паведамленьняў аб забастоўках актораў, сьпявак, музыкаў, мастакоў, выбухаючых то ў адным, то ў другім месцы, аб лёкаутах, бойкотах, штрэйкбрэхніцтве, штрайковых фондах і іншых формах клясавае барацьбы.

Каб мець угрунтаваньне, прывяду хаця-б некаторыя з таго мноства прыкладаў, якія тычацца 1924 году. У канцы году ў Кёнігсбэргу Артыстычнай лёжай была абвешчана забастоўка. У раней абумоўлены час каля дзьвярэй усіх эстрадных будынкаў раптам зьвіліся штрайковыя дазоры з вялікімі плякатамі „Тут бастуюць артыстыя“... Ужо праз дзьве гадзіны пасьля абвяшчэньня забастоўкі ўсе прадпрыемствы згадзіліся здаволіць вымаганьні профсаюзу, за выключэньнем толькі двух—„Фледэрмаус“ і „Пасаж“. На другі дзень у „Фледэрмаусе“ зьявілася абвестка: „Ня гледзячы на забастоўку, будзе кабарэ“. Справа ў тым, што адміністрацыя прапанавала адной з опэрэтачных артыстак 100 марак за выступленьне і такую самую прапанову зрабіла аднэй балерыне, але яна не згадзілася. Зараз-жа саюз па тэлефоне паведаміў опэрэтачны тэатр (дырэкцыю), што зьявяцца плякаты: „Тут працуюць у якасьці штрэйкбрэхэраў артыстыя гарадзкога тэатру“... Дзякуючы штрайковым патрулям, публіка ў бастуючыя тэатры не пападала, і ўсе пад'яжджаўшыя аўтомобілі затрымліваліся і вярталіся назад... На трэці дзень нечакана былі арыштованы паліцыяй штрайковыя патрулі і сябры саюзу, што вартавалі з плякатамі каля ўвойсьця ў прадпрыемства... Упартасьць некаторых прадпрыемстваў і адказ іх зрабіць уступкі тлумачыцца тым, што ўласьнікі іх нічога агульнага з мастацтвам ня маюць, для іх гэта свой род спорту—і больш нічога. Напрыклад, гаспадар гэтага праславутага „Фледэрмаусу“—багаты лесапрамыслоўца, для якога страты ад забастоўкі ніякага значэньня ня маюць, які ня йдзе на ўступкі „прынцыпова“. Характэрна, што, атрымаўшы паведамленьні аб забастоўцы, прэзыдыум прадпрыемскага саюзу (Бэрлін) адправіў тэлеграму ў Кёнігсбэрг, у якой папераджаў забаставаўшых артыстых, што калі забастоўка ня спыніцца ў цягу 24 гадзін, дык усе яны будуць занатаваны ў чорныя сьпісы і што пасьля гэтага ня будуць дапускацца да працы а ні ў воднае прадпрыемства ў цягу двох год. Аднак і гэта пагроза ня мела ніякага ўплыву. Нарэшце ўпартасьць „Фледэрмаусу“ ўдалося перамагчы.

Другі факт—такога-ж парадку. Павінная была-б быць у канцы мінулага году вялізная забастоўка артыстых Паўночных Штатаў Амэрыкі не адбывалася, дзякуючы таму, што новастворанае аб'яднаньне антрэпрэнэраў згадзілася падпісаць з саюзам актораў дагавор, згодна якога ў

кожным прадпрыемстве можа працаваць толькі самы невялікі % не сяброў саюзу і прытым абавязкова па саюзных стаўках.

Падобныя факты, зноў кажу, дзесяткамі і сотнямі рэгіструюцца профэсыянальнай хронікай рознастайных галін разумовай працы.

Таксама з працаўнікамі асьветы. Вось адзін з вялікага ліку яскравых прыкладаў барацьбы працы з капіталам у галіне асьветы. У сьнежні 1922 г. школьная адміністрацыя гор. Лоутсфота (Англія) разарвала тарыфны дагавор з настаўнікамі. Настаўніцтва адмовілася прызнаць гэты разрыў. У адказ на гэта адміністрацыя звольніла 31 сакавіка 1923 г. некалькі сот настаўнікаў і абвясьціла лёкаут. Звольненых настаўнікаў замянілі штрэйкбрэхэрамі. Насуперач лёкауту профсаюз адчыніў некалькі сваіх школ, зьмясьціўшы туды звольненых настаўнікаў. Пасьля адзінаццаці месяцаў напружнай барацьбы настаўнікі атрымалі перамогу. Дагавор быў адноўлены, і ўсе звольненыя настаўнікі зноў атрымалі свае пасады.

Перад тым, аднак, як зрабіць з усяго вышэйпаданага вывады ў сэнсе залічэньня працаўнікоў разумовай працы да пролетараў, нам прыдзецца крыху затрымацца на тых момантах, якія часта высоўваюцца, як адзначаючыя інтэлігэнтаў ад пролетараў, на момантах, якія, нібы, абарачваюць гэтыя соцыяльныя катэгорыі ў антогоністых.

*(Працяг будзе).*

# ЗАНЯПАД БРЫТАНСКАЕ ІМПЭРЫІ

## І. В. Герчыкаў

Выўчаючы процэс распаду капіталістычнага сьвету, адзін сярод самых выдатных сучасных экономістых, Э Варга, кажа аб найбольш важных момантах гэтага распаду і адзначае адзін з іх—узрастаючы распад Брытанскае імпэрыі.

Брытанская імпэрыя і Ангельскае каралеўства. У звычайнай гутарцы гэтыя два паняцьці зьліваюцца ў нешта цэлае ды нявызначнае, і ў сьвядомасьці ня толькі шырокіх мас, але, нават, і колаў грамадзянства, маючых больш дачыненьня да палітычнага жыцьця, няма выразнага ўяўленьня таго, што Ангельскае каралеўства і Брытанская імпэрыя—гэта не адно й тое самае.

Сьвядомы ангельскі грамадзянін вельмі добра адрозьнівае гэтыя два паняцьці. Злучанае каралеўства, Вялікабрытанія ды Ірляндыя, якія ахопліваюць Ангельшчыну і Уэльс, Шотляндыю ды Ірляндыю—гэта адна з цэнтральных, над усёй Брытанскай імпэрыяй дамінуючых і пануючых, але ўсё-ж толькі частак Брытанскае імпэрыі. Грамадзянін злучанага Ангельскага каралеўства ведае, што паміж палітычным ладам, які пануе ў каралеўстве і палітычным ладам, пануючым у імпэрыі,—адлегласьць вялізарная. Ён ведае, што асноўныя костытуцыйныя законы, азначаючыя яго праўны стан—Habeas Corpus (1679), біл аб правох 1689 г. і Акт Устанаўленьня 1700 г.—існуюць толькі для яго, як грамадзяніна злучанага каралеўства і маюць моц толькі ў межах гэтага каралеўства. Ува ўсёй Брытанскай імпэрыі дзейнічаюць зусім іншыя законы, якія ў значнай большасьці выпадкаў не забясьпечваюць і не бароняць праў іншых жыхароў імпэрыі, бо забясьпечаны гэтымі законамі правы аднаго яго—грамадзяніна злучанага каралеўства. У злучаным каралеўстве ёсьць абмяжованы констытуцыяй кароль, які пануе, але ня кіруе, які з 1707 г. не скасаваў ніводнае парляманцкае пастановы. Абмяжованы монарх злучанага каралеўства—неабмяжованы монарх для пераважнай часткі Брытанскае імпэрыі і абмяжованы толькі для параўнаўча невялікае часткі. Як рэагавалі-б грамадзяне злучанага каралеўства, калі-б, імем ангельскага караля, унутры злучанага каралеўства пачала ажыцьцяўляцца тая практыка кіраваньня, якая гвалтоўна ажыцьцяўляецца ў пераважнай часьці Брытанскае імпэрыі.

Яшчэ ў 1902 г. ранейшы ангельскі памоцнік міністра ўнутраных спраў, лібэрал Herbert Samuel, з ведама выдатнага лідэра ангельскіх лібэралаў, Асквіта (H. H. Asquith), вось як характарызаваў Брытанскую імпэрыю і розьніцу паміж імпэрыяй і злучаным каралеўствам:

„Шмат ангельцаў прызвычаіліся гаварыць пра Брытанскую імпэрыю, як пра дзяржаву, якая складаецца з вольных, маючых сваё ўласнае кіраваньне народаў і як пра пашырэньне ангельскае нацыянальнасьці—„Вялікае Брытаніі“.

„Але гэта датычыць толькі аднае часткі імпэрыі, і да таго, часткі параўнаўча невялікае па колькасьці насельніцтва (Злуч. кар. І Г), хоця ўплыў яе і зьяўляецца пануючым.

„Імпэрыя—гэта больш пашырэньне ангельскага панаваньня, чымся пашырэньне ангельскага народу. Гэта—мешаніна. адну восьмую частку якое складаюць народы, што гавораць на ангельскай мове, а сем восьмых гэтае мешаніны—народы, чужыя ангельскай нацыянальнасьці па расе, мове і культуры, якія ў большасьці адчуваюць ярмо самаўладнага кіраўніцтва“. Калі гэтую характарыстыку, ня гледзячы на цэлы шэраг зьмен у праўным становішчы некаторых частак Брытанскае імпэрыі, магчыма агулам і ўцалку ўжыць у стасунку да сучаснае Брытанскае імпэрыі, дык тым больш яна адпавядае Брытанскай імпэрыі да 1902 году. У зьвязку з гэтым Ангельшчына мае ўнутрыімпэрскую, унутраную і па-замежную, політыку. Унутраную політыку, датычачую каралеўства і па-замежную датычную імпэрыі. Ангельская політыка ведае ўнутраныя справы—злуч. карал. і імпэрскія справы. Адносіны паміж па-замежнай і ўнутранай політыкай двох галоўных ангельскіх партыйных груповак—лібэралізму і консэрватызму—той самы Samuel характарызуе наступным спосабам:

„Прогрэсыцкае міністэрства часта прымушана бывае адкладаць унутраныя рэформы з прычыны неадкладнасьці імпэрскіх спраў, а рэакцыйныя міністэрствы і надалей трымаюць уладу ў сваіх руках ды ўхіляюць увагу ад сваіх няўдач ва ўнутранай політыцы так званымі па-замежнымі посьпехамі“ [1]).

Калі галоўная ўвага ангельскае полытыкі 70-ых год XIX ст. была скірована з унутраных спраў на імпэрскія, дык гэта вось і атрымала назву імпэрыялізму. А дзякуючы таму, што гэтая імпэрская політыка тычылася колёній, падуладных Ангельшчыне і ўваходзячых у склад Брытанскае імпэрыі, дык тэрмін імпэрыялізму быў перанесены на колёніяльную політыку іншых дзяржаў, а потым вельмі пашырыўся, як азначэньне сучаснае эпохі.

Паволі, цяжка, з вялікімі стратамі складалася Брытанская імпэрыя. З тых часоў, калі з канца XV сталецьця, крывавая хатняя барацьба, вядомая пад назвай „Барацьба Алай і Белай Розы“ (1455—1485), спынілася,

[1])Herbert Samuel—„Лібэралізм“ з прадмовай H. Asquithá. Расійскі пераклад Масква, 1906 г. Выданьне І. Раманава, ст. 393.

аслабіўшы фэўдальную арыстократыю, на перамозе протэстанцтва і ўмацаваньні на пасадзе ангельскага караля дынастыі Тюдораў, пачала ўзрастаць морская моц Ангельшчыны. Справа тут, бязумоўна, не ў перамозе аднае „Розы" над другой, а ў тым, што, разам з адкрыцьцем Амэрыкі, Ангельшчына апынулася ў асяродку тых шляхоў, на якіх ляжала далейшае разьвіцьцё міжнародных адносін, гандлю і прамысловасьці і ўсяе чалавецкае культуры на некалькі стагодзьдзяў наперад. Разьвіцьцё гандлю і прамысловасьці высунула буржуазію якая зрабіла сваю рэволюцыю і заклала аснову свайго панаваньня ў Ангельшчыне за 150 год да таго, як гэта зрабіла француская буржуазія Якраз за 40 год да рэволюцыі скончылася крывавая барацьба паміж Ангельшчынай і Шотляндыяй, зьнясіліўшая іх да апошняй ступені. Злучаныя ў 1603 г. пад аднэй уладай Якава I (Стюарта), Ангельшчына ды Шотляндыя ўтварылі Вялікабрытанію. Яшчэ да ўтварэньня Вялікабрытаніі росквіт ангельскага гандлю і прамысловасьці і вынікі выгоднага геаграфічнага становішча Ангельшчыны яскрава выявіліся ў часы Елізаветы (1558—1603), калі заснована было Ост-Індзкае Гандлёвае Таварыства (1600), калі пачалася колёнізацыя Паўночнае Амэрыкі, калі ўзмацнела мараходзтва, ды аж да падарожы наўкола сьвету капітана Дрэка, а да ўсіх гэтых падзей—у самай шчасьлівай акалічнасьці для ўсяе гісторыі Ангельшчыны: у адкрыцьці Паўночнага шляху ў Расію, да Архангельску ў 1553 г. Замацаваўшы пасьля дзьвюх рэволюцый сваё панаваньне, ангельская буржуазія ўпарта змагалася за гэгэмонію на моры з Гішпаніяй, а потым 100 год—з Францыяй. Перамогі над Наполеонам канчаткова замацоўваюць панаваньне Ангельшчыны над усімі морскімі шляхамі цывілізованага сьвету і, разам з тым, панаваньне Ангельшчыны над усім сусьветным гандлем ды прамысловасьцю.

Нездаволеная яшчэ гэтымі дасягненьнямі Ангельшчына і далей падпарадкуе пад сваю ўладу ўсё больш ды больш краін, вялізарная маса якіх і аб'яднана пад агульнай назвай Брытанскае імпэрыі. За ўвесь гэты час зьбіраньне Брытанскае імпэрыі мела адну толькі, але вельмі значную няўдачу—гэта адпад к канцу XVIII ст. П.-А. Злучаных Штатаў. Але той самы буржуазны нацыянальна-рэволюцыйны рух, які выклікаў адмаўленьне П.-А. Злучаных Штатаў, дае Ангельшчыне політычныя магчымасьці пашыраць свой уплыў і ўнутры Эўропы і па-за ёю.

Яшчэ ў часе наполеонаўскіх воен, адзін з самых выдатнейшых кіраўнікоў політыкі ангельскай буржуазіі, Канінг, казаў з прычыны Гішпанска-Амэрыканскай вайны (1826): „Гішпанская Амэрыка будзе вольнай, а калі мы ня дрэнна пакіруем справы, дык яна зробіцца ангельскай". Падтрымліваючы, з аднаго боку, барацьбу Паўднёвай Амэрыкі за незалежнасьць супроць Гішпаніі, Ангельшчына, з другога боку, падтрымлівала нацыянальна-рэволюцыйны рух Гішпаніі супроць наполеонаўскай Францыі, замацоўваючы і замацаваўшы з таго часу свой уплыў у Гішпаніі і зрабіўшы яе амаль падуладнай сабе аж да сёнешняга дня. Так-

сама Ангельшчына раптам пачынае надзвычайна цікавіцца элінскім вызваленчым рухам 20-х год XIX ст., прабуе замацавацца на Балканах і замацоўвае сваё панаваньне над Грэцыяй, якое цягнецца і дагэтуль.

Значна ранейшае, чымся ў іншых сучасных вялікіх дзяржавах, разьвіцьцё буржуазіі ў Ангельшчыне зьяўляецца прычынай разьвіцьця таго aptitude coloniale (колёніяльнае здольнасьці), якім намагаліся растлумачыць посьпехі ў колёніяльнай політыцы Ангельшчыны ў параўнаньні з іншымі дзяржавамі, асабліва з Францыяй.

Францыя амаль што раней выявіла сябе, як краіна, зацікаўленая мораплаўствам і заморскімі землямі, але каталіцкі ды фэўдальны уклад, ад якіх Францыя вызвалялася надзвычайна марудна, паралiжавалі яе колёнізатарскую чыннасьць.

На абшарах Канады францускі сьцяг зьяўляецца яшчэ ў 1506 годзе. У 1535 годзе Канада абвяшчаецца ўладаньнем францускае кароны. Фактычная колёнізацыя адбываецца ў той самы час, як і колёнізацыя Ангельшчынай тэрыторыі, утварыўшай з часам П.-А. Злучаныя Штаты. З Францыі ў Канаду эміграцыя йшла ўсё-ж вельмі марудна. Эмігравалі пераважна гэрэтыкі, якіх прыгнятала каталіцкая царква на радзіме. І ў ангельскую Амэрыку эмігравалі элемэнты, прагнаныя рэлігійнымі спрэчкамі ды ўціскам, але Ангельшчына патурала гэтай эміграцыі. Эміграваўшыя ў Амэрыку ангельцы спатыкалі там поўную магчымасьць вольнага разьвіцьця сваіх ідэй і рэлігійнай практыкі. На новай тэрыторыі вольна, лагодна ўжываліся розныя рэлігійныя сэкты й плыні. Францускія сэктанты не знаходзілі паратунку й на новых мясцох. Політыка францускае царквы і дзяржавы мела вынікам вельмі заўзятыя рэлігійныя спрэчкі ў Канадзе ўжо ў пачатку XVII стагодзьдзя. Карыстаючы з гэтых спрэчак, ангельцы захаплялі францускія колёніі і паслаблялі політычны ўплыў Францыі. Сяляне, што ўцякалі з Францыі ў Канаду, не спатыкалі там вольнага сялянскага жыцьця, магчымасьці наладзіць самастойную гаспадарку. Фэўдалізм мэтраполіі ў поўнай меры быў перанесены ў Канаду, дзе сяляне маглі жыць толькі на тэй зямлі, якую ўрад вялізнымі лятыфундыямі аддаваў дваранам, і селянін зноў трапляў у няволю. Каталіцкая царква, баючыся, што зямлю захопяць дваране, а тубыльцы і прышлыя насельнікі зробяцца рэччу эксплёатацыі выключна дваран, сьпяшалася прышчапіць царкоўны фэўдалізм і пасылала ў Канаду шмат манахаў, а міністар Людавіка XIII, Рышэлье, забараніў протэстантцкім місыонэрам жыць у Канадзе. Каталікі павінны былі быць ня толькі шчырымі каталікамі, але і французамі па нацыянальнасьці. Няма чаго й казаць, што жыды, якія адыгралі вялікую ролю ў разьвіцьці некаторых колёній Амэрыкі і эміграцыі якіх Ангельшчына вельмі часта патурала, ня мелі права жыць у францускіх колёніях. Няма чаго казаць і аб тым, што пры такіх умовах разьвіцьцё вытворчых сіл у францускіх колёніях ішло вельмі марудна, тымчасам як у ангельскіх колёніях яно ішло вялікімі кро-

камі. К палове XVIII стагодзьдзя Францыя ня мела ўжо магчымасьці змагацца з ангельскім уплывам у Паўночнай Амэрыцы. Пасьля цэлага шэрагу стычак Ангельшчына адбірае ад Францыі Канаду, што канчаткова санкцыянуецца Парыскай згодай 10 лютага 1763 г. Ангельшчына дасягае вышэйшага пункту заморскае моцы, Францыя-ж заморскі ўплыў амаль што зусім страціла [1]).

Як каталіцтва адыграла адмоўную ролю ў гісторыі францускае колёнізацыі, гэтак протэстанцтва адыграла вельмі станоўчую ролю ў ангельскай колёнізацыі. Кальвінізм, набыўшы аблік пурытанцтва, зьяўляецца рэлігіяй раньняга ангельскага капіталізму.

„Кальвінская дыаспора—гэта, разам з тым, рассаднік капіталістычнае гаспадаркі. Гішпанцы выказалі гэта з горкай раздумай у такой вось формуле: „Гэрэсь дапамагае гандлёваму духу", кажа дасьледца гаспадарчае гісторыі Готгэйн [2]). Мабыць наглядаючы колёніяльную чыннасьць ангельцаў, Монтэск'е ў „Духу законаў" адзначае, што ангельцы ў трох важных рэчах перавышаюць усе народы на сьвеце: у богабойнасьці, гандлі і вольнасьці" [3]).

Монтэск'е, мабыць, ня прышоў-бы да такога выніку, каб бачыў чыннасьць ангельцаў у Ірляндыі. І сапраўды, калі ў колёніяльнай палітыцы выяўляў сабе капіталізм, дык у ірляндзкай палітыцы ў поўнай меры выяўляў сябе фэўдалізм. Адпаведна гэтаму ангельскія колёніі ўзрасталі; Ірляндыя-ж занепадала.

Тэрмінам на мяжы двох эпох Ірляндыі—да і пасьля ўмацаваньня ангельскае ўлады—зьяўляецца 1169 г., калі на яе абшарах, якія разьдзіраліся на часткі фэўдальнымі спрэчкамі, прышлі, пакліканыя на дапамогу ірляндзкім каралём Дармодам, войскі ангельскага караля Гэнрыха II, каб уціск фэўдалаў ірляндзкіх замяніць уціскам фэўдалаў ангельскіх. Нібы дзеля таго, каб мець свабоднае поле чыннасьці ў колёніяльнай палітыцы і дзеля компэнсацыі за здабыткі ў самой Ангельшчыне ды Шотляндыі, ангельская буржуазія ахвяравала на рабунак ангельскім фэўдалам Ірляндыю. Ангельская буржуазія абмежавала Ірляндыю з другое паловы XVII сталецьця толькі ў сэнсе па-замежнага гандлю, прымусіўшы яе далучыцца да Навігацыйнага Акту 1651 г., забараніўшы Ірляндыі ўвозіць у Ангельшчыну заморскія тавары, авечак, шэрсьць і вырабы з яе. Фэўдалы-ж з моманту захопу Ірляндыі Ангэльшчынай пачалі ажыцьцяўляць політыку драпества Ірляндзкае зямлі. Зямля з рук ірляндзкіх фэўдалаў ды сялян пачала трапляць у рукі ангельскіх фэўдалаў. Протэсты і бунты ірляндзкіх фэўдалаў і сялян былі бязьлітасна задушаны; яны толькі дапамагалі таму, што яшчэ хутчэй адбіралі зямлю ад ірляндцаў ды аддавалі

---

[1]) гл. Барэцкі-Бэргфэльд. „Колониальная история западно-европейских континентальных стран". Выд. Брокгауз і Эфрон, Ленінград 1914 г., разьдзел IV.

[2]) С. Булгакоў. Народное хозяйство и религиозная личность.

[3]) Сборник „Два града". I том, стар. 189. Выд. „Путь". Москва 1911, г.

яе ангельцам. Калі да Ангельскай Рэформацыі 1534 г. барацьба адбывалася ў выглядзе расавай, нацыянальнай барацьбы паміж кэльтамі-ірляндцамі і гэрманцамі-ангельцамі, дык пасьля Рэформацыі барацьба за зямлю йшла нібы з-за рэлігійных супярэчнасьцяй—паміж каталікамі-ірляндцамі і протэстантамі-ангельцамі. Нарэшце, з 11 мільёнаў морганаў зямлі—9½ належалі 292 буйным і 1.942 сярэднім зямляўласьнікам, з якіх пераважная большасьць была ангельцаў[1]).

Уціск Ірляндыі страшэнна адбіваўся на яе разьвіцьці; яна хутка занепадала і на працягу XIX сталецьця страціла больш за палову свайго насельніцтва. З 8.295.000 жыхароў у 1848 г. лік іх паменшыўся да 4.438.000 у 1911 г.[2])

Калі Ірляндыя можа зьяўляцца прыкладам розных адносін Ангельшчыны да падлеглых ёй тэрыторый, дык, з другога боку, яна можа служыць яскравым прыкладам ахвяры, прынесенай ангельскай буржуазіяй ангельскім аграрам, у выніку саюзу паміж гэтымі дзьвюма пануючымі клясамі ангельскага грамадзянства.

Ужо ў 1907 г. ангелец Чэмбэрлен меў рацыю даводзіць, што ангельскі гандаль зьяўляецца найбольш моцным на ўсім сьвеце. З канца XVIII ст. ангельскі па-замежны гандаль пачынае ўзрастаць з непамернай хуткасьцю: „Гандаль яе з па-заэўропэйскімі краінамі патрапіў павялічыцца за 30 год, з 1790—1820 г. г., з 110 да 400 міл. марак, а па-замежны гандаль наогул павялічыўся, за час з 1787—1815 г. г., з 370 на 1.465 мільёнаў марак, з 1815-1840 г. г. ён патрапіў зноў узрасьці ў 2½ разы і дасягнуў у 1860 г. ўжо вялізарнае лічбы ў 385.000.000 фун. стэрлінгаў[3]). Вельмі разьвіўшы свой гандаль і прамысловасьць, Ангельшчына зьяўляецца гэгэмонам Эўропы і блізка што ўсяго сьвету амаль да самага канца XIX веку. Але ўжо з канца першай паловы XIX веку пачынаюць выяўляць сябе тыя фактары, якія павінны будуць у далейшым стаць на шляху ангельскай гэгэмоніі.

Калі Ангельшчына ўмацоўвала сваю гэгэмонію над Эўропай, Нямеччына не зьяўлялася яшчэ адзіным суцэльным гаспадарствам, а ляжала разарванай на 33 асобныя часткі; у такім самым становішчы знаходзілася і Італія; цяжка прыціснутая пятой прыгону спала Расія. 1848 год—выдатны год у гісторыі Эўропы—надзвычайна выдатны і для Англіі. Рэволюцыі гэткай, як у Францыі, Італіі, Нямеччыне, Аўстрыі, у Англіі не адбылося, але гэтая рэволюцыя адзначыла, што ў процівагу ангельскай буржуазіі, узмацняецца буржуазія іншых эўропэйскіх дзяржаў і, узмацнеўшы, наўрад ці згодзіцца трываць далейшую гэгэмонію ангельскае буржуазіі. Рух, адзначаны 38 г., канчаецца ў 60-х гадох. Вырастае адзіная Нямеччына, азначаецца становішча, як самастойнага гаспадарства, Аўст-

[1]) Gottlob fqelhaaf.—„Geschichte der neusten Zeit“ I в. Stutqart. 1924, s. 408.

[2]) Штогоднік Комінтэрну 23 г., стар. 684.

[3]) І. М. Кулішэр.—„Эволюцыя прибыли с капитала“ II том, стр. 8, Ленінград, 1908 г.

рыі, на бастыёнах Сэвастопалю, у Крымскую кампанію (1853-56 г. г.) расстрэльваецца расійскае прыгоньніцтва і адчыняюцца некаторыя магчымасьці для разьвіцьця расійскай буржуазіі. Моц Англіі была ня тольказ у разьвіцьці яе буржуазіі, але і ў прыпыненым, дзякуючы цэламу шэрагу прычын, разьвіцьці буржуазіі ў іншых эўропэйскіх гаспадарствах. Цяпер гэтая няроўнасьць у становішчы буржуазных кляс розных дзяржаў пачынае раўнавацца, і становішча Ангельшчыны паступова пачынае зьмяняцца. У 1871 годзе, з канцом француска-прускай вайны, канчаецца процэс канчатковага ўтварэньня нацыянальна-буржуазных гаспадарстваў Эўропы і з іх пачынае высоўвацца шпаркім узростам свайго гандлю, прамысловасьці і палітычнага значэньня Нямеччына. Вельмі хутка нямецкай буржуазіі робіцца цесна ў межах свайго нацыянальнага рынку, і праз якіх-небудзь 12 год, яна ўжо пачынае вызіраць за яго межы. Тыповае аграрнае гаспадарства, напоўколёнія Ангельшчыны аж да 40-х год XIX веку, Нямеччына з гэтага часу робіцца галоўным супрацоўнікам Ангельшчыны ў прамысловасьці і гандлі ня толькі ў Эўропе, але і ў сусьветным маштабе. У 1882 годзе Нямеччына, у асобе брэмэнскага купца Людэрыца, які купіў у аднаго афрыканскага князька вучастак зямлі, зьяўляецца ў Афрыцы. У 1848 годзе Нямецкае гаспадарства афіцыйна прымае гэты кавалачак Афрыкі пад сваю абарону. У тым самым 1848 годзе, які павінен быць шматкраць падкрэсьлены, як дата пачатку нямецкай колёніяльнай палітыкі і абвастрэньня супярэчнасьцяй паміж Нямеччынай і Ангельшчынай, па прыватнай ініцыятыве засноўваецца „Таварыства для зьдзяйсьненьня нямецкай колёнізацыі", якое разьвінае сваю чыннасьць у Афрыцы. Група гамбурскіх купцоў асталёўваецца ў Новай Гвінэі. К 1885 году ўзьнікае па прыватнай ініцыятыве Нямецкая Ўсходняя Афрыка, але і ўрад, на чале якога стаіць пакуль што прынцыповы супраціўнік колёніяльных набыткаў Бісмарк, усё-ж такі ў 1848 годзе па сваёй ініцыятыве набывае Того і Камэрун. З гэтага часу Нямеччына з кожным годам павялічвае свае колёніяльныя ўладаньні, зьдзяйсьняючы абвешчаны канцлерам Гогэнлёэ ў пачатку 90-х год прынцып, што Нямеччына „павінна паклапаціцца аб стварэньні *новых незалежных месц для збыту*".

Але й Ангельшчына ня спыніла, а ўзмацніла сваю экспансію, і Брытанская імпэрыя ўзрастала з надзвычайнай шпаркасьцю. З 1884 па 1900 год Брытанская імпэрыя павялічылася на чатыры мільёны кв. кілёмэтраў, а ў выніку вайны 1914-18 год—на два з паловаю мільёны кв. кілёмэтраў, далучыўшы 75 розных тэрыторый. З гэтым Брытанская імпэрыя дасягае свайго апогэю, ахапіўшы адну чвэрць зямной кулі і ўключыўшы ў сябе 450 мільёнаў насельніцтва. Але, разам з тым, як Брытанская імпэрыя дасягае свайго апогэю, рэзка пачынаюць кідацца ў вочы ўнутраныя прычыны яе нядужасьці. З 450 мільёнаў насельніцтва—усяго 65 мільёнаў эўропэйцаў і 385 мільёнаў каляровых. Але і з 65 мільёнаў эўропэй-

цаў толькі $37^{1}/_{2}$ мільёнаў сапраўдных ангельцаў. Сотні тэрыторый, надзвычайна рознастайных і рознародных, якія абсолютна немагчыма абхапіць адзінай сыстэмай, што здолела-б іх зьвязаць і ўключыць у адну імпэрыю. Шматвобразнасьць гаспадарчых форм—ад самых першабытных да самых дасканалых дасягненьняў капіталізму. Ангельшчына—краіна капіталістычная, але ня можна таго-ж самага сказаць пра Брытанскую імпэрыю. $85^{0}/_{0}$ Брытанскай імпэрыі знаходзіцца ў дакапіталістычным становішчы.

---

Ангельскія імпэрыялістыя ўвашлі ў вайну 1914-1918 год з вялікімі надзеямі, і вайна, як выходзіць, скончылася перамогай Ангельшчыны. У рачаістасьці-ж праўдзівае прадсказаньне аб канцы вайны зроблены ў красавіку 1916 году прадстаўнікамі левых рэволюцыйных плыняй у соцыялізьме, якія сабраліся на II Цымэрвальдзкую (Кіентальскую) конфэрэнцыю. Улічыўшы становішча Эўропы пасьля 2-х год вайны, конфэрэнцыя заявіла, што ў гэтай вайне ня можа быць ні пераможцаў, ні пераможных, што тут усе будуць пераможныя, у выніку таго высяленьня, якое нясе гэтая вайна.

Ангельшчына вышла ўдвая пераможанай.

Канец вайны ў сэнсе перамогі над ворагам ці наадварот, азначаецца тэй мэтай, якая стаіць перад ваюючай дзяржавай, тым, што яна дасягла гэтай мэты ці не. Мэтай вайны для Ангельшчыны было выбіць з сядла Нямеччыну, зьнішчыць яе морскую, прамысловую і гандлёвую магутнасьць, якая ў корані падрывала ангельскую гэгэмонію ў Эўропе, дзеля таго, каб умацаваць ангельскую гэгэмонію. Нямеччына, у выніку вайны, апынулася пераможанай, але плады папалі раней усяго С.-А. Злуч. Шт., якія, хоць і ўмяшаліся ў вайну ў канцы яе, але пасьпелі за 3 гады вайны прыдбаць на вайне вялізарныя багацьці. Пасьля таго, як Амэрыка ўвашла ў вайну і ўмяшалася ў эўропэйскія адносіны, яна ўжо не пакідае Эўропу без сваёй увагі, і ва ўсіх пунктах, дзе ў Эўропе і па-за ёй сутыкаюцца інтарэсы Ангельшчыны і Амэрыкі, першай прыходзіцца адыходзіць перад другой. Другой дзяржавай, якая выйграла ад вайны, у параўнаньні з Ангельшчынай, была Францыя.

Нямеччына толькі марыла аб „Сярэдзіннай імпэрыі“ ў Эўропе, г. ё. аб тым, каб падпарадкаваць сабе і зьвязаць у аднэй сыстэме ўсю сярэднюю Эўропу, ад узьбярэжжа Атлянтычнага акіяну да Міжземнага мора на поўдні, Віслы, Нёмну ці Дняпра—на ўсходзе. У выніку вайны, Вэрсальскай згоды, нядужасьці тых, што аддзяліліся ад былых Расійскай і Аўстрыйскай імпэрый, зямель, Францыя ў значнай ступені моцна злучыла гэтыя землі наўкол сябе, праўда, не органічна, у адну гандлёва-прамысловую, экономічную сыстэму, як аб гэтым марыла Нямеччына,—але ў саюз, зьвязаны інтарэсамі ваеннай абароны і нападу. Узрасла асабістая Сярэдзінная імпэрыя, якая процістаіць Ангельшчыне на шмат

якіх яе шляхох. Дый сама Францыя, далучыўшы Эльзас і Лётарынгію, захапіўшы Саарскі басэйн і Рур, набыла той грунт, на якім узрастала магутнасьць Нямеччыны, г. ё. нязвычайна багатае спалучэньне вугалю і жалеза,—і вырастае ў новага гэгэмона Эўропы.

Міхайла Паўловіч у аднэй з сваіх апошніх прац паказвае на тое, што „ў эканомічных адносінах імпэрыялістычная Францыя, ня гледзячы на катастрофічнае зьніжэньне яе валюты і вялізарную завінавачанасьць, можа разьлічаць, пры спрыяльных абставінах, зрабіцца непераможным конкурэнтам Ангельшчыны і выціснуць апошнюю з яе позыцый у Эўропе і заакіянскіх краінах“ [1]), галоўным чынам, дзякуючы багацьцю і спагаднаму спалучэньню жалезнай руды і каменнага вугалю.

У „Экономічным Жыцьці“ ад 19-1 23 г. Юр пісаў: „У 1922 г. Францыя ўжо пачала выпераджаць Ангельшчыну ў вытапленьні чыгуну. За 9 месяцаў 1922 году чыгуну было вытаплена 3.596 тысяч тон, супроць 3.432 тысяч тон у Ангельшчыне, г. ё. на 164 тысячы тон болей. Сталі вытаплена за той-жа тэрмін 3.207 тысяч тон супроць 4.159. Узрост францускай мэталюргіі выяўляецца з наступнага параўнаньня сярэдняга месячнага вырабу:

| Гады. | Ангельшчына. | | Францыя. | |
|---|---|---|---|---|
| | Чыгун. | Сталь. | Чыгун. | Сталь. |
| | У тысячах тон. | | У тысячах тон. | |
| 1913 | 869 | 659 | 434 | 390 |
| 1921 | 222 | 607 | 280 | 255 |
| 1922 | 382 | 462 | 400 | 357 |

У %% 1922 г. ў параўнаньні з 1913 г.

44% 70% 92% 90%

У Францыі на 10-га кастрычніка 1922 году працавалі 103 доменныя печы, ці 40,5 проц. усіх, колькі ёсьць; у Ангельшчыне—139, ці ўсяго 23,6 проц. усіх доменных печ [2]).

„Паветраны флёт Францыі“, гаворыць Міхайла Паўловіч, „дужэй за ангельскага, і наогул Францыя, дзякуючы свайму падводнаму флёту, вялізнай арміі, з дужэйшай артылерыяй, якая ў выпадку вайны магла-б трымаць пад абстрэлам усю Ляманскую затоку і забясьпечыць, у выпадку патрэбы, высаджваньне францускіх войск на ангельскім узьбярэжжы, зьяўляецца пагрозным ворагам для Ангельшчыны [3]). Вось чаму магчымасьць Ангельска-Францускай вайны мае ў міжнародных зносінах су-

[1]) М. Паўловіч—„Ленін і тэорыя звыш імпэрыялізму“. Збор артыкулаў. М. Паўловіч—„Ленін“. Масква 24 г. Выд. „Красная Новь“.

[2]) Паводле паказанага артыкулу М. Паўловіча.

[3]) Ibidem

часнай Эўропы тое самае значэньне, якое ў свой час мела магчымасьць Ангельска-Нямецкай вайны. А ў паслужным буржуазіі францускім друку ўзрастаюць тэорыі, як дзьве кроплі вады, падобныя на тыя тэорыя, якія разьвівалі даваенныя пангэрманістыя і якія можна-б было назваць панагліканізмам.

„У пачатку Лёндонскай Конфэрэнцыі“ (16/VII-16 VIII — 24 г.), апавядае францускі комуністы, Жак Садуль, „якая, відаць па ўсім, была накірована на тое, каб падарваць францускі імпэрыялізм, пан Ром'е, адказны рэдактар Journal Industrielle, заявіў, што ён верыць у будучыну францускай буржуазіі, зазначыўшы, што *паўночныя народы Эўропы знаходзяцца на шляху да заняпаду*“ (падкрэсьлена мною—пангэрманізм навыварат. І Г.) Ром'е дадае: „Калі мы здолеем унікнуць на працягу бліжэйшых 10-15 г. вайны,—Францыя зноў спазнае часы Людвіка XIV“, эпоха якога, як добра ўсім вядома, была эпохай францускай гэгэмоніі [2]) У гэтай клясычнай нататцы ўсё характэрна й цікава,—і гэты страх перад тым, што Францыі прыдзецца ваяваць раней чым яна пасьпее падрыхтавацца, страх, які так панаваў у Нямеччыне, Ангельшчыне і Францыі да вайны 1914 году, і гэта ўпэўненасьць у няўхільнасьці вайны і ў тым, што вайна, толькі адна вайна можа кардынальным спосабам разьвязаць усе супярэчнасьці.

Калі ўлічыць усе гэтыя вынікі, то аб перамозе Англіі над ворагам у выніку вайны казаць ня прыходзіцца.

---

За 3 гады вайны П.-А. Злуч. Шт. выперадзілі Ангельшчыну ў $2^1/_2$ разы ў галіне мэталюргіі і здабычы вугалю. Пачынаючы з 1914 да 1922 году, фунт стэрлінгаў у адносінах да доляру зьнізіўся на 30 проц. Ангельскі доўг за час вайны павялічыўся ў 11 раз. Да вайны гэтага доўгу прыходзілася на 16 фунтаў стэрлінгаў, пасьля-ж вайны ўжо на 174 фунты на душу ангельскага насельніцтва.

Але на Ангельшчыне адбілася ня толькі зьбядненьне яе самой, але й агульнае зґаленьне Эўропы. Дзьве пятых часткі даваеннага вывазу Ангельшчыны ў 6 мільярдаў рублёў прыпадалі на Эўропу. Вайна зьменшыла ангельскі экспорт для 1921 году больш, чым на 50 проц., у параўнаньні з 1913 годам. У 1922 годзе экспорт яшчэ паменшыўся і да гэтага часу ён узьнімаецца надзвычайна марудна. Гэта тым больш цяжка для Ангельшчыны, што тады, як экспорт зьяўляецца асновай яе экономікі, усё-ж такі ўвоз перавышае вываз. А трэба заўважыць, што гэтае перавышэньне было заўсёды, нават у часы вялізарнага вывазу, вельмі характэрным для па-замежнага гандлю Ангельшчыны. Яно (перавышэньне) компэнсавалася з 3-х крыніц. 1) Процантамі на вывезены з-за граніцы грашовы капітал. Ангельшчына была буйным сусьветным

---

[2]) Ж. Садуль.—„Новая фаза ў разьвіцьці францускага імпэрыялізму.“ „Красная Новь“ 24 г., кн. 7-8, сьнежань.

крэдытарам. Ня толькі буйныя капіталістыя, але й тысячы сярэдніх і дробных трымалі облігацыі або акцыі амэрыканскіх, аргэнтынскіх ці індыйскіх чыгунак, аўстралійскіх банкаў, чужаземных пазык, розных урадаў. 2) Прыбыткамі ад ангельскага гандлёвага флёту, які абслугоўваў увесь сусьветны гандаль і развозіў тавары рознай нацыянальнай продукцыі. 3) Прыбыткамі ад фактарства ў міжнародным гандлі. Лёндон, Манчэстэр і іншыя гарады Ангельшчыны заўсёды былі буйнейшымі асяродкамі міжнароднага гандлю і, купляючы чужаземныя тавары, прадавалі іх чужаземнаму-ж спажыўцу.

Але цяпер гэтае становішча з 3 артыкуламі „нябачнага экспорту“ карэнным спосабам зьмянілася. На першае месца ў якасьці сусьветнага крэдытара высунуліся П.-А. Злучан. Шт. У 1923 годзе Вялікабрытаніяй вывезена ў іншыя краіны 650 мільёнаў доляраў, Злучанымі Штатамі—390. У 1924 годзе Вялікабрытанія вывезла 592 мільёны, Злучаныя-ж Штаты страшэнную суму—1.280 мільёнаў доляраў[1]). Існуючы-ж у сучасны момант у Ангельшчыне экспорт капіталаў—у пераважнай сваёй большасьці ня што іншае, як прасуваньне праз Ангельшчыну амэрыканскіх капіталаў. Дзякуючы гэтаму, Ангельшчына зьяўляецца галоўным фактарам пры эксплёатацыі Эўропы. У процівагу ангельскаму гандлёваму флёту хутка ўзрастаюць флёты Амэрыкі, Японіі і ангельскіх домініёнаў. Дзеля таго, каб бачыць, наколькі Ангельшчына адсуваецца ў гэтым сэнсе ўзад, даволі толькі паказаць на тое, як зьмяншаецца значэньне не-амэрыканскіх, г. ё. пераважна ангельскіх суднаў, пры вывазе і ўвозе ў П.-А. Злучан. Штаты.

У 1910 годзе было перавезена 1.849 мільёнаў тон паклажы, прычым увоз на амэрыканскіх суднах—10 проц., вываз—7,5 проц.

У 1920 годзе было перавезена 2.234 мільёны тон. Увоз на амэрыканскіх суднах складаў 39 проц., вываз—45,1 проц.

Ролю фактара міжнароднага гандлю Ангельшчына, з узростам Нямеччыны, пачала траціць яшчэ да вайны; вайна канчаткова зруйнавала гэту яе ролю, якая ня можа аднавіцца з узростам гандлю П.-А.Злучан. Шт. і Японіі, з узростам гандлёвых адносін у Кітаі і іншых азіяцкіх краінах і ў ангельскіх домініёнах і колёніях. Разам з тым, не зьмяншаецца залежнасьць Ангельшчыны ад іншых краін у сэнсе атрыманьня сыравіны і рэчаў спажываньня. Толькі 12 проц. ангельскага насельніцтва займаецца апрацоўкай зямлі. Ангельшчына ўвозіць 85 проц. сельскагаспадарчых продуктаў. Маючы асноўнымі галінамі сваёй прамысловасьці тэкстыльную вытворчасьць і мэталюргію, яна жыве прывознай бавоўнай і, хоць у меншай меры, прывознай рудой; у адносінах бавоўны яна залежыць ад Амэрыкі, ад якой атрымоўвае 75 проц. патрэбнай бавоўны.

---

[1]) Д. Пепер—„Пытаньне аб ангельска-амэрыканскім імпэрыялісцкім супрацоўніцтве“. Комуніст. Інтэрнац. Сакавік 25 году.

Самае важнае пытаньне ангельскай экономікі—таварапамена з колёніямі.

Перш за ўсё тут спыняе нашую ўвагу Індыя.

Баваўняна-папяровая вытворчасьць здаўна зьяўлялася самай важнай вытворчасьцю насельніцтва Індыі і неабходным дадаткам да яго аграрнага існаваньня. Да канца XVIII веку Індыя вывозіла за межы значную колькасьць баваўняна-папяровых тканін саматужнага вырабу, якія конкуравалі з ангельскай продукцыяй. Яшчэ ў 1814 годзе Індыя, пашыраючы свае тавары на рынках Азіі і Эгіпту, вывезла таксама ў Ангельшчыну $1^1/_4$ мільёнаў кавалкаў. „Праз 7 год гэты лік зьнізіўся да $^1/_2$ мільёну, а ў 1835 годзе ён не перавышаў 300.000 кавалкаў". „У гэтыя самыя годы ўвоз ангельскай мануфактуры ў Індыю складаў: у 1814 годзе—800.000 ярдаў, у 1821 годзе—12.000.000, у 1835 годзе—30.000.000 ярдаў. Такім чынам, на працягу 20 год увоз баваўняна-папяровых вырабаў з Індыі ў Вялікабрытанію паменшаў у 8 раз, у той час як ангельскі ўвоз у Індыю ўзрос у 60 раз"[1]. Такая няроўнавага ў разьвіцьці тэкстыльнай прамысловасьці Індыі і Ангельшчыны была вынікам не натуральных экономічных магчымасьцяй Ангельшчыны і Індыі, а цынічна-яўных, гвалтоўна-політычных адносін: „Каб абараніць сваю маладую фабрычную тэкстыльную прамысловасьць ад небясьпечнага ворага, ангельскі ўрад наклаў вялізарныя забаронныя падаткі на тыя тканіны, якія ўвозяцца ў Ангельшчыну. У пачатку XIX веку гэтыя падаткі даходзілі да 83 проц. Ангельская-ж мануфактура, якую вывозілі ў Індыю, была на справе ад падатку звольнена"[2]. Ня гледзячы на ўсе абмежаваньні, індыйская тэкстыльная прамысловасьць усё-ж такі разьвівалася: „Першая ў Індыі баваўняна-папяровая фабрыка была пабудована ў 1818 годзе. У 1904 годзе ў краіне налічвалася 206 фабрык, у якіх працавала 15.000 ткацкіх варстатаў і 5.000.000 прадзільных машын[3]). За час вайны тэкстыльная прамысловасьць Індыі зрабіла вялізарныя посьпехі і зусім заступіла ангельскую продукцыю ў Індыі й пачала апаноўваць рынкамі па-за Індыяй. Пасьля вайны Ангельшчына пачала абмяжоўваць індыйскую продукцыю чыста політычнымі мерамі.

Гэтыя гвалты ўсё больш і больш загострываюць нацыянальна-рэволюцыйны рух у Індыі, які падганяецца пэрыодычнымі галадухамі шматлікіх мас індускага сялянства, лішка якога ня можа быць занята штучна затрымліваемай у сваім разьвіцьці прамысловасьцю. Міжнародныя здарэньні канца XIX веку і пачатку XX веку падтрымліваюць полымя гэтае нацыянальнае барацьбы, якая мае пад сабою здаровы экономічны грунт. Вымаганьні Гомрулю ў Ірляндыі, удачная вайна Абісыніі з Іат-

[1]) Б. Сэйгаль.—„Эволюцыя індыйскіх нацыянальных конгрэсаў". „Новый Восток" № 6. 1924 г.

[2]) Ibidem.

[3]) Ibidem.

ліяй (1898 г.), гэроічная барацьба бураў за незалежнасьць—гэткія найважныя здарэньні канца XIX веку, якія дапамагалі зацямненьню ангельскага імя ў вачох адукаванай часткі індускага грамадзтва [1]). Вялізнае ўражаньне зрабіла расійска-японская вайна. „У Манджурыі“, піша адзін індускі аўтар, „разьвіналіся здарэньні, якія адзначылі новую эру сусьветнай гісторыі. Японія выйграла расійска-японскую вайну: мільёнам індусаў перамога Японіі здавалася перамогай Усходу над Захадам, Азіі над Эўропай [2]). У сто раз большае ўражаньне зрабіла расійская рэволюцыя. Нядаўна Індыя мела магчымасьць дэманстраваць сваю нязгоднасьць з агульным укладам Брытанскае імпэрыі і тым месцам, якое яна ў ёй займае. Іменна, для дэманстрацыі адзінства Брытанскай імпэрыі, у пачатку 1924 г. ў Лёндоне была організована з вялікімі стратамі Брытанска-імпэрская выстаўка. Згодна організацыйных проспэктаў, выданых з прычыны адчыненьня выстаўкі, апошняя павінна была зьявіцца „сямейнай урачыстасьцю Брытанскай імпэрыі—яе першай сямейнай урачыстасьцю. З часу Вялікае вайны, калі ўвесь сьвет, зьдзіўлена расплюшчыўшы вочы, убачыў, што імпэрыя з соцень моў і рас уладае аднэй душой і думкай [3])“, і вось дэмонструецца разрыў па адным з галоўных швоў гэтае думкі—індуская прамысловасьць ня прымае ўдзелу ў гэтай выстаўцы.

---

Ці даўно Канада была ўзорнай сялянскай краінай, тыпова аграрнай колёніяй, вернаю дачкою свае маці—мэтрополіі. І вось Канада, роўная па плошчы СССР, робіцца вялізнай прамысловай дзяржавай. За 25 год прамысловасьць Канады вырасла ў 700 раз, чыгунак павялічылася ў 120 раз, амаль ня ўступаючы па гушчыні чыгунак Нямеччыне. Іменна, Брытанска-імпэрская выстаўка дэмонстравала экономічную самастойнасьць Канады. „Канада-Аўстралія“, піша корэспондэнт выстаўкі, „ілюструюць ужо не аграрны дадатак да прамысловасьці мэтрополіі, а высока разьвінутыя індустрыйныя краіны з найбагатшымі запасамі сырцу, які перапрацоўваюць на сваіх-жа фабрыках і заводах [4]). Як экономічна-самастойная краіна, яна мае свае асаблівыя, ня толькі ўнутраныя, але і міжнародныя інтарэсы. Як паказалі факты пасьля давайсковага часу, гэтыя інтарэсы ідуць якраз супроць інтарэсаў Ангельшчыны, а цяжкасьць экономічных узаемаадносін Канады пераносіцца ў П.-А. Зл. Штаты“.

Адна траціна канадзкай прамысловасьці і руды знаходзіцца ў руках Зл. Штатаў, якія таксама энэргічна фінансуюць дзяржаўны, муніцыпальны і прамысловы рух Канады. Дзяржаўныя і муніцыпальныя пазыкі Канады яскрава сьведчаць аб хуткім росьце самастойнасьці Канады,

---

1) Ibid.
2) Ibid.
3) Ірандуст. „Брытанская імпэрская выстаўка“ (пісьмо з Лёндону). Новы Ўсход № 6.
4) Ibid.

хутка растучым значэньні Зл. Штатаў і зьмяншэньні значэньня Ангельшчыны. Дзяржаўныя і муніцыпальныя пазыкі Канады разьмяркоўваліся наступным чынам:

| | Канада | Ангельшчына | Злучаныя Штаты |
|---|---|---|---|
| 1908 г. | 24,6 | 165,5 | 6,3 |
| | цераз 13 год | | |
| 1921 г. | 213,0 | 12,1 | 178,1 |

Ня менш паказальныя лічбы імпорту Ангельшчыны і Амэрыкі ў Канаду.

Процантныя адносіны між імпортам Ангельшчыны і Амэрыкі ў Канаду.

| | Ангельшчына | Злучаныя Штаты |
|---|---|---|
| 1913 г. | 21% | 65% |
| | цераз 9 ґод | |
| 1921 г. | 17% | 69% |

Імпорт у Канаду ўжо даўно ў руках Зл. Штатаў, а ў далейшым значэньне Англіі ўсё зьмяншаецца.

Да 1922 г. Канада імпартавала з Брытанскай імпэрыі на 117,9 міл. доляраў, з Злучаных Штатаў—на 509,8 міл. доляраў. У тым-жа годзе Канада экспартавала ў розныя часткі Брытанскай імпэрыі на 430,2 міл. доляраў і ў Злучаныя Штаты Амэрыкі—на 340,2 міл. доляраў [1]).

Балянс экспорту і імпорту не на карысьць Ангельшчыны.

У большай меры, чымся Канада, захоўвае да гэтых часоў аграрны характар Аўстралія, але і там пачынае хутка разьвінацца прамысловасьць. З 1901 г., калі 6 штатаў Аўстраліі аб'ядналіся ў Аўстралійскую рэспубліку, зьяўляецца тэндэнцыя ўвесьці протэктарскія мыты ў інтарэсах разьвіцьця ўласнае прамысловасьці. За час вайны, у сэнсе разьвіцьця прамысловасьці, былі дасягнуты вялікія посьпехі. Занятая вайной Эўропа дала колёніям магчымасьць здавальняцца сваімі фабрыкатамі і ў Аўстраліі вырасла прамысловасьць, аб разьмеры якой і хуткасьці росту можна судзіць па тым, што з студзеня 1916 г. па травень 1921 г. на яе было паложана да 400 міл. фунтаў стэрлінгаў.

Гэткім чынам адбываецца дэзынтэграцыя, распад Брытанскай імпэрыі на асобныя экономічна незалежныя краіны, якія павінны знайсьці і ўжо пачынаюць знаходзіць свой політычны выраз.

Мары аб стварэньні вялізнай аўтаркі, г. зн. ва ўсім сябе самаздавальняючую Брытанскую імпэрыю, губляюць усякую глебу. Ангельская консэрватыўная партыя высунула, прабавала і прабуе ажыцьцёвіць гэтую ідэю адзінае Брытаніі, зьвязаўшы мэтрополію і колёніі адзінай сыстэмай мытных тарыфай, якія-б абгароджвалі ўсе землі, што ўваходзяць у склад імпэрыі. Але гэты плян не ўдаецца. Доміниёны згодны абкладаць мытам чужаземныя тавары, але лічыць магчымым забясьпечыць сябе ад конку-

[1]) М. Бэр. „Ангельшчына сёньня". Выд. „Прибой". Ленінград.

рэнцыі самое мэтрополіі і вызначаць мыту на ангельскую продукцыю, якая прывозіцца да іх.

Распад капіталістычна-імпэрскай сыстэмы адбіваецца ў моцна скарочанай працы. Кожная колёнія імкнецца ўсё для сябе вырабляць. „Ва ўсіх частках імпэрыі“, піша Financiae Neus ад 16/VIII 1923 г., „асабліва ў Аўстраліі і Канадзе заўважаецца моцны рух, які імкнецца стварыць незалежную ад мэтрополіі прамысловасьць; у выніку гэтага нават замацаваньне за Англіяй рынкаў яе ўласных домініёнаў зробіцца для нас цяжкай задачай, і няма амаль ніякай надзеі, што мы здолем іх пашырыць і гэткім чынам бяз болю ўзнагародзіць сябе за страту рынкаў на Эўропэйскім контынэнце“ [1]).

Спробы зьвязаць імпэрыю, якая ўжо развальваецца, у адзіны гаспадарчы організм рабіліся на брытанскіх імпэрскіх конфэрэнцыях, пачынаючы з 1866 г., і чым пазьней зьбіралася конфэрэнцыя, тым яскравей яна дэмонстравала распад. Урэшце, на конфэрэнцыі 1923 г. міністар-прэзыдэнт Канады, Мэкэндзі-Кінг, заявіў, ня ставячы покі кропкі над і, але і не згаджаючыся на цэлы шэраг учынкаў мэтрополіі, у галіне замежнай імпэрскай політыкі, што „Канада зьяўляецца ўжо багатай прамысловай краінай, індустрыяльны вываз якой фактычна перарос ужо яе сельска-гаспадарчы экспорт“ [2]).

Робячы абагульваньне ўзаемаадносін між Ангельшчынай і Канадай, М. Бэр у сваёй выдатнай працы „Ангельшчына сёньня“ кажа наступнае: „Экономічнае разьвіцьцё Канады выяўляецца ўсё мацней і мацней *у формах нацыянальна-політычных*. Канада ўсё мацней адчувае сябе незалежнай нацыянальнасьцю: яна вымагае дыплёматычнага прызнаньня; яе ўзаемаадносіны з ангельскім урадам набываюць усё больш напружаны характар. Практыка, набытая Канадай у час сусьветнай вайны (з 1915 г. паны прэм‘ер-міністры брытанскіх домініёнаў прабаўляліся ў Лёндоне і ўваходзілі ў склад Вайсковага Савету), прымушае яе вымагаць, каб пытаньне аб вайне і згодзе разьвязвалася для яе не ангельскім урадам, а канадзкім парлямантам. Канада хоча мець уласны флёт і свой дыплёматычны корпус“.

Характэрны „Надзвычайныя перамаўленьні, якія вяла Канада з Зл. Шт. адносна лову рыбы каля берагоў Брытанскай Аляскі і Колюмбіі. Канада вымагала, каб адпаведная згода была падпісана ня брытанскім паслом у Вашынгтоне, а толькі прадстаўніком Канады і, ня гледзячы на протэст брытанскага ўраду, дамаглася свайго. Шэраг артыкулаў, апублікованых на гэты конт у Times‘e ад 13, 16 і 19 сакавіка 1923 г., паказвае, што гэты прэтэндэнт разглядае, як надзвычайна паважнае здарэньне, гісторыю Брытанскае імпэрыі“.

---

[1]) Ibid.

[2]) Ibid.

„Для тых колаў, якія ўважліва сачылі за ўсімі гэтымі здарэньнямі, ня было ўжо нечаканасьці ў заяве канадзкага прэм'ер-міністра, Мэкэндзі-Кінга, меўшай месца ў сярэдзіне траўня 1924 г., дзе ён зазначае, што перад Канадай адчыняюцца дзьве пэрспэктывы соцыяльна-палітычнага значэньня: або дыплёматычныя роўнапраўнасьці Канады з Ангельшчынай у межах Брытанскае імпэрыі, або далучэньне яе да Паўночна-Амэрыканск. Злучан. Штатаў. З часу помнага для ўсіх 1775 г. (заява Зл. Штатаў Амэрыкі перад адлучэньнем іх ад Ангельшчыны. І. Г.) ніводная ангельская колёнія не адважылася гаварыць такой мовай з Ангельшчынай".

Надзвычайна цяжкое было становішча Ангельшчыны перад Зл. Штатамі на Вашынгтонскай конфэрэнцыі (з 12/XI—21 г. па 6/II—22 г.), калі яна павінна была спакарыцца вымаганьням Зл. Штатаў і скараціць сваю вайскова-морскую програму, але яшчэ цяжэй было тое, што на гэтай конфэрэнцыі перад усім сьветам дэмонстравалася адсутнасьць адзінства Брытанскай імпэрыі і, болей таго, супярэчнасьці інтарэсаў між мэтрополіяй і доміniёнамі. Мала таго, што Брытанская імпэрыя была прадстаўлена не адным прадстаўніком ад Ангельшчыны, але і прадстаўнікамі ад доміniёнаў, дыплёматы доміniёнаў вельмі часта згаджаліся з Зл. Штатамі супроць жаданьня Ангельшчыны. Асабліва гэта было яскрава відаць у вадным з галоўных пытаньняў Вашынгтонскай конфэрэнцыі, аб ангельска-японскім саюзе, які існаваў з 1902 г., накіраваным супроць Зл. Штатаў. Пад уціскам Зл. Штатаў, падтрыманага доміniёнамі, асабліва Канадай, Ангельшчына прымушана была раскідаць гэты саюз. Надзвычайна цікавыя ў гэтым сэнсе факты апавядае наш савецкі дыплёмат А. Іофэ ў нядаўна надрукованай брошуры „Ангельшчына ў нашы дні". „У 1921 г. ангелец Ленокс Сымпсон, вядомы знаўца Кітаю, ціхаакіянскіх пытаньняў, што піша пад псэўдонімам „Путнім Уйл", які радзіўся і вырас у Кітаі і, ня гледзячы на сваё ангельскае пахаджэньне, сапраўдны сябра кітайскага народу, афіцыйна займаючы пасаду саветніка прэзыдэнта Кітайскай рэспублікі, па даручэньні кітайскага ўраду выехаў з сакрэтнай місіяй у Канаду, Зл. Штат. і Лёндон, а потым зьвярнуўся ў Амэрыку, дзе прыняў удзел у Вашынгтонскай конфэрэнцыі ў якасьці саветніка кітайскае дэлегацыі".

„У сваёй кніжцы ён апавядае, як брытанскія доміniёны, асабліва Канада, якая баялася таго, што ангельска-японскі саюз, у выпадку непаразуменьня між Амэрыкай і Японіяй, можа ўцягнуць іх у вайну супроць Зл. Штатаў, яшчэ ў 1921 г. на агульна-імпэрскай брытанскай конфэрэнцыі хацелі, каб раскідаць ґэты саюз (прычыны куды больш глыбокія, чымся зазначае аўтар—супаданьне экономічных, а дзеля таго і палітычных інтарэсаў Канады і Зл. Штатаў і супярэчнасьць інтарэсаў на Вялікім акіяне, Аўстраліі і Японіі. І. Г.), а ў Вашынгтоне падтрымлівалі амэрыканскую дыплёматыю ў гэтым вымаганьні. Надзвычайна паказаль-

ным зьяўляецца тое, што дыплёматы брытанскіх домініёнаў на Міжнароднай Конфэрэнцыі падтрымліваюць ня брытанскую, але амэрыканскую дыплёматыю" (Putman Weal. „An indiscreet chronicle i from tne Pacific" New-York, 22).

У прыватных гутарках з тым, хто піша гэтыя радкі (г. зн., А. Іофэ) Сымпсон апавядаў, як яго закулісная дзейнасьць і зносіны з прадстаўнікамі домініёнаў у час агульна-імпэрскай конфэрэнцыі выклікала такое абурэньне брытанскага ўраду, што апошні, ня маючы магчымасьці выслаць яго, як брытанскага падданага, прыватным спосабам запатрабаваў ад Пэкіну адозвы Сымпсона. Тады кітайскі ўрад вельмі хітра адказаў, што містэр Сымпсон лічыцца ў адпуску і ён ня мае права забараніць брытанскаму падданаму адбываць свой водпуск на сваёй радзіме. Я дазволіў сабе падаць гэты доўгі выпіс дзеля надзвычайнае цікавасьці паведамленьня тав. Іофэ.

Надзвычайна гостра супроць жаданьня Ангельшчыны было пастаўлена Аўстраліяй, падтрыманае другімі домініёнамі пытаньне аб умацаваньні Сынгапуру.

Калі ў свой час Злуч. Штаты абвясьцілі, што Амэрыка для амэрыканцаў, а пазьней Японія, што Азія—для азыятаў, дык Аўстралія заявіла, што Аўстралія для аўстралійцаў, прычым пад аўстралійцамі ня трэба разумець старое чорнаскурае жыхарства Аўстраліі, якое было бязьлітасна перабіта і адмерла, выгнанае ў цэнтральныя пустыні Аўстраліі, а новых аўстралійцаў, пераважна ангельца-саксаў. Гэтыя нова-аўстралійцы, змагаючыся з азыяцкай эміграцыяй у Аўстралію, асабліва японскай, зусім забаранілі эміграцыю. Імкнучыся да пашырэньня свайго ўплыву на востраве Океаніі, Аўстралія скрозь стыкаецца з Японіяй, не заўсёды знаходзячы спачуцьцё і падтрыманьне Ангельшчыны і бачыць новую і больш магутную сілу, на якой яна можа грунтавацца і якая спагадае ёй—Зл. Штаты—і блёкіруецца з ёю наўпрэкі Ангельшчыне.

У свой час у Ангельшчыне, іменна дзеля абароны ад Японіі, гостра стаяла пытаньне аб стварэньні вайсковае базы на Сынгапуры, востраве, які знаходзіцца каля берагоў поўвостраву Малака, каля выхаду з Малакскае пратокі, на важнейшым шляху з Індыйскага ў Вялікі акіян, з Суэцу ў Аўстралію і Новую Зэляндыю і з Індыі—на Дальні Ўсход. Некаторыя аўторытэты лічаць Сынгапур—гэтыя „дзьверы ў Ціхі акіян"—больш важнай стратэгічнай базай, чымся Гібральтар, Мальта і Адэн. Ангельшчына ўжо ўлажыла колёсальныя сродкі на будову порту ў Сынгапуры і на вайсковыя ўмацаваньні, але дзеля таго, каб зрабіць гэты пункт сапраўднай вайсковай базай, патрэбна страта яшчэ 110-150 мільёнаў рублёў золатам. Гэткія страты цяпер для Ангельшчыны надзвычайна цяжкія. Дзякуючы прыемнай выпадковасьці—двохразоваму зямлятрасенью ў Японіі, якое надзвычайна яе аслабіла, Ангельшчына магла-б часова ўстрымацца з гэтымі стратамі і зрабіць сякія-такія страты, каб пабудаваць

базу на Паўднёвым Захадзе Афрыкі, каля рогу Добрае Надзеі. Гэтая задача для Ангельшчыны жыцьцёва-важная, на выпадак, калі ў час вайны з Француыяй апошняй удасца зачыніць Суэцкі канал. Але Аўстралія вельмі баіцца Японіі і дамаглася асыгнаваньня сродкаў на ўмацаваньне Сынгапуру, выразна паказваючы на тое, што інакш ёй давядзецца шукаць протэктарства ў П.-А. Злуч. Штат.

Абуджэньне афрыканскіх колёніяльных народаў ставіць пад пытаньне панаваньне ангельскага капіталу ў Афрыцы,—тым больш, што і сярод зноў узросшай нацыі „афрыкандэраў", г. зн. акліматызованых на працягу некалькіх пакаленьняў у Афрыцы белых, на глебе аслабленьня Ангельшчыны і нявыгоднасьці знаходзіцца ў складзе Брытанскае імпэрыі, узьнята пытаньне аб нацыянальным самавызначэньні. Як відаць, мала хто зьвярнуў увагу на важнейшае паведамленьне, што зьявілася ў „Правде" ад 17 мая 1925 г., якое мы падаем цалком. „Лёндон. 15 мая (Роста). У афіцыяльным органе паўднёва-афрыканскай партыі нацыяналістых (буржуазная партыя, якая сумесна з рабочай партыяй трымае ўладу ў Паўднёва-Афрыканскім Саюзе), апублікованы дзівосны артыкул, у якім гаворыцца: „З пункту зроку тысяч афрыканцаў (уроджаных Афрыкі) Вялікабрытанія была і ёсьць заваявальніцай і парушніцай нашага былога сувэрэнітэту. Мы жадаем зноў дамагчыся гэтага сувэрэнітэту і ня маем на воку хаваць гэтую нашу мэту". Артыкул гэты адбудзіў вялікую ўвагу у паўднёва-афрыканскіх палітычных колах.

Найважнейшую ролю ў гэтым руху к падзелу Брытанскае імпэрыі йграе экспансія сучаснага сусьветнага гэгэмона, П.-А. Злуч. Штаты, якія markознымі спосабамі і вельмі энэргічна дапамагаюць гэтаму падзелу, ня гледзячы на ўмову між абедзьвюма краінамі і частыя выпадкі сумеснага і згоджанага выступленьня супроць агульнага ворага, у тых выпадках, калі можна дзе-небудзь адпаведным націскам што-небудзь набыць. Але пытаньні ангельска-афрыканскіх і ангельска-амэрыканскіх адносін павінны зьявіцца прадметам спэцыяльных артыкулаў.

У Ангельшчыне існуе Комітэт па „разьвіцьці багацьцяў Імпэрыі", як паведамляе буйны ангельскі экономісты Джон Гобсон у сваёй новай працы „Проблемы новага сьвету" (Падана ў „Красной Нови" 1924 г., кн. 4). Комітэт гэты ў самым пачатку вайны рэклямаваў свой плян „імпэрыялізацыі" падлеглых Англіі роўнікавых краін і высмоктваньня з рабочых тубыльцаў дывідэнту для прыватных сындыкатаў і даходу для імпэрскае скарбніцы". І цяпер гэтыя адкрытыя пляны ангельскіх імпэрыялістых спаткаюць усё больш і больш перашкоды. Распад Брытанскае імпэрыі адчуваецца надзвычайнымі ўнутранымі крызісамі ў самой Ангельшчыне, загострывае клясавую барацьбу, спагадае загострываньню міжнародных адносін і падрыхтоўцы рэволюцыйных сытуацый у Эўропе.

# ЗЯМЕЛЬНАЯ ПОЛІТЫКА Ў ПОЛЬШЧЫ

**Ул. Каліноўскі.**

Беларускі і украінскі селянін яшчэ падчас прыгону, працуючы на памешчыка, пакутваў ад малазямельля. З моманту вызваленьня ў Расіі сялян з-пад прыгону, становішча гэта ў некаторых мясцовасьцях яшчэ пагоршылася, бо здаралася, што плошча так званых „указных“ сялянскіх зямель была меншая за тую, якой сяляне карысталіся ад памешчыка. Гэту характэрную асаблівасьць вызваленьня сялян падкрэсьлівае досыць популярнае перайменаваньне выразу: „Вызваленьне сялян з-пад прыгону“ на—„Вызваленьне сялян ад зямлі“.

Прыкладам будзе ніжэйшае. Пасьля вызваленьня сялян з-пад прыгону, некаторыя вёскі Роскай воласьці Ваўкавыскага павету, якія належалі да польскага магната грапа Патоцкага, атрымалі зямлі меней, чымся мелі да вызваленьня. Ня маючы магчымасьці пражыць на выдзеленых ім „указных“ землях, сяляне выпрасілі памешчыка аддаць ім у арэнду такую частку зямлі, якая-б дапаўняла „ўказную“ плошчу да тае, якую яны мелі да вызваленьня. Памешчык згадзіўся. Такое становішча з зямлёй у сялян цягнулася аж да 23 году. У гэтым годзе наступнік Патоцкіх—грап Браніцкі, па невядомых прычынах, зямлю гэтую ад сялян адабраў, і сяляне апынуліся літаральна ў бязвыходным становішчы.

Насельніцтва вёсак павялічылася; шмат хто, дзякуючы беспрацоўю ў гарадох, вяртаўся ў вёску „на зямлю“, а зямлі гэтай яшчэ „пан“ паменшыў. Гэткіх выпадкаў было ня мала.

Мы ведаем, што да вайны ў Расіі аграрнае пытаньне было адным з важнейшых. Аб тым, як яго разьвязваў або прабаваў разьвязаць ранейшы расійскі ўрад, мы тут гаварыць ня будзем. Скажам толькі, што, апрача асобных мерапрыемстваў, якія мелі характар поліятываў, зямельнае пытаньне ў Расіі так і заставалася ўвесь час неразьвязаным.

Савецкі ўрад на абшары Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік зямельнае пытаньне разьвязаў раз назаўсёды. Што-ж датычыць часткі Беларусі і Украіны, якія апынуліся выпадкова, дзякуючы „чуду над Вислой“, пад польскай уладай, дык там становішча застаецца такім, якое пакінуў па сабе быўшы царскі ўрад.

Цяпер разгледзім крыху падрабязьней тыя даныя, якія з зямельнага пытаньня ў Заходніх Беларусі і Украіне стварылі для Польшчы „Дамоклаў меч“. З. Людкевіч, быўшы нядаўна ў габінэце Грабскага міністрам зямельнай рэформы, у кнізе сваёй: „Аграрная політыка“ (ст. 39) падае характэрную табліцу процантнага стасунку зямляўласьніцтва да агульнай плошчы на Літве і Беларусі і на Русі[1]) (Украіне).

| | Літва і Беларусь. | Русь (Украіна). |
|---|---|---|
| Прыватная ўласнасьць. . . . . | 54,0% | 46,3% |
| Сялянскія ўказныя землі . . . . | 35,5% | 43,6% |
| Скарбовыя землі. . . . . . . | 7,6% | 5,4% |
| Землі ўдзельныя і габінэцкія . . . | 0,7% | 1,5% |
| Землі манастырскія, гарадзкія і розных устаноў. | 1,2% | 3,1% |

Мы бачым, такім чынам, што сялянская маса мае меншую палову зямлі, а большая знаходзіцца ў памешчыкаў, шляхты і невялікай групы забагацеўшых сялян. А калі, апрача гэтага, узяць пад увагу праспалосіцу сялянскіх зямель, а таксама і тое, што ў Беларусі пад ворыва ў сярэднім занята ня больш 35 проц. усёй плошчы, што, дзякуючы адсутнасьці прамысловых цэнтраў, амаль што ўся сялянская маса застаецца „на зямлі“, і што глеба Беларусі па сваёй ураджайнасьці толькі ледзь-ледзь можа быць названа сярэдняй, дык стане зусім відавочнай тая сьцісласьць сялян і той зямельны голад, які прымушае заходніх беларусаў што раз, то ўсё больш настойліва і ўпарта вымагаць ад польскага ўраду разьвязаньня зямельнага пытаньня. На Украіне ў гэтым стасунку становішча толькі тым крыху ляпей, што там плошча заворанай зямлі складае, прыблізна, 55 проц. агульнай плошчы зямлі.

Той самы профэсар і быўшы міністар Людкевіч, аб якім гаварылася раней, у сваёй кнізе: „Зямельнае пытаньне ў Польшы“ (стар. 19) гаворыць: „Сапраўднымі краінамі буйнага зямляўласьніцтва зьяўляюцца Літва з Беларусьсю і Русь (Украіна)“.

Такім чынам і польская аўторытэтная думка падтрымлівае заяву сялян Беларусі і Украіны аб тым, што ім не хапае зямлі, а ў памешчыкаў яе занадта шмат.

Вось якія ў кароткім нарысе зямельныя ўзаемаадносіны ў тэй часьцы Польскае рэспублікі, якая па той бок кардону называецца „Крэсы всходне“.

Аграрнае пытаньне на гэтых „крэсах“, якія апынуліся пад уладай Польшчы, у сучасны момант зьяўляецца бязумоўна вастрэйшым, чымся да ўсясьветнай вайны. Цяпер з гэтым пытаньнем неразрыўна зьвязана пытаньне клясавае і нацыянальнае і, што таксама вельмі важна,—прыклад усходу—Савецкіх Рэспублік, дзе „з краіны буйнага зямляўласьніцтва“ ўлада рабочых і сялян зрабіла край *сялянскага зямляўласьніцтва*.

Польскі ўрад і польскія памешчыкі, што ў істоце рэчы адно і тое самае, разумеюць сур'ёзнасьць зямельнага пытаньня, але прагавітасьць

[1]) З. Людкевіч, як і ўсе іншыя ў Польшчы, замест назвы „Украіна“, амаль што заўсёды ўжывае „Русь“. Ул. К.

перамагае ў іх нават і розум. Аддаць хоць-бы частку зямлі для безьзямельных і малазямельных сялян польскія памешчыкі з прычыны гэтага ня могуць, але й пакінуць зямельнае пытаньне бяз усякае ўвагі таксама не адважваюцца. У выніку выяўляецца, з аднаго боку, палітыка абяцанак у выглядзе шэрагу законаў і законапроэктаў аб зямельнай рэформе, якія застаюцца толькі на паперы, і з другога—спробы стварыць відавочнасьць якогась разьвязаньня зямельнага пытаньня шляхам колёнізацыі Заходніх Беларусі і Украіны так званымі „вайсковымі асаднікамі“.

Асяляючы на Беларусі і Украіне колёністых, польскі ўрад, як яму здаецца, забівае гэтым нават ня двух, а трох зайцоў; з аднаго боку, полёнізуе Беларусь і Украіну, а з другога—дамагаецца, шляхам зямельных надзелаў хоць-бы для часткі самых актыўных і нездаволеных сваім становішчам людзей польскага пахаджэньня, аслабіць сярод тубыльнага польскага насельніцтва вострасьць зямельнага крызісу і крыху адцягнуць канчатковае ажыцьцяўленьне зямельнай рэформы. І нарэшце, як гэта было ўжо адзначана раней, выратоўвае свае маёнткі. Гэткая палітыка, зразумела, разьлічана на невялікі тэрмін, але псыхолёгія буржуазіі і капіталістых была такой ня толькі ў нашыя часы; прынцып—„Пасьля нас хоць патоп“ захаваўся тут больш, чымся дзе ў іншых краінах.

Перад тым, як спыніцца на характэрных польскіх законах у галіне зямельнай рэформы, зробім кароткі агляд галоўнейшых законаў і законапроэктаў гэтай галіны.

Першым, так званым, уставадаўчым соймам, быў прыняты 7 мая 1920 году закон аб ліквідацыі сэрвітутаў.

На Беларусі і Украіне колькасьць сэрвітутаў, гэтых анахронізмаў у галіне сельскай гаспадаркі,—вельмі значная.

У сваёй кнізе: „Аграрная палітыка“ (стар. 204 і 205) проф. Людкевіч прыводзіць наступныя характэрныя даныя аб колькасьці сэрвітутаў у Заходніх Беларусі і Украіне.

| НАЗВА ГУБЭРАНЬ | Колькасьць сялянскіх гаспадарак, якія карыстаюцца сэрвітутамі | % гаспадарак, якія карыстаюцца сэрвітутамі ў стасунку да агульнай колькасьці сялянскіх гаспадарак | Колькасьць сэрвітутаў | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Сэрвітуты—выганы | Сэрвітуты—лясныя пашы | Іншыя віды сэрвітутаў | Некалькі сэрвітутаў разам |
| Віленская . . | 23.881 | 48.6 | 8.306 | 17.609 | 876 | 2.950 |
| Горадзенская . | 27.461 | 59.5 | 20.430 | 9.990 | 3.459 | 5.225 |
| Менская. . . | 49.248 | 59.2 | 27.318 | 28.949 | 4.782 | 9.805 |

У стасунку да Менскай губэрні трэба ўзяць пад увагу, што прыведзеныя даныя датычаць губэрні ў даваенных межах.

На Валыні сэрвітутамі карысталіся 89.432 сялянскія гаспадаркі, г. ё. 71 проц. агульнага ліку гэтых гаспадарак.

Даныя лічбы гавораць аб тым ненормальным становішчы сялянскіх гаспадарак, якое існавала да вайны ў Беларусі і Украіне і існуе яшчэ на тых частках гэтых зямель, якія адышлі да Польшчы.

Мы бачым, што ў большай паловы сялянства пашы для скаціны сэрвітутныя, гэта значыць, што на $^{3}/_{4}$ яны залежаць або ад памешчыкаў, або ад дзяржавы, калі зямля ці лясы дзяржаўныя.

Такая важная галіна сялянскае гаспадаркі, як жывёлаводзтва і ўгнаеньне палёў (наша сялянства штучнага ўгнаеньня амаль што ня ведае), якая ў значнай меры залежыць ад колькасьці пашы, для нашага селяніна была, а ў Польшчы і цяпер зьяўляецца фактарам, які ня мае моцнага грунту.

Казаць шмат аб адмоўных баках сэрвітутаў наогул не выпадае: гэта ўсім і так даўно і добра вядома.

У часе сусьветнай вайны, калі значная частка насельніцтва Беларусі і Украіны эвакуавалася, а тая, што засталася, шмат перацярпела,— многа рознастайных дакумантаў як дзяржаўнага і грамадзянскага, так і асабістага характару,—загінула. Шмат сялян таксама парастрацілі тыя дакуманты, якія сьведчылі аб іх сэрвітутных правох на той ці іншы зямельны вучастак.

Цяпер польскія памешчыкі і нават дзяржаўныя зямельныя ўстановы не дазваляюць сялянам карыстацца сэрвітутным правам, пакуль не атрымаюць ад іх адпаведных дакумантаў. Калі-ж дакумантаў гэтых сяляне не прад'яўляюць, дык ім забараняецца карыстацца сэрвітутамі. Беларуская соймавая фракцыя ўцалку і паасобныя беларускія дэпутаты маюць сотні сялянскіх скарг—заяў на тое, што ад іх неправілова адабралі сэрвітуты. Вельмі часта здараецца, што сяляне і ўлетку прымушаны трымаць скаціну ў хлявох, бо па загаду памешчыка паліцыя часамі ўзброенай сілай забараняе сялянам карыстацца сэрвітутамі (пашамі). Колькі беларусаў і украінцаў з-за гэтых сэрвітутных спраў сядзіць у польскіх вастрогах—палічыць трудна; вядома толькі адно, што процант гэтых „непакорных уладзе памешчыка бальшавікоў“ досыць значны.

Ну, а навошта-ж тады, запытаецца чытач, існуе ў Польшчы закон аб ліквідаваньні сэрвітутаў? Прадстаўнікі ўрадавых зямельных установ адказвалі на гэта незразумелае пытаньне, што ўлада-ж занята ў першую чаргу колёнізацыяй „крэсаў“ і ўжо па выкананьні гэтага заданьня возьмецца за ліквідаваньне сэрвітутаў. Справа гэта, як думае польскі ўрад,— ня сьпешная. І сапраўды дагэтуль ніводнага разу ня прыходзілася чуць аб ліквідаваньні хаця-б аднаго сэрвітуту на падставе вышэйадзначанага закону. Навошта панам ліквідаваць сэрвітуты згодна закону, які прадугледае ўсё-ж такі выдзяленьне сялянам ва ўласнасьць невялікае часткі сэрвітутнага вучастку зямлі, калі ў большасьці выпадкаў зьяўляецца

магчымым ліквідаваць сэрвітут „явачным“ парадкам, з прычыны таго, што не прадстаўлены згубленыя ў часе вайны дакуманты, і ня даць сялянам ніводнага кавалачку зямлі з сэрвітуту.

Некалькі слоў цяпер аб самым польскім законе ад 7 мая 1920 г., які прадуглядае ліквідацыю сэрвітутаў. Гэты закон зьяўляецца амаль што копіяй законапроэкта, унесенага расійскім царскім урадам у дзяржаўную думу яшчэ ў 1913 годзе.

Зразумела, што гэты закон прадуглядае і забясьпечвае інтарэсы буйнага зямляўласьніцтва на шкоду сялянству. Аднак і гэты, зусім не дасканалы закон не падабаецца паном, і з прычыны гэтага вось ужо ў працягу 5 год застаецца без ажыцьцяўленьня.

Усьлед за гэтым „мертвароджаным“ законам аб сэрвітутах, Сойм прыняў яшчэ адзін закон, які датычыць зямельнага пытаньня і вядомы пад назваю „закон ад 15 ліпеня 1920 году аб выкананьні зямельнай рэформы“. Тут трэба зьвярнуць увагу, калі ўхвалены гэты закон. Савецка-польская вайна прымусіла тады Сойм прыняць яго. У істоце рэчы закон гэты даваў сялянству надта мала, але гэтым хоць і тэорытычна першы раз у Польшчы быў установлены максымум зямляўласьніцтва. Для ўсходніх ускраін гэты максымум вызначаўся ў 600 гэктараў, а для ўсёй астатняй Польшчы—у 400 гэктараў. Каб надаць заўзятасьці і бадзёрасьці польскаму сялянскаму пролетарыяту ў справе абароны інтарэсаў польскіх памешчыкаў, апошнія і выдалі гэты хаця і нікчэмны, але ўсё-ж такі які-небудзь закон аб зямельнай рэформе.

Ня гледзячы на тое, што памянуты закон быў апублікованы ў „Дзеньніку Законаў“ і павінен быў набыць сілу, ужо 5 год ён ніякай моцы ня мае. Мэта гэтага закону была выканана; яму хоць на кароткі час, але паверылі, а гэтага толькі і трэба было... Аддаваць землі хоць-бы за выкуп, але не па спэкуляцыйным цэнам, памешчыкі ня мелі на ўвазе і ніколі ня зьбіраліся; для іх больш выгадным зьяўляецца эксплёатацыя сялян, прымушаных, дзеля таго, каб не памерці з голаду, браць зямлю ў пана на трэці, а часамі і на другі сноп.

Профэсар Людкевіч у кнізе „Аграрная політыка“ (стар. 258) гаворыць аб рэформе: „У 1917 годзерасійская рэволюцыя высунула на самае віднае месца ў гаспадарчым і грамадзянскім жыцьці аграрную рэформу ў такім яе выглядзе, у якім яе разумелі левыя партыі. З Расіі лёзунгі аграрнай рэформы распаўсюдзіліся па краінах усходняй і сярэдняй Эўропы. Аднак асобныя краіны зразумелі гэтыя лёзунгі кожная пасвойму. Кожнай з гэтых краін важна была не доктрына, а магчымасьць урэгуляваньня жыцьцёвых пытаньняў, якія не магчыма было адкладваць“. Падаяная думка профэсара Людкевіча падтрымлівае мяне ў тым, што я толькі што сказаў аб польскіх аграрных законах, якія зьяўляюцца ня мэтай, а сродкам. Хутка пасьля зацьверджаньня Соймам закону ад 15 ліпня 1920 г. аб ім змоўклі. Абдуранае сялянства чакала, што вось зараз

пачнецца ажыцьцяўленьне нейкай зямельнай рэформы. Ня так, зразумела, думалі тыя, хто знарок ашукваў гэтым законам сялян Польшчы. Аднак нешта-ж трэба было зрабіць для таго, каб адхіліць увагу польскіх сялян ад ашуканства памешчыкаў. І вось 17 сьнежня 1920 году Соймам былі прыняты два законы: першы аб залічэньні ва ўласнасьць дзяржавы зямель у некаторых паветах (чытай—беларускіх і украінскіх) Польшчы, і другі—аб надзяленьні зямлёй жаўнераў польскае арміі.

Апрача полёнізацыі і колёнізацыі Заходніх Беларусі і Украіны, законы гэтыя павінны былі стварыць уражаньне, нібы яны зьяўляюцца пачаткам або ўступам да выкананьня хоць і невялічкіх, але ўсё-ж такі абавязкаў па закону аб зямельнай рэформе ад 15 ліпеня 1920 г.

Зрабіўшы вялізную матэрыяльную і моральную шкоду беларускаму і украінскаму народам, адзначаныя вышэй два законы, выданыя ў сьнежні 1920 г., з пункту погляду польскай дзяржаўнасьці і грамадзянскасьці ня выправдалі сябе нават, як атракцыя. Аднак нейкую-ж зямельную рэформу трэба было ажыцьцяўляць, „замаўчаць“ закон ад 15 ліпня 1920 году аб зямельнай рэформе рабілася ўсё цяжэй і цяжэй. Тады пад уплывам буйных зямельных уласьнікаў пачалі ўсё мацней і мацней гучэць галасы, якія крытыкавалі даны злыбедны закон і даводзілі, што яго немагчыма ажыцьцявіць... Урэшце, немагчымае, здавалася-б, сталася магчымым: зацьверджаны і апублікованы закон не зрабіўся законам. Так сталася па жаданьні буйных зямляўласьнікаў Польшчы. Польскія памешчыкі, якія адчувалі магчымасьць небясьпекі для сябе ў законе 15 ліпеня 1920 году, яшчэ задоўга да выбараў у другі Сойм у 1922 годзе, аб'ядналіся і стварылі ў Варшаве цэнтр, „саюз памешчыкаў“, дзеля абароны сваіх „профэсыянальных“ інтарэсаў.

Памешчыкі пастанавілі ніводнага кавалачку сваёй зямлі не аддаваць,—гэта як практычнае мерапрыемства; а тэорытычна, дзякуючы ўмовам часу, і ў далейшым ашукваць сялянства, робячы выгляд, што вось зараз Соймам будзе зацьверджаны сапраўдны, правіловы і канчаткова аформаваны закон аб зямельнай рэформе. Зацьвердзіць новы закон і ня выканаць яго, як гэта было зроблена з законам ад 15 ліпня 1920 г. польскі ўрад не адважыўся, і таму ён знашоў другі спосаб—гэта адцягненьне істотнага вырашэньня пытаньня. Польскі ўрад то ўносіць у Сойм, то здымае адтуль шэраг законапроэктаў аб зямельнай рэформе. Некаторыя законы праходзілі ўжо нават праз соймавую зямельную комісію, а потым усё-ж такі здаваліся ў архіў. Першае такое ашуканства зрабіў Вітос, лідар пястаўцаў. Партыя „Пяст“ апрацавала законапроэкт аб зямельнай рэформе, які павінен быў-бы нібы замяніць без пары памёршы закон 15 ліпня 1920 г. Вітос направа і налева крычаў аб тым, што аб'яднаньне яго партыі, якая прыкрываецца сялянскай шыльдай, са крайнымі правымі чорнасоценнымі элемэнтамі ў Сойме, выклікаецца якраз жаданьнем стварыць большасьць для правядзеньня новага зямельнага закону.

Мы ведаем, што ў пачатку 1923 г. гэткае аб'яднаньне так званай польскай „правіцы“ з пястаўцамі адбылося. На палітычнай польскай арэне зьявіўся кулацка-памешчыцкі ўрад Вітоса, які і ўнёс увясну 1923 г. ў Сойм свой проэкт аб зямельнай рэформе пад назваю: „Закон аб парцэляцыі і колёнізацыі“.

Асноўным сэнсам гэтага закону было: ізноў такі яшчэ большая полёнізацыя так званых крэсаў шляхам ужо добра вядомай колёнізацыі; стварэньне відавочнасьці нейкіх падзей з мэтай нібы прысьпяшэньня зямельнай рэформы, а таксама і захаваньня гэтым самым памешчыцкай уласнасьці. У гэтым законапроэкце паказана, якія і чые землі павінны быць адабраны дзеля стварэньня так званага зямельнага фонду. У першую чаргу сюды, зразумела, уваш ълі землі: быўшыя габінэцкія, удзельныя, сялянскага і шляхэцкага банкаў і, наогул, усе землі, якія належалі да дзяржавы, або так званая дзяржаўная маемасьць, якая і бяз гэтага, дзякуючы існаваньню Польшчы, перашлі пад веданьне і загад польскага ўраду. У другую чаргу былі пастаўлены землі так званай „мертвай рукі“, або землі, належачыя да духавенства. Адносна гэтай маемасьці законапроэкт прадуглядваў адабраньне зямель, належачых духавенству ўсіх вераваньняў, з выключэньнем толькі тых зямельных вучасткаў, якія беспасрэдна неабходны дзеля здавальненьня чыста рэлігійных патрэб. Згодна гэтай стацьці за рэлігійнымі грамадамі або прыходамі маглі быць пакінуты толькі могільнікі і землі, занятыя пад будынкамі цэркваў і касьцёлаў. Усе іншыя землі, разам з фальваркамі і будынкамі для духавенства, павінны быць адабраны. Але да гэтай стацьці была зроблена прыпіска аб тым, што мясцовыя зямельныя комітэты—павятовыя, акруговыя, а таксама і цэнтральныя органы—маюць права, калі гэта зьяўляецца неабходным, пакідаць за асобнымі прыходамі, апрача зямель, прадугледжаных у вышэйпаказанай стацьці, яшчэ і другія землі і будынкі. Зразумела, што, згодна гэтай прыпіскі, усе каталіцкія прыходы атрымалі-б зямлі столькі, колькі ім было-б патрэбна. А з ліку праваслаўных прыходаў атрымалі-б толькі тыя, якія-б выявілі сваю „асаблівую лёяльнасьць“, напрыклад, перашлі-б у вуніяцтва. Пасьля гэтага ідуць землі—так званыя фундацыйныя. У свой час прадстаўнікі беларускай і украінскай шляхты зрабілі вялікія ахвяры—фундушы для розных рэлігійных і асьветных мэт. Такімі, напрыклад, ахвяроўнікамі былі Сапегі, Сангушкі, Тышкевічы, Алелькавічы і шмат інш. Звычайна ахвяроўнікі адказвалі маемасьць або для падтрыманьня манастыроў, або для збудаваньня школ. Здаралася часта, што і для манастыроў і школ адначасна. Вось адносна гэтага апошняга віду маемасьці ў законапроэкце Вітоса гаворыцца, што ўсе фундушы пераходзяць да дзяржавы, пры гэтым калі мэта, з якою зроблены фундуш, не пярэчыць дзяржаўнаму і грамадзянскаму ладу і закону; дзяржава, замест адабраных зямель, робіць у фінансавыя ўстановы адпаведныя ўклады, на процанты з гэтых укладаў ствараюцца ўстановы, якія забясьпечваюць, як сказана ў

законапроэкце, мэту, прадугледжаную фундатарам. Сэнс гэтай ператасоўкі ясны. Напрыклад, хто-небудзь адказаў будынкі і наогул нярухомую маемасьць для організацыі беларускай, рускай ці украінскай школы. На падставе вышэйадзначанай стацьці закону, зямля школы павінна перайсьці ў маемасьць дзяржавы. З прычыны таго, што асьвету, хоць-бы і не на польскай мове, трудна нават і ў сучаснай Польшчы прызнаць антыдзяржаўнай зьявай, дык урад у такіх выпадках абавязваўся, замест адабранай маемасьці, асыгнаваць сродкі, якія-б далі магчымасьць дасягнуць мэты, якая вызначана фундатарам,—гэта значыць асьветы. Пытаньне аб мовывыкладаньні „пад шумок" можна было-б абысьці і адчыніць польскую школу. Аднак самым балючым месцам для Беларусі і Украіны ў гэтым законапроэкце было пытаньне аб адабраньні зямель у прыватных асоб.

Адзначаны вышэй злыбедны вітосаўскі законапроэкт аб зямельнай рэформе прадуглядвае адабраньне ў дзяржаўны скарб усіх тых зямель, якія калі-небудзь былі адабраны ці сконфіскованы расійскім урадам, або былі набыты на падставе законаў, якія дапамагалі пераходу нярухомай маемасьці ў расійскія рукі; або здабыты на падставе актаў, якімі прадугледжваліся якія-небудзь, як сказана ў самым законе, зломысныя мэты ў стасунку да польскага народу.

Мы ведаем, што расійскія памешчыкі-дваране моцна трымаліся за зямлю, і з прычыны гэтага расійскі царскі ўрад, з якога цяпер польскі ўрад ва ўсім бярэ прыклад і нават шмат калі перавышае яго,—таксама ў свой час праводзіў колёнізацыю Беларусі і Украіны расійскімі дваранамі-памешчыкамі. Царскі ўрад у свой час выдаў інструкцыі, „рэгулюючыя" ў так званым „Паўночна-Заходнім" краі пытаньне куплі-продажы нярухомасьці. Гэтыя інструкцыі, таксама, як цяпер у Польшчы, рознастайныя, сакрэтныя „окульнікі" (цыркуляры), мелі на мэце ствараць перашкоды адным і апекавацца, а ў лепшым выпадку не перашкаджаць другім. У выніку гэтага да вайны кожны нотарыус перад тым, як зрабіць і зацьвердзіць умову куплі-продажы, павінен быў даведацца, ці ня будзе яна супярэчыць „інструкцыям". На шмат якіх так званных „крепостных" дакумантах на зямлю нотарыусы рабілі надпісы, што даная ўмова не пярэчыць інструкцыям або ўложана згодна гэтакіх вось інструкцый. У выніку стварыліся так званыя інструкцыйныя землі.

З цягам часу шмат быўшых маёнткаў розных саноўнікаў і памешчыкаў распаліся на дробныя часткі, прадаваліся ў трэція і чацьвертыя рукі, а пасьля вядомай сталыпінскай рэформы значная частка іх была набыта банкамі і разьмяркована пераважна сярод так званых „хутаран". Аднак шмат якія дакуманты выразна сьведчаць, што даная зямля ўсё-ж такі была некалі „інструкцыйнай". І гэтага цяпер досыць, каб сотні і тысячы дробных зямляўласьнікаў выганяць з набытых імі самым законным спосабам зямель і зрабіць тысячы людзей жабракамі. У стасун-

ку да памешчыкаў законапроэкт прадуглядваў наогул вядомыя нормы: для самой Польшчы 180 гэктараў і для так званых крэсаў—300. Аднак, у законапроэкце было пакінута шмат вылазак, якія бясспрэчна давалі магчымасьць памешчыкам захаваць сабе ўсю тую плошчу, якую яны мелі. У законапроэкце ўспаміналася, напрыклад, што надзелы памешчыкаў могуць быць павялічаны звыш паказанай нормы: калі памешчыкі ў сваіх маёнтках вядуць інтэнсыўную, прыкладную гаспадарку, маюць лясныя, рыбныя або водныя гаспадаркі, эксплёатуюць бровары або цукровыя заводы і г. д. Адным словам, захацеўшы можна было заўсёды знайсьці ня тое, дык другое, каб атрымаць магчымасьць не турбаваць памешчыка і пакінуць яму ўсю яго зямлю. Цяпер цікавае пытаньне: хто-ж мае права атрымоўваць зямлю са створанага такім чынам запаснога фонду? Тут у першую чаргу ідуць асаднікі, асобы, якія служылі ў польскай арміі і якія добра выявілі сябе ў часе выкананьня вайсковай службы; пасьля ўдовы і сіроты тых, хто служыў у арміі; палітычныя эмігранты, прыбыўшыя ў Польшчу з розных краін, і, нарэшце, малазямельнае і безьзямельнае насельніцтва, маючае „польскае обыватэльства“. У законапроэкце было прынцыпова ўстаноўлена, што зямельныя надзелы з зямельнага фонду ў данай мясцовасьці атрымоўваюць толькі мясцовыя ўраджэнцы—гэта значыць, што, напрыклад, у Варшаўскім павеце з зямельнага фонду маглі атрымаць зямлю салдаты або ўдовы пасьля жаўнераў, ці, нарэшце, безьзямельныя і малазямельныя, толькі мясцовыя жыхары, ураджэнцы Варшаўскага павету. У канцы законапроэкту „под сурдинку“ быў дадаены пункт, якім тлумачылася,што правіла гэта не распаўсюджваецца на тыя мясцовасьці, дзе быў ужыты закон 17 сьнежня 1920 г. аб залічэньні зямель ва ўласнасьць дзяржавы,—гэта значыць, на Беларусь і Украіну. Тут права на атрыманьне зямельных надзелаў маюць, выходзіць, усе, незалежна ад таго, дзе хто радзіўся, дзе жыў і адкуль паходзіць.

Вось якія пэрспэктывы мелі малазямельныя або безьзямельныя беларусы і украінцы ў Польшчы на атрыманьне зямлі, згодна закону аб зямельнай рэформе. Родную беларускую і украінскую зямлю, залітую, літаральна потам шмат якіх пакаленьняў, меркавалі аддаць польскім колёністым, чужынцам, а ім, мясцовым ураджэнцам, якія так жадаюць атрымаць хоць-бы кавалачак зямлі, дакляравалі даць *калі што-колечы застанецца.*

Вось сьціслая характарыстыка законапроэкту, прапанаванага Вітосам Сойму. Законапроэкт гэты быў цалком разгледжаны зямельнай комісіяй Сойму; здаецца пачатак проэкту быў разгледжаны нават на пленуме Сойму, а потым... Вітос разам з сваім габінэтам вышаў у адстаўку, а прэса, якая спачатку так многа ўвагі аддавала гэтаму законапроэкту, перастала аб ім гаварыць, а калі ўспаміналa, дык толькі маючы на мэце давясьці, што гэты проэкт неабходна замяніць на другі.

Так і зьвяў, нават не пасьпеўшы расквітнуць, яшчэ адзін продукт тэорытычных практыкаваньняў польскіх памешчыкаў у галіне аграрнай рэформы. Нават такі прыгонны ў істоце для нашага сялянства закон,—і той зьявіўся нягожым для памешчыкаў.

Адзін з правых дэпутатаў Сойму гаварыў, што нават і гэты закон, пры крыху палявеўшым урадзе, мог-бы зьявіцца шкодным для памешчыкаў-зямляўласьнікаў. Калі-б урад меў жаданьне і цьвёрды намер прытрымлівацца нават гэтага вітосаўскага законапроэкту, памешчыкі, у шмат якіх выпадках, магчыма і ня здолелі-б захаваць усе свае землі. А да таго, урад мог-бы і не цягнуць з тэрмінам адчужэньня зямлі звыш нормы. Як мы бачым, памешчыкі спалохаліся таго, што сур'ёзныя адносіны нават і да такога куцага закону могуць ім пашкодзіць, і з прычыны гэтага ўвесь проэкт ня быў ухвалены. Аднак, усё-ж трэба адзначыць, што Сойм ніколі не заставаўся без якога-колечы законапроэкту ў галіне зямельнай рэформы. Напрыклад, апрача спамянутых ужо законаў, у Сойм быў унесены ў 1923 г. проэкт закону „а парцэляцыі і колёнізацыі на ўсходніх землях“, але, ня вытрымаўшы абсолютна ніякай крытыкі, гэты проэкт урадам быў забраны з Сойму. Апрача гэтага, у Сойме і цяпер ляжыць проэт закону „o sfinansowaniu parcelacji i osadnictwa“ (аб фінансаваньні парцэляцыі і колёнізацыі). У бягучым 1925 годзе, у лютым, урад Грабскага ўнёс у Сойм проэкт закону „а зьмяненьнях і дапаўненьнях закону ад 15 ліпня 1920 году аб зямельнай рэформе“.

Соймавая зямельная комісія ўсю вясну 1925 году афяравала разгляду зямельнай рэформы, а маршал Сойму Ратай дэкляраваў да наступленьня летняга адпачынку разгледзець ее нават і ў пленуме Сойму. Адбываецца нешта накшталт казкі пра белага бычка. Дацягнуўшы пытаньне аб зямельнай рэформе абяцанкамі і ўсялякімі іншымі фокусамі ад 15 ліпня 1920 г. да 1925 году, польскі ўрад цяпер зноў вяртаецца да першастковага свайго закону аб зямельнай рэформе. Пры дапамозе дадаткаў, проэктуемых цяпер да закону ад 15 ліпня 1920 г., у апошнім маюць быць зруйнованы ўсе куты і шурпатасьць, але па сэнсе гэты закон нічым ня будзе розьніцца ад вітосаўскага закону. Памешчыкі спадзяюцца яшчэ толькі зрабіць яго больш гнуткім з таго боку, які датычыць памешчыкаў і наогул буйнага зямляўласьніцтва. Магчыма, аднак, што і тут хаваецца якое-небудзь ашуканства, а калі гэтага й няма, дык ці не спалохаюцца памешчыкі, нарэшце, і не параліжуюць і гэты новы адменьнік старога закону?

У польскім сойме ёсьць яшчэ адзін законапроэкт аб зямельнай рэформе, унесены ў першай палове красавіка гэтага 1925 году сябрам сойму Юльем Панятоўскім і яго колегамі з фракцыі „Вызваленьне“. Гэты законапроэкт з істоты сваёй падобен да ўсіх тых законапроэктаў, якія ўжо былі ў Сойме і якія нават могуць быць у Польшчы пры існуючых умовах. Аднак з надворнага боку даны законапроэкт ужо

больш лібэральны, калі можна так сказаць, чымся ўсе папярэднія. Гэта нават можна заўважыць у І-ым артыкуле проэкту, які прадстаўляе сабой нешта накшталт дэклярацыйнай часткі.

Вось тэкст гэтай стацьці:

„Новая зямельная будова ў польскай рэспубліцы павінна мець сваім грунтам, раней за ўсё, сялянскія гаспадаркі рознага тыпу і велічыні, складаючыя прыватную ўласнасьць іх гаспадароў. Гаспадаркі гэтыя павінны быць моцныя, здаровыя і здольныя да інтэнсыўнай гаспадарчай продукцыі.

Новая зямельная будова, спосабам, больш за ўсё адпавядаючым інтарэсам дзяржавы і насельніцтва, павінна забясьпечыць карыстаньне леснымі і воднымі народнымі багацьцямі, прызнаючы дзяржаву іх уласьнікам.

Ажыцьцяўленьне новае зямельнае будовы будзе складацца:

а) са стварэньня *праз колёнізацыю* (курсыў аўтара) новых самастойных сельскіх гаспадарак або адпаведна меншых па разьмерах гаспадарак садова-гародніцкіх;

б) з павялічэньня да разьмеру самастойных гаспадарчых адзінак існуючых карлікавых гаспадарак;

в) са стварэньня каля гарадоў і прамысловых цэнтраў рабочых і чыноўнічых колёній, садоў і да т. п.;

г) з забесьпячэньня належнай колькасьцю зямлі агрономічных школ і рассаднікаў гароднай і сельска-гаспадарчай культуры;

д) з нацыяналізацыі ўсіх тых лясоў, якія займаюць вялікія абшары і да гэтай пары зьяўляюцца прыватнай уласнасьцю".

Вось галоўныя рысы ўсяго законапроэкту Панятоўскага, гэтага вызваленца па непаразуменьні.

Колёнізацыя, як мы бачым, стаіць на першым месцы. Якой часткі сучаснае Польшчы датычыць гэта колёнізацыя? Панятоўскі ня кажа, але ўсім і так зразумела, што пытаньне датычыць Заходніх Беларусі і Украіны.

Далей прадуглядваецца павялічэньне карлікавых гаспадарак; але ці застанецца што-небудзь на іх долю пасьля надзелу зямлёй усіх колёністых-асаднікаў?

Ёсьць нават у Панятоўскага нешта, што, як даніну часу, ён, як відаць, з вялікай скрухай увёў у свой проэкт: гэта нацыяналізацыя лясоў. Хаця, па думцы Панятоўскага, нацыяналізацыя і датычыць толькі буйных лясных абшараў, але-ж самая атрута нацыяналізацыі ў проэкце ўсё-ж такі застаецца. Магчыма, аднак, што калі гэта нават і не атрута для памешчыкаў, дык усё-ж такі проціатрута супроць абуджаючайся ўжо вёскі. Паглядзеце-ж, вось і вы дачакаліся нацыяналізацыі!

Навіной у даным законапроэкце зьяўляецца, апрача гэтага, устанаўленьне максымуму прыватнага ўласьніцтва—60 гэктараў. Ва ўсім іншым законапроэкт у істоце сваёй ня розьніцца ад усіх папярэдніх.

Вось кароткая гісторыя разьвіцьця аграрнага законадаўства ў сучаснай Польшчы.

Вернемся цяпер да законаў ад 17 сьнежня 1920 г., якія пакуль што зьяўляюцца адзінымі практычна ажыцьцёўленымі спаміж усіх іншых аграрных законаў. Закон ад 17 сьнежня 1920 году аб надзеле зямлёй жаўнераў польскага войска гаварыць:

Арт. 1. Жаўнеры польскага войска, якія абаранялі межы айчыны, могуць атрымаць ва ўласнасьць зямлю з запасу, які стварыўся на падставе закону ад 17 сьнежня 1920 году, аб залічэньні ва ўласнасьць дзяржавы зямлі ў некаторых паветах Польскае рэспублікі, на падставах, азначаных у наступных артыкулах.

Арт. 2. Маюць права атрымаць зямлю задарма:

а) інваліды і жаўнеры польскага войска, якія асабліва вызначыліся;

б) жаўнеры, якія добрахвотна пашлі ў польскае войска і адбылі службу на фронце.

Вось адзін з ліку законаў, які, па думцы яго ініцыятараў, павінен быў нясьці польскую культуру на ўсход, стварыць там апору для Польшчы ў культурна-маральным і фізычным сэнсе.

А цяпер пяройдзем да другога закону ад таго-ж самага 17 сьнежня, які зьяўляецца базай для чыннасьці закону аб вайсковай колёнізацыі.

„Закон ад 17 сьнежня 1920 году аб залічэньні ва ўласнасьць дзяржавы земель у некаторых паветах Польскай рэспублікі“ будзе аднэй з самых брудных плям у гісторыі Польшчы XX стагодзьдзя.

Гэты закон, маючы на мэце стварэньне зямельнага фонду для вайсковай колёнізацыі, датычыць выключна абшараў Заходніх Беларусі і Украіны, гэта значыць тэй часткі Польшчы, якая была месцам вайсковых падзей савецкага і польскага войска. Мірная згода паміж Расіяй, Украінай і Беларусьсю, з аднаго боку, і Польшчай—з другога, быў падпісаны 18 сакавіка 1921 году. З прычыны гэтага вельмі дзіўным зьяўляецца выданьне Польшчай закону, які датычыць тэрыторый з няпэўнымі межамі, раней упарадкаваньня гэтых меж. Рыская мірная згода, як мы бачым з параўнаньня дат, падпісана якраз праз тры месяцы пасьля выданьня Польшчай 17 сьнежня 1920 г. сваіх бяссэнсоўных і лютых законаў.

Арт. 2. Закону а залічэньні земель ва ўласнасьць дзяржавы гаворыць: „На падставе гэтага закону такім самым чынам *могуць быць* (курсыў аўтара) залічаны ва ўласнасьць дзяржавы і прыватныя землі:

а) цалком, калі яны пакінуты ўласьнікамі і калі ўласьнікі або асобы, маючыя ад іх свае правы на гэтыя землі, ня вернуцца на месца аседласьці да 1 красавіка 1921 году;

б) часткі, перавышаючыя 400 гэктараў агульнага абшару аднаго забудованага фальварку, які застаецца за ўласьнікамі, калі ўласьнікі або

асобы, іх заступаючыя, знаходзяцца на месцы або вернуцца на месца аседласьці да 1 красавіка 1921 году;

в) нявырабленыя часткі пакінутага ўласьнікамі абшару ў тым выпадку, калі зямля ў працягу аднаго году пасьля заключэньня мірнае згоды з Расіяй ня будзе выраблена".

Выраз „можа быць" у пачатку паданага артыкулу закону—вельмі характэрны як у даным законе, так і ў польскім законадаўстве наогул. Для ўнутранага ўжываньня гэта будзе роўназначна: „чаго мая нага хоча", а для заграніцы—„асьцярожны, не супярэчны міжнародным трактатам падыход да пытаньня, з усімі яго індывідуальнымі асаблівасьцямі".

У гэтым законе тут зьяўляецца таксама новая дата—1 красавіка 1921 году. Да гэтага тэрміну ў Польшчу павінны былі пераехаць усе тыя асобы, якія мелі ў межах Заходніх Беларусі і Украіны (чаму іменна ў гэтых частках Польшчы, будзе відаць з наступнага) нярухомую маемасьць і жадалі вярнуць яе сабе.

Рыская згода, як вядома, была заключана 18 сакавіка 1921 году; польскі Сойм прыняў закон аб ратыфікацыі гэтай згоды ў сярэдзіне красавіка 1921 году, а ратыфікаваны ён быў не раней сярэдзіны траўня. Такім чынам толькі пасьля памену ратыфікацыйнымі граматамі, гэта значыць, пасьля траўня 1921 году, адчынілася магчымасьць уцекачом, дый то ня ўсім адразу, легальна вярнуцца з Расіі на сваю бацькаўшчыну. Пакуль ня была наладжана правіловая рээвакуацыя, папасьці ў Польшчу мог толькі той, хто адважваўся нелегальна перайсьці граніцу. Якім-жа чынам, цікава, тысячы дробных зямельных уласьнікаў маглі вярнуцца з Расіі ў Заходнюю Беларусь і Украіну да 1 красавіка 1921 году? Хіба-ж гэта не наўмысна непераможная перашкода, якая пастаўлена польскім урадам для ўсіх яму няпрыемных элемэнтаў?

Няма ніводнага польскага памешчыка на крэсах і ня было чуваць ніводнага здарэньня, каб у гэтых уласьнікаў буйнай зямельнай маемасьці на падставе закону ад 17 сьнежня адабралі хоць-бы кавалачак зямлі. У расійскіх памешчыкаў, якіх у Польшчы нямнога, бывалі выпадкі адчужэньня; але калі такі „пацярпеўшы" памешчык меў магчымасьць прадставіць ад асоб, якія карысталіся давер'ем у Польшчы, справаку аб сваіх лёяльных або спрыяючых адносінах да палякоў у мінулыя часы, дык маёнтак яму вярталі, у горшым выпадку—большую яго палову.

Увесь цяжар данага закону зваліўся амаль што выключна на дробных зямельных уласьнікаў.

Дзеля таго, каб можна было хаця прыблізна ўявіць тую колькасьць зямлі, якая адабрана польскім урадам у беларускіх ды украінскіх сялян, згодна данага закону, зьвернемся да справаздачы аб дзейнасьці сялянскага банку перад вайной на гэтых землях. Мы ведаем, што ад 1905 году да пачатку вайны сялянскі банк у Расіі разьвінуў свае опэрацыі так шырока, як ні адзін з сялянскіх банкаў у Эўропе. Аб гэтым сьвед-

чаць даныя аб колькасьці зямлі, пад якую банкам былі выданы пазыкі, пачынаючы з 1883 году да 1915 году.

| | | |
|---|---|---|
| У Віленскай губ. | 156.151 | гэктараў. |
| „ Гародзенскай „ | 265.213 | „ |
| „ Менскай „ | 706.096 | „ |
| „ Валынскай „ | 304.590 | „ |

Калі мы ад колькасьці закладзенай зямлі, якая прыходзіцца на Менскую губ., возьмем палову, адпавядаючую, прыблізна, тэй частцы гэтай губ., якая адышла да Польшчы, дык убачым, што на абшарах Заходняй Беларусі і Украіны за паказаны пэрыод часу было закладзена 1.098.999 гэктараў. Калі мы палову гэтай колькасьці зямлі адлічым на дзесяцёхгодзьдзе 1905—1915 г. г., гэта значыць на пэрыод самага вышэйшага разьвіцьця дзейнасьці банку, дык мы хутчэй пераменшым, чымся перабольшым; у гэтым выпадку мы атрымаем 549.499 гэктараў.

Калі палічыць, што ня менш $^2/_3$ гэтай колькасьці зямлі было закладзена ў банк так званымі хутаранамі, якія вышлі на хутары пры дапамозе іменна сялянскага банку, дык выйдзе, што, прыблізна, з пераменшаньнем, каля 300.000 гэктараў зямлі было пад хутарамі.

Вось ад гэтых хутаран і была адабрана амаль уся зямля для вайсковай польскай колёнізацыі. Беларуская і украінская соймавыя фракцыі маюць тысячы скарг ад хутаран - сялян на тое, што ад іх адабралі зямлю. За прыклад бяру ніжэйшае. У 1922 годзе на бацькаўшчыну зьвярнулася ўдава-ўцякач Курнатоўская з двума дзяцьмі. Недалёка ад Ваўкавыску яна мела хутарок з 20 дзесяцінамі зямлі. Здарылася так, што нават і вайна ня зьнішчыла будынкаў на зямлі гэтай удавы, але адабралі ўсю яе маемасьць польскія ашуканскія законы: і зямля, і будынкі былі адданы вайсковым колёністым. Разьбітая фізычна і моральна, да таго-ж яшчэ амаль зусім сьляпая, гэта жанчына магла быць сымболем таго гора, жабрацтва і роспачы, якія, дзякуючы польскім законам, агарнулі сотні і тысячы падобных ёй людзей.

Другі гэткі самы выпадак меў месца ў тым-жа Ваўкавыскім павеце.

Недалёка ад мястэчка Сьвіслачы быў досыць добры сялянскі хутарок нейкага Лешчыка з вельмі добрай хатай і іншымі будынкамі, з плошчай зямлі каля 50 дзесяцін. Уся сям'я Лешчыка ў час эвокуацыі выехала ў Расію. Падчас пошасьці і муж і жонка памерлі ў Расіі, і на бацькаўшчыну ў пачатку 1922 году вярнуліся толькі сямёра дзяцей з зусім старэнькай бабкай. Самаму старэйшаму з дзяцей было ўсяго 15 год. На бацькаўшчыне іх чакала неспадзеўка: іх родны хутар быў ужо заняты нейкім вайсковым колёністым, маёрам, які меў уласную нярухомую маемасьць недзе ў цэнтры Польшчы і адбываў яшчэ вайсковую службу. Дзеці ня мелі нават куды і прыткнуцца. Нарэшце на сваёй уласнай сядзібе зна-

шлі прытулак у нейкім хляўчуку бяз печы з шчылінамі ў дзьвярох і ў сьценках.

Вышэйпаданыя здарэньні зьяўляюцца аднымі з вельмі частых на „Усходніх Крэсах Польшчы“.

Цэнтр цяжару ў даным законе ад 17 сьнежня 1920 году зьмяшчаецца ў 6-й стацьці.

Вось яе літаральны тэкст: „Гэты закон абавязковы ў ніжэйадзначаных паветах па дзеючых дагэтуль адміністрацыйным падзеле краіны: 1) Берасьцейскім, 2) Пружанскім, 3) Ваўкавыскім, 4) Слонімскім, 5) Навагрудзкім, 6) Баранавіцкім, 7) Віленскім, 8) Дзісьненскім, 9) Нясьвіскім, 10) Лунінецкім, 11) Пінскім, 12) Кобрынскім, 13) Уладзімерскім, 14) Ковельскім, 15) Луцкім, 16) Роўненскім, 17) Дубенскім, 18) Сарненскім, 19) Крамянецкім, 20) Астрогскім, 21) Горадзенскім і 22) Лідзкім“.

Усякі, хто прачытае даны закон, мімаволі паставіць сабе пытаньне: чаму толькі жыхары Заходняй Беларусі і Украіны трацяць права на сваю нярухомую маемасьць, калі ня прыбудуць да 1 красавіка 1921 году? Чаму жыхары чыста польскіх паветаў, як, напрыклад, Варшаўскага, Плоцкага, Каліскага, Люблінскага і інш., ня трацяць гэтага права на сваю зямлю, калі-б яны не вярнуліся на сваю бацькаўшчыну? Сумная рачаіснасьць даводзіць нам, што ва ўсім гэтым законе няма ні лёгікі, ні здаровага сэнсу, няма, нават, і знаку якой-небудзь роўнасьці, няма, зразумела, і знаку якое-небудзь законамернасьці. Капрызнае і лютае свавольства— вось самая лепшая характарыстыка данага закону.

„Польшча адбудована, дзякуючы міжнародным трактатам, і абавязкі па гэтых трактатах яна выканае“, так сказаў з соймавай трыбуны гэнэрал Сікорскі пры першым сваім выступленьні ў якасьці прэм‘ера.

Паглядзім, ці сапраўды-ж гэта так.

Стацьця VII Вэрсальскага трактату ад 28 чэрвеня 1919 году кажа:

„Усе асобы польскай дзяржаўнай прыналежнасьці роўны перад законам і карыстаюцца роўнымі грамадзянскімі і палітычнымі правамі, незалежна ад іхняй нацыянальнасьці, мовы або веры“. Моц гэтага артыкулу падкрэсьлівае і сьцьвярджае артыкул І гэтага самага Вэрсальскага трактату. Артыкул гэты кажа: „Польшча абавязваецца прызнаць гэтыя згаджэньні ў артыкулах 2—8 гэтага разьдзелу (значыцца, і 7) сваімі асноўнымі законамі; ніякі закон, ніякі дэкрэт або ўрадовы загад не павінен супярэчыць гэтым згаджэньнем; ніякі закон, дэкрэкт або ўрадовы загад ня могуць мець сілы большай, чымся гэтыя згаджэньні“.

Польшча, зьвязаная гэтымі абавязкамі ў конституцыі сваёй, у арт. 95 кажа: „Польская рэспубліка забясьпечвае ў сваіх межах поўную ахову жыцьця, вольнасьці і маемасьці ўсім, незалежна ад іх пахаджэньня, нацыянальнасьці, мовы, расы або веры“... У арт. 96 гэтай самай конституцыі гаворыцца: „Усе грамадзяне роўны перад законам...“

Калі мы пасьля ўсіх гэтых гарантый і забясьпек зьвернемся да 6-га арт. закону ад 17 сьнежня 1920 году аб залічэньні зямель ва ўласнасьць дзяржавы, дык выйдзе сапраўды нешта дыамэтральна процілежнге і Вэрсальскаму трактату, і польскай констытуцыі. Няма тут ні артыкулу 7 Вэрсальскага трактату, ні арт. 95 і 96 польскай констытуцыі, ні арт. 1 Вэрсальскага трактату, які ставіць арт. VII арт. гэтага-ж трактату вышэй за ўсе законы Польшчы.

Калі-б Польшча сапраўды мела на мэце выкананьне ўсіх абавязкаў, якія яна ўзяла на сябе па міжнародных дагаворах, дык тады яна не магла-бы пасьля Вэрсальскага трактату ад 28 чэрвеня 1919 г. выдаць закон ад 17 сьнежня 1920 году аб залічэньні зямель ва ўласнасьць дзяржавы альбо, урэшце, не магла-б ужываць яго аж да гэтага часу.

Два законы ад 17 сьнежня 1920 году, якія дамагаюцца аднолькавай мэты, зьявіліся няшчасьцем для польскіх часьцін Беларусі і Украіны, а таксама і ганьбай для адроджанай польскай дзяржаўнасьці, якая нічога не навучылася і так хутка аб усім забылася.

Усе, залічаныя на „Крэсах“ ва ўласнасьць дзяржавы землі разьмяркоўваюцца паміж так званымі „асаднікамі“, або польскімі вайсковымі і грамадзянскімі колёністымі. Вельмі крута далося гэта асадніцтва для беларус. сялянства; не здарма мясцовае насельніцтва гэтых асаднікаў называе „ўсаднікамі“ ад слова „ўсадзіць“. Гэтым колёністым аддаецца па закону 70% усёй адабранай зямлі, а рэшта 30% павінна быць разьмяркована сярод безьзямельнага і малазямельнага мясцовага сялянскага насельніцтва. Аднак, довадам таго, як апякуецца польскі ўрад аб патрэбах мясцовых беларускіх і украінскіх безьзямельных і малазямельных сялян, зьяўляецца той факт, што нават з гэтых 30% зямель, падлягаючых, нібы-та, разьмеркаваньню сярод сялян, па даных Міністэрства Землеробства, да канца 1923 году было разьмяркована ўсяго толькі 2% ад гэтых 30 проц., дый то, мабыць, землі гэтыя атрымалі ня тыя, каму яны сапраўды патрэбны, але тыя, хто „выслужыўся“ перад начальствам.

Па даных польскага „статыстычнага штомесячніка“ за 1923 г. т. VII, у ўсходніх ваяводзтвах („Крэсах“) для вайсковых аселішч было выдзелена 366.738 гэктараў, дзе да 1 студзеня 1923 г. пасялілася 17.664 унтэр-афіцэраў і салдат і 4.859 афіцэраў. Для сучаснага моманту гэтыя лічбовыя даныя не зьяўляюцца дакладнымі, бо няма ніякіх вестак за 1923-24 г. г. А паміж тым якраз у гэты пэрыод вайсковая колёнізацыя „Крэсаў“ дасягнула найвышэйшага пункту. Колькі асаднікаў пасялілася ў асобных ваяводзтвах—невядома, з прычыны таго, што даных аб гэтым пакуль што няма. Крыху зьвестак дае польская штомесячная часопісь „Przegląd Współczesny“ (сучасны агляд). У гэтай часопісі ў лютаўскім нумары 1924 году паказваецца, што ў Віленскім ваяводзтве да 1 студзеня 1923 году асаднікам было аддана 53.520 гэктараў зямлі, якая была падзелена на 1.168 гаспадарак. У Навагрудзкім ваяводзтве таксама да

1 студзеня 1923 году вайсковым асаднікам было раздана каля 32.000 гэктараў, на якіх асялілася каля 1.500 асаднікаў. На 1923 год для вайсковых колёністых у гэтым-жа Навагрудзкім ваяводзтве яшчэ ў 1922 годзе было прырыхтована 13.480 гэктараў. У Палескім ваяводзтве да 1923 году вайсковым асаднікам было раздана каля 20.000 гэктараў. Згодна даных, вызначаных у вышэйпаказанай часопісі „Przegląd Współczesny“, у нумарох яго за студзень і сьнежань 1924 г., у Заходняй Украіне да 1 студзеня 1923 году было ўзята для вайсковай колёнізацыі 110.914 гэктараў. Усяго-ж да пачатку 1924 году толькі ў Заходняй Украіне было паселена 3.887 грамадзянскіх і 2.997 вайсковых асаднікаў.

Нават найбольш разважлівыя польскія патрыоты пачынаюць ужо пераконвацца, што сыстэма вайсковых паселішч на Ўсходніх „Крэсах“ сябе ня выпраўдала.

Вось, напрыклад, якія факты аб вайсковых асадніках вызначае „Przegląd Współczesny“ нумар за сакавік м-ц 1924 г.). Выходзіць, напрыклад, што ў Заходняй Украіне вайсковыя асаднікі ўрабляюць уласнымі сіламі толькі каля 32% данай ім зямлі, і нават гэтую частку ня ўсе асаднікі ўрабляюць уласнымі сіламі. Амаль палова ўсёй зямлі, якая ўрабляецца асаднікамі, фактычна ўрабляецца арандатарамі—мясцовымі сялянамі, якія бяруць зямлю ў арэнду за *палову ўраджаю*.

Згодна вышэйадзначаных польскіх даных, на Украіне да 1923 году займалася сельскай гаспадаркай ледзьве 10% вайсковых колёністых, прычым урабляючых зямлю ўласнымі сіламі было толькі 4,3%.

Нарэшце дамо некалькі выметак з артыкулаў польскіх грамадзянскіх дзеячоў: Кастуся Сракоўскага і ранейшага валынскага ваяводы—Станіслава Сракоўскага. Артыкулы гэтых абодвух аўтараў былі зьмешчаны таксама ў часопісе „Przegląd Współczesny“ за 1924 год. У 23 нумары данае часопісі Кастусь Сракоўскі, успамінаючы аб вайсковых асадніках, якія асяліліся ў вядомы пэрыод часу ў Заходняй Украіне, кажа:

„Вельмі дзіўным зьяўляецца той факт, што з 2.995 асаднікаў толькі 15 проц. былі профэсыянальнымі земляробамі. Рэшта 85 проц. у земляробстве нават нічога і ня цямілі. Сярод іх большасьць—гэта гарадзкія жыхары самых рознастайных профэсій або людзі зусім без профэсій... паміж імі ёсьць нават і досыць шмат парыкмахэраў, краўцоў і г. д.“ Далей К. Сракоўскі кажа: „Мясцовае насельніцтва да вайсковых асаднікаў вельмі варожае. Насельніцтва ў існаваньні асаднікаў бачыць для сябе вялізарную абразу, бо думае, што гэтыя асаднікі ня варты атрыманых імі найлепшых падзелаў зямлі, на якой яны ніколі не працавалі і якую нават ня ўмеюць урабляць“.

У нумары 22 гэтае самае часопісі за 1924 г. Кастусь Сракоўскі адзначае, што толькі каля $^1/_3$ асаднікаў як-колечы ўпраўляюцца з атрыманымі зямельнымі надзеламі. „Рэшта асаднікаў“, кажа К. Сракоўскі, або „аддаюць сваю зямлю ў арэнду вакольным сялянам, або проста пакідаюць зямлю

няўробленай. Без павялічэньня можна сказаць, што палова зямлі, аддадзенай вайсковым насельнікам-асаднікам, з пункту погляду дзяржаўных мэт, выклікаўшых гэту колёнізацыю,—зьяўляецца пахованым капіталам."

А ў нумары 32 за 1924 год былы польскі валынскі ваявода Станіслаў Сракоўскі кажа аб вайсковых асадніках:

„Падкрэсьліваючы сваё вайсковае пахаджэньне, яны граюць ролю якогась прывілейнага казацтва, чым вельмі абураюць мясцовае сялянскае насельніцтва... З прычыны досыць вялікай колькасьці так званых 45-гэктарных прыкладных надзелаў, якія знаходзяцца ў афіцэраў і зьяўляюцца вострай процілежнасьцю ў параўнаньні са звычайнымі жаўнерскімі надзеламі 10-20 гэктараў, асаднікі нават паміж сабой ня маюць згоднасьці. Асаднік-салдат ня можа ня браць прыкладу з афіцэра. А афіцэр, калі ня здолее атрымаць, апрача прыкладнага надзелу, яшчэ некалькі другіх надзелаў, часьцей за ўсё за гаспадарку не бярэцца, а аддаўшы сваю зямлю ў арэнду сялянам з траціны,—і надалей застаецца служыць у арміі або ў іншай установе, або нават пачынае займацца гандлем."

Вось мімаволі бязьлітасная крытыка польскай „аракчэеўшчыны".

Польскія крытыкі вайсковай колёнізацыі маюць на ўвазе інтарэсы „сучаснае" польскае дзяржаўнасьці і ўрадавых грамадзянскіх колаў. Інтарэсы мясцовага „іншапляменнага" насельніцтва датычаць іх менш за ўсё, а між тым „надыдзе некалі дзень", калі якраз гэтыя інтарэсы будуць мець на падзеі рашаючы ўплыў.

Гэткія ў агульных кароткіх рысах абставіны самага важнага для сялянства пытаньня аб зямлі—у Заходнім Беларусі і Украіне.

15/v 1925 г.

г Менск.

# БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНА-РЭВОЛЮЦЫЙНЫ РУХ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ Ў XIX СТАЛЕЦЬЦІ

**Д. Васілеўскі**

„У беларусаў абуджэньне мас да ўладаньня роднай мовай і яе літаратурай яшчэ адбываецца. Бацькаўшчына тут яшчэ не сьпяяла свае гістарычнае песьні".

Ленін. (Полымя № 1).

### Віцебшчына ў пачатку XIX сталецьця

Калі паны на Беларусі агоўталіся ад грамавога ўражаньня падзелу Польшчы, яны пачалі сябе зусім добра адчуваць. Праўда, за ўдзел у паўстаньнях царскім урадам у канцы XVIII сталецьця было конфіскована 51 уладаньне са 110.357 душамі прыгонных беларусаў; але на месца польскіх паноў царскі ўрад панасаджваў расійскіх памешчыкаў. Так за кругабег ад 1763 па 1779 год адна толькі ц. Кацярына раздала на Беларусі 107 маёнткаў з 94.160 прыгоннымі сялянамі сваім каханкам. Мясцовая шляхта ўбачыла, што каля царыцыных каханкаў можна добра пажыць, пайграць у карты, пазычыць грошы, а, калі трохі ўзбунтуюцца мужыкі і папужаюць пана, у царскага ўраду заўсёды знойдзецца лішняя рота „жолнежаў" для аховы панскае маемасьці.

А тут на нашай гаспадарцы пачаў адбівацца ўплыў прамысловага перавароту Англіі, пачаўся вялікі вываз праз Рыгу тавараў Беларусі за мора і ўвоз заморскіх тавараў. Галоўнай гандлёвай артэрыяй беларускіх губэрань была рака Заходняя Дзьвіна. Ужо ў 1894 годзе ў Рыгу прышло па Дзьвіне 898 суднаў з таварамі, а вышла за мора 893. Агульная цана адпраўленых за кардон тавараў у гэты год сягнула да 14.023.990 руб.; праз 10 год лік суднаў прышоўшых і вышаўшых з Рыгі амаль што ня ўдвоіўся: прыбыло 1.151 судно і вышла 1.147. У 1804 годзе па Дзьвіне Беларусь сагнала ў Рыгу 1.185.995 пудоў рознага збожжа, 44.075 пудоў семя, лёну і канопель, 1.096.541 пуд. пянькі, 711.350 пуд. лёну, 72.672 пуды сала і сьвечак.

Такое ўзмацненьне гандлю павяло да павялічэньня запашкі хлеба па маёнтках, узгадаваньня жывёлы і абцяжараньня прыгоннага беларускага селяніна. Прыгон робіцца чатырохднёвым у тыдзень, а па нека-

торых маёнтках ганялі сялян на прыгон штодзенна, так што на ўласную пахату беларусу заставаліся толькі сьвяты. Гэта пара рысуецца так у народнай песьні:

Была Польшча, была Польшча,
Ды стала Расія:
Не заступіць сын за бацьку,
А бацька за сына.
Пашоў бацька і з касою,
А сын з бараною.
Пашла маці за лён жаці,
А дочка да гною.

(П. Шэйн. Р. Ст. 1886. т. III).

Насяленьне Віцебшчыны ў той час налічвала да 352.474 душ, большасьць з іх была прыгонная беларуская вёска, але кіравала ўсімі справамі края польская шляхта. Загразшы на берагох Чорнага мора, расійскі гандлёвы капітал мала цікавіўся рынкамі Беларусі. Уплыў яго абазначыўся толькі залежнасьцю ад яго сплаўнага гандлю па Дзьвіне, з яе верхавін. На Віцебшчыне крыжаваліся сфэры ўплыву і зносін маскоўскага, польскага, нямецкага капіталаў, даўно ўжо яны вялі свой гандаль з гарадамі Ўсходняй Беларусі, ставячы ў некаторую залежнасьць ад сябе іх гандлёвы капітал. Адсюль беларускі гандлёвы капітал ня змог сябе ніколі самастойна адчуваць, ён чутка адносіўся да ўплыву іх усіх і ў розныя часы свайго жыцьця залежаў то ад Рыгі, то ад Масквы. Віцебская сфэра ўплыву польскага капіталу базіравалася на маёнтак буйнога абшарніка і моц каталіцкіх кляштараў; нацыянальны беларускі гандаль на Дзьвіне займаў пасрэдніцкую ролю між Усходам і Захадам, ён, галоўным чынам, цягнуў „лямку“, што сымболічна адзначылася на твары Дзьвіны віцебскімі лайбамі, вялікімі ганкамі і бярлінамі, а на ўласнай асобе беларуса Віцебшчыны фігурамі: вялікага сячка-дрыгальшчыка, віцебскага лямашніка-лайбашніка і лепельскага коршчыка-„рулявога“, а пазьней фігурай беларуса-грабара.

Такое палажэньне прамысловасьці Віцебшчыны, прыстасованае да абслугоўваньня патрэб больш моцных капіталаў і нацый, выклікала ў соцыяльным жыцьці Віцебшчыны звычайную нясьмеласьць, няпэўнасьць у самапачуцьці і дваістасьць характару і душы прыроджанцаў Віцебшчыны. Беларусы пабіліся ў залежнасьці ад сваіх падпарадкаваньняў капіталу на католіка-вуніяцкае і праваслаўнае вызнаньне. Так ужо і пашло на Віцебшчыне, што яго капітал адразу каціўся па дзьвюх сьцежках, адсюль і спагаданьне віцяблян было двайным.

На працягу ўсяго XIX сталецьця на Віцебшчыне супольна жыве і працуе беларус-паляк і беларус-расіец, ён мяшаецца, пераходзіць з аднаго стану ў другі, вядзе барацьбу, але ён сам з сабой заўсёды беларус—„рускі“ у старабеларускім значэньні гэтага слова.

Першая чвэртка XIX сталецьця ў жыцьці Віцебшчыны праходзіць пад пераважным уплывам польскай культуры свайго панства. Выхаваньне беларускай моладзі вялося па школах у панска-каталіцкім напрамку. Польская мова пануе.

### Асьвета Віцебшчыны

Ужо ў 1803 годзе на Віцебшчыне пры аглядзе школ акадэмікам Севергіным[1]) пад кіраўніцтвам віленскага унівэрсытэту было 10 школ з 1007 вучнямі, сярод вучняў ужо сустр. 20 дзяцей сялян, з якіх 1 дзяўчынка. Вучылі пераважна на польскай мове, але ў часы школьных сьвят, як жарт, ставіліся беларускія сцэнкі. Расійская мова выкладалася, як прадмет. Вучацца панічы з маёнткаў Віцебскай Беларусі, але і ім хочацца ў вясёлыя часы нырнуць у моцную беларускую стыхію—мову вёскі, якая абкружае іх маёнткі.

У народных школах дзяцей беднаты вучылі на расійскай мове, але Севергін жаліцца, што „гнісматыкі, ня ўмеючы ні слова парасійску, моляцца па расійскіх царкоўных кнігах, а просты народ „груб, уродліў“, іспаведуе вуніяцкую веру, вельмі прыхільны к цемнаце“[2]). Відаць, мужык-беларус не шанаваў панскі сурдут, не разьбіраючы ці ён быў на польскай, ці на маскоўскай сьпіне. А ў 1802 годзе Полацкі комэндант выяжджаў у Гарадзецкі павет на ўціхаміраньне бунтаваўшых мужыкоў. Беларускія мяшчане, організованыя ў брацтвы, таксама былі нездаволены панаваньнем шляхецка-польскага капіталу і, апіраючыся на іх, вуніяцкія і праваслаўныя манастыры пачынаюць пратэндаваць на выхаваньне беларускае моладзі ў сваіх сьценах. Іх прыцягваюць багатыя маёнткі—фундушы каталіцкіх кляштараў.

У 1809 годзе, на абшары Віцебскае Беларусі, апрача вышэйшае школы, ужо налічваецца 31 школа з 54 настаўнікамі і 1507 вучнямі, прыходзкіх вучылішч—5, са 124 м. 42 дзяўч. сярод вучняў.

Такім чынам французская вайна 1812 году захапіла абшар Віцебшчыны ня толькі экономічна падужэўшым, але і адукованым. Тым ня менш Віцебшчына зьдзівіла французаў асаблівасьцямі свайго нацыянальнага складу. Віцебскі французскі губарнатар 1812 году маркіз дэ-Пасторэ, пакінуў нам свае цікавыя запіскі аб Віцебску, надрукованыя ў III томе „Полацка-Віцебск. Старыны“. Маркіз заве нашу краіну—краінай няволі: „ад найбагатага князя да самага цёмнага раба—усе зьняволены на Беларусі“. Усяго маркотней—гэта прыніжанасьць чалавека, адсутнасьць бадзёрасьці духу, энэргіі ў паноў, гонару і цноты ў гандляроў і мяшчан, адукованасьці і прыродных прывязанасьцяй у сялян“ (П. В. С., т. III, ст. 194). Жыцьцё сялян настолькі цяжка, што яны нікольні не даражаць ім. Маркіз адзначае адсутнасьць сувязі паміж гэтымі клясамі жыхарства і здоль-

[1]) Сапуноў „К 75 лет. Віцеб. м. гімн.“

[2]) Запіскі Севергіна, 92 ст.

насьці беларуса да гандлю. Вайна 1812 году адзначана першай спробай беларускага сялянства вызваліцца ад панскага ўціску. Шмат па якіх мясцовасьцях Віцебшчыны сяляне сталі разьбіваць панскія фольваркі. Гэта страшэнна занепакоіла францускі ўрад і паноў.

## Белар. літар. пачатку XIX стал.

Прыхільнасьць і цікавасьць тагочаснай інтэлігэнцыі Віцебшчыны да беларускай мовы выявілася ў літаратурнай дзейнасьці вядомага Яна Барщчэўскага. Яго бел. поэма „Рабункі мужыкоў", у якой ён апісвае рабаваньне паноў мужыкамі, зрабілася народнай і часткі яе запісаны пазьнейшымі этнографамі з вуснаў народу. Поэма так выяўляе народны настрой:

> Будзем паноў рабаваць:
> Дробную шляхту паабдзіраем
> Ды й к чорту папраганяем.
> Досыць нас бізуном сеч.
> Цяпер і мы іх будзем печ.
> Цяпер наша пара жыць, гуляць,
> Аканомаў у саху запрагаць.

(П. К. Віцеб. губ. 1854 г., стар. 105).

Але пара жыць для мужыка хутка скончылася. Усё-ж гэтыя рабункі нарабілі клопату ня толькі французам, а й расійскаму ўраду. Мужыкі Гарадзецкага павету, Віцебшчыны разьбілі ў жніўні 1812 году пошту, якая ішла з г. Люцына ў першую Заходнюю армію, забралі 87.771 р. 12½ кап. грошы. Гэта перапужала ўсё прыфрантовае расійскае начальства, пачалася перапіска, якая скончылася карай вінавайцаў у 1813 г. У драпежніцтве пошты былі абвінавачаны сяляне в. в. Кастылёва, Сапронава, Мітрошына, Навікоў, Мікуліна, Гарадзецкага павету. На замірэньне іх пасылалі салдатаў. (П. В. Ст., т. III, стар. 291).

Пасьля 1812 году вярнуліся паны ў свае маёнткі, пачалі падлічваць сваю шкоду і спаганяць прыбытак на большым абцяжараваньні прыгонам мужыка.

Толькі горад Віцебск меў ад вайны шкоды на 1.687.736 руб. і падупаў у ліку сваіх жыхароў з 6.708 ў 1811 годзе да 2.415 душ у 1813 годзе. Больш за ўсіх пацярпелі сяляне.

З часоў вайны і да самага польскага паўстаньня 1831 г. цягнулася ўзмацненьне польскае адукацыі на Беларусі. Але побач з ёй ідзе зацікаўленасьць мясцовай культурай, клерыкальная афарбоўка ўсяе адукацыі на Беларусі значна перашкаджала паступовасьці ўплыву Віленскага унівэрсытэту на шляхецкую моладзь, якая выхоўвалася ў ім.

К часом паўстаньня ў Віцебшчыне было 38 школ: з 1 вышэйшым вучылішчам у Полацку, 3 гімназіі I разраду, 3 шасьцілеткі, 4 павятовых вучылішчы, 19 прыходзкіх, 8 жаночых школ і пансіонаў. Калі ўспомніць,

што гэтыя школы прызначаліся для навучаньня дзяцей якога-небудзь дзесятка тысяч шляхты, дык робіцца зусім зразумелай тая зьява, што самыя бедныя шляхцічы, як бацька Янкі Баршчэўскага, маглі даць сваім дзецям найлепшую адукацыю.

Выхаванцы і вучоныя з Віленскага унівэрсытэту цікавяцца мінулым Беларусі, як часткай Польшчы, з мэтай усхваленьня польскай культуры і далучэньня беларускай сілы на справу адраджэньня Польшчы, але ў сваіх шуканьнях патрапілі на Літву, як самастойную дзяржаўную адзінку. Пачаліся дасьледзіны Літоўскае дзяржавы і культуры, адсюль адзін крок да адшуканьня беларускай культуры. Паўстаньне 1831 году зусім слаба агарнула абшар цэнтральнай Віцебшчыны. Беларус не адазваўся на запрашэньне шляхты ўзбройвацца косамі, сярпамі і выганяць маскаля. Віцебскі мужык далучыўся часткай да царскае ўлады, каб біць пана. Так было ў Полацку і другіх гарадох.

Зачыненьне царскім урадам польскіх школ, кляштараў, конфіскацыя маёнткаў—падарвала моц польскага капіталу і ўплыву на Беларусі. Шляхта ўбачыла неабходнасьць у барацьбе з маскалём аперціся на беларуса. Пашыраецца цікавасьць да беларускай народнай творчасьці. Ужо ў 1833 годзе мы ў Лепелі бачым Яна Чачота, зацікаўленага зьбіраньнем народных песень праз паноў, паненак.

Побач са шляхтай пачала ўсё больш і больш узьнімаць галаву папоўска-беларуская партыя, якая цяпер ужо цалком абаперлася на царскі ўрад. На Віцебшчыне пачынае панаваць праваслаўны архірэй, манах і шырыцца далучэньне вуніятаў. Вунія, гэтая праслойка паміж польска-беларускім капіталам і культурай, сьціраецца. Яшчэ да паўстаньня прадстаўнікі беларускага духавенства для барацьбы з панствам і яго прэтэнзыямі на Беларусь зьвярнуліся да старасьвецкіх грамат, якія сьведчылі аб іншым. У 1824 г. быў выдан „Беларускі архіў старасьвецкіх грамат". З гэтага пачынаецца выданьне беларускіх грамат, якое асабліва расквітнела на Віцебшчыне ў другой палове сталецьця.

Віцебскае панства ў канцы 30-ых і пачатку 40-ых год захапляецца беларускасьцю. Заблоцкі з Гарадка пачаў пісаць вершы пра аколіцы Віцебску, Дзьвіны, возера Даўжанскага. Баршчэўскі зьбірае народныя паданьні і піша свайго „Шляхціча Завальню", у якім польскага толькі ёсьць адна мова, выдае ў Пецярбурзе сваю часопісь „Незабудка". Адна за другой зьяўляюцца з друку „Вясковыя песьні з-пад Нёмана і Дзьвіны" Яна Чачота і цягнуцца на цэлы дзесятак гадоў ад 1837 па 1847 г. Чачот пачынае першую распрацоўку беларускага слоўніка. Романтычны настрой ахапіў усе маёнткі. Гандлёвы польскі капітал пачуў зараджэньне ў сваім лоне прамысловага капіталу, імкнуўся хоць трохі ў народнасьці затрымаць яго зьяўленьне на сьвет.

Просты беларускі народ карпеў над зямліцай. Папы скасавалі ў 1839 годзе формальна вунію, усімі сродкамі, пры дапамозе чыноўнікаў

канцылярыі Беларускага гэнэрал-губарнатарства, заганялі вуніятаў беларусаў у праваслаўе. Хто з чыноўнікаў ім здаваўся нерадзівым да скасаваньня вуніі, таго царскі ўрад звальняў. Адзін за адным зьляталі губарнатары, гараднічыя. Асабліва задзёрыста арудваў полацкі архірэй Смарагд Крыжаноўскі. Сялян саджалі ў турмы за адказ далучыцца да праваслаўнай царквы. Сьціраліся ўсе беларускія асаблівасьці царкоўнай службы, палілі вуніяцкія кнігі, зьнішчалі статуі сьвятых па цэрквах і кляштарах. Шмат загінула ў гэтыя часы каштоўнасьцяй беларускай культуры. Але цікавасьць да мясцовай культуры і багацьця, пасееная Віленскім унівэрсытэтам, пачала ўкараняцца ў глебу Віцебшчыны. Ужо ў 1824 годзе для ўздыму свайго дабрабыту і вывучэньня багацьцяў Віцебшчыны панства складае „Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства". У склад яго ўваходзяць царскія чыноўнікі губэрні, абшарнікі беларуска-расійскага напрамку: князь Любамірскі, Мількевіч, Маркаў і іншыя. Таварыства пачало працаваць з 26/I-1925 г. Ім было выдана некалькі сшыткаў сваіх запісак, у адным з якіх нам давялося бачыць „флёру Віцебскай губэрні". Пералічаюцца расьліны, даецца лацінская, польская і беларуская назва кожнай травіны.

Панства заходняга канца Віцеб. губэрні згрупавалася каля выдаваемага ў 40-ых гадох панам Казімірам Буйніцкім зборніка „Рубон" (старасьвецкае імя Дзьвіны). Тут друкуецца шмат артыкулаў аб мінулым Віцебскай Беларусі. Пан Ігнась Храпавіцкі даў нарыс аб значэньні беларускай народнай поэзіі для зразуменьня істоты народу, даецца для прыкладу некалькі беларускіх народных песень. Храпавіцкі праводзіць думку аб неабходнасьці знаць сваю старонку, у якой радзіўся і ўзрос. У „Рубоне" друкуюцца паны Дынабурскага, Дрысенскага, Лепельскага. Полацкага паветаў. Асяродкам іх працы робіцца г. Вільня. У прадмове да „Шляхціча Завальні" Баршчэўскага ў 1844 годзе ў Пецярбурзе Рамуальд Друцкі-Падбярэскі дае крытычны агляд беларускай літаратуры таго часу, пры гэтым ён не аддзяляе рэчаў, напісаных пабеларуску ад рэчаў у польскай мове. Пералічае поэтаў г. Віцебску, якія пісалі пабеларуску: Фр. Рысінскі, Ян Оношка, Раймунд Корсак, Враблеўскі і іншых. Баршчэўскі называецца „львом" сярод гэтых пісьменьнікаў. Нейкі А. Абрамовіч у „Roczniku literack'im" Падбярэскага даў у 1843 г. некалькі беларускіх мэлёдый з Віцебшчыны к песьням Баршчэўскага. Так у 40-ых гадох вызначыліся два пункты цэнтраваньня беларускай шляхецкай думкі Віцебшчыны: Пецярбург і Вільня.

Беларускі народ не маўчаў: ён змагаўся і з панамі, і з папамі. Пры вуніяцкіх парафіях былі школкі, у якіх з дзяцьмі царкоўнага кліру вучыліся дзеці сялян. Аб гэтым красамоўна расказаў Н. Я. Нікіфароўскі ў сваёй брошуры аб школах на Вымняншчыне, Віцебскае акругі. Паны сачылі за такімі школкамі праз сваіх дазорцаў, настаўнікі вандравалі з вёскі на вёску, разнасілі беларускую сьвядомасьць.

## Мужык „бунтуе“

Пасьля 1831 году ўсё больш і больш пашыраліся па Віцебшчыне народныя бунты. Уціснуты ў вялікую беднасьць, страшэнна эксплёатуемы, беларускі мужык пачаў тузаць „добрых паноў“ і прыхільнае да яго сярэдзіны Мікалаеўскіх чыноўнікаў. То там, то тут выбухаюць сялянскія бунты на грунце нездаволеньня цяжарам прыгону.

Сялянскія бунты абеспакоілі ўрад цара Мікалая I: ён у 1836 годзе з Сімбірску пераводзіць у Віцебск губарнатара Жыркевіча С., цікавыя запіскі якога надрукованы „Рускoй Стариной“ за 1890 год.

Цар проста сказаў Жыркевічу, што ў Віцебскай губ. існуюць вялікія непарадкі і што ён пасылаецца іх зьнішчыць „во ймя сваёй любові да цара“ (Р. С. 1890, т. 8, ст. 226). Ужо з самага прыезду Жыркевіча давялося ўсьцішаць цэлую Янавольскую воласьць, Люцынскага павету, якая адмаўлялася ад прысягі цару пры пераходзе па сьмерці свайго пана, графа Борха, у казну.

Шмат нездаволеньня сялян было і пры раптоўным скасаваньні вуніі.

Сяляне графа Борха адмовіліся выбіраць сабе старшынь, прысягаць, каб ня стаць зноў „панскімі“ прыгоннымі. Для іх угаварваньня ў Янаволь выяжджаў у 1836 годзе намесьнік віцебскага губарнатара Дамброўскі з 2 батальёнамі пяхоты. Янавольцы чуць не забілі віцэ-губарнатара.

На гэту пару здарыліся частыя неўраджаі, якія павялічылі прыгон і падарвалі экономічную моц губэрні; за часы з 1825 па 38 год на Віцебшчыне было 8 недародных гадоў. Ня гледзячы на гэта, прамысловасьць захапіла наша панства. Адно за другім зьявіліся розныя заводзкія прадпрыемствы па маёнтках. Адзін пан выстарчаўся перад другім, каб завясьці найцікавейшую фабрыку. Быў вялікі запал, але мала ведаў— ад гэтага шмат такіх прадпрыемцаў вылецелі ў трубу. Але беларуская мова ўзбагацілася некаторымі прыказкамі аб дзейнасьці беларускіх прадпрыемцаў: „Зарабіў, як Заблоцкі на мыле; усыпаў як ў Мінкін мех“.

А злая доля прыгоннага беларуса ў зьвязку з гэтымі панскімі прычудамі адбілася ў народных песьнях. Так Шэйну прыслалі адну песьню такога зьместу:

> Злодзей ты, наша барыня!
> Зжыла ўсю сваю вотчыну:
> Яна маладых рабят ў салдаты аддаець,
> А серадавых мужыкоў—усё ў вінакуршчыкі,
> Удалых малайцоў—на хвабрыцкі, красных
> Дзевушак ўсё ў батрацачкі,
> Старых гоніць на работушку.

Так узмацняўся панскі прыгон, але разам з дымам фабрычных катлоў беларускі мужык уцягнуў у сябе імкненьне да волі.

Пачалі пісаць жалабы на сваіх паноў царскаму ўраду. Паны пачынаюць жаліцца, што мужык гультай і п'яніца. Пранікненьне прамысловага капіталу ў панскі двор пачало рабіць свой уплыў. Прыгонная праца сялян не здавальняла панскага хаценьня прыбыткаў. Хаця ўжо ўся вёска ад малога да старога працавала на пана, а яму ўсё было мала.

Галодныя 1844-45 гады ўзбурылі сялянства. Яно выйшла з паслушэнства сваім паном, пакідала ня толькі прыгонную працу, але і свае хаткі, зьнімалася цэлымі вёскамі шукаць хлеб па сьвету. Народная хваля абхапіла сьпярша Себескі павет, там у Далосцах сяляне пакінулі свае хаты, прадалі маемасьць, зьнішчылі пасевы і пашлі туды, дзе вялася чыгунка, да белага цара, каторы дасьць ім вольнасьць. Сьледам за імі зьняліся з месц шмат вёсак Невельскага, Люцынскага, Дрысенскага паветаў. Зьнепакоены ўрад прыслаў у 1847 г. замест вольнасьці—двух флігель-ад'ютантаў цара з „Піцеру" і 3 палкі салдатаў з Віцебску. Шмат сялянства атрымала вольнасьць магілак, а рэшта была прымушана вярнуцца дамоў, да сваіх зьнішчаных гоняй, пад бізуны панскіх войтаў. Голад павялічаўся—пуд мукі каштаваў 3 рублі. Гэтак кончылася першая спроба беларускага мужыка спадзявацца на цара. Але гэтую веру ў цара ўбівалі ў мужыцкія галовы папы, якія далучэньнем да праваслаўя здабылі сабе пэўныя пэнсіі і добрыя фольваркі ад царскага ўраду. Папы добра жылі і чмучылі просты народ. Голад, уціск выганяў беларуса Віцебшчыны ў лес, там ён зьбіраўся ў хаўрусы і адтуль пачаў разьбіваць панскія маёнткі, карчмы, касьцёлы, царквы. Паны зусім дрэнна сябе адчувалі. Сядзець у маёнтках стала небясьпечна. Асабліваго жаху нарабілі браты Кавалеўскія. Іх шайка чалавек у 30 опэравала на абшары б. Лепельскага, Полацкага, Сеньненскага паветаў. Больш усяго пападала ад Кавалеўскіх паном і карчмам. Паны ўзбройваліся для адпору, уцякалі ў гарады. Для лоўлі Кавалеўскіх выслалі кампанію грэнадзёраў. Доўга яны ганяліся за бандай, але сялянства хавала іх. Толькі ў 1847 годзе пашанцавала ўраду ліквідаваць Кавалеўскіх; Кавалеўскія з 7 таварышамі былі злоўлены ў м. Обольцах, сучаснае Аршанскае вакругі, і адведзены ў Віцебск. Чуткі аб іх дзейнасьці пранясьліся па ўсёй губэрні. Паданьні аб жартах „Карпэчкі", як зваўся адзін з такіх беларускіх барацьбітоў з панамі, дасюль чутны сярод сялян Полацкае і Віцебскае акруг.

Хваляваньні сялян непакоілі царскі ўрад, і ён пачаў аформляць цяжар паншчыны, завёў так званую люстрацыю панскіх маёнткаў. Паны ўбачылі ў гэтых „інвэнтарох" канец прыгону і, як маглі, адкараскаваліся ад іх. А імі толькі ставіліся канцы прыгону.

### Цікавасьць да Беларуса

У палове XIX веку цікавасьць мясцовай інтэлігэнцыі ўзрастае. Уплыў беларускай школы, польскай літаратуры на мясцовую шляхту павялічваецца. Панства пераконваецца ў неабходнасьці для адбудаваньня польскага

„крулеўства“ ўцягнуць у барацьбу з маскалём беларускія сілы. Віцебск робіцца на некаторы час асяродкам зацікаўленасьці шляхты беларусам. На чале гэтае зацікаўленасьці Беларусьсю стаіць Арцём Дарэўскі-Вярыга, які пісаў папольску й беларуску. Беларускія яго творы да гэтага часу ня знойдзены. Але цікава, што ён пераклаў на беларускую мову „Конрада Валенрода“ Адама Міцкевіча. Відаць, гэты гэрой адпавядаў настрою шляхты ў той час. Дарэўскі карыстаўся вялікай пашанай тых колаў дробнай шляхты, якія сапраўды цікавіліся беларусам. У гэтыя часы ўжо зьявіўся беларускі поэта з простага народу—Вінцэсь Кароткі, родам з поўдня Віцебшчыны, але ўзгадаваны ў польскай культуры; ён лічыць Польшчу сваёй маткай. Яго рэволюцыйная брошурка „Гутарка старога дзеда“ зьяўляецца прыкладам тэй заблытанасьці думкі, у якой апынуўся гэты здольны мужык, узгадаваны на панскі лад. Яго сялянская натура ня мірыцца з адарванасьцю тагочаснай інтэлігэнцыі ад роднае стыхіі; ён павіс у паветры паміж польскай і беларускай культурай, яго сялянскае нутро цягнула да роднай зямелькі, і ён пакінуў нам сваю вядомую элегію „Туга на чужой старане“, якая зьяўляецца лепшай ва ўсёй эміграцкай літаратуры пасьля 1863 году.

Гурток віцебскіх беларусаў быў у добрых адносінах з Дунінам-Марцінкевічам і тымі прадстаўнікамі менскае шляхты, якія лічыліся „крывічанамі“-беларусамі. У гэты час поплеч з Вільняй, як цэнтрам польскай цікавасьці да Беларусі, усходзіць Менск, дзе асяродкаваўся Марцінкевіч са сваімі прыхільнікамі. Віцебскія беларусы падтрымліваюць цесную сувязь з Менскам.

З другога боку і папоўска-беларускі напрамак мясцовай думкі высоўвае сваіх прадстаўнікоў на Віцебшчыне. Так, П. Кушын ужо ў 1843 годзе надрукаваў у часопісі „Масквіцянін“ 1843 г. апавяданьне „Гецыкі“ з жыцьця паўночнай Віцебшчыны; яно малюе быт прыгоннага селяніна. Шмат чым пакарыстаўся з беларускіх легэнд Віцебшчыны Павал Шпілеўскі, які горача зваў працаваць над выўчэньнем Беларусі. Гэтыя артыкулы, корэспондэнцыі, апісаньні падарожаў па Беларусі будзілі сярод жыхарства цікавасьць да Беларусі. І польскія, і расійскія часопісі таго часу цікавяцца беларусам, будзяць пачуцьцё мясцовасьці ў сваіх чытачоў на Беларусі.

Беларусьсю цікавіцца ўжо і ваеннае міністэрства, пасылаючы для працы на Беларусь сваіх афіцэраў гэнэральнага штабу—Бароўскага, Зяленскага, Карэву і іншых. У 1855 годзе выходзіць з друку цікавая кніжка Без-Карніловіча „Известия о примечательнейших местах в Белоруссии“...

Здаецца, што аўтар ці сам быў з беларусаў, ці доўга жыў на Беларусі. Але ўжо самае зьбіраньне ведаў аб Віцебшчыне трохі падштурхвала царскіх чыноўнікаў прыглядацца к мясцоваму жыцьцю. „Віцебскія Губэрскія Ведамасьці“ ў канцы 50-ых год заводзяць у сябе неофіцыяльны аддзел, у якім друкуюць старасьвецкія акты, граматы. З 1858 году рэ-

дактарам іх зьяўляўся вядомы пазьней К. Гаворскі, які зьяўляецца тыповым прадстаўнікам ваюючай часткі папоўства Віцебшчыны.

Польскае паўстаньне 1863 году выявілася на абшары Віцебшчыны невялічкімі „шайкамі" панскай моладзі; за імі сяляне зрабілі цэлую аблаву па лясох. Невялічкая бойка паміж паўстанцамі і расійскім войскам адбылася на мяжы Магілеўскае і Віцебскае губэрні, у маёнтку Пагосьцішчы, сучаснага Высачанскага раёну. Сялянства памагло салдатам злавіць паноў, пры гэтым было забіта 2 селяніны.

Конфіскацыя часткі маёнткаў, „воля", праведзеная царскім урадам, крыху надарвала экономічную моц польскага панства на Віцебшчыне. Плошча яе ў гэты час дасягала 4 мільёнаў дзесяцін. У 1861 годзе аблагалася падаткамі 3.296.470 дзесяцін, у гэтым ліку казённай зямлі 559.748 дз., удзельнай 34.201 дз., панскай 2.615.618 дз., патомст. панства 21.922 дз., асаб. дваранства 5.094 дз., аднадворцаў 1.787 дз., вольных земляробаў 2.534 дз., панцырных баяр 24.609 дз., шаноўных грамадзян 1.284 дз., купцоў 10.134 дз., мяшчан 15.199 дз., жыдоў земляробаў 931 дз., царкоўнае, вольнае ад падаткаў зямлі і няўдобіцы 703.530 дзесяцін.

Большасьць зямельнае плошчы залежала ад панства і духавенства. З гэтых часоў пачынаецца экономічны націск селяніна на пана за зямлёй.

К часу скасаваньня прыгону на Віцебшчыне было паноў:

| | у горадзе | | у павеце | |
|---|---|---|---|---|
| Патомных | 2.112 м. | 1.954 ж. | 9.994 м. | 11.005 ж. |
| Асабіст. | 1.288 м. | 1.324 ж. | 872 м. | 979 ж. |
| Усяго | 3.400 м. | 3.278 ж. | 10.866 м. | 11.984 ж. |

Усяго панства было 29.516 асоб. Сялянства было 620.942 душы, з іх у гарадох жыло 872 мужчыны і 1.117 жанчын. Надзелы панскія мужыкі атрымалі ня дужа вялікія, але жаданьне набыць зямлю пашло ў гару, і паны год ад году трацяць свае землі, а беларус набывае. У сваёй кнізе „Землевладение и землевладельцы Витеб. губ." А. Сапуноў дае такія малюнкі зямельнага стану:

У 1877 г. панскіх 1.926.842 дз.—55,1%, сялянскіх—1.294.743 дз.—37%, казна 276.661 дз.—7,9 проц.

У 1887 г. панскіх 1.551.794 дз.—49,5%, сялянскіх 136.075 дз.—43,4%, казна 223.225 дз.—7,1 проц.

У 1905 г. ўласьніц. 2.134.517 дз.—52,6 проц., сялянскіх 1.593.147 дз.—39,3 проц., казна 326.559 дз.—8,1 проц.

Такім чынам, зямельная надзельная плошча к 1905 году павялічылася ў параўнаньні з 1877 годам на 298.404 дзесяціны, на 23,05 проц., а панства за гэты час страціла 19 проц. сваёй зямельнай плошчы—1.294.716 дз.

Сваім мазалём і потам селянін здабываў сабе панскую зямліцу. Шляхецкая цікавасьць да беларускай зямліцы і культуры выявілася ў дзейнасьці братоў Б. і С. Эпімах-Шыпілаў. Яны аб'ядналі каля сябе шляхецкую моладзь Лепельшчыны, складалі рукапісныя зборнікі беларускіх вершаў. Беларускія вершы пашыраліся па дробных маёнтках

і пагостах. Вялікая этнографічная праца Шэйна, Нікіфароўскага, Раманава будзіла цікавасьць да беларускага народу і мовы. Утварэньне Віцебскага архіву актавых кніг Магілеўскай і Віцебскай губэрань, прадпрынятае ім з 1868 году выданьне „Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў, расьцягнутае аж да 1903 году, таксама зрабіла добры грунт да беларускай справы: 31 том „матэрыялаў“ кожным радком друку гаварыў аб мінулым Беларусі. Пад іх уплывам А. Сапуноў пачаў выданьне зборнікаў „Віцебскае старыны“ (1883—88 г.)—першую цэгліну на будынак гісторыі Беларусі. Неофіцыяльная частка „Віцеб. Губ. Ведамасьцяй, памятныя кніжкі Віцебскай губ.“ надрукавалі шмат артыкулаў па розных пытаньнях жыцьця Паўночна-Усходняй Беларусі. Як ні стараліся гэтыя аўтары давясьці Беларусь на „исконный русский Северо-Западный край“, гэта ім ніяк не ўдавалася. Асаблівасьці Беларусі красамоўна, паміма волі аўтараў, прабіваліся з іх артыкулаў і гаварылі сэрцу чытача ня тое, чаго жадаў пісаўшы. На старонках „Ведамасьцяй“ друкаваў свае жарты з жыцьця беларускай вёскі А. Р. Пшчолка і іншыя. Яны зусім незалежна ад мэт пісьменьніка будзілі пачуцьцё мясцовасьці. Яго „Янкіну жалабу ў губэрнію“ ставілі на вучнёўскіх спэктаклях у народных і „второклассных“ школах, Полацкай настаўніцкай сэмінарыі; гэтыя сьвяты будзілі ў вясковай моладзі зусім іншы настрой да беларускага. Некаторыя яго сцэнкі дасюль завучваюцца вясковымі хлопцамі напамяць, асаблівую пашыранасьць на вёсцы меў выданы Пшчолкай у 90-х гадох „Тарас на Парнасе“.

„Наша Доля“, „Наша Ніва“ знашлі на Віцебшчыне добра падрыхтаваную глебу, асабліва ў дробна-ўласьніцкім, фальварковым Лепельскім павеце. У 1906 годзе ў Полацкай настаўніцкай сэмінарыі існуе сярод вучняў беларускі тайны гурток, чытаецца „Наша Ніва“. З зацікаўленых беларускай культурай настаўніцкіх колаў Віцебшчыны выходзіць беларускі поэта Янук Журба.

З'організованы на Віцебшчыне ў 1907 годзе аддзел настаўніцкага саюзу таксама пачаў выданьне часопісі „Белорусский Учитель“. Там у шэрагу з іншымі пытаньнямі ёсьць і беларуская школа. Настаўніцтва завецца на абгаварваньне пытаньня аб тым, на якой мове трэба вучыць у школах Беларусі. У Полацку, Віцебску адчыняюцца кнігарні, дзе прадаваліся беларускія кніжкі.

Але асаблівасьць экономічнага жыцьця Віцебшчыны, пераважна панаваньне расійскага прамысловага капіталу, заняпад, пасьля правядзеньня Рыга-Арлоўскай чыгункі, Віцеб. гандлёва-пасрэдніцкага капіталу, затрымалі моцнае разьвіцьцё нацыянальна-беларускага руху на Віцебшчыне аж да самага 1917 году, калі адразу канчаткова выявіліся абодвы напрамкі яго ў Віцебскай губэрні.

## УВАГІ ДА БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ МОВЫ [1])

Я. Лёсік

**10. Лічэбнікі ў родным склоне.** У беларускай мове назоўнікі лічэбныя, пачынаючы з 2 і канчаючы 99, калі ім прыходзіцца злучацца з назовамі асобы чалавека, скланяюцца так, як паказана ў „Граматыцы для школ" Б. Тарашкевіча:

1. назоўны—вінав.: *тры, пяць, дзесяць.*
2. родны—він.—месн.: *трох, пяцёх, дсесяцёх.*
3. давальны: *тром, пяцём, дзесяцём.*
4. творны (прыладны) *трыма, пяцьма, дзесяцьма.*

Такое скланеньне бывае ў тых разох, калі гэтым лічэбнікам прыходзіцца злучацца з назоўнікамі йменнымі, што азначаюць прадметы жывыя, асабліва—асобу чалавека, напр.: адзін на *дзесяцёх* не запаможашся; *пяцёх* гаспадароў, *пяцёх* гусянят. Але калі назоўнікам лічэбным прыходзіцца злучацца з назовамі іншых прадметаў, то яны скланяюцца так, як у старой славянскай мове (як у расійскай літаратурнай мове).

У старой славянскай мове лічэбнікі, пачынаючы з 5 і да 99, скланяліся, як „косьць" ці „сьмерць", г. зн. як сучасныя назоўнікі йменныя жаноч. роду з асноваю на зычны, бо яны былі назоўнікамі *жаноч. роду*, што відаць з старое беларускае літаратурнае мовы, напр.: *тую пяць* рублёў, *усю тую двацацаь* тысяч, *тую пяцьдзесят* коп грошай, пашлі *другая сем* (прыклады ўзяты з „Белар." т II, 2, стр. 329).

Значыць, скланеньне гэтых лічэбнікаў у злучэньні з назовамі прадметаў *няжывых* будзе такое:

1. назоўн.—вінав.: *пяць, шэсьць (сьмерць).*
2. родн.—дав.—месн.: *пяці, шасьці (сьмерці).*
3. творна-прылад.: *пяцьцю, шасьцю (сьмерцю)* / *пяцьма, шасьцьма.*

Такое скланеньне знаходзім і ў жывой народнай мове, калі лічэбнікі злучаюцца з назовамі прадметаў няжывых (зварачаю ўвагу на родны склон), прыкладам:

*З сямі поль* пшанічанька, *з васьмі крыніц* вадзічанька, *дзевяці кароў* масла і яец паўтараста (п.). Сама-ж я ня знаю, што ў гэтым

[1]) Глядзі „Полымя" № 3 (11)—1924 г.

караваю: *сямі поль* пшанічанька, *сямі рэк* вадзічанька, *дзевяці кароў* масла і яец паўтараста (п). *На сямі стаўбох... у дзевяці вярстах. Па трыццаці летах* прыдзе. Аднаго разу, як я яшчэ меў *лет каля дзесяці*, паслалі мяне ў начы да аднаго двара. Дык ён даў ей ключы ад усіх *трыццаці пакояў*. Гаспадар засьмяяўся ды кажа: „У мяне пастушок бярэ больш дваццаці" (рублёў).

У творна-прыладным склоне знаходзім розную форму, як і ад слова „косьць": прывязалі да слупа з *дванаццацьма ланцугамі*, лапаць *з дванаццацьмі вушкамі*.

Адгэтуль відаць, што пабеларуску нельга сказаць „сямёхлетка" ці „сямёхгадовы", а трэба сказаць *сямілетка, васьмігадовы, пяціскладовы* і т. далей, дзе лічэбнік стаіць у форме роднага склону, як *касьці, сьмерці, млявасьці*.

**11. Інфінітыў з родным склонам.** Інфінітыў *пераходнага* значэньня, стоячы па асабовым дзеяслове, часта злучаецца не з вінавальным, а з *родным* склонам, напр.:

*Хадзем*, дзеванькі, у лес гуляці, зялёных *вянкоў завіваці!* (п.). Хадзі, кума, *кісялю есьці!* Вада, вада! ідзі агонь тушыць: агонь ня хоча *кіёў паліць*, кіі ня хочуць сабакі біць. Валы, валы! ідзеце ваду піць: вада ня хоча *агню тушыць*, агонь ня хоча *кіёў паліць*. Чэрві, чэрві! ідзеце *доўбняў* тачыць, доўбні ня хочуць *валоў біць*, валы ня хочуць *вады піць*.

Такі інфінітыў, што злучаецца з родным склонам, паходзіць з даўнейшага *супіна* (дасягальнага дзеяслова). Супін стаяў пасьля дзеяслова руху ды меў пры сабе родны склон. З часам, калі формы супіна зьмяшаліся з старым інфінітывам, то перанесьлі сваё значэньне з родным склонам і на інфінітыў. Цяпер інфінітыў з родным склонам стаіць ня толькі пасьля дзеяслова руху, а й у кожнай іншай чыннасьці. Але стары інфінітыў, што меў пры сабе *вінавальны* склон, зрабіў уплыў на інфінітыў, што з супіна, так што часта й пасьля дзеясловаў руху стаіць інфінітыў з вінавальным склонам. Такім парадкам, абодва гэтыя склоны сталі ўжывацца з аднолькавым значэньнем, напрыкл.:

Ваўкі, ваўкі! ідзеце *козы драць*: козы ня хочуць *быля* (былінкі) *драць*, быль ня хоча майго верабейчыка калыхаць. Сабакі, сабакі! ідзеце *на ваўкі* брахаць: ваўкі ня хочуць *козы* драць, козы ня хочуць *быля* есьці, быль ня хоча малога верабейчыка калыхаць. Куры, куры! ідзеце *чэрві* есьці: чэрві ня хочуць *доўбня* тачыць доўбень ня хоча *валы* біць, валы ня хочуць *вады* піць, вада ня хоча *агонь* тушыць, агонь ня хоча *кіёў* паліць, кіі ня хочуць *сабакі* біць... Стральцы, стральцы! ідзеце шулякі страляць: шулякі ня хочуць *курэй* хватаць, куры ня хочуць *чарвей* есьці (К. Федароўскага). Ехалі сваты па кляновым масту: *масты* паламалі, *коняй* патапілі, *сукні* памачылі (п.). Воўк сеў *пад дуба*, мядзьведзь залез *на дуба*. Арол напаў *гусі*, давай

мардавацї. Як я буду цярпець *гэтакае няславы?* Прышлі блізка *дому* таго гаспадара. Вучыўся там той хлопец *усялякіх навук.* Любіў ён вельмі слухаць *баек.*

Інфінітыў з родным склонам стаіць і пасьля прыслоўяў, напр.:

*Досыць* ім тых *яблык* хацецца! *Жаль* мне кідаць *цябе маладое.*

### 3. Давальны склон

Вельмі часта ў народнай мове знаходзім звароты з давальным склонам там, дзе ў літаратурнай мове найчасьцей ставіцца прыназоўнік *у (ў)* з родным склонам, напр.:

Не бяры *нам* мацеры, бо мы з голаду паўміраем. Аднаму *чалавеку* згінулі валы. Аднаму *чалавеку* памерла жонка. А той узяў ды ўкраў *яму* сядло. Потым мара згінула *яму* з ачу. Няхай тое робіць, што я яму сказаў, то гэта (хвароба) пяройдзе *яму.* Гэтак хватаў воўк *усім гаспадаром* па калейцы—*таму* тое, *таму* тое,—і выдушыў *ім* усю скаціну. Калі *бацьком* не гадуюцца дзеці, то трэба... Пасеяў чалавек пшаніцу, але чыста *яму* прапала. Той кажа, што *мне* й надта ўрадзіла; другі кажа, што *мне* прапала—той тое, той гэта. Дзеля сына я *двару* не вярнуся. Хто *таму вінаграду* сторажам будзе? Паны б'юцца, а *мужыком* чупрыны трасуцца. Конь *яму* пачаў прыставаць. Забіралі *людзем* хлеб, авёс, на хурманкі гналі.

Выразьней выступае гэты давальны склон (daritus possessirus) у такіх прыкладах: Ён *мне* прыяцель. Яна сваячка *нашай настаўніцы. Багатаму* і ў полі радзіла, і ў хляве пладзіла. Чалавек і не агледзеўся, як *яму* тыя дзесяць год мінуліся. Ніколі ня варта быць *скупому.*

Прыклады на давальны *незалежны:* Усім сваім *злосьнікам* я наругнуся. Прыдзі, мой міленькі, *людзям* наругніся. Я сама *таму* дзівіла, што іх многа ўрадзіла.

Калі дзейная асоба стаіць у форме давальнага склону, то пры інфінітыве можа стаяць другі давальны—прэдыкатыўны, напр: Годзі сядзець *смутнаму!* Як-жа мне, маладзенькай, не сядзець *смутненькай!* Быўшы *смутнаму,* трэба разьвесяліцца.

Давальны пры дзеясловах: *дзякаваць, выбачаць, дараваць, балець* каму. Напр.: Баліць *мне* галава (а не „*у мяне* баліць галава“). Дзякуй *табе* за добрую раду! Выбачайце *мне!* Што гэта *нам* так ногі баляць?

### 4. Творна-прыладны склон

Вельмі часта, пры азначэньні месца з пэўным кірункам дзеяньня, у нас ставяць дапаўненьне з прыназоўнікам „па“, як у расійскай мове, ды кажуць: „Ехалі ў Кіеў па Дняпру“. Гэта чыста расійскі зварот; у беларускай мове ў такіх разох ставіцца прыладны склон без прыназоўніка, і гэтым выражаецца кірунак дзеяньня, напр.:

Едуць яны цёмнымі *барамі,* камяністымі *дарогамі,* чыстымі *палямі.* Ехалі мы ў Кіеў *Дняпром.* Сеў ён на таго каня ды паехаў

тэю самаю *дарогаю*. Сем міль *лесам* ісьці, а восьмую *морам* плысьці. Ой пайду я *дарогаю*, пушчу голас *дуброваю*. Павязьлі яе цёмнымі *лясамі*, шчырымі *барамі*, вялікімі *лугамі*. Плыві ты *вадою*, а я за табою.

Прыназоўнік „па“ ў беларускай мове ставіцца тады, калі трэба паказаць, што рух адбываецца рознымі кірункамі. У такіх разох прыназоўнік „па“ ў адзіночным ліку злучаецца з давальным склонам, а ў множным ліку—з месным склонам, напр.:

Коце, браце! мяне ліска нясе ў высокія горы, у глыбокія норы *па бару, па каменьню, па ўсялякаму зельлю*. Сталі людзі пераходзіць на другі бераг па кладачцы, а ён пашоў проста па вадзе, як *па сухому*. Ідуць *па сялу* ды пытаюць: ці ня пусьціць хто начаваць к сабе? *Па ўсяму царству* пашла пагалоска, што скора настанезамірэньне. Відзен сокал *па палёту*, а сава *па воку*. Як пайду я, маладая, *па чыстому полю*, сея, расьсявая сваю горку долю. Разышлася вестка *па ўсяму сьвету*. Расхадзіся *па ўсяму двару* гаспадарскаму. Ягада з ягадай *па бару* расьлі—маладзён з княгіняй *па дамох* расьлі. Хадзіла козанька *па лаlму*, за ёй шэры воўк у сьляду.

Вельмі часта, замест „ехаць на чым“, ставіцца прыладны склон без прыназоўніка, напр., поплеч з такімі зваротамі, як „Едзе нехта *на чацьвярыку*“, кажуць:

Была сабе муха-хахаўка, мела яна шэсьць камарыкаў—яна *імі* езьдзіла. Ах ты, куме, куме! што-ж ты мне зрабіў? *чым* я цяпер буду ехаць?! Глядзіць ён—ажно едзе нехта *шасьцьма коньмі*. Паехаў ён *чацьвёркаю* ў госьці. А *тым канём* паехаў сам гаспадар. Бачыць ён—едзе нехта *тройкаю* коняй, *карэтаю*. Бачыць—едзе нехта *парма коньмі*.

Гэты прыладны падобен на прыладны спосабу дзеяньня, як у такім прыкладзе: „Бяжы, кося, усё *рысьцю* к майму татку з карысьцю, к маёй мамцы з радасьцю“.

**Прыладны часу**. Расійскі зварот: „На днях, на этих днях, в иное время, в последнее время“ пабеларуску перакладаецца прыладным склонам з прыметнікам-азначэньнем: *гэтымі днямі, іншым часам, апошнім часам*.

Замест неўласьцівых беларускай мове расійскіх часоўных зваротаў—„Сходы адбываюцца па панядзелках і пятніцах“, трэба сказаць: *сходы адбываюцца панядзелкамі й пятніцамі*—або: *у панядзелкі й пятніцы*.

Часоўныя звароты вінавальнага склону з прыназоўнікам „у (ў)“ *(у панядзелкі, у пятніцы)* беларуская мова любіць перадаваць прыладным склонам з прыметнікам-азначэньнем, напр.:

*Цяперашнім сьветам* ня скора такую знойдзеш. Думаў я *днямі і начамі*. Ехаў *гэтымі днямі позным вечарам* адзін чалавек з-за Шылавіч. Ехаў казак да дзяўчыны *бялюсенькім сьветам*. Яго калісь, яшчэ *малым*, аддаў бацька падпасічам. Ён гэта яшчэ *блазнам* чуў ад свайго

бацькі. Аж так, *золакам*, чуе—нешта горача стала. Калі-ж цябе, мая мамачка, у госьці чакаці, ці *глыбокімі сьнягамі, ці зялёнымі лугамі*, ці *вішнёвымі садамі?*

**Прыладны прэдыкатыўны**. У беларускай мове ў сустаўным выказьніку вельмі часта скланяльная частка стаіць у форме назоўнага склону, але прыладны-прэдыкатыўны таксама даволі пашыраны, напр.:

А тую кабеціны *прадражнілі* за гэта *Рысяю*. І расказаў ён, як баба *стала старастаю*. У дурнога—то й млін *касьцёлам*. Сем *немкамі былі*, восьма гаварыла. Мамачка, чаму гэта мяне *завуць Адзінюком?* Хто таму вінаграду *сторажам будзе?* З таго часу й *пачало звацца* тое месца *Кажамякамі*. *Звалі* яго *Ахрэмам*. *Служыў* ён *парабкам*. У цёмным лесе, сярод балота, стаіць гара—яе *называюць Рымшавай гарою*. А хто *хоча быць панам* над другімі людзьмі, той мой вораг. Ніхто іх *кумам* не хацеў паслухаць. Мо', чалавечку, паслухаеш мяне *кумам?*

Але ў такіх разох часьцей ужываюць звароты з прыназ. „за“ (бач ніж.).

**Прыладны пры дзеясловах**: *гаварыць, перакладаць, вучыць, перадаваць* (кім), *турбавацца, панаваць, ехаць* (звароты з „ехаць“ бач вышэй):

Пабралі дзяцей у школы ды сталі вучыць іх *роднаю моваю*. Трэба пераслаць ліст *Іванам*. Ня турбуйся-ж ты, наша матанька, *намі:* як падрастуць крыльцы, то разьлятомся самі. Не клапачыся, мамка, *пасагам!* Ня турбуйся, мая мамка, *мною*, а турбуйся сама *сабою*. Не затым я прышоў, каб *сьветам панаваць*, а затым, каб аслабаніць сьвет ад паноў, бо кожны чалавек сам сабе пан.

Пры дзеясловах „быць, стаць, мець, уважаць, выбіраць“ і іншых, што выражаюць зьмену ў стане прадмета, ставіцца ня прыладны-прэдыкатыўны, а вінавальны з прыназоўнікам „за“, напр.:

Яна ў іх на вясельлі *за дружку* была. Яго ўсе *за дурнога* мелі. Ён мне *за бацьку* роднага стаў. Гэта некалі людзям *за зброю* было. Мы цябе *за разумнага* ўважаем. Згадзілі яго *за пастуха*. Пашоў на плыты *за галоўніка, за задніка*. Ня ўмею ні чытаць, ні пісаць, а мяне *за караля* абіраюць. Думае, што дурань яго *за чорта* прымае. Пану верна ня служы, а чужое дзіця не хавай *за роднае*, бо зрадзяць. Стаў *за настаўніка*. Дык яна засталася ў іх *за наймічку*. Каб ня была ёй паветка *за хатку*, каб ня была ёй суседка *за матку*. Гадуй маю Ганулечку *за родную дачку*! Ой ня тая, мой сыночак, гадзіна паўстала, каб чужая чужаніца *за родную стала*.

Адгэтуль відаць, што пабеларуску лепш сказаць: „Лічу за свой абавязак“, а не „сваім абавязкам“. Пры дзеясловах *выбіраць* ці *абраць* можа стаяць і прыназоўнік „на“, напр.: *Абіраюць на караля, на члена*, як—*вучыцца на доктара*.

Пры дзеясловах *віншаваць, дарыць* таксама знаходзім прыладны склон без прыназоўніка, як пры дзеяслове *частаваць чым*, напр:

Віншую вас *вянком*, а вы мяне *мядком*. Віншую вас *Новым Годам, новым шчасьцем*. Дару цябе, дачушка, *хлебам-сольлю, шчасьцем і дольлю*. Сустрачаю вас, мае дзеткі, *жытам-бытам, доўгім векам, добрым здароўем;* што маю, *тым* устрачаю, каб доўга жылі, адно аднаго шанавалі і радзіцаў успаміналі!

Пасьля дзеяслова „паслаць“ у значэньні „пакараць“:

Пачакайце-ж! козы: я на вас нашлю *ваўкамі*. Пачакайце-ж, чэрві: я на вас нашлю *курамі*.

**Прыладны спосабу дзеяньня**. Гэтая форма дапаўненьня мысьліцца, як акалічнасьць-прыслоўе, напр.:

*Сьляпіцаю* лезе ў вочы. Так і жыве сабе *дармаедам*. Той пашоў у лес, а ён *назіркам (і—наглядам)* за ім. Стаў ды думаю сабе, *якім-бы* гэта *спосабам* дастаць мёду? Вы *разбоем* запанавалі гэтым лесам. Дык ён усё *пайсткам* і расказаў.

**Прыладны прычыны й азначэньня:** Заенчыў хлапец *жыватом*. Узяў за іх тры рублі *гатоўкаю*.

## VI. Дапаўненьні з прыназоўнікамі

Вышэй ужо зазначалася, што ў дапаўненьнях з прыназоўнікамі (складаныя дапаўненьні) разглядаецца ня форма таго склону, пры якім стаіць прыназоўнік, а значэньне самога прыназоўніка. Тут выясьняюцца адценьні ў сэнсе, што надаюцца таму ці іншаму склону тым ці іншым прыназоўнікам.

Разумеецца, тут, як і вышэй, можна затрымацца на значэньні некаторых толькі прыназоўнікаў, што маюць практычны характар, каб выясьніць іх сапраўднае значэньне і правільнае ўжываньне ў разгаворнай і пісьменнай мове.

*1) Прыназоўнікі* **аб, а**. Прыназоўнік „аб“ злучаецца з *месным* склонам і з *вінавальным* склонам. Трапляецца злучэньне гэтага прыназоўніка й з давальным склонам.

Розьніцы ў значэньні „аб“ і „а“ няма ніякай, толькі прыназоўнік „аб“ часьцей ужываецца.

1) *З месным склонам* прыназоўнік „аб“ злучаецца ў значэньні *кругом чаго* або *навокала чаго*, але ў пpacтораным значэньні цяпер ня ўжываецца, апроч абазначэньня часу. У пераносным сэнсе месны склон, а часам і давальны, ставіцца для паказаньня на прадмет разгавору. Напрыклад:

а) для абазначэньня прадмета мовы, разгавору: Ведама, з гульні толькі *аб бабах (а бабах)* і думае. Баязьлівага й думка *аб воўку* палохае. А той зусім ня ведаў *аб* гэтым зладзействе. Расказаў яму казку *аб вельмі* разумным хлопцу. З радасьці забыўся *аб тым лычку*. Пайдзі й даведайся *аб гэтай прычыне*. Раскажы там *аба мне, аб нас*. *Аб чым* тут уздумаць? Той даў яму грошай і *аб тым* разышліся. Не, чала-

вечку, я не *аб тым* цябе пытаю. А гаспадар *аб нічым* ня ведаў, што там такое. Казка *аб ксяндзу, аб папу, аб рыцару, аб мярцу.* Ня дбайце *аб нас*,—мы не галодныя. А пустаце гаворым! Ясны месяц высока— айцец-маці далёка, а брацейка на вайне—ня думае *аба мне.* Ці буду твая, ці не—ня тужы, сэрца, *аба мне.* А той усё спаў і *а белым сьвеце* нічога ня ведаў. Захацелася яму *аб сваёй патрэбе.* Пагаворым *а прыгодзе.*

Форма давальнага ў гэтай позыцыі аб'ясьняецца тым, што назоўнікі йменныя жаноч. роду адзіночнага ліку заўсёды аднолькавыя з месным склонам; па падабенству з імі вельмі часта мужчын. род ставіцца ў давальным склоне, хоць прыметнік-азначэньне стаіць у месным склоне (казка *аб разумным хлопцу, аб дурным папу*).

Пры „мне" прыназоўнік „аб" заўсёды стаіць у форме „аба": *Ня думай аба мне.* У песьнях, дзеля вершу, можа стаяць „а":

б) для абазначэньня часу: *Аб Пятры* на Дняпры Дунай замёрз. Прачнулася мачыха *аб поўначы.* І жылі там людзі ў ласцы, у згодзе; увесь дзянёчак гаварылі, працавалі, а *аб ночы* сапачывалі. Заўтра, *аб гэтай пары.* Дзела было *аб восені. Аб ночы* пашоў цёплы дожджык. Жджы мяне, маці, *аб зялёным сьвяце.* Усіх, каго *а сюм сьвеце* знаў, усіх успомніў.

2) *Вінавальны склон* пасьля „аб" ужываецца:

а) таксама для абазначэньня прадмета мовы, разгавору, напр.:
На вуліцы хлопцы гуляюць, *аб мяне*, маладу, гукаюць. Бадай таму тры леты хварэці, хто судзіць і гаворыць *аб чужыя дзеці!* Бадай таму трылетняя трасца, хто судзіць і гаворыць *аб чужое шчасьце! А капейку* нечага спорыць! *А сваё* кожан стаіць. Падышлі да нас ды зноў *аб дарогу* пытаюць. Давай закладзёмся *аб тры шчаўчкі!* Збаяў байку *аб лася*—вот і байка ўся. Яна яму расказала *аб сваё дзела.* Пад сакрэтам расказаў жонцы *аб сакала.* Сабраліся мужыкі ды гавораць *аб жанкі.* Шэры гусі ляцелі *аб ягадкі* гаварылі. Хлеб я маю, *аб солі* ня дбаю. Ня сходзяцца *аб цану.* Пытае *аб сваю згубу.*
б) Для азначэньня прадлогу, прычыны, мэты, спосабу дзеяньня: *Аб раз* зьбегаю (зн., у момант зьбегаю).
*Аб адну* сэрца баліць. *Аб што* ты прышоў? *А капейку* ня варта спорыць! Запрысягаўся мне *аб гэтую рэч.* Ішло ў іх *аб некую рэч.*

в) Мы бачылі вышэй, што пры займеньніку „мне" прыназоўнік „аб" стаіць у форме „аба" (аба мне), каб ухіліцца ад немілагучнага зьбегу (злучэньня) трох зычных *(аб мне).* Пры займеньніку „што" часта ставіцца складаны прыназоўнік „абво", напр.: *абво-шта* ты выцяўся (ударыўся)? *Абво-шта* ў вас тут спор? *Абво-шта* закладзёмся?

Абодва гэтыя прыназоўнікі злажылісь з *аб+а (о)*; пры займеньніку „мне" знаходзім „аба", бо тут націск прыходзіцца на займеньнік, і другая частка прыназоўніка (о) пераходзіць на „а". Пры займеньніку „што"

бывае наадварот: тут на прыназоўнік „о“ прыходзіцца націск і ён злучаецца з „аб“ з прыдыханьнем „в“, бо націскное „о“, стоячы на пачатку складу, заўсёды прымае прыдыханьне „в“. Такім спосабам вытварыўся прыназоўнік „абво“, які мае ўжо памоцненае значэньне. Стоячы заўсёды пры займеньніку „што“ без конкрэтнага зьместу, прыназоўнік „абво“ выражае ўвесь зьмест сказу: *Абво* што ў вас тут спор? Доўга ён думаў, покі дагадаўся, *абво* што ў іх гутарка йшла.

г) Вінавальны склон з „аб“, „а(о)“ для выражэньня часу: *Аб ноч* вярнуўся да дому. *А тры дні* вярнуўся. Паміраюць людзі з голаду, бы *аб восень* мухі.

У прасторавым значэньні прыназоўнік „аб“ злучаецца з вінавальным склонам для абазначэньня сумежнасьці, граніцы дзеяньня, напр.: Ці саву *аб пень*, ці пень *аб саву*—усё саве баліць.

Пад націскам прыназоўнік „аб“ знаходзім у форме „воб“, напр.: за валасы ды *воб-зямлю*!

2. *Прыназоўнікі* **для**, **дзеля**. Гэта два розных сваім пахаджэньнем прыназоўнікі часта сустракаюцца ў форме „ля“, „лі“ і нават у некаторых (не літаратурных) гутарках у відзе „зьле“, дзе „д“ з фонэтычных прычын падмянілася гукам „з“, а гук „е“ ў канцы мог вытварыцца з ненаціскнога „я“ або па аналёгіі з „по-дле“. Абодва яны злучаюцца толькі *з родным* склонам—„для“ для выражэньня мэты дзеяньня на чыю-небудзь карысьць або шкоду, а „дзеля“ выражае больш прычыннасьць з значэньнем ц.-славянскага „ради“; у рэдкіх выпадках значэньне гэтых прыназоўнікаў супадае.

У нашай літаратурнай мове можна заўважыць тэндэнцыю падмяняць прыназоўнік „для“ прыназоўнікам „дзеля“, а часам „дзеля“ ставіцца там, дзе ён зусім стаяць ня можа, як, прыкладам, у такой конструкцыі: „Сшытак дзеля дыктоўкі“, замест „сшытак на дыктоўкі“. Падмену прыназоўніка „для“ прыназоўнікам „дзеля“ можна аб'ясьніць сабе незнаёмствам з фактамі роднае мовы; мабыць, некаторыя думаюць, што ў беларускай мове зусім няма прыназоўніка „для“.

а) Прыназоўнік „дзеля“ з значэньнем расійскага „из-за“, „ради“:

Па канец столу настаялася, усім піцюхны надавалася: і старому, і малому, і роўнаму, і няроўнаму; старому *дзеля старасьці*, малому *дзеля маласьці*, роўнаму *дзеля роўнасьці*, а нялюбаму *дзеля любасьці*. *Дзеля дружбы* цыган павесіўся. *Дзеля сына* я двару вярнуся. *Дзеля свайго* ўсё зробіш. Сын вярнуўся *дзеля бацькі*. А потым і гаварыць ня мог *дзеля дыму*. Я ведаю, *дзеля* чаго ты мяне пытаешся: *дзеля таго*, мусіць, што-б толькі пасьмяяцца.

б) Прыназоўнік „для“: *Для друга* няма круга. Дай нам, браце, чырван злоты, бо мы жалі *для ахвоты*. Нарэзала многа курэй і гусей *для сваіх для любых гасьцей*. Ня плач, дзеўча, ня плач, сэрца, не клапаці ты галованькі: вазьму цябе, не пакіну *для* людзкай *пагаво-*

*ранькі.* Ляцелі гусанькі цераз сад, крыкнулі-гукнулі на ўвесь сад: час табе, дзеванька, на пасад! Што-ж вам, гусанькі, да таго? Ёсьць у мяне ойчанька *для таго.* Што ня можа ўтаіцца, як у мяшку шыла? Можна скора дагадацца, што *для каго* міла. Гэта кветка не *для твайго носу.*

в) У некаторых разох прыназоўнікі „дзеля", „для" супадаюць, а часам сустракаюцца поплеч у вадным сказе, напр.: Хлеба-солі не шкадуй добраму *дзеля (для) добрасьці*, а злому *для злосьці. Для сораму дзеля.*

3. *Прыназоўнікі* **да, к.** Вельмі часта ў нашай літаратурнай мове прыназоўнік „да" (пад націскам—*до*) ставіцца там, дзе ў народнай мове стаіць прыназоўнік „к". У народнай мове „к" ставіцца ў тых разох, калі трэба паказаць на кірунак або на час (сьвята); у іншых выпадках ставіцца прыназоўнік „да". Такога падзелу трэба трымацца й літаратурнай мове.

а) Прыклады на прыназоўнік „к": Прыбралі ў хаце, *к вялікаму сьвяту*, Сястра *к брату* ў госьці ехала. Брат *к сястрыцы* ліст па лісту піша. Кукавала зазюлечка ў садочку, прылажыўшы галоўку *к лісточку. К поўдню* стала хмурыцца. Месяц узыходзіць—па вячорках ходзіць, а *к беламу* сьвету да мяне прыходзіць. Чакалі яго *к калядам*, а ён і на каляды ня прыехаў. Закалолі сьвіньню *к калядам.* Зьбірайся род *к роду!* Гатавала дзеванька вячару—ждала *к сабе* сужаньку ў нядзелю. Наехалі *к нам* госьці. Прывязаў коніка *к плоту.* Панаехала мужыкоў-чужакоў *к нам* на двор, стукаюць-грукаюць на дварэ, дзьверы ломяць яны ў хату *к табе*[1]).

б) Прыназоўнік „да" (до) злучаецца *з родным* склонам ды абазначае граніцу, да каторай даходзіць дзеяньне ў прасторы ці ў часе; як відаць з прыкладаў, „к" можа злучацца толькі *з давальным* склонам ды абазначае кірунак і час (сьвята), мэту, дзеля якой адбываецца дзеяньне *(ломяць дзьверы к табе)* або такі прадмет ці стан, куды накіравана дзеяньне. Часам прыназоўнік „да" можа стаяць на месцы „к", але ніколі ня ставіцца ў часоўнай позыцыі такой конструкцыі: *к поўдню, к сьвятам*; яна шые, вышывае і *к вясельлейку* сьпяшае; яна шые і гаптуе ды *к вясельлейку* гатуе. У вапошніх двух прыкладах выражаецца мэта дзеяньня, дзе таксама заўсёды стаіць прыназоўнік „к".

Прыклады на прыназоўнік „да": Схіляйся, вярба, з верху *да долу!* Што-ж вам, гусанькі, *да таго?* Ёсьць у мяне брацейка для таго. У цябе, Анэтка, матак многа—роднае ніводнае; ёсьць каму весяліціся, да няма каму журыціся; ёсьць каму піці, есьці, да некаму *да ладу* весьці. *Да работанькі* ня меў ахвотанькі. Хадзіла *да броду* па воду. Будзем гуляці *да сьвету!* Прышоў *да дому.* Цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго *к гаю (да гаю).* Кліча казак дзяўчыну *к сабе* на параду.

[1]) З вясельнае песьні.

У вапошніх прыкладах „да“ й „к“ могуць стаяць з аднолькавым значэньнем (Клікаў *к сабе* і *да сябе* на параду). Часам прыназоўнік „да“ ставяць замест „у“ з значэньнем руху ў сярэдзіну чаго-небудзь на пытаньне „куды?“, напр.: Пашоў *да пакояў*.

Такую позыцыю прыназоўніка[1]) „да“ трэба прызнаць польскім зваротам. Такія звароты з прыназоўнікам „да“ часта пападаюцца ў старасьвецкай беларускай літаратурнай мове (у Скарыны, прыкладам) і мабыць даўно трапілі ў народную мову, бо і ў народнай мове, хоць вельмі рэдка, але можна сустрэць прыназоўнік „да“ з такім значэньнем. Напрыклад, калі згарыць дабро, то, каб не сказаць слова „пожар“, звычайна кажуць так: „Пашло *да неба* сьвечкаю“.

4. *Прыназоўнік* **за**. Гэты прыназоўнік, вельмі багаты сваім значэньнем і рознымі адценьнямі ў сэнсе, аб чым дакладна гаворыць сынтакса, сустракаецца ў беларускай мове ў вельмі цікавай позыцыі, невядомай, мабыць, нашай літаратурнай мове, бо пісьменьнікамі ня ўжываецца.

> Прыклады: Ня мала было пахопных, разалютных (скорых, бойкіх—польскія словы), а такі жадзен з іх на тую купіну, *за вялікаю валною на вадзе*, дастацца ня мог (Казка Федароўскага, т. II, ч. I). Ехаў ён, ехаў ды, *за парадаю свайго каня*, заехаў у велькае места (адтуль-жа).

Гэткімі зваротамі з прыназоўнікам „за“ лёгка перадаюцца такія штучныя расійскія звароты: *вследствие чего, по совету кого*.

5. *Прыназоўнікі* **проці(ў), супраць**-*супраціў*. Апроч свайго звычайнага значэньня, гэтыя прыназоўнікі цікавыя тым, што могуць перадаваць расійскія прыназоўнікавыя звароты: „по сравнению“, „сравнительно с чем“, якія сучасная белар. літаратурная мова перакладае так: „у параўнаньню з...“ „параўнальна з...“ Гэта зусім не беларускія звароты. Дзе гэта можна, то пабеларуску трэба казаць так:

> Што ты значыш *супраць (ці—супраціў) мяне?* Менск *супраць Вільні*—мястэчка, а ня горад. *Проціў* яго ён яшчэ блазан. *Проці яго* ты нішто. Горшую *проці мяне ўзяў*.

Часам зваротам з прыназоўнікам „проці“ можна выразіць час, што парасійску перадаецца словам „накануне“, напр.:

> Заручылі дзеўку *проці панядзелку. Проці пятніцы* ня можна шлюб браць. Не скажу *проці ночы*, а то яшчэ прысьніцца. Узяў ды выбраўся *проці ночы* ў дарогу. *Проці* новага *лета* песенька сьпета.

6. *Прыназоўнікі* **пра, праз**. Прыназоўнік „пра“ злучаецца з вінавальным склонам у значэньні „пра што“ ці „пра каго“ гутарка, як і прыназоўнік „аб“, напр.:

---

[1]) Пабеларуску лепш сказаць: „Такую конструкцыю з прыназоўнікам“, каб ухіліцца ад роднага склону прыналежнасьці (позыцыя *прыназоўніка*), якога беларуская мова ня любіць.

*Пра воўка* памоўка, а воўк тут. *Пра адны дрожджы* не гавораць трожды (некалькі раз, трэйчы). А *пра зямлю* й забыўся.

Гэты прыназоўнік ужываецца яшчэ ў значэньні „для“, „на“, напр.:

Вазьмі рукавіцы *пра запас*. Запішы сабе *пра памяць*. Хавай капейку *пра ліхую гадзіну*. Трэба ўзяць *пра запас*.

Прыназоўнік „праз“ злучаецца таксама з вінавальным склонам і часта ставіцца ў значэньні прыназоўніка „цераз“, прыкладам:

Пераскочыў *праз калоду*. *Праз роў* была кладка. *Праз лес* дарога. Ня едзь *праз мост*, а лепей у брод. Улез *праз акно*.

Апроч гэтага, „праз“ ставіцца для абазначэньня часу (*Праз усю ноч* ліў дождж), прычыны (Згінуў *праз сваю нядбаласьць*. *Праз цябе* няслава на мяне), заместа пасланць што *кім:* Паслаў *праз вернага чалавека*.

## VII. Звароты з прыслоўямі

1. У нас чамусь ухіляюцца ўжываць слова „проша“, думаючы, мабыць, што гэта польскі дзеяслоў p r o s z ę. Гэта—непаразуменьне. Беларускае слова „проша“ гэта не перайначаны польскі дзеяслоў proszę= прашу, а дзеяслоўнае прыслоўе пажадальнага характару. Такіх дзеяслоўных прыслоўяў цяперашняга часу ў беларускай мове многа, толькі яны перасталі выражаць час (цяперашні) ды абярнуліся ў звычайныя прыслоўі. У расійскай літаратурнай мове такія формы дзеяслоўных прыслоўяў цяперашн. часу ўжываюцца й цяпер: *стоя, глядя, смотря, шурша* і г. д. У нас такія формы сустракаюцца толькі ў песьнях, напр.:

Васіль пашоў *плача*, Васіліса *скача*. *Пеша* пайду. Я ня *пеша* пайду а каня запрагу. Як пайду я, маладая, па чыстаму полю, *сея, расьсявая* сваю горку долю. Едзе ён поле *ваюя*, другое едзе *харабруе*. Выхвалялася чырвона каліна, у цёмным лесе *стоя*. Гэта *конча* трэба зрабіць.

У сучаснай жывой мове дзеяприслоўі на *а (я)* ня ўжываюцца, а тыя, што ўжываюцца, сталі звычайнымі прыслоўямі, г. зн., перасталі зьмяняцца ў часе. Да такіх прыслоўяў, што дзеяприслоўяў цяперашн. часу на *а (я)*, належыць слова „проша“, а таксама—*пеша, конча, наўмысьля, загадзя, спакваля, пасьля, посьля, хаця, акрамя* і некат. іншыя.

Адгэтуль відаць, што прыслоўе „проша“ мае сваё ўласнае, прыслоўнае значэньне і ня можа падмяняцца дзеясловам „прашу“, а тым больш, яго аніяк нельга прымаць за перайначаны польскі дзеяслоў proszę. „Проша“—гэта беларускае прыслоўе пажадальнага характару; з гэтым значэньнем яно і ўжываецца ў нашай мове, напр.:

Можна ўвайсьці?—*Проша!* — А вы, каляднічкі, *проша* ад нас! А вы, малойчыкі, *проша* к нам! *Проша*, музыканце, перастаць іграць: будзем княгіню, бослаўляць! *Проша* есьці! *Проша* за стол! *Проша* закусіць! *Проша*, слаўны гаспадару!

Калі супаставіць такія два сказы, як „*Проша* закусіць!“ і „*Прашу* закусіць!“ то кожны заўважыць іх розьніцу. Першым сказам выражаецца

просьба *для другой асобы*, а другім—просьба для першае асобы, для самога сябе: я прашу даць мне закусіць.

Гэтага значэньня слоў „проша“ й „прашу“ народная мова ніколі не абагульняе, і там, дзе трэба выразіць просьбу *для сябе*, заўсёды стаіць дзеяслоў „прашу“, а ня прыслоўе „проша“, напр.:

А *прашу* цябе, мая свацейка, з павагі,
Каб ня было майму дзіцяці зьнявагі,
Каб не стаяла ў цёмну ночку пад акном,
Каб ня ўцірала дробных сьлёзак рукавом,
Каб ня была ёй паветка за хатку,
Каб ня была ёй суседка за матку!

Калі прыслоўе „проша“ ставіцца для выражэньня просьбы для самога сябе, то носіць характар уласьцівай беларускай мове гасьціннасьці, ветласьці, якая ня любіць зваротаў з асабовымі займеньнікамі. Напрыклад, пабеларуску лепш сказаць „Проша даць і мне!“, як „Прашу даць і мне!“

Характар беларускіх асабовых зваротаў вымагае ўхіляцца ад асабовых займеньнікаў, калі малодшы зварачаецца да старэйшых або калі размова адбываецца паміж малазнаёмымі людзьмі. Калі той, хто гаворыць, ставіцца з павагай і пашанаю да асобы-дзейніка, то граматычны дзейнік выражаецца прыметнікам займенным „ваша“, напр.: „Сваволіш, *ваша!* Нядобра, *ваша*, кажаш!“ Даўней пры слове „ваша“ ставіўся назоўнік іменны „міласьць“.

Да такіх слоў, як „міласьць“ належаць: *ягомасьць, ягамосьці, імасьць, імосьцейка, вашаць—вашэць* і нек. іншыя. Усе яны ўжываюцца з дзеясловамі 2-ой і нават 3-яй асобы, напр.:

Што ягомасьць *робіш?* або—Што ягомасьць *робіць?* Імасьць сама *ведае—ведаеш*, што гэта няпраўда. Ня тое вашаць *кажа—кажаш*. Чаго імасьць *шукае—шукаеш?*

Дзеці зварачаюцца да бацькоў на „вы“, хоць і не заўсёды; найчасьцей-жа дзеці зварачаюцца да старэйшых—да бацькоў, сваякоў ці знаёмых—без асабовых займеньнікаў з дзеясловамі ў 3-яй асобе, напр.:

Куды татка *паедзе?* Дзе тата *быў?* Няхай мама *дасьць* яму есьці (замест—Мама, дай яму есьці!)

Здараюцца звароты малодшых да старэйшых у множным ліку, напр.: *Стойце, дзядзьку, не пад'яжджайце!*

Нават завочна кажуць: Мой тата *паехалі*, мая мама *пашлі* і г. д.

Такімі зваротамі з характарам ветласьці аб'ясьняецца вытварэньне слова „проша“, якое, як прыслоўе, служыць найлепшым выражэньнем безасабовасьці.

2. *Прыслоўе* **зараз**. Гэтае прыслоўе пад уплывам расійскае мовы часам няправільна ўжываецца ў значэньні расійскага прыслоўя „сейчас“. Кажуць, прыкладам, так: „*Зараз* тут адбываецца нарада або засяданьне“,

замест: „*Цяпер* адбываецца тут засяданьне“. Або—„*Зараз* ня маю часу“, замест: „*Цяпер* ня маю часу“.

Расійскае прыслоўе „сейчас“ мае два значэньні: 1) яно выражае безадкладнасьць дзеяньня, напр.: „Сейчас-же приду!“ „Сейчас-же написал письмо и отправил“. „Сейчас-же пишу письмо и несу на почту“; 2) яно мае значэньне прыслоўя „цяпер“: *Сейчас* я занят.

Такога падвойнага значэньня беларускае „зараз“ ня мае. Яно ўжываецца толькі ў першым значэньні расійскага „сейчас“, а другое значэньне расійскага „сейчас“ перадаецца беларускім „цяпер“: *Цяпер* я вольны. *Цяпер* адбываецца нарада (але: *зараз-жа* адбудзецца нарада). Скажы, што *зараз* прыду (парасійску: Скажи, что *сейчас* приду).

Дзе трэба паказаць, што нешта адбываецца ў гэты момант, то можна сказаць так: *якраз цяпер*, *вот цяпер*.

3. *Прыслоўе* **пагатоў**. Расійскі зварот „тем более, особенно“ у канцы сказу дакладна перадаецца беларускім прыслоўем „і пагатоў“, напр.:

Ён бацькі ня слухае, а мяне *й пагатоў*. Я піва ня п'ю, а гарэлкі *й пагатоў*. Ня грагала варона ўгару лятучы, а ўніз *і пагатоў*.

4. *Прыслоўі:* **увелькі**, **ушыркі** і падоб. Часта кажуць: „Сукно ў два аршыны *шырынёю*. Калодзеж у тры сажні *глыбінёю*“. Пабеларуску ў такіх разох лепш ставіць прыслоўі, што выражаюць меру параўнаньня, напр.:

Сабака *ўвелькі* з воўка. Сукно на два аршыны (локці) *ўшыркі*. Сажані *ўдаўжкі*, а 2 локці *ўшыркі*.

Яшчэ кажуць *удоўж*, *ушыр*, *утоўшч*, *углыб*, *ушыркі*: Аршын—*і ўдоўж*, *і ўшыр*. Які *ўдоўж*, такі *ўтоўшч*.

5. *Прыслоўе* **прыблізна**. Такога прыслоўя ў беларускай мове няма; гэта нязграбны пераклад расійскага прыслоўя „приблизительно“. Пабеларуску, замест „прыблізна“, трэба казаць так:

Гэта было гадоў *з дваццаць* назад. Воўк як завыў, дык туды зьбеглася ваўкоў *нешта з трыццаць*. У мяне было рублёў *з пятнаццаць*.

6. Замест расійскага „ничуть“ лепш казаць „ані званьня“, напр.:

*Ані званьня* не баліць. Няма *ані званьня*. Ці-ж гэта не пашкодзіць яму?—*Ані званьня*.

Тут да рэчы будзе сказаць, што беларуская мова вельмі багата на звароты з памацняльнымі адмоўнымі дапаможнікамі, якія перадаюць самыя тонкія адценьні пры выражэньні адмоўнасьці, напр.:

А ў тых пакоях *ані жывога духу* ня было. *Ані сесьці*, *ані зьесьці*. Жыла сабе баба *ані гадкі*. *Ані-ні* няма! *Ані расінкі* ня было ў роце. А лісьцік на дрэве, травінка пад кусьцікам, каласок у полі *ані скалыхнуцца*. Ляжыць ваяк на купіне...

Ані труны, ані ямы,<br>Ані айца, ані мамы.

*Ні бацька* спраўляў, *ні сын* носіць. Хто мяне любіць, *ні я таго*.

7. **Неабходна**. Гэтае слова, як і „прыблізна", ёсьць таксама нязграбны пераклад расійскага слова „необходимо". Яно ўжываецца людзьмі, што думаюць парасійску, і нядбала ставяцца да роднае мовы.

Расійцы слова „необходимо" ставяць часта там, дзе яно зусім ня значыць „необходимо". Пабеларуску слова „необходимо" перадаецца словамі „канечна трэба", а „необходимость"—канечнасьць. Калі расіец кажа: „Необходимо (нужно) выяснить этот вопрос", то панашаму слова „необходимо" ў такім звароце перадаецца прыслоўным назоўнікам „трэба" або скарочаным „трэ'".

## VIII. Паасобныя словы й звароты ў мове

1. **Маецца**. Часта дзеяслоў „маецца" ставяць з такім значэньнем: „На абед падаюць місачку стравы, у якой *маецца* паўтары бульбіны" (з газэты). Гэта—недарэчнасьць. Расійскага дзеяслова „имеется" ня можна перадаваць нашым „маецца", бо беларускае „маецца" выражае матэрыяльны *стан асобы*, або стан здароўя, а ня што іншае, напр.: Як *маешся?* Як *маецца* жонка, ці здаровы дзеткі вашы? і г. д. Калі расіец кажа: „У меня имеется три рубля", то панашаму трэба сказаць: „Я маю тры рублі" або—„У мяне ёсьць тры рублі".

**2. Асабісты, асаблівы.** У нас часта блутаюць значэньне слоў *асабісты* й *асаблівы*. „Асабісты"—гэта пэрсанальны, расійскае „лічный" (Гэта мая *асабістая* справа); „асаблівы"—гэта спэцыяльны, расійскае „особый" (кожная мова мае свае асаблівасьці).

**3. Адчыняць, зачыняць** замест *адкрываць, закрываць*. Часто пішуць: „Курсы адчыніліся ці зачыніліся". Тымчасам у народнай мове „адчыніць", „зачыніць" значаць тое самае, што расійскія „отворить", „затворить". *Адчыніць* ці *зачыніць* можна дзьверы, вокны, хату, але ня курсы ці засяданьне; можна *зачыніць* ці *адчыніць* банкі, крамы, але пра курсы ці засяданьні лепш сказаць *адкрыць* ці *закрыць*, бо гэтыя словы маюць агульнейшае значэньне.

**4. Вінен—вінават**. Гэтыя прыметнікі ў народнай мове ўжываюцца з аднолькавым значэньнем, напр.: Ігнат *не вінават*, і Аўгіньня *ня вінна*. А ці-ж я ў тым *вінна? вінават* я, што ён ня ўзоркі?!

**5. Віншаваць**. Пад уплывам расійскіх зваротаў у нас кажуць: віншаваць *з новым годам*, *з імянінамі*, тымчасам у народнай мове пасьля „віншаваць", як і пасьля дзеяслова „частаваць", ставіцца прыладны склон без прыназоўніка „з", напр: Віншую вас *вянком*, а вы мяне *мядком*. Віншую вас *новым годам*, *новым шчасьцем*.

**6. Блізка таго**. Гэты зварот ставіцца ў мове ў значэньні „сапраўды", „праўдападобна", „быць можа" і вельмі пашыраны. Яго можна пачуць у такіх разох: „Хмурыцца. Напэўна будзе дождж"—„Блізка таго".

**7. Ваенны, вайсковы**. У расійскай мове ёсьць толькі адзін прыметнік „военный", а беларуская мова, як і польская, мае два прыметнікі: „ваенны"

й „вайсковы“. Першы выводзіцца ад слова „вайна“, а другі ад слова „войска“. Прыметнік „ваенны“ процівастаўляецца прыметніку „мірны“, а прыметнік „вайсковы“—прыметніку „цывільны“. Гэта два зусім асобныя прыметнікі з асобным значэньнем. Можна сказаць, напрыклад, *ваеннае* права і права *вайсковае; ваенная* дысцыпліна і дысцыпліна *вайсковая*, але першае стасуецца да цывільных асоб у ваенныя часы, а другое толькі да вайсковых у спакойныя, мірныя часы. Такім парадкам, пабеларуску нельга сказаць „ваенная акадэмія“, „ваенная служба“, „ваенны суд“, „ваенны доктар“, „ваенны клюб“, „ваенная музыка“; у такіх разох усюды трэба ставіць прыметнік „вайсковы“. „Вайсковыя суды“ бываюць пастаянныя, а „ваенныя“—часовыя, толькі ў часе вайны, на прасторы, абнятай ваенным правам. Могуць быць, аднак, караблі, цягнікі *ваенныя*, г. зн., такія, што ўжываюцца толькі на вайне, у часе бітвы, але не для перавозу нават войска. Можа быць „ваенны стан“, „ваенная аблога“, „ваенны запал“, і гэтым „ваенным запалам“ можа захапіцца чалавек і не вайсковы, але „ваеннага чалавека“ ня бывае.

**8. Заробак.** Гэта польскае слова; пабеларуску, як і парасійску, трэба казаць *заработак*, напр: Пашоў *у заработкі;* няма ў нас ніякіх *заработкаў* і г. далей.

**9. Здэтонавацца**—слова лацінска-французскага паходжаньня, значыць: зьбіцца з тону, або, як часта кажуць, *зьбіцца з панталыку*; заміж „здэтонавацца“, лепш сказаць: *зьмяшацца, анясьмеліцца*, а ў гіронічным значэньні—*зьбіцца з панталыку*, хоць слова „панталык“ для мяне цёмнае.

**10. Брудная бялізна.** Так называюць часта плацьце, што мяняецца кожны тыдзень; пабеларуску трэба сказаць „чорнае плацьце“, „чорная сарочка, кашуля“, г. зн. ношаная, не памытая. „Брудная бялізна“—гэта назоў польскі.

**11. Буйны.** Добры беларускі прыметнік, але ў нас часта надужываюць яго значэньнем. Прыметнік „буйны“ (з націскам на канчатку) процівастаўляецца прыметніку „дробны“. У нас, напрыклад, скажуць: дробныя грошы, буйныя вішні, буйное зерня, але ня скажуць „буйны пан“ у значэньні расійскага „крупный помещик“.

**12. Францускі, французкі.** Часта ня ведаюць, як пісаць гэтыя словы—з літараю „с“ ці „з“. Яны пішуцца і так, і гэтак. Правапіс гэтых слоў залежыць *ад іх значэньня.* „Францускі“—гэта прыметнік, і тут, як вядома з граматыкі, павінна быць „скі“, як у слове *боскі*, а слова „французкі“ (ад „французка“—бонна, настаўніца)—гэта назоўнік іменны ў форме роднага склону, як „казкі“ ад слова „казка“, дзе асыміляцыя на пісьме не азначаецца.

**13. Гамтаць, згомтаць.** Гэта дзеясловы, вытвараныя з выклічніка „гам“ або „гом“. Ужываюцца яны ў значэньні: *зьмяць, скамячыць* паперу ці хустку, напрыклад. Могуць сказаць так: „У тваёй шуплядзе нічога нельга знайсьці: усё там *згамтана*“, г. зн., зьмяшана, перавернута, у непарадку.

**14. Які**. Гэты прыметнік займенны часта ставіцца там, дзе ён стаяць ня можа. Напрыклад, у нас часта пішуць так: „Кніжкі, *якія* я ўчора купіў, вельмі цікавыя". У такіх зваротах трэба ставіць не займеньнік „які", а „каторы" або „што". А калі мы скажам: „Кніжкі былі такія цікавыя, *якіх* я ніколі ня чытаў", то тут займеньнік „які" стаіць правільна. Трэба адрожніваць займеньнікі *які* й *каторы*, напр.: якая то кніжка і катора то кніжка? На першае пытаньне трэба адказаць: беларуская, цікавая, тоўстая, малая, падраная (г. зн., прыметнікам іменным), а на другое пытаньне трэба адказаць прыметнікам лічэбным: першая, другая і г. далей.

**15. Мала таго**, парасійску „сверх того". У нас могуць сказаць: „Я зрабіў усё, што мне трэба было. Мала таго, я пасьпеў яшчэ зьбегаць дадому і вярнуцца назад".

**16. Столкі**. Гэты назоўнік іменны ставіцца толькі ў множным ліку. напр: Злажы хустку ў дзьве *столкі!* Папера зложана была ў чатыры *столкі* Зложана *ў пяць столак.*

# КАЛІ РАДЗІЎСЯ ФРАНЦІШАК СКАРЫНА

**М. Шчэкаціхін**

За недахватам адпаведных крыніц для біографіі Францішка Скарыны шмат якія пытаньні, зьвязаныя з жыцьцём першага беларускага друкара, да апошняга часу застаюцца яшчэ нявысьветленымі. Адным з іх ліку зьяўляецца пытаньне аб годзе яго нараджэньня, пры выраіэньні якога, дзеля адсутнасьці дакумантальных даных, прыходзіцца абмяжоўвацца толькі гіпотэзамі і дапушчэньнямі. Фактычна, нават, існуе толькі адна гіпотэза, выказаная яшчэ Ўладзімеравым: „Час нараджэньня Скарыны“, кажа ён, „можна аднесьці да апошняе чвэрці XV сталецьця (каля 1490 году). Калі прызнаць, што ў 1504 годзе Скарына паступіў у Кракаўскі унівэрсытэт, дык, згодна правілам унівэрсытэту, ён павінен быў мець ня менш за 14 год (Dr. W. Wislocki: O wydawnictwie Liber diliseutiarum Krakowskiego Fakultetu. Kraków, 1886, стар. 9-10). Прымаючы пад увагу гэты ўзрост Скарыны, можна думаць, што ў 1517 годзе, калі ён надрукаваў першую сваю кнігу ў Празе, ён меў ня менш за 27 год; у такім, прыблізна, узросьце, а мо' нават і некалькі старэйшым, Скарына нарысованы і на портрэце 1517 году“ (*Владимиров.* Доктор Франциск Скорина. 1888. Стар. 44). Думку Ўладзімерава паўтараюць і некаторыя іншыя аўтары, як, напр. *Е. Карскі* („Белоруссы“. Т. III. Петр. 1921, стар. 21) і *Н. Янчук* (Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры“. Менск, 1922, стар. 8); другія-ж дасьледчыкі наогул зусім не закранаюць гэтае пытаньне.

Са свайго боку, мы зусім выпадкова падышлі да яго ў процэсе выўчэньня зьмешчаных у выданьнях Скарыны гравюр, вынікам чаго і зьявілася ніжэйзьмешчаная новая гіпотэза аб часе нараджэньня Францішка Скарыны, якая не супярэчыць гіпотэзе Ўладзімерава, але дапаўняе яе больш дакладней дапушчальнай датыроўкай гэтага факту.

Асновай для яе пабудовы зьяўляецца аналіз так званага „гэрбу“ Скарыны, г. зн. таго агульна-вядомага знаку ў выглядзе злучаных паміж сабой фігур сонца і месяца, які нязьменна сустракаецца ў большай частцы гравюр і кніжных аздоб, зьмешчаных у яго выданьнях, і мае, напэўна, нейкую блізкую сувязь з яго асобай. Знак гэты, як паказана, складаецца з дзьвёх фігур—сонца і месяца, з чалавечымі тварамі; сонца павернута en face і абкружана праменьнямі; месяц у профіль, у фазе маладзіка, закрывае сабой твар сонца, прыблізна, на $^1/_2$, з левага боку.

Знак гэты існуе ў розных графічных варыянтах; лепшыя з іх знаходзяцца на „Портрэце Скарыны“ 1517 г. і на загалоўным аркушы праскае „біблії“, іншыя ўключаны ў композыцыю 26 (з агульнага ліку 35) біблійных гравюр, а таксама сустракаюцца ў дэкорацыйных застаўках тэй-жа „біблії“, праскае „Псалтыры“ 1517 г. і віленскае „Малае Падарожнае Кніжыцы“.

Значэньне гэтага знаку да сучаснага моманту заставалася яшчэ няясным. Бясспрэчна, ён не зьяўляўся гэрбам у звычайным сэнсе гэтага слова, бо, як вядома, Скарына не належаў да шляхэцкага стану і, значыцца, ня мог уладаць радавым гэральдычным знакам; да таго-ж падобнага знаку і зусім няма ў стара-беларускай гэральдыцы. Хутчэй за ўсё гэты знак з якой-небудзь прычыны быў утвораны й абраны самым Скарынай у якасьці свайго асабовага гэрбу, а мо' нават і талісману, які ўжываўся ім на працягу ўсёй яго дзейнасьці, пачынаючы з выданьня праскае „Псалтыры“ 1517 г. і канчаючы віленскай „Малай Падарожнай Кніжыцай“. Уласна так спрабуе тлумачыць яго Уладзімераў, адзначаючы, паміж іншым, што знак гэты, магчыма, адносіцца да астролёгічных знакаў („Доктор Франциск Скорина“, стар. 55-56); пры гэтым ён пасылаецца на аналёгічныя малюнкі сонца і месяца—толькі ня злучаных, але ўзятых паасобна,—якія зьмешчаны ў „Нюрэнбэрскай Хроніцы“ Шэдэля 1493 г. пры апавяданьні аб нараджэньні Аляксандра Македонскага, з нататкай, што такое становішча нябесных сьвяціл *тлумачыцца, як благое вешчаваньне*, і робіць вывад, што спалучэньне запазычаных з гэтае „Хронікі“ фігур сонца і месяца ў „гэрбе“ Скарыны магло мець адваротнае значэньне добрае прадзнакі (Jbid. стар. 56, увага 1).

Сапраўды, у „Хроніцы“ Шэдэля (Fol. LXXVI, quinta etas mundi) мы знаходзілі малюнак сонца і месяца, блізкіх па сваіх абрысах да аналёгічных фігур у Скарыны, але ня злучаных, а пастаўленых насупроць і зварочаных тварамі адзін да аднаго, з адпаведным тлумачэньнем: In diebus quibus Alexander natus est: dixis prodigijs Romani territi fueri. N a m s o l v i s u s e s t p u g n a s s e c u m l u n a. Saxa sanguine suaderunt; in die plures lune apparuerunt in celo. Nox usque ad plurimam diei partem tendi visa est tune et saxa de nubibus cecidere, et p. septem dies grando lapideis immixtis et testarum fragmentis terram latissime verberavit“. Гэты рысунак у графічнай аснове сваёй зьявіўся, магчыма, першаўзорам для аналёгічнага знаку ў „гэрбе“ Скарыны. Але Уладзімераў, бясспрэчна, памыляецца, лічачы, што ў процілегласьць значэньню гэтага рысунку ў Шэдэля, *спалучэньне* фігур у „гэрбе“ Скарыны магло быць абрана, як знак добрага вешчаваньня.

Папершае, згодна астролёгічным вераваньням, *усякае* спалучэньне сонца і месяца зьяўляецца благой прадзнакай: „Сонца і месяц: шкодны для жыцьця, вяшчуюць кароткае жыцьцё, смутак, журбу і клапоты; спагадны для здрадлівых замераў і плянаў“ (Haudbuch der Astrologie von Erust Mayer. Berlin, 1916. R. V. Deckers Verlag. S. 59). Падругое, самы

факт *разьдзяленьня*, або *спалучэньня* фігур у рысунку не мяняе асноўнага яго значэньня: і ў тым і ў другім выпадку ён хутчэй за ўсё зьяўляецца знакам сонечнага зацьменьня. Мажлівасьць такога тлумачэньня скарынава варыянту выцякае з самага разьмяшчэньня фігур, дзе месяц часткова закрывае сонечны дыск; што-ж тычыцца да першага варыянту Шэдэля,— дык на гэта ёсьць адпаведнае паказаньне ў самой „Хроніцы": той-жа самы малюнак, як і пры апавяданьні аб нараджэньні Аляксандра (што ня было заўважана Уладзімеравым), паўтараецца ў другім яе месцы (Fol. CLVII, sexta etas mundi) з надпісам „Eclipsis solis et lune" і тлумачэньнем: „Post solis quodue ac lune eclipsim peste gravissima laboratum est que papiam depopulata et ut cives juga montium petetent et in urbe frutecta ac herbe nascerentur". Зацьменьні-ж, як вядома, ніколі ня лічыліся добрымі вешчаваньнямі і з самых старажытных часоў разглядаліся, як надзвычайна благія прадзнакі (Пар., напр., L.-F. Alfred Maury. La magie et l'astroloqie daus l'antiquitè et an moyen áge. Paris. Librairie Académique. 1877. Стар. 181, увага 2, 182). Такім чынам, дапушчэньне Уладзімерава аб „добрай прадзнацы" прыходзіцца рашуча адкінуць, бо як-бы мы ні тлумачылі знак у так званым „гэрбе" Скарыны—самы факт злучэньня фігур сонца і месяца лічыць спагаднай прадзнакай ні ў якім выпадку нельга.

Грунтуючыся на гэтым, мы, са свайго боку, запрапанавалі-б наступнае, больш-менш праўдападобнае дапушчэньне: знак у „гэрбе" Скарыны хутчэй за ўсё трэба тлумачыць, як знак зацьменьня; знак гэты быў прыняты Скарынай, ня гледзячы на тое, што ён меў значэньне благога вешчаваньня, і, мабыць, нават уласна з гэтай прычыны; ужываньне яго ў „гэрбе" магло мець значэньне *прадахоўнага талісману*, з мэтаю забясьпечыць сябе ад таго благога ўплыву, які, згодна забабонным вераваньням сярэднявякоўя, мог аказаць на лёс Скарыны *нейкі факт сонечнага зацьменьня, выпадкова датычны да якога-небудзь аднаго з важных момантаў яго жыцьця*. Такім момантам мог быць, напрыклад, дзень яго нараджэньня: калі-б у гэты дзень сапраўды адбылося зацьменьне сонца, дык факт гэты, бясспрэчна, мог зрабіць надта моцнае і благое ўражаньне на бацькоў Скарыны, а пазьней—і на яго самога, і выклікаць запатрабаваньне прыняць тыя ці іншыя магічныя меры для забясьпечаньня ад дапушчальнай шкоднасьці гэтага факту, аднэй з якіх,—што ўпоўне згодна з характарам сярэднявяковае веры ў талісманы,—магло быць бязупыннае нашэньне з сабой і ўжываньне адпаведнага знаку.

Калі дапусьціць правільнасьць гэтага тлумачэньня, дык узьнікае пытаньне: ці магчыма больш-менш праўдападобна дапасаваць якое-небудзь з ліку сапраўдных сацьменьняў таго часу або да дня нараджэньня Скарыны, або наогул да якога-небудзь пэўнага моманту ў яго жыцьці? Адказ на гэта трэба шукаць у астрономічных даных, якія сьведчаць, што за апошнюю чвэрць XV сталецьця і за першую палову XVI сонечныя

зацьменьні ва Ўсходняй Эўропе былі ў 1476, 1486, 1487, 1491 і 1533 гадох (*Гл. Д. О. Святский.* „Астрономические явления в русских летописях с научно-критической точки зрения“. „Известия отд. русского языка и слов. И. Акад. Наук“. 1915. Т. XX. Кн. 1, стар. 132-136, мапы III і IV). З ліку гэтых пяці зацьменьняў чатыры павінны быць адкінуты па наступных падставах: 1476 год—гэта надта раньняя дата: радзіцца ў гэтым годзе Скарына ня мог, бо ў такім выпадку ў 1512 годзе яму было-б ужо 36 год і наўрад ці тагды да яго мог-бы быць дапасованы эпітэт „juvenis“, які мы сустракаем у падданскіх дакумантах гэтага часу (*И. Шляпкин.* К биографии Франциска Скорины. Журнал Мин. Нар. Просв. 1892. Апрель, стар. 383); зацьменьне 1487 году, у якім магчыма было-б дапусьціць нараджэньне Скарыны, ня было відаць у месцы нараджэньня Скарыны, г. зн. у Полацку (*гл. Святский.* op. cit., мапа III); 1491 год—на адзін год за-позна: згодна памянёным намі зусім правільным меркаваньням Уладзімерава, Скарына мог нарадзіцца каля 1490 году, але *не пазьней*, бо ў 1504 годзе ён паступіў у Кракаўскі Унівэрсытэт; для паступленьня-ж у яго трэба было мець ня менш за 14 год; нарэшце, зацьменьне 1533 году дае надта позьнюю дату, бо знак зацьменьня ўжываўся Скарыной яшчэ з 1517 году.

Застаецца адно толькі *зацьменьне 1486 году;* яно было відно ў Полацку (*Святский*, 133), і дата яго больш-менш набліжаецца да даты, дапушчанай для нараджэньня Скарыны Уладзімеравым. Аб гэтым зацьменьні памінае І Пскоўскі летапіс пад 6994 годам „Того-же лета гибло солнце, но не на мног час“, і ў варыянтах: „того-же лета бысть знамение в солнцы, погибло все не на мног час, месяца марта в 6“ (Полн. Собр. Рус. Летоп. Т. IV. СПБ. 1878. Стар. 267). Выраз „не на мног час“ тлумачыцца тым, што яно адбылося зрана; поўная фаза яго была ў 7 гадз. 12 м. раніцою і дасягала 10 цалей (*Святский*, 133). Адносячы гэтае зацьменьне, згодна нашай гіпотэзе, да нейкага пэўнага моманту ў жыцьці Скарыны,—у даным выпадку, відавочна, да дня яго нараджэньня,—прыходзіцца, такім чынам, дапусьціць, што *Скарына радзіўся 6-га сакавіка 1486 году.*

# НОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ ТВОРЧАСЬЦІ ЯНА БАРШЧЭЎСКАГА

**Д. М. Васілеўскі**

Фігура беларускага пісьменьніка пачатку XIX сталецьця Яна Баршчэўскага стаіць неяк пытальна ў вачох кожнага ўдумлівага чытача-беларуса.

Калі чытаеш адрыўкі яго поэмы „Рабункі мужыкоў" у „Выпісах з беларускае літаратуры", то адразу-ж прыходзіцца дзівіцца і браць пад сумненьне сьведчаньне яго сучасьнікаў аб тым, што гэтая поэма расходзілася па руках і ад шляхты трапіла ў народную гушчу Віцебшчыны. А між іншым, калі П. Шэйн зьбіраў народныя песьні, то яму шмат у якіх мясцох запісалі адрыўкі з гэтае поэмы. Але ўсе гэтыя адрыўкі не разьвязалі пытаньня аб тым, што „свайго знашоў" беларускі мужык у творы Баршчэўскага, чаму ён пачаў сьпяваць іх, як свае. Самы мужык беларускі ўстае з радкоў поэмы, якую мы дагэтуль зналі, нейкім недалужным соцыяльным рэформатарам, імкненьні якога ня йшлі далей гарэлкі. Самыя адрыўкі „Рабункаў" як-бы зьяўляюцца бубненьнем, мармытаньнем п'янага мужыка; так цяжка зразумець гэткі верш:

Як пранцуская сіла
Із-за Дзьвіны наступіла,
Нам стала карціць,
Штоб парадак прыўраціць.

Вось гэткае слаўцо „прыўраціць", яно так рэжа вуха беларуса, як кітайская музыка. А далей яшчэ лепшы:

Аднака-ж сядзелі ціха,
Аж тут прыносіць ліха
Пранцузаў у наш двор,
І нутка дзелаць здор.

На полацкай гутарцы слова „здор" азначае нутраное сала ў сьвіньні [1]), пусьціцца ў здор—спрачацца. Але ніводнаму сэнсу гэты верш не адпавядае. А пакуль хімія нашае вёскі яшчэ не навучыла мужыка дзелаць „здор", як самагонку.

Клецi паразьбівалі
Паноў нашых загналі.

---

[1]) Слова „здор" мае той-жа сэнс у агульна-беларускім памеры. Рэдакцыя.

Паўстае пытаньне: куды загналі паноў, ці чым загналі? Але далей ідзе:

Нас казалі пазьбірань
І гарэлку піць і браць.

Зусім незразумела, навошта французам трэ' было зьбіраць народ для піцьця гарэлкі, зусім можна-б абыйсьціся і без беларусаў у такой справе.

Нам заўсёды здавалася, што на гэтым месцы ёсьць пропуск радкоў, які дае зусім іншы колер усяму вершу. Але дзе шукаць іх?

Калі-б самі нашы полацкія мужыкі карцілі аб зьмене парадкаў у пачатку XIX сталецьця, здаецца была-б зусім іншая карціна вайны 1812 г. Нашы сяляне таго часу надта былі цёмныя да мараў аб іншых парадках жыцьця. З вусных паданьняў аб гэтых часох у жыцьці вёскі нашае Полаччыны вядома, што нашы мужыкі хаваліся ад французаў па лясох і каноплях.

Дасюль па Віцебшчыне недзе было весьці досьледы беларускай літаратуры, але з адчыненьнем Віцебскага аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю справа зусім палепшала.

Перагортваючы ў ім экзэмпляр неофіцыяльнай часткі „Віцебскіх Губэрскіх Ведамасьцяй“ за 1864 год., я ўбачыў у № 43 артыкул Ф. Слупскага „Французы в Витебске в 1812 году“, дзе прыведзен для характарыстыкі настрояў сялянства ў 1812 годзе адрывак:

Калі францускьая сіла
К нам за Дзьвіну наступіла...

Слупскі пасылаецца на запіс гэтае народнае песьні А. М. Семянтоўскім, дасьледчыкам Віцебшчыны ў 70-ых гадох мінулага сталецьця. Якраз Семянтоўскі прыводзіць гэты адрывак у сваім артыкуле „Віцебск“, надрукованым, як гістарычны нарыс, у „Памятнай Кніжцы Віцебскай губ. за 1864 год“ на 105 старонцы. Там Семянтоўскі піша, што гэты адрывак яму прыслалі, як запіс народнае песьні. На жаль, Семянтоўскі, па сваім звычаі, ня ўказвае, адкуль яму прыслалі гэтую „народную песьню“, які яе разьмер, куды ён падзяваў гэтыя песьні.

Пры параўнаньні адрыўку, надрукованага Семянтоўскім, з поэмай Баршчэўскага „Рабункі мужыкоў“ відаць, што гэта бязумоўна ёсьць частка поэмы, якую Падбярэскі ня мог надрукаваць у часы Мікалая І-га па цэнзурных умовах, а за гэтым лёганька падправіў некаторыя вершыкі.

У рэдакцыі А. Семянтоўскага адрывак больш полацкі па яе гаворцы і гістарычным ходзе, чым у рэдакцыі Падбярэскага, які трапіў у школьны падручнік.

Параўнаем гэтыя адрыўкі:

| У Р. Друцкага-Падбярэскага: | У Семянтоўскага: |
|---|---|
| Як пранцуская сіла | Калі францускьая сіла |
| Із-за Дзьвіны наступіла, | К нам за Дзьвіну наступіла, |
| Нам стала карціць, | Як зачало *панам* карціць, |
| Што-б парадак прыўраціць. | Як-бы *Польшчу вараціць*: |

Аднак-жа сядзелі ціха,
Аж тут прыносіць ліха
Французаў у наш двор,
І нутка дзелаць здор.
Клеці паразьбівалі,
Паноў нашых загналі,
Нас казалі пазьбіраць
І гарэлку піць і браць.
Французы нас пахвалялі,
Аб нашым краі нас пыталі
І на мігі нас прасілі,
Каб мы з імі двор лупілі.
І мы доўга там гулялі,
Што хацелі пілі, бралі...

Аднак сядзелі ціха,
Аж устала большае ліха.
Наехала французаў повен наш двор-
Нутка, братцы, будзем дзелаць *збор.*
У дварэ клеці паразьбівалі,
Паноў нашых *у лес* загналі,
А нас вялелі пазьбіраць,
Што-б гарэлку піць і браць.
А чаму-ж і баб не пазвалі?
Калі гуляць, дык гуляць!
Будзем і мы паноў рабаваць,
Дробную шляхту паабдзіраем,
Да й к чорту папраганяем:
Досяць нас бізуном сеч,
Цяпер і мы будзем іх печ,
Цяпер наша пара жыць, гуляць,
А эканомаў у саху запрагаць.

З гэтага параўнаньня відаць, што адрывак, прыведзены А. Семянтоўскім, зьяўляецца адменьнікам пачатку поэмы „Рабункі мужыкоў“. У такой перадачы твор Баршчэўскага больш адбівае настрой эпохі і самапачуцьце сялян у 1812 годзе. Праўда, паном карціла аб звароце сваёй дзяржавы больш, чым мужычком аб „прыўрашчэньні парадку“.

Само сабой паўстае пытаньне аб тым, насколькі думкі, выказаныя ў адрыўку, зьяўляюцца продуктам творчасьці Баршчэўскага, ці яшчэ каго з часу паўстаньня 1863 году. Першае, што кідаецца ў вочы пры чытаньні прыведзеных вершаў,—ці не напісалі на вядомы мотыў песьні свае думкі проці паноў народныя поэты ў 1863 годзе. Але, здаецца, поэты тут не вінаваты. Перш за ўсё, Семянтоўскі, вучоны сакратар Віцебскага Губ. Стат. Комітэту тых часоў, надрукаваў верш, відаць, так, як запісаў яго ад народных пяўцоў які-небудзь пісар. Нябожчык А. П. Сапуноў, які добра ведаў, Семянтоўскага, казаў, што беларуская мова была невядома Семянтоўскаму, украінцу родам. Адсюль робяцца зразумелымі тыя памылкі друку, якія маюцца ў беларускіх вершах „Памятной Книги Витебской губернии 1864 г.“ Замест беларускага „паноў“, усюды надрукована сугалоснае слова „панову“: „Будзем і мы панову рабаваць“. Верш „Калі гуляць—дык гуляць“ надрукован: „Калі *хуляць*—так *хуляць*“; другі верш: „Дый чорту папраганяем“ надрукован—„Дай к чорту паапраганяем“.

Гэткі друк пацьвярджае словы Сапунова аб поўным незнаёмстве Семянтоўскага з беларускай народнай мовай; адсюль само сабой адпадае дапушчэньне, што гэтыя вершы напісаны кім-небудзь з блізкіх Семянтоўскаму асоб, а, відаць, былі запісаны зьбірацелямі народнае творчасьці, як кажа і сам Семянтоўскі.

Цікава, што верш „Будзем і мы паноў рабаваць“ у газ. „Віцеб. Губ. Ведамасьці“ надрукован Ф. Слупскім гэтак: „Будзем і мы паноў разьбіваць“. З боку пэўнасьці народнай гаворкі Полаччыны, былой Мікалаеўскай воласьці, бацькаўшчыны Баршчэўскага, апошні верш больш народны Слова „рабаваць“ там у сучасны момант на вёсцы ня чуваць. А „разьбіваць“ паноў“ тамтэйшы мужык заўсёды быў рад. У 1905, 1917, 1918 гадох тут проста было чуваць, што „паноў разьбіваюць“, „б‘юць“, а не „рабуюць“.

Такім чынам, па настроі, думках і гаворцы гэты адрывак трэба аднесьці да Полаччыны, як месца яго напісаньня. А калі прыняць пад увагу ў яго канцы соцыяльныя мотывы, дык робіцца зусім зразумелым, чаму гэтая поэма зрабілася народнай і перажыла яе аўтара.

Думкі аб панох—вельмі родныя беларускай вёсцы, бо ня столькі абрыдзелі ёй паны, колькі паўпанкі—шляхта і акономы з іх бізунамі. Імкненьне запрагчы акснома „ў саху“—вельмі рэальнае і было чутно ў часы апошніх рэволюцый. У 1917 годзе па многіх маёнтках гэтым пагражалі розным „упраўляючым“ панскімі фальваркамі.

Другою спадчынаю Яна Баршчэўскага, якая ахоўваецца Віцебскім Музэем, зьяўляецца 31 аўтэнтычны ліст яго да „шаноўнай сястры“, пані Корсак, ад 4 жніўня 1837 году па 8 сакавіка 1844 году з Пецярбургу на „родную Беларусь“.

Ад 1837 году захавалася 5 лістоў, 7 лістоў за 1838 год, па 6 лістоў за 1839 і 1840 годы, 4 лісты 1842 году і па 1 лісту ад 1841, 43 і 1844 год.

Лісты пісаны папольску на паперы са здымкамі старога Пецярбургу і ўсе яны маюць паметку „Пецярбург“, за выключэньнем 1 ліста ад 12 жніўня 1840 году з Рэжыцы.

У кожным лісьце ёсьць вершы Баршчэўскага, а некаторыя лісты проста зьмяшчаюць у сабе цэлыя баляды або сонэты папольску. Асабліва лісты 1837 году; яны ўсе маюць больш-менш доўгія вершы Баршчэўскага. У іх Баршчэўскі не адрываецца ад сваёй роднай Беларусі. Нідзе ён ня ўжывае ў лістох слова „Літва“.

У лістох за 1838 г. ёсьць цікавыя вершаваныя баляды ў 100 радкоў. У лісьце ад 16 кастрычніка ёсьць верш „Паўночная Зорка“ ад 15 лістапада—баляда на 3-х паштовых лісткох паперы дробненькім почаркам Баршчэўскага. У лісьце 19 сьнежня гэтага году—ізноў баляда; у лістох 1839 году ёсьць вершы з уражаньнямі з дарогі па Віцебскай Бэларусі, баляда „Селесьціна“, „Ноч“, „Дума на новы 1840 год“.

Недахват часу не дазволіў нам падробна азнаёміцца з гэтым каштоўным скарбам нашага першага поэты. Пісаў лісты Баршчэўскі „сваёй сястры“ ў маёнтак Рудню, здаецца, Полацкага або Дрысенскага павету.

У Пецярбурзе бедны хатні настаўнік тужыць аб Рудні, аб сваёй Беларусі, пасылае знаёмым паням і паненкам у якасьці гасьцінца сваю „Незабудку“, календары і зборнікі, якія выдаваліся Друцкім-Падбярэскім

У Пецярбурзе, паведамляе іх аб усіх навінках літаратуры польскай, знаёмстве з расійскімі пісьменьнікамі, скардзіцца на ўціск царскае цэнзуры.

Лісты гэтыя даюць нам шмат каштоўнага матэрыялу, каб выявіць асобу Баршчэўскага і настрояў тагочаснай польска-беларускай шляхты Віцебшчыны. Гэтая шляхта парадзіла цэлы напрамак у польскай літаратуры—беларускі.

У лістох Баршчэўскага часта сустракаюцца ўклоны нейкаму пану Буйніцкаму, а сярод тых паненак, якім ён прэзэнтуе кніжачкі, імя Петронэлі Дарэўскай. Калі гэтая Дарэўская даводзіцца сваячкай вядомаму А. Дарэўскаму-Вярызе, то робіцца ясным уплыў Баршчэўскага, з яго зацікаўленасьцю Беларусьсю і беларусамі, на пазьнейшае пакаленьне віцебскай шляхты.

Адносна самога Баршчэўскага, судзячы па малым знаёмстве з яго перапіскай, можна сказаць, што ў ім ня чуцён заядлы паляк, пан тых часоў. Пераглядзеўшы яго лісты, я ня ўбачыў захапленьня Польшчай, Літвой, а Беларусь, просты люд часта сустракаюцца.

Калі разгортваеш яго „Шляхціча Завальню“, то нас агортвае знаёмы змалку мір беларускай вясковай казкі і паданьняў. Так і лётаюць па старонках кнігі старыя знаёмыя „шоцікі“ з казаньняў бабуні і знаёмыя вёскі, мясьціны Полаччыны. Беларускі мір, Беларусь малюецца Баршчэўскім.

Было-б вельмі пажадана, каб Інбелкульт выдаў усе творы і перапіску Баршчэўскага, якая, можа, захавалася і ў другіх гарадох Беларусі,— на беларускай мове; яго заўсёдная зацікаўленасьць Беларусьсю і яе народнымі паданьнямі даюць яму на гэта права.

Лісты Баршчэўскага трапілі ў музэй з колекцыі вядомага ў Віцебску зьбіраценя старых рэчаў пана Федаровіча.

**Ад рэдакцыі:** Думкі аўтара наконт таго, нібы Ян Баршчэўскі быў зусім іншым ідэёва чалавекам, які гостра стаяў супроць паноў, аб чым сьведчаць паданыя Семянтоўскім радкі з поэмы „Рабункі мужыкоў“, панашаму—спрэчныя. Семянтоўскі, як расійскі чыноўнік, мог быць варожа настроеным супроць шляхты і польскіх паноў, якія ў той час складалі стан заядлых ворагаў царскае Расіі і яе парадкаў. Ды вельмі сьвежа была памяць аб паўстаньні 31 году. Ня дзіва, што розныя антыпольскія вершы, прасякнутыя зоолёгічным нацыяналізмам, распаўсюджваліся царскімі чыноўнікамі...

Цікавы, найболей, лісты Я. Баршчэўскага, якія рэдакцыя і просіць прысланць ёй для апублікаваньня.

# ДА ГІСТОРЫІ Б. С. Г.

**Ал. Шлюбскі**

У беларускай літаратуры ўжо адзначана адсутнасьць грунтоўных досьледаў, ахвярованых гісторыі і дзейнасьці Беларускае Соцыялістычнае Грамады („Беларусь". Менск, 1924 г., стар. 177), але беларуская літаратура ня мае і тых матэрыялаў, з апрацоўкі якіх складаюцца „грунтоўныя досьледы". Адносна Беларускай Соцыялістычнай Грамады вядом толькі адзін спэцыяльны нарыс нябожчыка А. Бурбіса (нарыс друкаваўся два разы: 1 раз у „Вестнике Народного Комиссариата Просвещения" пад загалоўкам: „Кароткі агляд беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху". Менск, 1921 г. № 1, 2; 2 раз нарыс перадрукоўваўся ў „Беларусі" пад загалоўкам: „Беларуская Соцыялістычная Грамада ў першым пэрыодзе яе працы". Менск, 1924 г.). Ды некалькі раз Беларуская Соцыялістычная Грамада, паміж іншым, памінаецца ў некаторых другіх працах, напрыклад, У. Ігнатоўскім у яго „Гісторыі Беларусі ў XIX і ў пачатку XX ст." (Менск, 1925 г.), Ф. Туруком у яго „Белорусском движении" (Масква, 1921 г.), З. Жылуновічам у нарысе „Два бакі беларускага руху" („Полымя", № 3-4, 1923 г.) і некаторых інш. працах.

Першакрыніцай вестак аб Беларускай Соцыялістычнай Грамадзе пакуль што зьяўляецца памянёны нарыс А. Бурбіса, якім карыстаюцца ўсе наступныя дасьледчыкі, калі маюць дачыненьне ў сваіх працах да Беларускае Соцыялістычнае Грамады, але ён напісаны не паводле дакумантальных даных, а паводле ўспамінаў сябра і дзеяча Грамады і, з прычыны гэтага, ён аб усіх працах Беларускае Соцыялістычнае Грамады кажа ў агульных рысах, не дэталізуючы ні аднаго боку, ні аднэй зьявы з яе жыцьця і дзейнасьці.

У прыватнасьці нам дакладна невядома самая програма Беларускае Соцыялістычнае Грамады, ня гледзячы на тое, што вядомы яе зьмест. Ф. Турук выдрукаваў „набросок" програмы паводле рукапісу Эпімаха-Шыпілы („Бел. движ.", стар. 83-84), якім т. Ігнатоўскі карыстаецца, як самой програмай („Гіст. Бел.", стар. 213), але тэкст самой програмы, апрацованай паводле 1 програмы, прынятай зьездам 1903 г. (якая, уласна кажучы, была програмай P. P. S., гл. Бурбіса, „Беларусь", стар. 178) і рэзолюцыяй 2 зьезду 1906 г., чытаецца зусім інакш, чым тэкст, выдрукаваны Туруком. Вядома яшчэ програма пад загалоўкам: „Программа Белорус-

ской Социалистической Громады“, Минск, 1917 г.,—але яна, як програма, прынятая 3 партыйным зьездам, які адбыўся ў кастрычніку 1917 г. ў рэволюцыйны час, як програма выданая легальна, носіць зусім іншы характар, чым програмы папярэднія, якія выдаваліся нелегальна ў часы „Российской Империи“.

Ніжэй мы прывядзем тэкст програмы Беларускае Соцыялістычнае Грамады паводле копіі Горадзенскага Губэрскага Жандарскага Кіраўніцтва [1]), выдадзенай у 1906 г. На програме месца выданьня не адзначана, напісана толькі, што яна выдрукавана ў „собств[енной] типогр[афии]“, а калі ўспомнім, што А. Бурбіс сьведчыць, што ўласная друкарня Беларускае Соцыялістычнае Грамады была організована ў Менску ў 1905 г. (Бурбіс, стар. 179), дзе выпусьціла шэраг друкаваных выданьняў, то ясна будзе, што програма друкавалася ў Менску.

Ніжэй падаецца тэкст програмы Беларускае Соцыялістычнае Грамады другой рэдакцыі, выданай у Менску ў 1906 г. другім выданьнем у ліку 700 экз. Тэкст падаецца ў параўнаньні з чарнавым „наброском“ гэтае програмы Ф. Турука.

Працовитая беднота усих краёў злучайся.[2])

ПРОГРАММА

Белорусской социалистической громады.

Составлена на основании программы, принятой с‘ездом 1903 г., и резолюции 2 с‘езда Б.С.Г. (1906 г.).

„Белорусска Социалистычна Громада“, организуя працовиту бедноту Белорусского края без различия национальностей, имеет конечной целью замену капиталистического строя социалистическим, замену частной собственности на орудия производства и обращения—общественного, для

Тэкст Ф. Турука (стар. 83-84).

Працавита бедната ўсіх краёў, злучайся!

Нарыс програмы Беларускай Соціалістычнай Громады.

Беларуска Соціалістычна Громада ёсьць організацыя соціальна-палітычная беларускага працавітаго народу, хочэ раскінуць цяперашні капіталістычны парадок і аддаць у рукі ўсяго народу зямлю, снасьці рабочія і ўсе способы комунікацыі для супольнага ўладаньня. У гэтай рабоці найбольша завада—цяперашняя палітычная няволя, пра по БСГ за найбліжшу палітычну цель мае скінуць сама-

[1]) Пададзеныя ў гэтым нарысе дакуманты мной атрыманы з Коўны пры такім надпісе на дакуманце:

„*А. А. Шлюбскаму.* Да гісторыі політычнага руху ў Крывіі-Беларусі. Абедзьве копіі атрыманы ад проф. Ковенскага Універсытэту Вацлава Біржышкі, з яго собскай архівы.

*Ал. Ружанец-Ружанцаў.*

Коўна—Панемунь, 1925 г. III. 5. **Ал. Ш.**

[2]) Аб замене ў лёзунгу слова „Пролетарыі“ словамі „Працовитая беднота“ Ігнатоўскі (стар. 212) кажа, што „гэты факт гаворыць нам аб тым, што БСГ пачынае глядзець на сябе хутчэй як на сялянскую, чым пролетарскую організацыю“.

организации общественного производства.

Признавая, что главным врагом всех освободительных стремлений „працовитой бедноты“ в России является царское самодержавие, БСГ считает своей ближайшей политической задачей ниспровержение самодержавия, выступая в борьбе за осуществление этой задачи совместно с пролетариатом всей России.

Стремясь заменить самодержавный строй Российского Государства федеративно-демократическою республикою с свободным самоопределением и культурно-национальною автономией народностей, входящих в состав государства БСГ, выставляет требование автономии Белорусского края с местным сеймом в Вильне.

Демократическая Республика должна опираться на следующих основаниях: 1) Законодательная власть народа, как санкция и как инициотива: сосредоточение верховной власти в руках законодательного собрания. 2) Всеобщее, прямое, равное, избирательное право; тайное голосование при выборах, пропорциональные выборы. 3) Самое широкое областное, местное и т. п. самоуправление. 4) Равные права для всех народностей, живущих на одной территории (культурно-национальная автономия). 5) Равноправие всех граждан без различия пола, религии, национальности и расы; уничтожение сословий. 6) Выборность чиновников. 7) Даровой суд, выборные судьи; подсудность чиновников. 8) Полная свобода совести, слова, печати, собраний, союзов, стачек и забастовок. 9) Неприкосновенность личности и

дзержавіе ў Расеі разам з пралетарыятам усіх народаў Расейскага гасударства. Цяпер трудна сказаць, як зложацца палітычныя стасункі ў Расеі, а толькі мы з усякага эдарэньня будзем карыстаць для таго, каб усе народы мелі як найбольшу свабоду, уважаючы за найбольшае жаданьне ў часі капіталізму незалежную рэспубліку дэмократычную на фундамэнці:

З палітычнай стараны: 1) Прастое, агульнае, роўнае, тайное галасаваніе; станаўленьне законаў праз народ, як ініціацыва і як санкцыя. 2) Роўные права для ўсіх народнасьцей, жывушчых на адной зямлі. 3) Роўнасьць усіх людзей у краю, як мушчын, так і кабет, ня гледзячы з якога яны народу і якой веры. 4) Самоўпраўленьне грамадзкое і ўсялякае; выбарныя чыноўнікі да адміністрацыі і спаўняне найвысшай ўласьці праз конституцыйны сход. 5) Дармовый суд, выборные судзі; падсуднасьць чыноўнікаў. 6) Поўная свабода слова, друку, сходаў, сяброўств, таварыств, забастовак; поўная свабода народнасьці і веры. 7) Безпячэнства асобы і дому кожнага чалавека. 8) Дармовая, канешная, поўная навука для ўсіх на кошт краю. 9) Скасаваньне салдацкай службы; заместо салдацкай службы агульнае апалчэньне народу. 10) Растушчы падатак ад даходу і ад наслецтва; скасаваньне ўсіх косьвенных падаткаў. 11) Адзяленьне цэркви ад гасударства і школы ад цэркви.

З палітычна-соціальнай стараны:

I. У справі зямельнай БСГ хочэ скасаваць права асабістай земскай ўласнасьці і даць кожнаму чалавеку права выраблять зямлю сваімі ру-

жилища. 10) Даровое полное обязательное образование для всех за счет государства. 11) Уничтожение постоянного войска, всеобщее ополчение народа. 12) Уничтожение всех косвенных налогов, установление прогрессивного налога на доходы и наследства.

В целях охраны рабочего класса БСГ стремится осуществить следующие требования: 1) Установление 8-часового дня—кроме исключительных случаев в деревне. 2) Установление минимума платы за работу. 3) одинаковая плата мужчинам и женщинам за одинаковую работу. 4) Воспрещение ночного труда в принципе. 5) Безусловное воспрещение ночного труда для женщин. 6) Воспрещение предпринимателям пользоваться трудом детей до 14 л.; ограничение рабочего времени для подростков (от 14 л. до 18 лет 6 часами в день). 7) Еженедельный отдых от работы не менее 42 часов без перерывов. 8) Воспрещение выдачи заработной платы товарами, по крайней меры еженедельная выдача заработной платы в рабочее время. 9) Гигиенические условия труда. 10) Даровая врачебная помощь. 11) Государственная страховка рабочих от несчастных случаев, болезни, старости и недостатка работы. 12) Фабричная и сельская инспекция, избираемая рабочими. 13) Охрана отхожих работников. 14) Биржи труда и секретариат работников. 15) Свобода стачек и забастовок.

камі без карыстаньня з чужой працы, расшыраючы адначасьне, каб пярэйсьці да соціалістычнай гаспадаркі, ідэі ўсестаронняга сябраваньня і таварыств.

II. У справі працавітага народу: 1) 8 гадзін работы ў дзень (можна даўжэй у жніво і другія незвычайны часы). 2) Устанаўленьне minimum платы за работы. 3) Роўнае заплаты для мушчын. кабет і дзяцей пры роўнай працы. 4) Забараненьне начной працы апрача нязвычайнай патрэбы. 5) Аздараўленьне варункаў працы. 6) Страхоўка краёвая ад няшчаснага прыпадку, недастатку працы, хваробы і старасьці. 7) Інспэкцыя фабрычная і інспэкцыя сельскай гаспадаркі. 8) Біржы працы і сэкрэтарiат работнікаў. 9) Свабода змоў і забастовак работнікаў. 10) Дармовая помач дахторская. 11) Выплаты у гадзінах работы. 12) Апека над адходнымі работнікамі. 13) Краёвая страхоўка ад граду і заразы. 14) Пераход на ўласнасьць краю лесапашы і вадзяной сілы.

---

Принимая во внимание: 1) что невозможное, тяжелое положение безземельных и малоземельных трудящихся масс сельского населения являющиеся следствием недостатка земли и бесправия и основанная на этом эксплоатации и земельная кабала привлекли к неуперизму (об‘еднению) со всеми его преследованиями и 2) что для выхода из этого положения и развития производительных сил страны необходима коренная аграрная реформа, расширяющая прежде всего землепользование малоземельных сельских трудящихся масс. БСГ, стремясь к переходу всей земли в общественную собственность, выставляет в момент революцион-

ной реорганизации государственного строя на демократических началах с самым широким областным и местным самоуправлением — требование следующей аграрной реформы:

1) Образование областных земельных фондов из казенных, удельных, кабинетских, церковных, костельных, монастырских и частновладельческих земель.

2) Малоземельным и безземельным, трудящимся на земле, необходимо прежде всех открыть свободный доступ к земле для пожизненного пользования; преимущество на пользование участком общественной земли, оставленной земледельцем по неработоспособности, смерти и проч. предоставляются его ближайшим сотрудникам. Доступ к земле по возможности должен быть обеспечен материальной поддержкой нуждающимся в ней для заведения хозяйства.

3) Земельная рента должна быть собственностью края и перейти в пользу самотрудящихся областных организаций.

4) Областные государственные организации определяют форму и порядок конфискации земель.

5) Мелкие самоуправляющиеся организации определяют количество земли, нужное для обеспечения трудящихся на земле.

Б. С. Г. требует перехода в общественную собственность лесов, пастбищ и водяной силы.

Для осуществления всех указанных выше политических и социальных преобразований Б. С. Г. считает необходимым при революционном низвержении самодержавия созыв Учредительного Сейма для Белорусского края на основании всеобщего, равного, тайного и прямого избирательного права.

Издание I Кр. Ком. [1]) Б. С. Громады. Октябрь 1906 года, печатано, собств. типогр. 2-м издан. 700 экз.

Тэкст прыведзенай програмы быў далучаны да сакрэтнага даняседьня „Помощника Начальника Гродненского Губернского Жандармского Управления“ свайму начальніку, якое дае некаторыя матэрыялы да гісторыі разьвіцьця дзейнасьці Беларускае Соцыялістычнае Грамады на Горадзеншчыне.

У адносьніку паміж некаторымі прозьвішчамі памінаюцца браты Трускоўскія, якіх Бурбіс (стар. 179), Ігнатоўскі (стар. 207), Турук (стар. 13) лічаць аднымі з закладчыкаў „Соцыялістычнай Партыі Белай Русі“, між тым як у жандарскім адносьніку яны вызначаюцца супрацоўнікамі не беларускіх рэволюцыйна-політычных партый, а Р. Р. S.

---

[1]) Скарачэньні гэтыя, паводле артыкулу А. Бурбіса (Вест. Нар. Ком. Пр. № 1, стар. 7), трэба чытаць: I (першы) Краёвы Комітэт Беларускае Соцыялістычнае Грамады.

Тэкст гэтага адносніку такі:

**ПОМОЩНИК НАЧАЛЬНИКА**
**Гродненского Губернского**
**Жандармского Управления**
**в Гродненском, Слонимском**
**и Волковыском уездах**

*29-го января 1910 года.*
№ 304.
г. Гродно.

Секретно.

Начальнику Гродненского
Губернского
Жандармского Управления

Вследствие предписания от 7-го Января за № 154 доношу Вашему Высокоблагородию, что в делах моей канцелярии никаких документов и следов относительно „Белорусской Социалистической Громады“ не имеется. По памяти же восстанавливаю: приблизительно около 1904 года, когда еще в Гродне не было сведений о существовании подобной организации, при обысках мною были находимы изредка одиночные экземпляры брошюр с написанными, преимущественно на заглавных страницах, буквами „Б. С. Г.“. Эти инициалы в свое время меня заинтересовали, и помню отлично, что, комбинируя их так и этак, я самостоятельно дошел, в особенности когда встретил их на одном воззвании партии „социалистов-революционеров“, изданном на белорусском наречии, что эти инициалы могут только обозначать название партии и по всему вероятию „Белорусской Социалистической Громады“, но тем не менее помню доказательства своему предположению не находил. Вскоре после этого я производил обыск у известного деятеля P. P. S. Петра Шумова и, найдя среди книг одну с подобными инициалами, спрашивал и у него о их значении, но он от ответа уклонился; затем попадались при обысках издания с этими же инициалами, но произведенными уже не от руки, а оттиском штемпеля.

14 апреля 1905 года при обыске въ гор. Гродне по Муравьевской улице в доме Хомичевского в конспиративной квартире P. P. S., содержавшейся студентом Варшавского Ветеринарного Института, происходящем из крестьян околицы Эйсмонтом Верцелишской волости, Гродненского уезда Станиславом Станиславовым *Трусковским* был обнаружен тот именно штемпель „Б. С. Г.“, вырезанный на плотной, твердой пробке, коим помечены были виденные ранее мною книги.

Затем во время прокладки шоссе Гродно—Лида были единичные случаи нахождения разбросанных вблизи Гродны воззваний на белорусском наречии, уже за полной подписью Белорусской Социалистической Громады, обращенныя к крестьянам, возившим камень для постройки шоссе; в этих воззваниях указывалось, что подрядчики обирают крестьян, платя им за камень незначительную сумму, тогда как им, подрядчикам, остаются громадные барыши.

Дознание о „Б. С. Г.“ при вверенной мне канцелярии,—не возбуждалось; въ районе Слонимского и Волковыского уездов таковой организации

не было вовсе, и деятельности своей на эти уезды „Б. С. Г.“ не распространяла. В Гродненском уезде были только случаи вышеупомянутой разброски воззваний в окресностях г. Гродны, и главным образом по Гродно-Лидскому шоссе.

Характерно то обстоятельство, что в г. Гродне специальных деятелей по „Б. С. Г.“ не было, а действовали в интересах ее известные „P. P. S.“—крест. дер. Кибарты, Сувалкской губ. Франц Викентьев *Эйдукевич*, сын чиновника Петр Иванов *Шумов*, братья Станислав и Казимир Станиславовы *Трусковкие*, и их общий знакомый, бывший студент Львовского Политехнического Института, происходящий из мещан гор. Гродны Бронислав Леонов *Шушкевич*. Ротмистр (подпіс)

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ УКЛАДАНЬНІ СЛОЎНІКА ЖЫВОЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**С. Некрашэвіч**

*(Даклад, чытаны на сходзе мовазнаўчай сэкцыі Інбелкульта 8 ліпеня 1925 г.)*

Ня гледзячы на тое, што мінула ўжо роўна сто год, як распачалася ў нас на Беларусі слоўнікавая праца, аднак яшчэ й да гэтага часу мы ня маем больш-менш поўнага слоўніка беларускай мовы. З надрукованых да гэтага часу беларускіх слоўнікаў найбольш цікавымі бязумоўна зьяўляюцца: „Словарь белорусского наречия“ І. Насовіча, які яшчэ й да гэтага часу ня страціў сваёй вартасьці, і другі краёвы „Смоленский Областной словарь“ В. Добравольскага. З ненадрукованых слоўнікаў выдзяляюцца беларускія краёвыя слоўнікі Ціхінскага й Федароўскага.[1]) Тут варта яшчэ зьвярнуць увагу на практычныя слоўнікі ў рукапісах: Беларуска-рускі (30.000 слоў) М. Байкова і С. Некрашэвіча і Руска-беларускі (звыш 60.000 слоў) С. Некрашэвіча і М. Байкова. Больш дробных слоўнікаў і слоўнікавага матэрыялу мы ня станем пералічаць, бо гэта ўжо адмячалася ў працах акад. Е. Карскага (Белоруссы, том II) і ў артыкуле М. Байкова: „Слоўнікавая праца ў беларускай мове“[2]); укажам толькі на непаказаныя ў М. Байкова слоўнікі: выдрукаваны ў 1924 г. ў Коўне Руска-беларускі слоўнік Ластоўскага, выдрукаваны ў тым-жа годзе невялічкі руска-беларускі слоўнік М. Байкова і М. Гарэцкага і невялічкі рукапісны Беларуска-рускі слоўнічак С. Мядзьведзкага[3]). Сюды-ж трэба аднесьці і „Беларускую Навуковую Тэрмінолёгію“, шэсьць выпускаў якой ужо надрукована, а некалькі падгатована да друку.

Кожны з гэтых слоўнікаў бязумоўна прадстаўляе цікавасьць для беларускай лексыколёгіі; аднак усе яны, нават разам узятыя, яшчэ далёка ня могуць выявіць усяго лексычнага й фразэолёгічнага багацьця беларускай мовы.

Адсюль само сабой зразумела, што, разам з дзяржаўным жыцьцём у Беларусі і пашырэньнем яе культуры, паўстала неадкладнае пытаньне

---

[1]) З тамы ў рукапісу беларускага слоўніка (з польскімі тлумачэньнямі) Федароўскага знаходзяцца ў „Akademii umętności w Krakowie“ (зап. са слоў акад. Е. Карскага).

[2]) Журнал „Адраджэньне“, № 1. Менск 1922 г.

[3]) Рукапіс знаходзіцца ў архіве бібліотэкі Руск. Акадэміі Навук.

апрацаваньні грунтоўнага слоўніка жывой беларускай мовы. Тым ня менш, з прычыны розных перашкод, мы толькі ў гэтым годзе змаглі паставіць гэтае пытаньне на чаргу дня і прыступіць да працы па ўкладаньні слоўніка.

Аднак паколькі гэта пытаньне зьяўляецца надзвычайна важным, мы і рашылі высьветліць яго ўсебакова, каб ухіліцца пры ўкладаньні слоўніка ад мажлівых памылак.

Што такое слоўнік, кожны знае, але ня кожны добра сабе ўяўляе, якое вялікае значэньне мае слоўнік. Дзеля гэтага цікава будзе прывесьці па гэтаму пытаньню погляды аўторытэтаў навукі. „Слоўнік роднай мовы“, кажа выдатны рускі мовазнаўца акад. І. Срэзьнеўскі, „зьяўляецца аднэй з самых неабходных настольных кніг для ўсякага асьвечанага чалавека, тым больш для літаратара й пісьменьніка, а асабліва для таго, хто так ці йначай прысьвяціў сваю навуковую дзейнасьць вывучэньню свайго народу, яго мовы й літаратуры“[1]). Яшчэ большае значэньне слоўніку роднай мовы надае выдатнейшы нямецкі мовазнаўца Як. Грым. У прадмове да свайго слоўніка нямецкай мовы[2]), якому ён аддаў увесь канец свайго жыцьця, пакінуўшы іншыя, ужо абдуманыя працы, Грым кажа: „Ён (слоўнік) павінен быць сьвятыняй мовы, хаваць усё яе багацьце і мець адчынены да яго прыступ усім“. Чаму такое вялікае значэньне надаецца слоўніку роднай мовы, для нас стане зразумелым, калі мы прымем пад увагу прадмет дасьледваньня слоўніка. Слоўнік дасьледвае фактар першаступовага значэньня ў культурным разьвіцьці народу,—яго мову. А ў мове, як у люстры, адбіваецца ўвесь народ, што гаворыць гэтаю мовай, з усёю сваёю псыхолёгіяй, са сваёй этнографіяй, звычаямі, сьветапоглядамі. „Кожная асаблівасьць мовы“, кажа нямецкі вучоны І. Гольдшмідт, „ці зьяўляецца яна ў надзвычайнай вымове або націску, ці знаходзім яе ў цэлага народу або ў некаторай яго часьці,—не павінна нам здавацца выпадковай, сьмешнай прывычкай або чымсьці падобным. Ніколі не патрэбна забываць таго, што ўсякая такая асаблівасьць мовы знаходзіцца ў сувязі з асаблівым духоўным жыцьцём цэлага народу або яго часьці. Выпадковая асаблівасьць, не адпавядаючы патрэбнасьцям духу, не магла-б пашырыцца, а калі-б па якой-небудзь модзе й зрабілася да некаторай ступені агульнаю,—усё такі хутка была-б пакінута, як няпрыгодная, сьцясьняючая“.[3]) Такім чынам, слова ў мове—гэта не выпадковы факт,—гэта гісторыя народу. Слова ў мове зьяўляецца тады, калі зьяўляецца пэўная ідэя, для выражэньня якой у форме гукаў і служыць слова. Пры запазычаньні ідэі ад другога народу звычайна запазычаецца і слова, якое выражае гэтую ідэю. Вось чаму важна ў слоўніку паказваць

---

[1]) Акад. И. Срезневский. Обозрение замечательных из современных словарей. Изд. Акад. Наук по отд. русск. яз. и слов. т. 3.

[2]) Deutches Wörterbuch. Erster Band. Leipzig, 1854.

[3]) Выпіску прыводзім з „Филологических Розысканий“ акад. Я. Грота.

ня толькі свае ўласныя словы, але й запазычаныя, бо па гэтых словах можна прасачыць увесь шлях культурнага разьвіцьця народу, яго самастойнасьці ў культурным будаўніцтве і ў уплыве на яго культуру іншых народаў.

Такім чынам, слоўнік роднай мовы—гэта духоўны скарб народу, які ён назапасіў праз многа вякоў і пакінуў у спадчыну свайму патомнаму пакаленьню. Але каб можна было ўладаць гэтым вялікім скарбам і карыстацца ім, патрэбна адшукаць, выявіць яго,—патрэбна скласьці слоўнік.

Значэньне слоўніка, як настольнай справачнай кнігі, для кожнага зразумела. Але слоўнік асаблівае значэньне мае для пісьменьнікаў, для ўсіх тых, хто піша роднай моваю. Даўно ўжо вядома, што пісьменьнікі ствараюць мову (літаратурную). Аднак таксама вядома, што некаторыя пісьменьнікі і псуюць яе. Толькі тыя пісьменьнікі могуць заставіць сьлед у ўтварэньні мовы, якія, побач з дакладным, цярплівым дасьледваньнем сваёй тэмы, не задавальняюцца агульнапрынятым спосабам гаварыць і пісаць, а ўнікаюць ва ўсе падрабязгі складу сваёй мовы, хочуць цалком ўладаць ёю. Для пісьменьніка-ж мова тое самае, што фарба для мастака: чым больш ён пераможа перашкод у выражэньні танчэйшых ухілаў сваёй мысьлі, чым лепш ён ўладае мовай, як тэхнічнай прыладай, падобна пэндзлю мастака, тым лепш, наглядней, вобразьней і больш зразумела для другога ён нарысуе свой прадмет. І заўсёды бывае, што чым ясьней для пісьменьніка яго тэма, чым лепш ён унік у дух роднай мовы і ўладаў ёю, тым лепшым ён будзе яе тварцом. Выдатнейшыя пісьменьнікі былі разам з тым і лепшымі знаўцамі сваёй мовы,—вядома, параўнаўча з тымі, хто не займаўся яе дасьледваньнем. Аналіз твораў такіх пісьменьнікаў паказвае, што яны ў дасканаласьці ўладалі роднай моваю, а дзеля гэтага пакідалі па сабе багаты матэрыял для слоўніка й граматыкі. Назавем хоць выдатнейшага сусьветнага пісьменьніка Шэкспіра, які ўжываў у сваіх творах каля 15.000 слоў, тады як чалавек з вышэйшай асьветай у сваёй мове ўжывае толькі 3.000-4.000 слоў, а ангельскі няпісьменны чорнарабочы—ня больш 300 слоў.

Асноўным грунтам для мовы пісьменьніка павінна быць мова народная, бо „народная мова“, кажа вядомы аўтар рускага слоўніка В. Даль,—„бясспрэчна галоўная і невычарпальная крыніца,—руднік,—скарбніца нашай мовы“ [1]). Даль лічыў просты народ за ядро і корань нацыі [2]). Толькі ўнікнуўшы ва ўсе таямніцы народнай мовы і народнага духу, пісьменьнік зможа ўнесьці нешта новае ў скарбніцу роднай мовы. Гэтым новым могуць быць краёвыя словы і фразэолёгічныя звароты, якія пісьменьнік уносіць у сваю мову, і якія да таго часу ня ўжываліся ў літаратурнай мове. Чым асьцярожней пісьменьнік будзе ўносіць гэтыя краёвыя асаблівасьці, чым ён будзе гэніяльней, а значыць і

[1]) В. Даль. Речь, читанная в обществе любителей росс письм. в 1860 г.

[2]) „Автобиография“.

мець большае кола сваіх чытачоў, тым больш можна быць пэўным, што ўведзеныя ім асаблівасьці зробяцца агульным набыткам літаратурнай мовы. Наадварот, калі пісьменьнік будзе грашыць у ўжываньні краёвых слоў і без разбору будзе ўносіць у сваю мову як паасобныя краёвыя словы, гэтак і звароты, быць можа самыя дакладныя й прыгожыя, але незразумелыя для большасьці чытачоў, то гэткі пісьменьнік ня можа разьвіваць сваёй мовы: яго творы, як малазразумелыя, ня будуць чытацца, і ўведзеныя ім словы ня ўвойдуць у агульнае карыстаньне. Сапраўднае назначэньне пісьменьніка, як і мастака, азначае, што ён мусіць сябе паставіць у разумныя адносіны да прыроды, да народнай мовы, узяць яе сьвежасьць, вобразнасьць, прасячыся яе духам і на аснове яе стварыць новыя вобразы, якія-б зачаравалі чытача. „Дарма будзе літаратар калечыць сваю мову провінцыяльнымі латамі, калі ён свайго розуму ня змог выхаваць на народны лад, калі ён ня звыкся з народным словам так, каб умела й лёгка мог прыстасаваць да іншых інтарэсаў і да іншых патрэб тыя краёвыя формы, якія так цесна зрасьліся на працягу стагодзьдзяў з эпічным сьветапоглядам народу“[1]). Адсюль для нас зразумела, чаму лепшыя пісьменьнікі заўсёды імкнуліся да вывучэньня народнай мовы (Крылоў, Пушкін, некаторыя нашы пісьменьнікі).

Ня меншае значэньне, чым для пісьменьнікаў слоўнік роднае мовы мае і для навуковага працаўніка па дасьледваньні законаў мовы. Я. Грым у сваёй вышэйпамянёнай прадмове да слоўніка расказвае, што яго заняткі па старажытнай граматыцы мовы былі вельмі трудныя і толькі тады пашлі пасьпешна, калі ён пачаў карыстацца слоўнікам. „Слоўнік“, кажа ён, „падобен да ўзброенага, гатовага да бітвы войска, з якім можна тварыць надзвычайныя рэчы“.

Да гэтага часу мы гаварылі аб агульным значэньні слоўніка роднай мовы. Пазірнем цяпер на яго з беларускага боку. З гэтага погляду наш слоўнік бязумоўна мусіць мець значныя асаблівасьці, якія выклікаюцца асаблівасьцямі беларускага культурнага жыцьця. Параўнаўча з культурай рускай, нямецкай, францускай і наогул з культурай кожнага народу, які ў сваім паступовым процэсе культурнага разьвіцьця ня меўбы такіх раптоўных зьмен і не падпадаў-бы такому моцнаму й доўгаму чужаземнаму ўплыву, як народ беларускі,—шляхі разьвіцьця беларускай культуры зусім асаблівыя, нісколькі непадобныя на шляхі разьвіцьця культур іншых „дзяржаўных“ народаў. У гістарычным процэсе культурнага разьвіцьця беларускага народу выдзяляюцца два асноўныя фактары: адзін з іх—гэта страта беларускім народам яго палітычнай незалежнасьці, і другі фактар—атрыманьне гэтай незалежнасьці, абвяшчэньне Беларусі незалежнай рэспублікай.

Страціўшы ў XVI в. сваю дзяржаўную незалежнасьць, беларускі народ падпадае перш польскаму, а пасьля рускаму шматвяковаму ўплыву,

[1]) Акад. Ф. Буслаев. Опыт областного великорусского словаря. Критика.

што было прычынай гвалтоўнага затрыманьня прыроднага процэсу разьвіцьця беларускай культуры, а разам з тым і беларускай мовы. З прычыны блізкасьці да беларускай мовы з аднаго боку рускай, а з другога боку географічнай блізкасьці польскай мовы ня дзіва, што ў беларускую мову трапіла дый цяпер яшчэ да апошняга часу трапляе многа чужаземных элемэнтаў. У ўспрыйманьні гэтых элемэнтаў больш падатнай апынулася як раз насельнасьць гарадоў і мястэчак, найбольш культурная частка беларускага грамадзянства, якая пры іншых умовах жыцьця была-б найбольш здольнаю разьвіваць мову і збагачаць яе новымі словамі: чаму так здарылася—гэта зусім зразумела. Гарадзкая й местачковая насельнасьць мела большае дачыненьне да чужой нацыі, што запаланяла наш край, а таму першая й пачала траціць чыстату сваёй мовы. Толькі вёска, глухая, цёмная вёска, для якой незнаёма была кніжная асьвета і якая ня толькі ня мела зносін з чужынцамі ў краі, але фактычна й мець не магла, бо ёй, як мужыцкай, ганьбавалі,—і вось толькі гэтая вёска на працягу шмат вякоў у чыстаце захоўвала свой найдарожшы скарб—беларускую мову.

Беларускае культурна-нацыянальнае адраджэньне, якое распачалося ў мінулым стагодзьдзі і якое асабліва вялікі рэволюцыйны ўздым атрымала пасьля рэволюцый 1905 г. і Пролетарскай, зразумела за дзесяткі год не магло залатаць векавых ран, што былі нанесены нашай мове панаваньнем у нашым краі чужой культуры. Аднак з гэтага часу ранейшы процэс заняпаду беларускай мовы ўжо зьмяняецца адваротным процэсам, процэсам далейшага разьвіцьця беларускай мовы, паступовым прыстасаваньнем яе да патрэб культурнага асьвечанага грамадзянства.

Абвешчаны ў 1919 г. акт аб незалежнасьці Беларусі зьяўляецца ня толькі актам першаступовага палітычнага значэньня, але адначасна і важнейшай падзеяй у гісторыі беларускай мовы. Згодна гэтаму акту, беларуская мова абвяшчаецца дзяржаўнай, мовай роўнапраўнай сярод моваў іншых культурных народаў. З гэтага як раз часу беларуская мова пачынае жыць сваім поўным жыцьцём. Яе цяпер разьвіваюць ня толькі пісьменьнікі, але школа, установы і наогул усё беларускае грамадзянства. Многавекавыя здабыткі агульначалавечай культьтуры пачынаюць атрымліваць сваё выражэньне ў беларускай мове. А ў зьвязку з гэтым ад беларускай мовы патрабуюцца надзвычайныя высілкі, нябывалыя ў гісторыі разьвіцьця моваў іншых народаў. Тыя ідэі, што ў мовах іншых народаў успрыймаліся незаметна, можа на працягу некалькіх стагодзьдзяў, уваходзяць у беларускую мову з вялікаю пасьпешнасьцю, адразу-ж, бо час не чакаў, а страты ў мінулым былі вялікія.

Зразумела, што разам з увядзеньнем у мову новых ідэй, некаторыя з якіх яшчэ ня былі прадуманы народам, у нашу мову ўводзіцца і нямала чужой для яе стыхіі. Побач з удалымі словамі, якімі за апошнія гады ўзбагацілася наша мова, тут мы знаходзім і шмат чаго непатрэбнага,

няўдалага. Не гаворачы ўжо аб звычайных асобах, што пішуць беларускай мовай і ўносяць у сваю мову многа чужога, для беларускай мовы неўласьцівага, дык і нашы пісьменьнікі, нават лепшыя з іх, маюць гэтую хібу. У нас пад рукамі як раз апошні нумар журналу „Полымя" (№ 3). Бегла праглядаючы гэтую кнігу, мы заўважылі тут ня мала непатрэбных чужых слоў і зваротаў. Пакажам на некаторыя з іх. У разказе Тараса Гушчы „Прокурор" адмецім такія русізмы: „падводы, *нагружаныя* дубовымі кругдякамі", „пад *аткос дарогі*" (стар. 16), „*сьлёзы ўміленьня*" (стар. 4), „*з асадак законнасьці і парадку*"; у вершы Цішкі Гартнага „Чырвоная Радзіма" полёнізм: „*шарая* Беларусь бальшавіцкая"; у расказе Ліманоўскага „Адшуканы скарб" на ст. 28 знаходзім няўдалы беларускі новатвор: „Аб *апасцы*, небясьпечнасьці" (ад руск. *опасаться*); у Эўг. Барычэўскага („Літаратурныя пагляды й густ сучаснае Нямеччыны") знаходзім русізм у звароце: „Літаратурная плынь, *паўстаўшая* ў аднэй краіне, хутка пашыраецца ў другіх"; у вершы А. Гурло „Да гусьляроў" русізм: „*напеў задорны*", у вершы Аркадзя Моркаўкі „Я ня ведаю" украінізм: „*бадзёры*". Падобных выпісак з тэй-жа кнігі можна было-б прывесьці ці мала. Але асабліва многа русізмаў—слоў і зваротаў—трапляе ў нашу ўрадовую мову, у газэту. Прычына гэтага нашага агульнага ліха хаваецца ў тым, што мы сваю асьвету атрымалі не на роднай глебе. Прайшоўшы рускую або польскую школу, мы навучыліся думаць не пабеларуску, а паруску ці папольску. Каб перамагчы гэта, трэба ўнікнуць у народную мову, або, як кажа вядомая дасьледніца сучаснай украінскай мовы А. Курыла, трэба „навучыцца ад народу выражацца яго думкамі, яго псыхолёгіяй мовы"[1]).

Асаблівасьць шляхаў беларускага культурнага разьвіцьця ня можа не адбіцца і на беларускім слоўніку. У той час, скажам, як у Вялікаросіі ўсякае слова, што там чуваць ад рускага чалавека, можа быць занесена, як рускае, у слоўнік,—у нас так рабіць зусім нельга: у нас да кожнага слова, якое мы чуем на Беларусі і нават ад беларуса, трэба адносіцца крытычна, трэба глядзець, ці няма тут рускага або польскага ўплыву, ці ня русізм або полёнізм мы чуем. А значыць і задачы рускага, нямецкага і наогул слоўніка мовы народу з пануючай культурай будуць іншыя, чымся нашы. Тады як задачай, прыкладам, рускага слоўніка, па словах акадэміка Істрына, зьяўляецца пазнаць рускую мову, задачай нашага слоўніка, апрача таго, зьяўляецца яшчэ й *апрацаваць* нашу мову, выявіць яе, як мову беларускую, прыгодную ня толькі для пісаньня вершаў і штодзеннага ўжытку, але й для выражэньня ёю самых глыбокіх навуковых ісьцін, самых тонкіх адценьняў нашай мысьлі. Рознасьць задач рускага й беларускага слоўнікаў павінна ставіць і розныя мэтоды ў іх апрацаваньні. У той час, як у рускі слоўнік заносяцца ўсе словы, якія можна пачуць ад рускага чалавека на тэрыторыі РСФСР,—у беларускі

[1]) О. Курило. Уваги до сучасноі украінськоі літературноі мови.

слоўнік могуць уносіцца *толькі беларускія словы*, г. зн. або беларускія словы, агульназразумелыя для ўсёй беларускай тэрыторыі, як, напр., *рука*, *дзякаваць*, або характэрныя для якой-небудзь асобнай беларускай мясцовасьці, як, напр., *лоўж*, *подкур*, *скрыль*, іншыя-ж словы, хоць-бы яны й чутны былі на нашай тэрыторыі ад беларусаў, нават ад людзей вясковых і няпісьменных, але паколькі такія словы не зьяўляюцца беларускімі, яны не павінны мець у нашым слоўніку месца. Такім чынам, хоць слоўнік беларускай мовы і мусіць адбіць мову ўсяго беларускага народу ва ўсіх сфэрах яго дзейнасьці, аднак усё неўласьцівае для нашай мовы, што прадстаўляе рэзультат зрушэньня або спальшчэньня,—усё роўна, ці будзе яно ўведзена ў мову літаратурным шляхам, ці знаходзіцца ў якім-небудзь дыялекце нашай мовы,—павінна быць у слоўніку адхілена. Як яно мусіць адхіляцца, аб гэтым скажам ніжэй.

Выясьніўшы значэньне й задачы слоўніка беларускай мовы і яго неадкладную патрэбу для беларускай культуры, асабліва ў сучасных яе ўмовах, пераходзім цяпер да разгляду пытаньня аб самым укладаньні слоўніка. Тут перш за ўсё паўстаюць пытаньні, якую тэрыторыю і які пэрыод часу павінен абхапіць слоўнік беларускай мовы.

Што да тэрыторыі, якая мусіць адбіць беларускую мову, то нам здаецца, што гэта пытаньне не павінна выклікаць спрэчак,—беларуская мова тэрыторыі ўсёй этнографічнай Беларусі павінна знайсьці сваё месца ў слоўніку нашай мовы. А паколькі тэрыторыя этнографічнай Беларусі блізка супадае з картай акад. Е. Карскага, то можна задаволіцца й гэтай картай. Праўда, што да заходняй тэрыторыі Беларусі, то тут паўстануць у зборы матэрыялу надзвычайна вялікія труднасьці, але ў мэтах паўнаты слоўніка трэба перамагчы ўсе перашкоды і наладзіць збор слоўнікавага матэрыялу па ўсёй этнографічнай Беларусі. Слоўнік мовы ўсяго народу гэта не такая кніга, што пішацца кожны год. Зьяўляючыся раз на працягу дзесяткаў, а іншы раз і сотак год, слоўнік, каб ён быў агульны для ўсяго народу, павінен адбіць і ўсе яго гутаркі.

Таксама, нам здаецца, не павінен выклікаць спрэчак і пэрыод часу, які мусіць абхапіць слоўнік беларускай мовы,—пэрыодам гэтым мусіць быць увесь XIX век і першая чвэртка нашага веку,—значыць ад часу так званага несьвядомага адраджэньня аж да канца бягучага году. Мы ня можам захапіць больш раньняга часу, напр. XV і XVI в. в., час красаваньня нашага пісьменства, бо хоць-бы мы ў літаратуры тых часоў і пачарпнулі ці мала ўдалых слоў і фразэолёгічных зваротаў, хоць-бы такі матэрыял быў цікавы і для гісторыі нашай мовы,—аднак мы абмяжоўваем сябе пэўным часам і па гэткіх прычынах: слоўнік наш, папершае, завецца слоўнікам жывой мовы, значыць тых слоў і зваротаў, якія зараз жывуць у народнай або ў літаратурнай мове; падругое, слоўнік, адбіваючы пэўную гістарычную ў мове эпоху, прадстаўляе надзвычайную цікавасьць ня толькі як слоўнікавы матэрыял: такі матэрыял зьяўляецца вельмі каштоў-

ным і для этнографа, і для гісторыка, і для іншага спэцыяліста па дасьледваньню беларускай культуры. Аднак бясспрэчна і тое, што бліжэйшай задачай беларускай навукі павінна зьявіцца ўкладаньне *асобнага* гістарычнага слоўніка беларускай мовы, дзе мусіць быць паказаны ўвесь гістарычны працэс разьвіцьця нашай мовы. Што такі гістарычны слоўнік з часам трэба будзе скласьці, і што ён будзе надта карысны, аб гэтым ня варта многа й гаварыць, бо „тая мова“, па словах Я. Грыма, „якая-б, апрача свайго жывога, хадзячага запасу, ня мела-б прыхованай капейкі і якіх-небудзь рэдкіх монэт, была-б бедная мова“. А наша мова хавае ў сваёй гісторыі вялікія скарбы; выявіць іх справа гістарычнага слоўніка.

Таксама ня варта многа гаварыць, што гістарычны слоўнік нашай мовы павінен стаяць асобна. Сашлемся ў даным выпадку на практыку Рускай Акад. Нав., якая свае першыя слоўнікі рускай мовы выдавала разам з царкоўна-слав. (і стара-рускай) мовай, а ў апошнім выданьні гэтыя слоўнікі разьмежавала.

Вызначыўшы тэрыторыю й пэрыод часу, якія павінен абхапіць наш слоўнік, разгледзім цяпер крыніцы, каторыя мусяць быць выкарыстаны для слоўніка. Мы ня будзем тут даваць сьпісу крыніц. Гэтую справу мусіць зрабіць рэдакцыя слоўніка; яна загадзя павінна скласьці поўны сьпіс крыніц, патрэбных для выкарыстаньня. Выкарыстаныя крыніцы мусяць быць надрукаваны ў першым выпуску слоўніка. Нашай задачай па гэтаму пытаньні зьяўляецца толькі зазначыць у агульных рысах той матэрыял, які мы лічым патрэбным выкарыстаць для слоўніка. Крыніцы мы падзелім на тры катэгорыі: крыніцы па народнай мове, па літаратурнай мове і па тэхнічнай мове—тэрмінолёгія ў шырокім сэнсе гэтага слова.

Уласна кажучы, каб мы былі вельмі багаты навуковымі сіламі й грашмі, то пажадана было-б у зьвязку з вышэйшым падзелам улажыць і тры віды слоўнікаў. Аднак, прымаючы пад увагу з аднаго боку нашу беднасьць, а з другога боку невялікую розьніцу літаратурнай мовы ад народнай, а таксама неапрацованасьць літаратурнай мовы й тэхнічнай,—мы гэтыя тры слоўнікі з пасьпехам можам злучыць у адным.

Літаратурную мову мы разумеем у шырокім значэньні—усе тыя творы, якія напісаны пабеларуску; значыць, сюды ўвойдуць творы нашых пісьменьнікаў і поэтаў, пэрыодычны друк, навуковыя й популярныя кнігі, падручнікі, слоўнікі і наогул усе кнігі, напісаныя цалком або часткай пабеларуску. Выключэньне адсюль мы толькі робім для запісанай і надрукованай народнай творчасьці і некаторых слоўнікаў, што ўжо складае крыніцу для народнай мовы. Само сабой зразумела, што вартасьць літаратурных крыніц неаднакая. Найбольш каштоўнымі крыніцамі зьяўляюцца творы нашых лепшых пісьменьнікаў, найбольш слабымі крыніцамі, якія патрабуюць да сябе самых крытычных адносін,—мова газэт, перакладаў, брошур.

Аднак і гэтыя крыніцы трэба добра выкарыстаць, бо беларуская літаратурная мова не такая яшчэ багатая, каб чым-небудзь можна было

грэбаваць; апрача таго, падобнае выкарыстаньне літаратурнай мовы цалком для слоўніка ня можа ўявіць і асабліва вялікай тэхнічнай труднасьці. Вядома, пры выкарыстаньні гэтых крыніц ня трэба прапускаць ніводнага беларускага слова, ніводнага характэрнага для беларускай мовы звароту; усё-ж неўласьцівае для беларускай мовы павінна быць прапушчана.

Вельмі важнай крыніцай літаратурнай і народнай мовы да слоўніка беларускай мовы зьяўляецца папярэдняя слоўнікавая праца. Такія слоўнікі, як Насовіча, Шпілеўскага, а можа й Федароўскага, павінны быць поўнасьцю выпісаны на карткі, нават без папярэдняга рэдакцыйнага прагляду, і ўнесены ў слоўнік. Іншыя слоўнікі, як Добравольскага, Ціхінскага і інш., таксама павінны быць сумленна выкарыстаны; аднак, для гэтых слоўнікаў перад выпіскай іх матэрыялаў на карткі патрэбен папярэдні рэдакцыйны прагляд. Ня трэба забываць яшчэ аднэй крыніцы рускіх і польскіх слоўнікаў. У гэтых слоўніках ёсьць ня мала беларускіх слоў, асабліва-ж у рускім „Областном словаре". Беларускія словы ў рускія слоўнікі пападалі, галоўным чынам, з Смаленскай губ., якую Руская Акад. Навук залічае да Вялікаросіі [1]), а таксама з пауднёва-заходняй Вялікаросіі—губ. Бранскай і губ. Калускай, Арлоўскай і Курскай, дзе існуюць мяшаныя руска-беларускія гутаркі. У польскія слоўнікі беларускія словы папалі з заходніх частак Беларусі, а таксама з некаторых паўночна-ўсходніх губэрань (ваяводзтваў) Польшчы [2]). Ня мала беларускіх слоў можна спаткаць і ў украінскіх слоўніках, але беларускі й украінскі народы маюць такое мноства агульных слоў, што гаварыць аб прыналежнасьці такіх слоў да аднаго ці да другога народу часта бывае вельмі трудна; няхай гэтым пытаньнем займуцца нашы й украінскія мовазнаўцы. Выкарыстоўваць слоўнікі вышэйпаказаных моваў трэба з надзвычайна вялікаю асьцярогай.

Але ня меншай, калі яшчэ не важнейшай крыніцай для слоўніка беларускай мовы, павінна быць народная мова. Вось што гаворыць аб народнай мове глыбокі яе знаўца, акад. Буслаеў: „У процілежнасьць сьцясьняючым граніцам мовы літаратурнай народная мова ў сваіх мясцовых відазьменах бясконца рознастайная. Яна мае ўсе ўласьцівасьці першапачатковай сьвежасьці слова: свабодна ў утварэньні слоў, надзвычайна адчувальна ў злучэньні гукаў для выражэньня беспасярэдных уражаньняў, простая й ясная ў сынтаксычным складзе і, урэшце, упартая да чужога ўплыву, так што ўсякая новая мысьль, якая прыходзіць да яе звонку і нязгодная з яе звычайнымі прадстаўленьнямі, толькі тады ўваходзіць у яе жывы й сьвежы організм, калі ў поўнай меры будзе падлягаць ёй, пераапрацуецца й дастасуецца да яе сьветапоглядаў". [3]). Вось дзеля чаго

---

[1]) Слоўнік Добравольскага Руск. Акад. Нав. поўнасьцю ўносіцца і ў „Словарь Русского языка" (акадэмічны).

[2]) У „Русск. Географ. О-ве" маюцца запісы беларускіх песень з Ломжынскай губ

[3]) Ф. Буслаев. Опыт Обл. Великор. Словаря. Критика.

народная мова такая консэрватыўная і так упарта змагаецца з усякім чужым для яе ўплывам. Вось чаму вялікаруская народная мова бліжэй да беларускай мовы і ўсякай іншай славянскай мовы, чымся руская літаратурная мова. Апошняя, увабраўшы ў сябе рознастайныя элемэнты, зрабілася такім штучным конглёмэратам, які зьяўляецца зусім неўласьцівым для вялікарускай народнай мовы і малазразумелым для тых вялікарусаў, якія не перамаглі кніжнай прамудрасьці. Гэтае значэньне народнай мовы нам заўсёды трэба мець на воку, асабліва цяпер, калі яшчэ не закончыўся процэс формаваньня нашай літаратурнай мовы і ня выліўся ў нешта канчатковае, сталае, абавязковае. Дзеля гэтага нам патрэбна выкарыстаць для слоўніка як мага шырэй і паўней народную мову.

Усё, што вышэй намі сказана аб значэньні слоўніка, усё гэта нагул можна аднесьці і да народнай мовы. Народная мова—гэта народная творчасьць; яна таксама сьвежая й вобразная, як і мова штучнай поэзіі, каторая творыцца пісьменьнікамі ў перайманьне народнай мовы; яна лёгка й свабодна, падобна штучнай поэзіі, карыстаецца фігуральнымі зваротамі; яна, урэшце, называе рэчы ня тым, чым яны ёсьць у рачавістасьці, а па тым уражаньні, якое яны робяць на народ. Першапачатковыя словы народнай мовы—гэта жывыя вобразы. Толькі з цягам доўгага часу з конкрэтных слоў, шляхам абстракцыі, атрымліваюцца абстрактныя, адцягненыя словы. Гэты, між іншым, процэс відазьмены значэньня слова можа быць выкарыстаны і ў літаратурнай мове. Заместа таго, каб запазычаць слова або ствараць які няўдалы нэолёгізм, лепш узяць слова ў конкрэтным яго значэньні і надаць яму адцягненае.

Крыніц (друкованых) па народнай мове мы маем адносна мала, а некаторыя з іх (а такіх ня мала) у дадатак яшчэ й мала прыгодныя. Бязумоўна лепшымі крыніцамі трэба лічыць запісы А. Сяржпутоўскага, пазьнейшыя запісы Раманава, запісы Федароўскага, Кліха й інш. Горшымі крыніцамі зьяўляюцца ранейшыя запісы рускіх этнографаў, дзе часта калечылася ня толькі беларуская фонэтыка, морфолёгія, але й сынтакс, а ў некаторых выпадках нават і беларускае слова замянялася адпаведным літаратурным рускім. Вядома, да такіх запісаў належыць адносіцца крытычна. Апрача надрукованых запісаў па народнай творчасьці, ёсьць яшчэ многа запісаў рукапісных. У бібліотэцы Руск. Акад. Нав. знаходзяцца ў рукапісах апошнія чатыры томы прац этнографа Раманава. У тэй-жа Акадэміі знаходзяцца і так званыя „Беларускія матэрыялы“, —40 з лішкай адказаў з розных месц Беларусі на програму акад. Е. Карскага. У адказах спатыкаецца і ня мала цікавага слоўнікавага матэрыялу.

Але асабліва многа матэрыялаў па народнай мове можна знайсьці ў „Русском Географическом Обществе“. Намі ў архіве „Общества“ налічана да 60 беларускіх рукапісаў,—адказы на програмы „Общества“. Па разьмерах рукапісы розныя. Нярэдка можна спаткаць рукапісы разьмерам і

звыш 500 стар. Некаторыя з гэтых рукапісаў маюць вялікую каштоўнасьць ня толькі для слоўніка, але для фонэтыкі, морфолёгіі й сынтаксу беларускай мовы. Урэшце рукапісны беларускі матэрыял „Общества“ цікавы яшчэ і з таго боку, што ён адбівае ў сабе беларускую мову з 40-ых год мінулага стагодзьдзя, і пры гэтым мову ўсёй этнографічнай Беларусі.

Робячы агляд запісаў па народнай мове, мы ня можам не ўпамянуць каштоўных для слоўніка запісаў па Віцебскай губ. А. Шлюбскага; запісы знаходзяцца ў рукапісу.

Аднак выдрукаванымі й рукапіснымі матэрыяламі па народнай мове яшчэ нельга абмежавацца для слоўніка, бо гэтыя крыніцы далёка яшчэ ня вычэрпваюць усяго вялікага багацьця беларускай народнай мовы. Патрэбна яшчэ наладзіць па ўсіх частках Беларусі збор слоўнікавага матэрыялу.

Збор такога матэрыялу мы лічым настолькі неабходным для беларускага слоўніка, што ставім гэты збор у адну з самых асноўных задач будучай слоўнікавай комісіі. Дарэмна мы будзем думаць, што ведаем сваю мову; мы ня ведаем ня толькі мовы нашай паўночнай Беларусі, але нават і нашай Меншчыны. Нядаўна нам трапіўся ў рукі беларускі слоўнічак, складзены ў м. Талачыне, і колькі там ёсьць невядомых для нашай літаратурнай мовы слоў.

Як-жа організаваць збор слоўнікавага матэрыялу? Для гэтага ёсьць два спосабы: 1) за дапамогаю програм і 2) укладаньнем краёвых слоўнічкаў. Першы спосаб—за дапамогаю програм заключаецца ў тым, што апрацоўваюцца асобыя програмы, у якіх паказваецца, на што пры зборы слоўнікавага матэрыялу трэба зьярнуць увагу. Але практыка іншых асоб, якія рабілі збор матэрыялу падобным спосабам, паказала, што ён не дасягае сваёй мэты: звычайна даюцца толькі назвы прадметаў і не адмячаецца якасьць, дзеяньне і да т. п.; апрача таго, пастаўленымі ў програме пытаньнямі нельга ахапіць markdown рознабаковай дзейнасьці чалавека, яго адносін да прыроды і інтарэсаў вышэйшага парадку, так што па програмах можна атрымаць няпоўны, мала цікавы або часта і ня зусім зразумелы матэрыял. Дзеля гэтага, не адкідаючы першага спосабу збору слоўнікавага матэрыялу, а гледзячы на яго, як на падсобны, мы лічым самым мэтазгодным укладаньне мясцовых слоўнічкаў, у якіх-бы з пэўнымі тлумачэньнямі й прыкладамі былі-б унесены па мажлівасьці ўсе словы данай мясцовасьці. Вядома пажадана-б такія слоўнічкі мець з кожнага раёну або воласьці, але гэтага бадай што немагчыма зрабіць. А таму мы лічым патрэбным улажыць гэткія слоўнічкі па кожнай акрузе й павету. Вядома, для гэтай работы патрэбуюцца й пэўныя матэрыяльныя сродкі, але скупіцца з імі ня трэба, бо карысьць ад такіх слоўнічкаў будзе вялікая: яны ня толькі ўзбагацяць нашу мову патрэбнымі трапнымі словамі, над адшуканьнем якіх мы часта дарэмна б'емся, але будуць мець і не малое значэньне для дасьледваньня беларускай дыялектолёгіі. У та-

кія слоўнічкі патрэбна ўносіць усе словы, хоць-бы яны былі дзікія, рэдкія й застарэлыя, бо кожнае з такіх дзе-небудзь захаваных у глухім кутку слоў можа быць надзвычайна цікавым для мовазнаўцы, іншы раз вытлумачваючы пахаджэньне цэлай сям'і слоў. Такія слоўнічкі павінны па мажлівасьці поўна адбіваць мову таго ці іншага раёну, або, па дасьціпнаму выражэньню аднаго францускага лексыколёга, „не павінны быць сьпісам асоб (слоў) запрошаных, а мусяць мець поўную народную перапісь"[1]). Аднак некаторым можа здавацца, што звычайных слоў у такія слоўнічкі ўносіць ня трэба. Але гэта ня зусім так. Для нас часта важна знаць ня толькі самае слова, але яго пашыранасьць і вымаўленьне. Возьмем для прыкладу такія словы, як *жалеза, залеза, зялеза*. Якому з гэтых слоў аддаць паравагу? На гэтае пытаньне адкажуць краёвыя слоўнічкі,— больш пашыранаму. А такіх „спрэчных" звычайных слоў у нас ці мала: *скура і шкура, зусім і саўсім, шморгаць і сморгаць, няма і німа* і да т. п.

Што датыча апошняй крыніцы—слоўніка тэхнічнай мовы, то беларуская мова яшчэ не багата гэтымі словамі. Пры параўнаўча багатай народнай рабочай тэрмінолёгіі, як сталярская, гаспадарчая і інш., яна мае адносна бедную навуковую тэрмінолёгію. Беларуская навуковая тэрмінолёгія пачала апрацоўвацца ўсяго якіх пяць год таму назад. Частка гэтай апрацаванай тэрмінолёгіі пушчана ў зварот для штодзеннага ўжытку, частка яшчэ ляжыць, як запасны капітал. Ці патрэбна ўсю апрацаваную тэрмінолёгію цалком унесьці ў слоўнік? Нам здаецца, што апошні крок быў-бы рызыкоўны і вось чаму: хоць большасьць апрацаванай тэрмінолёгіі і ўвойдзе ў нашу мову, але бясспрэчна й тое, што шмат чаго з яе адпадзе, як штучнае, няпрыгоднае, неўласьцівае да беларускай мовы. Такім чынам уводзіць мёртвыя словы ў наш слоўнік жывой мовы рэч ня мэтазгодная. Вядома, тэрмінолёгію трэба будзе выкарыстаць для слоўніка, аднак з вялікаю асьцярогаю, уводзячы словы толькі па абмеркаваньні пэўнай компэтэнтнай комісіі.

Пераходзім цяпер да асноўнага пытаньня нашай тэмы—да пытаньня, як улажыць слоўнік,—вядома, калі ўжо матэрыял будзе сабраны,—каб ён задаволіў і навуковыя і практычныя патрэбы. Апошняе пытаньне надзвычайна складанае; для вырашэньня яго ва ўсіх дэталях патрэбуецца яшчэ прысьвяціць многа пасяджэньняў будучай слоўнікавай комісіі. Аднак і гэтыя драбніцы іншы раз бываюць вельмі важныя, і ад іх часта залежыць навуковая вартасьць слоўніка. Зараней іх усе прадбачыць вельмі трудна; яны ўсплываюць у процэсе самага рэдагаваньня слоўніка. Аднак, каб іх больш-менш улічыць, мы пастараемся разглядзець больш асноўныя пытаньні, зьвязаныя з укладаньнем слоўніка.

Тут перш за ўсё трэба сказаць аб аб'ёме слоўніка, аб яго паўнаце. Паўнату слоўнік мусіць мець падвойную: знадворную й унутраную. Пад

[1]) Выпіску бярэм з вышэйпаказанай працы акад. Срэзьнеўскага.

знадворнай паўнатой разумеецца поўнае ўнясеньне ў слоўнік у альфабэтным парадку [1]) усіх існуючых у мове слоў. Абсолютнай знадворнай паўнаты слоўнік мецъ ня можа; аднак, чым больш у яго будзе ўнесена слоў, і слоў простых, а ня вытворных, тым слоўнік з надворнага боку будзе паўней. Лепш увесьці лішняе, можа й малаважнае, чым выкінуць патрэбнае,—вось агульнае правіла, якога трэба трымацца пры ўкладаньні слоўніка. Пад паўнатой унутранай разумеецца дакладнасьць азначэньняў і тлумачэньняў слоў. Кожнае слова па гэтаму прынцыпу павінна быць вытлумачана ня толькі ў сваім простым, звычайным значэньні, але й ва ўсіх адценьнях, у якіх яно ўжываецца ў мове.

Гаворачы аб паўнаце слоўніка, нельга абмінуць некаторых катэгорый слоў, унясеньне ці неўнясеньне якіх у слоўнік можа выклікаць спрэчкі. Да такой катэгорыі слоў перш за ўсё належаць чужаземныя словы. Такія словы звычайна ўносяцца ва ўсе „акадэмічныя" слоўнікі. Праўда, у некаторых слоўніках унясеньне такіх слоў абмяжоўваецца,—уносяцца толькі тыя чужаземныя словы, што існуюць у народнай мове. Беларускаму слоўніку таксама трэба йсьці апошнім шляхам. Чужаземныя словы ў нашай літаратурнай мове ня роўнапраўныя члены моўнай сям'і, а выпадковыя госьці, якія сягодня ёсьць, а заўтра могуць зьнікнуць. Апрача таго, прымаючы пад увагу нашу агульную тэндэнцыю да высяленьня з нашай мовы чужаземнай стыхіі, да замены, такім чынам, чужаземных слоў сваімі, беларускімі, гэты прынцып можа мець моцную падставу ў нашай цяперашняй практыцы, задаваляючы ў той-жа час жаданьням большасьці беларускага грамадзянства. Тэндэнцыя да замены чужаземных слоў сваімі ўласнымі ня ёсьць толькі зьявішча беларускай культуры. Гэта мы заўважваем у іншых славянскіх народаў, у немцаў, а ў апошнія часы нават у рускіх [2]), у мову якіх „вышэйшым сьветам", царскімі й княжацкімі дварамі, унесена такое мноства чужаземных слоў, якое, здаецца, гатова захлынуць рускую лексычную стыхію. Дзеля гэтага, з прычыны, з аднаго боку, неапрацованасьці беларускай літаратурнай мовы, а з другога боку моцнага ўплыву рускай культуры на беларускую, які ўплыў яшчэ адчуваецца і зараз, нам патрэбна быць вельмі асьцярожнымі з ужываньнем чужаземных слоў і ўнясеньнем іх у свой слоўнік.

Таксама трэба быць вельмі асьцярожным і пры ўнясеньні слоў рэзка адасобленых каст чалавечай грамады, як, напр., мовы зладзеяў [3]), жабракоў, бо мова такіх каст, папершае, часта прадстаўляе такія-ж нічога не-

[1]) Мы ня прыводзім довадаў за альфабэтны парадак слоў. Альфабэтны парадак слоў у слоўніку—гэта азбучная ісьціна. Цяпер нават тыя слоўнікі, якія ўкладаліся па прынцыпах гнёздаў, карэньняў, ідэй пачынаюць у новых выданьнях укладацца ў альфабэтным парадку.

[2]) Напр., *широковещательная станция* заместа *радиостанция*, замена нават занадта цяжкая.

[3]) З мовэй зладзеяў можна пазнаёміцца ў Раманава ў адным з апошніх яго выпускаў.

гаворачыя конглёмэраты, як і нашы модныя, запазычаныя ад рускіх або складзеныя па ўзору рускіх славечкі: „Інбелкульт“, „Наркамасьвета“ і да т. п., а падругое, такія „зладзейскія“ словы могуць быць і не беларускія, а інтэрнацыянальныя. Іншая рэч мова пастухоў, рамесьнікаў, рыбакоў. Выдзяляючыся сваёй першабытнай прастатой і сьвежасьцю, яна мае найцікавейшы матэрыял для слоўніка.

Асобнае месца ў слоўніках займаюць так званыя няпрыстойныя словы. Іх нярэдка выкідаюць, як абразу моральных пачуцьцяў чалавека. Але мы з гэтым зусім нязгодны; іх патрэбна ўводзіць у слоўнік і таму, што такімі словамі надта багата наша мова, і таму, што за гэта гаворыць наша сучаснае грамадзянскае жыцьцё. Тэндэнцыя да выкіданьня такіх слоў пайшла ад Францускай Акадэміі Навук, якая наогул падзяліла мову на вышэйшую й ніжэйшую, на панскую й мужыцкую. А паколькі ў нас ні вышэйшай ні ніжэйшай мовы няма і быць ня можа, а таму няма й ніякай падставы дзяліць нашы словы на добрыя й благія, няпрыстойныя, і ня ўносіць апошніх у слоўнік. Што іх патрэбна ўносіць у слоўнік, скажам словамі прадмовы Якава Грыма: „Слоўнік не заслугоўваў-бы сваёй назвы, калі-б ён, заместа таго, каб выстаўляць словы, хаваў-бы іх. Слоўнік не павінен скрадваць аніводнага жорсткага славечка, ніводнай сапраўды існуючай у мове формы, а тым больш—цэлай катэгорыі слоў, якія жывуць з незапомных часоў і па неабходнасьці даюцца таму, што існуе ў прыродзе. Такой катэгорыі слоў мы ня маем права адхіліць, таксама, як ня можам зьнішчыць звычайных прадметаў, якія нас непакояць.

„У мове няма ніводнага слова, якое-б дзе-небудзь ня было самым лепшым і не стаяла на сваім месцы...

„Слоўнік пішацца не для навучальнасьці; гэта навуковае прадпрыемства, якое мусіць задавальняць шмат якім запатрабаваньням. Нават у біблii ёсьць нямала слоў, якія адхілены вышэйшым сьветам. Каго непакояць голыя статуі або васковыя анатомічныя прэпараты, той няхай і ў гэтай залі не застанаўліваецца“...

Большую спрэчку можа вызваць яшчэ адна катэгорыя слоў—уласных іменьняў, якія словы звычайна ў нашы практычныя слоўнікі ўносяцца. Аднак уносіць іх у наш слоўнік роднай мовы няма патрэбы, бо гэтыя словы для яго роўна нічога не дадуць, а толькі абцяжаць малакарысным матэрыялам. Возьмем для прыкладу такое слова—І о с і ф. Колькі вытворных ад сябе слоў яно дапушчае! Ёсіф, Ёсіфка, Восіп, Восіпка, Есіп, Есіпка, Ёска, Ёсачка, Язэп, Язэпка, Язэпачка, Язэпік, Язэпчык, Юзя, Юзічак, Юзік, Юзап, Юзапка, Юзэф, Юзэфка і т. п. Няўжо іх усе трэба ўводзіць у слоўнік? А калі ўводзіць, то пэўна-ж усе, бо чым-жа горшае якое-небудзь Есіп ад Язэпа. Бязумоўна такіх слоў непатрэбна ўводзіць у слоўнік. Вядома, пажадана было-б скласьці асобны слоўнічак такіх уласных іменьняў; такі слоўнічак напэўна меў-бы практычнае значэньне і некаторае навуковае.

Таксама непатрэбна ў слоўнік уносіць слоў прозьвішч-фамілій і прозьвішч-мянушак. Хоць апошняя катэгорыя ўласных іменьняў, параўнаўча з першай, мае куды большую цікавасьць, бо ў прозьвішчах часта захоўваюцца такія рэдкія словы, якія ўжо даўно павымíралі ў жывых народных дыялектах,—аднак і гэтай катэгорыі слоў ня варта ўносіць у слоўнік. Такія словы лепш выдаць асобнай кнігай, як гэта і зрабіў для рускай мовы Тупікаў [1]).

Таксама непатрэбна ўводзіць у слоўнік і географічных назваў. Хоць гэтыя словы прадстаўляюць і многа цікавасьці для філёлёга, аднак унесьці іх у слоўнік ня будзе магчымасьці Папершае, калі-б іх уводзіць у слоўнік, то для гэтага патрабавалася-б вялікая, папярэдняя, дасьледчая праца,—нельга-ж было-б абмежавацца толькі вядомымі географічнымі назвамі; патрэбна-б яшчэ было сабраць назвы ўрочышч, не гаворачы ўжо аб самых дробных рэчках і селішчах. Апрача таго, увесь гэты матэрыял патрэбна-б было навукова апрацаваць, што можа скласьці асобны прадмет досьледу. Падругое, унёсшы ў слоўнік такі географічны апрацаваны матэрыял, мы значна-б абцяжылі наш слоўнік. А дзеля гэтага лепш за ўсё такі географічны матэрыял выдаць асобным слоўнікам, як гэта і зрабілі нашы суседзі—палякі. Таксама ўжо падгатавала было да выданьня географічнага слоўніка матэрыял і „Русское Географическое Общество“, аднак з часоў рэволюцыі яно сваю працу ў гэтым напрамку спыніла.

Гаворачы аб паўнаце слоўніка, мы ня можам яшчэ абмінуць новатвораў, якія нярэдка ўкладальнікамі ўносяцца ў свае слоўнікі. Але мы катэгорычна выказваемся проці гэткага спосабу папаўненьня слоўніка. Якія-б ня былі добрыя новатворы рэдакцыі, іх усё-ж у слоўнік уводзіць ня трэба, бо гэткі шлях вельмі хісткі. „Словарник не законник, не уставщик, а сборщик“, кажа В. Даль [2]) Вось гэтага залатога правіла і трэба трымацца рэдакцыі слоўніка. Праўда, якраз В. Даль, выказаўшы гэтую, бясспрэчна праўдзівую ісьціну, аднак сам на практыцы ня прытрымліваўся яе; ён у свой слоўнік унёс многа нэолёгізмаў, за што тагочасная крытыка досыць строга яго судзіла, аднак пасьля выявілася, што частка гэтых нэолёгізмаў прадстаўляюць народныя словы.

Закранем цяпер у зьвязку з укладаньнем слоўніка больш дробныя пытаньні, аднак пры ўкладаньні слоўніка вельмі важныя. Да такіх пытаньняў належаць правапіс слоўніка, націскі, граматычныя паясьненьні, тлумачэньні слоў і да т. п.

Бязумоўна правапіс самага альфабэтнага сьпісу слоў або яго *номэнклятуры* мусіць быць агульнапрыняты; значыць, калі якое-небудзь слова ў тэй ці іншай часьці Беларусі будзе вымаўляцца і йначай, аднак мы яго

---

[1]) Тупиков Н. Словарь древне-русских личных собственных имен.

[2]) В. Даль. Толковый словарь, ч. I.

ў альфабэтным сьпісу будзем пісаць агульнапрынятым правапісам. Таксама агульнапрынятым правапісам павінны давацца тлумачэньні слоў і ўсе ўвагі рэдакцыі слоўніка. Што-ж датыча прыкладаў, то як агульнае правіла, яны павінны давацца ў правапісе крыніц, толькі беларускаю транскрыпцыяй (кірыліцай або лацінкай—гледзячы па крыніцы). Аднак, калі крыніцы прадстаўляюць *нязначныя* або *няпэўныя* ўхілы ад літаратурнай мовы (запісы ранейшых этнографаў), то ў мэтах большай прыступнасьці слоўнікавага матэрыялу прыклады можна пісаць і агульнапрынятым правапісам.

Націск, як агульнае правіла, трэба ставіць над кожным словам альфабэтнага сьпісу слоў. Тым ня менш, калі рэдакцыя будзе няпэўна ў пытаньні націску ў слове, то ў такіх разох лепш устрымацца ад пастаноўкі яго. Маючы на ўвазе гэтыя абставіны, трэба заўсёды рупіцца аб тым, каб слова, галоўным чынам, народнае, краёвае, пападала ў рэдакцыю з націскам. Калі слова мае два націскі, то іх бязумоўна абодва й трэба ставіць; напр., *з*а*ц*і*рка*, *пр*ы*кл*а*д*. Пры гэтым, калі, у зьвязку з націскам, слова мае іншую правапісную форму (напр. *п*о*варатка* і *павар*о*тка*), то паясьненьні й прыклады варта зьмяшчаць пры слове з больш пашыраным націскам; другое-ж слова таксама мусіць стаяць у належным яму па альфабэту месцы са ссылкай на першае слова.

Калі два або тры словы маюць хоць і аднакае напісаньне, але рознае значэньне й пахаджэньне (напр., *кап*а*ць* і *к*а*паць*, *выры*ва*ць* ад рыць і *выры*ва*ць* ад рваць), то кожнае з такіх слоў трэба пісаць асобна, ставячы перад імі цыфры 1.2.3.

Граматычныя паясьненьні, як гэта звычайна прынята ў слоўніках, мусяць давацца скарочаныя. Для йменьнікаў слова ставіцца ў назоўным склоне адзіночнага ліку з паказаньнем роду (*м.*, *ж.*, *н.*). Але паколькі ў другіх склонах можа пераносіцца на іншы склад націск, а таксама паколькі яшчэ некаторыя ў нас блытаюць склонавыя канчаткі, дзеля гэтага варта даваць слова і ў некаторых яго іншых склонах (дробным шрыфтам). На наш погляд для беларускіх іменьнікаў трэба паказаць для кожнага слова родны склон адзін. ліку (*в*о*йка*, *вайк*а), а для некаторых слоў назоўны множн. ліку (*брат*ы) і родны мн. л. (коняй). Іменьні зборныя, павялічальныя, ласкальныя і т. п. павінны таксама азначацца ўмоўнымі скарачэньнямі. Пры йменьніках, вытвараных ад прыметнікаў (*зьняв*а*жлівасьць*) або ад дзеясловаў (*зьневаж*э*ньне*), паказваецца „ўласьцівасьць ад прыметніка“ (*зьняв*а*жлівы*) або „дзеяньне (ці стан) ад дзеяслова“ (*зьневажаць*).

Для граматычнага азначэньня прыметнікаў даволі паставіць слова ў назоўным склоне адзіночнага ліку з паказаньнем радоў (добры, ая, ае) і форм поўных і кароткіх (дабёр, дабра), вядома, калі прыметнік мае кароткія формы. Дзеясloўны прыметнік, апрача таго, яшчэ азначаецца паказаньнем на дзеяньне.

Большыя труднасьці прадстаўляюць граматычныя азначэньні дзеясловаў. На наш погляд кожны дзеяслоў трэба ставіць у інфінітыўнай форме адпаведнага трываньня. Пры гэтым, лічачы за асноўную форму няскончанае трываньне дзеяслова, рэдакцыя можа, пры адсутнасьці прыкладаў на гэту форму, і сама, з паметкай *рэд.*, прывесьці яе, але вядома толькі тады, калі гэткая форма ў мове, па думцы рэдакцыі, бясспрэчна існуе. Формы дзеясловаў іншых трываньняў, паколькі яны будуць спатыкацца ў прыкладах, бязумоўна павінны знаходзіць у альфабэтным парадку сваё месца. Таксама пажадана асобна паказаць некаторыя флексыўныя формы дзеясловаў (са ссылкай на інфінітыў), калі па асноўных формах аб іх трудна дагадацца (*вазьму*). Пасьля прыкладаў на простыя дзеясловы пажадана прыводзіць для параўнаньня і ўсе вытворныя ад яго формы; напр., пасьля прыкладаў на дзеяслоў *крычаць* пажадана паставіць: пар. (аўнуй) *закрычаць, накрычаць, пакрычаць, папакрычаць, перакрычаць.* Апрача таго, пры кожным дзеяслове трэба паставіць 1 і 3 асобы адзін. л. цяпер. або буд. часу і 3 асобу мн. л., а для некаторых дзеясловаў і інш. асобы; таксама для некаторых дзеясловаў трэба паказваць і формы прошлага часу (высах; быў, была, было, былі). Што датыча станаў, то іх азначаць ня варта; тут трэба толькі азначыць пераходныя дзеясловы і залежныя станы; сярэдні-ж, зваротны і г. д. паказваць ня трэба. Варта толькі паказаць, якімі склонамі дзеясловы кіруюць.

Пры азначэньні прыйменьнікаў таксама патрэбна паказваць на кіраваньне імі адпаведнымі склонамі.

Азначэньне іншых часьцін мовы труднасьці выклікаць ня можа.

Побач з граматычным азначэньнем слоў, у слоўніках звычайна ставяцца паясьненьні пахаджэньня слоў. Такім паясьненьням некаторыя ўкладальнікі слоўнікаў надаюць вялікае значэньне, называюць іх сольлю або прыправай да слоўніка. Аддаючы належную ўвагу гэтым паясьненьням, мы тым ня менш ня раім рэдакцыі беларускага слоўніка асабліва захапляцца імі. Залішняе захапленьне дасьць лішнія памылкі, бо пахаджэньне шмат якіх слоў—яшчэ пытаньне спрэчнае. Такія паясьненьні для вытлумачэньня пахаджэньня слоў павінны мець простыя словы (іменьнікі, прыметнікі, дзеясловы, прыслоўі). Паясьняючы пахаджэньне беларускага слова, трэба прыводзіць словы з чужых моваў толькі тады, калі яны ў гукавых адносінах і па значэньні больш менш падобныя; дзеля гэтага нам здаецца, што звычайна трэба прыводзіць словы з моваў, якія блізкі да нашай мовы, гэта значыць—з стараслав. мовы, з рускай, украінскай і польскай. Калі-ж у рускай або польскай мовах адпаведнага слова ня будзе, то пажадана прывесьці гэткае слова з іншай славянскай мовы—чэскай або сэрбскай. Зразумела, калі беларускае слова ўзята з неславянскай мовы, то патрэбна ставіць адпаведнае слова і з гэтай мовы.

Тлумачачы слова па яго пахаджэньні, мы разам з тым раскрываем і яго значэньне. Аднак, прыводзячы словы блізкіх моваў, мы яшчэ не

заўсёды вытлумачым наша беларускае слова: папершае, словы чужых моваў могуць мець іншае, хоць і блізкае да беларускага слова значэньне, а падругое, калі слова незразумела ў беларускай мове, то тым больш яно будзе незразумела, узятае ў іншай славянскай мове. А дзеля гэтага трэба *вытлумачыць значэньне кожнага беларускага слова.* Дакладнае тлумачэньне значэньня слова зьяўляецца самаю цяжкаю працаю для лексыколёга, асабліва для беларускага. Прычына гэтага хаваецца ў тым, што на працягу гістарычнага жыцьця мовы значэньне слоў можа бясконца мяняцца. Задача лексыколёга і павінна заключацца ў раскрыцьці па мажлівасьці абстрактнага, адцягненага значэньня слоў з іх першапачатковага конкрэтнага, матэрыяльнага. Але паколькі наш слоўнік не гістарычны, а слоўнік жывой мовы, а гэта значыць, што ён галоўным чынам павінен даць статыку мовы, то для нас будзе важна зрабіць дакладнае паясьненьне слова ў асноўным значэньні і ва ўсіх яго дробных адценьнях. Пры паясьненьні значэньняў слоў мы перш дапушчалі мажлівасьць карыстаньня рускай мовай, як зразумелай для ўсяго асьвечанага беларускага грамадзянства. Апрача таго, такі спосаб, думалі мы, мог-бы нас пазбавіць і ад шмат якіх доўгіх і маладакладных азначэньняў. Возьмем хоць-бы такое слова, як *стол.* Слоўнік ц.-слав. і руск. мовы так яго азначае: „Широкая, умащованая на нескольких ножках, доска, якая служыць для зьмяшчэньня на ёй розных прадметаў". Недакладнасьць гэтага азначэньня відна для кожнага, хто хоць трохі ў яго ўдумаецца. Дзеля гэтага мы перш думалі прапанаваць для беларускіх агульназразумелых слоў, як *стол, сьцяна* і да т. п., значэньне якіх дакладна перадаецца адпаведнымі рускімі словамі, азначэньняў беларускіх не рабіць, а проці кожнага такога беларускага слова падстаўляць адпаведнае рускае. Такога мэтоду трымаліся і некаторыя іншыя ўкладальнікі слоўнікаў, вытлумачваючы, напр., значэньне нямецкіх слоў адпаведнымі лацінскімі і да т. п.

Аднак, глыбей удумаўшыся ў гэты прадмет, мы рашуча адхілілі мэтод тлумачэньня беларускіх слоў, хоць-бы і агульназразумелых, за дапамогаю рускай мовы. Справа ў тым, што й для агульназразумелых беларускіх слоў можа ня быць адпаведных рускіх, якія-б дакладна маглі паясьніць значэньне беларускіх слоў і іх адценьняў (напр., слова *маруда*). Але самае галоўнае, што няпрыгодна ў гэтым мэтодзе, дык гэта тое, што, тлумачачы значэньне беларускага слова адпаведным рускім, мы ня можам шырока разьвіваць сваёй мовы, ня можам збагачаць яе дакладнымі азначэньнямі і адпаведнымі сынонімічнымі словамі й зваротамі сваёй мовы; гэта, прыкладам, тое-ж самае, што калі-б, маючы ўласны будынак, мы кожны раз прыходзілі да суседа запазычаць ключа для яго адмыканьня. А дзеля гэтага ў нашым слоўніку патрэбна будзе даваць тлумачэньне значэньня беларускіх слоў і іх адценьняў выключна пабеларуску.

Пры паясьненьні слоў трэба імкнуцца да таго, каб нашы паясьненьні былі простыя, наглядныя і бязумоўна дакладныя. Паясьненьне значэньня

слоў і яго адценьняў варта даваць у такім парадку: а) асноўнае, звычайнае значэньне слова, б) больш рэдкае, старажытнае, в) пераноснае, г) тэхнічнае.

Для такіх слоў, як *заламка, лясун*, трэба даваць і кароткае апісаньне гэтых нашых бытавых зьяў. Тады мы зробім тое самае, што маем у сэрбскім „Рэчніку" Вука Караджыча.

Для слоў з аднакім значэньнем, але рознай гукавай фізыономіяй, як, напр., *заламка* і *залом*, *певень*, *пявун* і *пятух*, паясьненьне трэба даваць толькі пры адным з іх, найбольш пашыраным, літаратурным; іншыя-ж словы гэтага значэньня пішуцца ў належным ім па альфабэту месцы са ссылкай на паясьнёнае слова. Пры паясьнёным слове, скажам *певень*, трэба пісаць для параўнаньня і словы, якія ня маюць свайго паясьненьня, а ссылку на паясьнёнае (*пявун*, *пятух*). Калі-ж паясьняць кожнае з аднакіх па значэньні слоў, то пры кожным з іх трэба ссылацца на другое, аднакае з ім па значэньні слова, напр., пры паясьненьні кожнага з слоў *слука*, *слонка*, *сланец*, трэба пры кожным з іх рабіць ссылку на два другіх.

Пры словах, якія азначаюць расьліны, жывёліны і т. п., патрэбна пісаць і іх лацінскія назвы.

Пры паясьненьні слоў можа ўсплыць яшчэ адно вельмі важнае пытаньне: як быць з тымі чужаземнымі словамі, якія пранікалі й пранікаюць у нашу літаратурную мову і якім у ёй ня месца. Вышэй мы ўжо наогул выказаліся проці ўнясеньня ў слоўнік чужаземных слоў, мы абмежавалі ўнясеньне толькі тымі чужаземнымі словамі, што існуюць у народнай мове здаўна. Але вядома і ў народнай мове можна спаткаць многа непатрэбных запазычаньняў з рускай і польскай мовы,—рэзультат русіфікацыйнай і полёнізацыйнай політыкі з боку нашых суседзяў. Калі мы возьмем лепшыя з запісаў па нашай народнай творчасьці і лепшыя по мове—запісы А. Сяржпутоўскага[1]), то мы й тут спаткаем такія словы (полёнізмы): рондзіць, нажэньдзе, крэданс і т. п. Калі-ж узяць нашу літаратурную мову, то тут можна спаткаць такія недарэчныя, дзікія для беларускай мовы русізмы й полёнізмы, што яны, здаецца, проста аж крычаць, што іх згвалцілі, увёўшы ў чужую для іх моўную стыхію. Усе гэтыя русізмы й полёнізмы (ёсьць і украінізмы)—рэзультат няведаньня беларускай мовы. Як-жа з імі быць у нашай літаратурнай мове? Ці прайсьці каля іх моўчкі, ці ўнесьці іх з адпаведнымі тлумачэньнямі ў слоўнік? Паколькі ў задачы нашага слоўніка ўваходзіць ня толькі даць слова і вытлумачыць яго значэньне, але й *апрацаваць* мову, дзеля гэтага патрэбна ўносіць у слоўнік і такія запазычаньні, але абавязкова з паказаньнем, адкуль слова запазычана і як яно будзе пабеларуску, каб, па словах акад. Е. Карскага, „гэта слова для другіх было няпрынадна". Напр: „*Прэце*" прс. (польск. przecie); полёнізм; пабеларуску—*аднак*. Спаткалася ў вершы

[1]) А. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков.

А. Паўловіча... „Грудзь, ж., адз. л. (руск. грудь); русізм; пабеларуску—*грудзі*. ж. мн. л.“ Спаткалася ў вершы Паўловіча... Вядома, русізмы й полёнізмы трэба адмячаць толькі тыя, якія спатыкаюцца ў творах нашых пісьменьнікаў і ў лепшых выданьнях народных твораў і якіх, вядома, чытаюць. Што-ж датыча русізмаў і полёнізмаў, што спатыкаюцца ў газэтах, у брошурах (а тут іх гібель!), то запазычаньняў з такіх крыніц адзначаць ня варта.

Скажам яшчэ некалькі слоў аб прыкладах з літаратурнай і народнай мовы, якія патрэбна ставіць пасьля тлумачэньняў слоў і іх адценьняў. Што прыклады для ілюстрацыі значэньня слоў патрэбны—гэта ясна для кожнага. Слова мае значэньне толькі ў мове; па-за контэкстам мовы яно—адна фікцыя. Першыя выпускі акадэмічнага „Словаря русского языка“ многа трацяць таму, што яны вельмі бедныя прыкладамі. З другога боку, і апошнія яго выпускі, наадварот, грашаць вялікім мноствам прыкладаў, што значна абцяжае карыстаньне слоўнікам; некаторыя, напрыклад, словы маюць тлумачэньняў і прыкладаў па поўаркуша. Праўда, большы лік прыкладаў мае тое значэньне, што паказвае пашыранасьць слова ў літаратурнай або ў народнай мове, але затое, як было вышэй казана, перашкаджае карыстацца слоўнікам. Тут бязумоўна трэба браць сярэдзіну, і прыводзіць на кожнае слова столькі прыкладаў з літаратурнай і народнай мовы, колькі патрэбна, каб выясьніць усе значэньні слова й іх адценьні.

Характар прыкладаў павінен быць наступны: яны мусяць мець скончаную мысьль, па мажлівасьці, глыбокую па сваім зьмесьце; у прыкладах павінна выразна выступаць значэньне слова або яго адценьне; паколькі глыбіня мысьлі народу ў асаблівасьці выражаецца ў прыказках і прыгаворках, то апошнія сярод прыкладаў павінны займаць пачэснае месца. Прыказкі й прыгаворкі яшчэ важны бываюць і па сваёй сынтаксычнай конструкцыі, адбіваючы сапраўдны беларускі стыль. Усе прыклады павінны мець, так сказаць, свае пашпарты. Выпіскі з літаратурнай мовы мусяць мець за сабою прозьвішча аўтара і назву твора, адкуль узята выпіска. Прыклады з народнай мовы павінны мець паказаньне, кім і з якой мясцовасьці ўзяты прыклад, а таксама, у якіх мясцовасьцях, апрача паказанай, яшчэ ўжываецца слова.

Калі трапіцца слова бяз прыкладаў, то патрэбна, даўшы яго паясьненьне, паказаць крыніцу, з якой слова ўзята, або мясцовасьць, дзе яно ўжываецца. Пажадана, пры гэтым, каб рэдакцыя прыводзіла злучэньні, у якіх слова звычайна ўжываецца; напр., пры слове *баяць*—баяць казкі; пры слове *спорны*—спорны дождж.

Парадак зьмяшчэньня літаратурных прыкладаў пажадана браць такі: перш трэба зьмяшчаць прыклады ранейшыя, пасьля—пазьнейшыя. Такі парадак будзе паказваць, як доўга жыве слова ў літаратурнай мове.

Каб больш наглядна паказаць, як мы прадстаўляем будучы беларускі слоўнік, мы прыводзім некалькі слоў-узораў, каторыя будуць ілюстраваць усё намі вышэйказанае аб укладаньні слоўніка. Праўда, гэтыя

словы фактычна ня могуць лічыцца ўзорнымі, бо за адсутнасьцю ў нас пад рукамі прыкладаў з літаратурнай і народнай мовы, мы не маглі разьвіць усіх значэньняў і іх адценьняў у ніжэйпрыведзеных словах. Ня могуць яны яшчэ быць узорнымі і з боку друку за адсутнасьцю ў нашых друкарнях адпаведных шрыфтоў. Сваімі словамі-ўзорамі мы хутчэй меліся даць узор укладаньня самога артыкульчыку аб слове.

Некаторыя з ніжэйпрыведзеных прыкладаў мы бралі з слоўнікаў Насовіча і Добравольскага, іншыя прыводзілі самі (апошні спосаб для сапраўднага слоўніка зусім не гадзіцца!).

**Узор:**

ЖАРТАЎНІК, á, *м.* (*Укр. жартовник, польск.* żartowniś, *чэск.* źertovnik). Хто гаворыць або строіць жарты, кепікі; сьмешнік, перасьмешнік. *Ён вялікі жартаўнік.* Нас. Сл. *Ну й жартоўнік-жа ты, чалавеча, усіх насьмяшыў.* Бабр.

ЛАДЗІЦЬ, ладжу, ладзіць, ладзяць. (*Руск. ладить, укр. ладити, польск.* ładzić).

1, *перах.* Майстраваць, папраўляць, прыганяць; прыводзіць што-небудзь да ладу, да парадку. *Настае час ворыва; трэба ладзіць саху ды барану.* Рачыц.

Спраўляць, гатаваць, рыхтаваць. *Язэп назаўтра ладзіць вечарынку.* Меншч.

2. Наладжваць, настройваць музыкальны інструмант. *Сайка ды Грышка ладзілі дуду.* Нар. п. з зб.

3. Ладзіць паміж сабою, ладзіць з кім. Згаджацца, жыць згодна. *Яны ладзяць між сабою, а я з табою ня зладжу жыць* Нас. Сл. Сябраваць, таварышаваць. *Мы з ім раней добра ладзілі.* Рач.

4. Ладзіць каму. Дагаджаць. *Ладзь яму, як ліхой скуле.* Сяржп. Прык. і прыг.

5. Прыстасоўвацца да каго ў працы, працаваць у лад. *Усе ладзяць малаціць, а з табою ніяк ня зладзіш.* Нас. Сл.

6. Падцікацца, падкрадацца. *Глядзі, як ён ладзіць, штоб украсьці.* Нас. Сл.

Пар. даладзіць, заладзіць, зладзіць, наладзіць, абладзіць, паладзіць, пераладзіць, папаладзіць, прыладзіць, уладзіць.

ЛАДНЫ, ая, ае; ладзён, ладна. (*Ст. сл. ладьнъ, руск. ладный, укр. ладный, польск.* ładny). 1. Згодны, дружны, таварыскі. *Мы з ім яшчэ былі ладны.* Калін.

Наладжаны, настроены. *Скрыпкі ня ладны, дзяруць.* Бар.

2. Прыгожы, пекны, добры. *Які сяюдня ладны дзянёк.* Як. Кол. Др. Чыт. *Марыля вельмі ладная дзяўчына.* Слуцак.

Шчасьлівы, удалы, добрая пара. Kulina ŭ ładny ćas śpiakła parasio. D.-Marc. Kupała.

3. Падрослы, немалы, ці малы, вялікі. *Я ўжо была ладная дзяўчына, а сястра мая паменей.* Дабр. Сл. *Ладны кусок хлеба.* Нас. Сл.

Досыць, многа, шмат. *Ён сяюдня выпіў ладнага.* Добр. Сл.

ЛОЎЖ, лаўжа, м. Мн. лаўжы, лаўжоў. (Літ. láužas). Касьцёр, куча складзенага гальля, павалу. *Вуж схаваўся ў лаўжы.* С. Некр. Р. С. І. *Гальлё на лядзе паскладалі ў лаўжы й папалілі.* Парычы, Баб.

На гэтым мы й канчаем разгляд пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы. Нашай задачай было высьветліць больш асноўныя, грунтоўныя пытаньні слоўніка, аднак у зьвязку з імі выплывалі й больш дробныя, якіх таксама нельга было не зачапіць. Быць можа некаторым будзе здавацца, што, ня маючы сабранага на карткі матэрыялу, яшчэ рана гаварыць аб укладаньні слоўніка, тым больш аб канчатковым яго выглядзе, бо пэўна-ж, пакуль будзе сабраны ўвесь матэрыял, пройдзе яшчэ некалькі год. Аднак на такі мажлівы дакор мы скажам, што пытаньне аб беларускім слоўніку ня толькі ня рана ставіць ва ўсёй яго шырыні, а й патрэбна. Ні адзін-жа архітэктар не пачне будаваць колькі-небудзь добрага будынку, ня маючы пляну. А слоўнік, да ўкладаньня якога мы прыступаем, гэта ня толькі вялікі гмах, а цэлае навуковае прадпрыемства, каторае толькі тады будзе ўдалым ва ўсіх асноўных часьцях і дэталях, калі яны будуць падробна абмяркованы.

У заключэньні выкажам свой погляд, як павінна быць організована праца па ўкладаньні слоўніка. Бязумоўна выпаўніць гэтую працу аднаму чалавеку немагчыма. Вядомы аўтар слоўніка В. Даль казаў, што каб яму самому трэба было выпісаць літаратурныя прыклады і зьмясьціць іх у свой слоўнік, то для гэтага патрабавалася-б яшчэ два-тры жыцьці. Зразумела, што праца па ўкладаньні слоўніка мусіць быць колектыўная. У галаве гэтай працы павінна стаяць Слоўнікавая Комісія з асоб, якія маюць належную філёлёгічную падгатоўку і дасканала ведаюць народную й літаратурную мову. Таксама пажадана, каб і ўсе іншыя супрацоўнікі па ўкладаньні слоўніка адпавядалі сваёй працы.

Слоўнікавай Комісіі трэба зараней прадбачыць, што яе чакае надзвычайна цяжкая, марудная, а можа й мала ўдзячная праца, якая на сваім шляху будзе мець многа перашкод. Перамагчы іх усе Комісія толькі тады зможа, калі яна шчыра, з вялікім захапленьнем і самаахвярнасьцю аддасца сваёй працы і будзе цярпліва яе весьці да шчасьлівага канца.

На долю Слоўнікавай Комісіі выпадзе яшчэ адна трудная задача— устанавіць для слоўніка цьвёрды правапіс, а разам з тым і наогул стала і цьвёрда замацаваць беларускі правапіс.

Вядома, што па ўкладаньні слоўніка павінны працаваць ня толькі члены Слоўнікавай Комісіі, але й іншыя члены Інстытуту Беларускай Культуры. Наш слоўнік мусіць быць ня слоўнікам Комісіі, а ўсяго Інстытуту, а таму й кожны член яго павінен прыняць актыўны ўдзел у апрацаваньні слоўніка. І чым больш асоб будзе прымаць удзел у апрацаваньні слоўніка, чым энэргічней будзе весьціся праца па яго ўкладаньні, тым хутчэй мы выпусьцім гэтую патрэбную кнігу. Руская Акадэмія На-

вук толькі таму змагла апрацаваць і выдаць свой слоўнік у першым яго выданьні за 11 год, што ў апрацаваньні слоўніка прымалі ўдзел амаль ня ўсе акадэмікі.

Зразумела, што да працы па ўкладаньні слоўніка, галоўным чынам, па збору матэрыялаў на мясцох, трэба прыцягнуць усе здольныя актыўныя сілы беларускага грамадзянства, усіх тых, хто шчыра жадае разьвіцьця нашай культуры і дасьледваньня яе галоўнага фактара—беларускай мовы. Тут асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на наша студэнцтва і настаўніцтва, асабліва на апошняе. Пастаянна жывучы на вёсцы, яно лепш, чым хто другі, можа быць карысным у зборы слоўнікавага матэрыялу. Карыснымі ў зборы слоўнікавага матэрыялу таксама будуць і краязнаўчыя таварыствы й гурткі, якім у парадку дасьледваньня іх краю Слоўнікавая Комісія можа даваць тыя ці іншыя заданьні.

Аб вялікім значэньні слоўніка нашай мовы мы ўжо гаварылі вышэй. Скажам толькі цяпер пры заключэньні, што ў сучасны момант сярод усёй іншай навуковай працы на Беларусі мы ня бачым другой такой важнай, патрэбнай і неадкладнай, як праца па ўкладаньні слоўніка нашай мовы. А дзеля гэтага ня трэба шкадаваць ні сіл ні сродкаў.

# БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫХ УСТАНОЎ

*(Працяг; пачатак гл. „Полымя“ 1925 г. № 4)*

**А. В. Баліцкі**

### Школы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослых

Далей за ўсё ад беларусізацыі стаяць палітыка-асьветныя ўстановы.

Паводле пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Комітэту ад 25 ліпня 1924 году, гэтым установам, як і ўстановам профасьветы, вызначаны пацёхгадовы тэрмін, тэрмін досыць даўгі. Тлумачыцца гэта тым, што ўстановы палітасьветы абслугоўваюць дарослае жыхарства, часткай пісьменнае парасійску і зусім няпісьменнае пабеларуску, а таксама тым, што працаўнікоў па палітасьвеце, якія-б ведалі беларускую мову, вельмі мала. Установы палітасьветы пяройдуць на беларускую мову ў сваёй масе тады, калі падрасьце тое пакаленьне, што цяпер вучыцца на беларускай мове ў школах соцвыху.

Гэта, прыблізна, і будзе той тэрмін, які вызначан па пляну беларусізацыі палітасьветных установ. Зразумела, што пяць год—гэта тэрмін канчатковы: праз гэты час усе без выключэньняў палітасьветныя ўстановы, якія абслугоўваюць беларускае жыхарства, пяройдуць на беларускую мову цалкам; пераход гэты адбудзецца паступова, штогод у працягу ўсяго пяцёхгадовага тэрміну; пяты год будзе годам завяршэньня беларусізацыі; штогод будзе рабіцца, прыблізна, адна пятая частка ўсяе працы па пляну.

Аднак ёсьць цэлы шэраг такіх установ палітасьветы, дзе працу адразу трэба весьці на мове тэй нацыянальнасьці, якую гэтыя ўстановы абслугоўваюць. Да такіх установ у першую чаргу належаць школы па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Пэдагогічная практыка паказала, што навучыць, каб умелі пісаць і чытаць на роднай мове, можна куды хутчэй і з меншымі затратамі сіл, чым на мове іншае нацыянальнасьці, хаця-ж бы гэтая мова была і блізкай да роднай: так, украінец куды лягчэй навучаецца чытаць і пісаць на украінскай мове, беларус—на беларускай і г. д., ня гледзячы на тое, што ён можа разумець гутарку і на расійскай мове. Мэханізмам чытаньня можна найхутчэй авалодаць тады, калі той, хто вучыцца, ясна разумее тыя словы, якія ён вымаўляе пры чытаньні; гэта магчыма толькі тады, калі навучаньне чытаньню йдзе на роднай мове. Усякі пэдагог ведае гэта,

як элемэнтарную праўду, але дзіўна тое, што гэта добра разумее і той, хто вучыцца. Вось чаму, калі ліквідуецца няпісьменнасьць сярод беларускага насяленьня, дык яно вымагае, каб ліквідацыю вялі на беларускай мове, ня кажучы ўжо аб настаўніках, што ведаюць беларускую мову, бо яны вымагаюць таго самага, як пэдагогі. Ліквідацыю няпісьменнасьці трэба весьці на роднай мове яшчэ і дзеля таго, што звычайна тыя, што скончылі школы па ліквідацыі няпісьменнасьці, чытаюць і пішуць яшчэ слаба, і калі ў сваёй наступнай і штодзеннай практыцы яны будуць карыстацца літаратурай не на роднай мове, дык, не разумеючы ці ня зусім разумеючы яе, яны губляюць інтарэс да чытаемага, закідваюць чытаньне і ўрэшце робяцца зноў няпісьменнымі.

Вынікае тое самае, што было з сялянамі-беларусамі, якія канчалі расійскія школы: праз некалькі год яны забываліся чытаць і пісаць, бо расійская літаратура, як ня родная, не магла іх зацікавіць, і яны яе ня чыталі. Ахвяроўваць столькі радкоў на тое, што ня можа выклікаць спрэчак, ня прышлося-б, калі-б справа датычылася жыдоўскае, латыскае альбо якоенебудзь іншае (не славянскае) мовы. Да беларускае мовы, як і да украінскае, існуюць памылковыя адносіны з боку часткі тых, якія пісьменныя парасійску. Яны думаюць, што дзякуючы таму, што беларуская мова блізка падыходзіць да расійскае і мае пераважны лік агульных карэньняў, дык няма чаго крывіць расійскую мову „простай, мужыцкай мовай“, лепш зрабіць наадварот—перарабіць гэтую „мужыцкую мову“ ў „шляхэтную расійскую“.

Няма чаго казаць, што гэтыя людзі, самі ня ведаючы таго, праводзяць русіфікатарскую політыку: яны і не разумеюць, што ўсе слявянскія мовы маюць агульныя карэньні і што для няпісьменнага селяніна, які штодзенна ў сваім жыцьці гаворыць пабеларуску, расійская мова такая самая незразумелая, як і польская.

Раней беларускі селянін расійскую і польскую мовы чуў ад пана ды ад чыноўніка, якога ён таксама лічыў „панам“, цяпер гэтую расійскую мову ён чуе ў савецкіх установах, на мітынгах і сходах, нават сам ён стараецца гаварыць на сходах парасійску; цяпер ён больш звыкся з расійскай мовай, цяпер яна для яго бліжэй, чымся раней, але ўсё-ж такі яна мала зразумелая і ніяк ня можа замяніць яму „сваёй мужыцкае мовы“.

Нават беларуская мова ў лексыконе селяніна налічвае ня шмат больш за тысячу паняцьцяў—няма чаго казаць аб расійскай мове, на якой ён можа азначыць ня больш дзесяткаў-двух паняцьцяў.

Вось чаму навучыць беларускага селяніна чытаць на матчынай мове ды выдаць зразумелую для яго кніжку,—гэта значыцца адчыніць для яго цэлы новы сьвет. Пакаленьне, якое падрастае, вучыцца ўжо пабеларуску, але ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослых зроблена пакуль што мала.

Нават няма лемантароў для дарослых на беларускай мове; прыходзіцца карыстацца звычайным дзіцячым лемантаром; а навучаньне пісьменнасьці дарослых, як гэта вядома кожнаму, крыху сьвядомаму ў гэтай справе, ствараецца зусім інакшымі мэтодамі ды спосабамі, чым навучаньне дзяцей; дзіцячы лемантар не адпавядае гэтай мэце. Праўда, да гэтага часу ліквідацыя няпісьменнасьці наогул праводзілася сыстэматычна, галоўным чынам, у гарадох; у сялянскіх мясцовасьцях у 1924-25 г. была зьліквідована няпісьменнасьць толькі сярод часткі дапрызыўнікаў і пераменьнікаў і то добравольнымі сіламі настаўніцтва. Ліквідацыя няпісьменнасьці ў гарадох праводзіцца большай часткай на мове расійскай і жыдоўскай; у сялянскіх мясцовасьцях часткаю ліквідацыя няпісьменнасьці праводзілася на беларускай мове—па дзіцячым лемантары, а часткай—на расійскай, бо Галоўполітасьветай па вёсках было разаслана каля 35.000 лемантароў на расійскай мове. Ня маючы беларускага лемантара, настаўніцтва павінна было карыстацца расійскім лемантаром.

Мовавыкладаньне ў школах па ліквідацыі няпісьменнасьці вызначаецца наступнай табліцай:

| Акруга | Лік школ па ліквід. няпісьменнасьці | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | На беларуск. мове | На жыдоўск. мове | На расійск. мове | На польскай мове | У гарадох ды пас. гар. тыпу | У сялянскіх мясц. |
| Менская | 360 | 24 | 31 | 303 | 2 | 275 | 85 |
| Віцебская | 385 | 6 | 67 | 311 | 1 | 200 | 185 |
| Бабруйская | 300 | 12 | 49 | 240 | — | 191 | 110 |
| Магілеўская | 302 | — | 80 | 222 | — | 199 | 103 |
| Барысаўская | 200 | 7 | 49 | 142 | 2 | 75 | 125 |
| Аршанская | 236 | — | 7 | 228 | 1 | 150 | 86 |
| Мазырская | 314 | 5 | 40 | 269 | — | 141 | 173 |
| Калінінская | 190 | — | 9 | 181 | — | 79 | 111 |
| Полацкая | 140 | 6 | 19 | 115 | — | 54 | 86 |
| Слуцкая | 75 | 9 | 20 | 46 | — | 34 | 41 |
| Разам | 2.502 | 69<br>3% | 371<br>15% | 2.057<br>81% | 6<br>0,2% | 1.397 | 1.105 |

З гэтай табліцы відаць, што пераважная частка школ па ліквідацыі няпісьменнасьці працуе яшчэ на расійскай мове; ёсьць школы на жыдоўскай мове і вельмі мала на беларускай. Тлумачыцца гэта тым, што больш за 60 проц. школ па ліквідацыі няпісьменнасьці знаходзіцца ў гарадох, дзе насяленьне ўжо ў большасьці зрусіфікована і стараецца

вучыцца парасійску, а таксама і тым, што беларусізацыя школ па ліквідацыі няпісьменнасьці толькі яшчэ пачалася і па прычынах, аб якіх ужо гаварылася, не дала покуль што яшчэ належных вынікаў. Тэрмінова складаецца лемантар для дарослых на беларускай мове, да пачатку 1925-26 школьнага году будзе надрукован, і тады беларусізацыя пойдзе больш стала.

## Школы для дарослых

Зусім блізка да лікпунктаў падыходзяць школы для дарослых; яны зьяўляюцца як-бы працягам лікпунктаў; да іх адносяцца таксама і школы рабочае моладзі, якім надана назва паводле іх мэты. Усе гэтыя школы разьлічаны на асоб, якія знаходзяцца на прадпрыемствах альбо на службе наогул, вось чаму гэтыя школы ў большасьці вядуць сваю працу ўвечары.

Па сваёй програме школы для дарослых падзяляюцца на школы для малапісьменных і на школы павышанага тыпу. Пакольні першыя зьяўляюцца беспасрэдным працягам лікпунктаў, школы павышанага тыпу даюць веды, якія ахапляюць курс сямігадовае працоўнае школы. Мэта гэтых школ—пашырыць пісьменнасьць рабочых і служачых; ніякіх асабістых правоў і пераваг гэтыя школы не даюць. Програма іх складаецца так, каб даць неабходныя веды рабочаму і служачаму для яго звычайнага сучаснага жыцьця, ня маючы на ўвазе падрыхтоўку іх у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Школы для дарослых і школы рабочае моладзі распаўсюджаны, галоўным чынам, у гарадох; у сялянскіх мясцовасьцях яны сустракаюцца адзінкамі, як выключэньне

Па мовавыкладаньні школы для дарослых маюць гэткі падзел:

| НАЗВА ШКОЛ | На бел. мове | % | На жыд. мове | % | На расійск. мове | % | На польскай мове | % | Зьмеш. рас. жыд. | % | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Школы для малапісьменных . | 1 | — | 2 | — | 6 | — | — | — | — | — | 9 |
| Школы павышанага тыпу . | — | — | 1 | — | 12 | — | 1 | — | 1 | — | 15 |
| Школы рабоч. мол. . . . . | 1 | — | 3 | — | 7 | — | — | — | 4 | — | 15 |
| Усяго. . | 2 | 5% | 6 | 16% | 25 | 64% | 1 | 2,5% | 5 | 13% | 39 |

Школ на беларускай мове толькі дзьве, найбольш значны лік школ працуе на расійскай мове. Сетка школ для дарослых вельмі нязначная і склад вучняў з гэтае прычыны ў кожнай школе рознай нацыянальнасьці; прыходзіцца весьці навучаньне на тэй мове, якая ў даны момант зьяўляецца найбольш зразумелай для ўсіх нацыянальнасьцяй; апроч таго, на-

лежыць таксама азначыць, што з боку рабочых і служачых больш цягі ў школы на расійскай мове, чым у нацыянальныя: гарады зрусіфікованы, найбольш значная лічба ўстаноў і організацый вядуць сваю працу пакуль што на расійскай мове; рабочаму і служачаму да гэтага часу ня было практычнае патрэбы вучыцца беларускай альбо жыдоўскай мове. Скончыўшы школу для дарослых, ён пры паступленьні ў наступную навучальную ўстанову таксама мог абыйсьціся, калі ведаў расійскую мову; і хоць для значнага ліку рабочых і служачых ня рускай нацыянальнасьці вучыцца на расійскай мове значна цяжэй, чым на роднай мове, але яны ўважаюць за лепшае ўсё-ж такі вучыцца на расійскай мове.

Нацыянальны склад вучняў у вячэрніх школах адзначаецца ніжэйнаступнай табліцай:

| НАЗВА ШКОЛ | Агульны лік вучняў у школах па нацыянальнасьці: | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | беларусы | % | жыды | % | расійцы | % | палякі | % | інш. | % | усяго |
| Школы для малапісьменных . | 29 | 11,6 | 80 | 33 | 87 | 34 | 10 | 3 | 40 | 17 | 246 |
| Школы павышанага тыпу . | 602 | 34 | 786 | 46 | 150 | 9 | 110 | 6 | 68 | 4 | 1.716 |
| Школы рабоч. мол. . . . . | 593 | 18 | 2.460 | 76 | 128 | 4 | 56 | 1,5 | 12 | 0,4 | 3.249 |
| Разам . | 1.224 | 23 | 3.326 | 64 | 365 | 7 | 176 | 3,5 | 120 | 2,5 | 5.211 |

Ва ўсіх школах для дарослых уведзены: беларуская мова, гісторыя і географія Беларусі, як прадметы выкладаньня. Лік лекцый, адведзеных па навучальным пляне на прадметы беларусазнаўства ніжэйнаступны:

| НАЗВА ПРАДМЕТАЎ | Шк. для малапісьмен. | | | | | Шк. павыш. тыпу | | | | Шк. раб. моладзі | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 кл. | 2 | 3 | 4 | Усяго | 1 кл. | 2 | 3 | Усяго | 1 кл. | 2 | 3 | 4 | Усяго |
| Белар. мова . . . | | | | | | 2 | 2 | 2 | 6 | 6 | 6 | 4 | — | 16 |
| Гісторыя Беларусі . | Як | пр ход | адм дзя | ет, цца | не пра | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Географія Беларусі . | | | | | | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

Гісторыя і географія Беларусі, як асобныя прадметы, ні ў школах павышанага тыпу, ні ў школах працоўнае моладзі не выкладаюцца; гісторыя выкладаецца разам з грамадазнаўствам, а географія—разам з прыродазнаўствам.

Зацікаўленасьць вучняў да беларусазнаўства ў вячэрніх школах для дарослых у гэтым годзе значна павысілася. Пастановай сэсіі ЦВК ад 25-га ліпня 1924 г. аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні нацыянальнае політыкі ў савецкіх установах і вымаганьне ведаў беларускае мовы пры ўступленьні ў ВУЗ'ы ды тэхнікумы паднялі значэньне бела-

рускае мовы ды прадметаў беларусазнаўства і зрабілі іх практычна неабходнымі. Калі ў 1923-24 навуч. годзе ў некаторых вячэрніх школах для дарослых падымалася пытаньне аб тым, што няма патрэбы вучыць беларускую мову, і нават былі здарэньні, калі вучні прымалі пастанову аб тым, каб ня вучыць яе, дык цяпер ужо гэткіх зьявішч не прыкмячаецца. Праўда, дасягненьні ў выўчэньні прадметаў беларусазнаўства пакуль што яшчэ нязначныя, але на лекцыі ходзяць акуратна.

### Партыйныя школы

Пры практычным правядзеньні нацыянальнае політыкі асабліва важнае значэньне набываюць партыйныя школы. Сяброў партыі, якія ведаюць беларускую мову, наогул мала, а сярод кіраўнічага партыйнага актыву яшчэ менш. Працу па беларусізацыі практычна вядзе беларуская інтэлігэнцыя і, дзякуючы адсутнасьці сяброў партыі, стала сьвядомых у гэтай справе, магчымы ўхілы ў бок дробна-буржуазнага нацыяналізму. Патрэбна стварыць партыйны актыў з мясцовых людзей, якія-б ведалі мову, быт і псыхолёгію тых, сярод каго прыходзіцца працаваць. Найлепшымі ўстановамі для стварэньня такога актыву зьяўляюцца партыйныя школы. Вось на іх і належыць зьвярнуць асаблівую ўвагу пры практычным правядзеньні нацыянальнае політыкі. Выхаваць праз партыйныя школы сяброў партыі—моцных і стойкіх бальшавікоў, якія-б орыентаваліся ў нацыянальным пытаньні і якія-б маглі правілова праводзіць беларусізацыю—неадкладнае заданьне партыі. Да гэтага заданьня павінны быць прыстасованы нашы партыйныя школы.

Усіх партыйных школ у БССР пяць: Вышэйшая партшкола ў Менску, школа II ступені ў Віцебску і тры школы I ступені (Менск, Бабруйск, Магілеў); прычым пры Віцебскай школе II ступені ёсьць жыдоўскае аддзяленьне на 70 чал., а пры Менскай школе I ст.—польскае аддзяленьне на 20 чал. Усе школы, за выключэньнем жыдоўскага і польскага аддзяленьняў, працуюць на расійскай мове, з імкненьнем да паступовага пераходу на беларускую мову навучэньня. Нацыянальны склад вучняў у партыйных школах вось які:

| Назва школы | Склад вучняў па нацыянальнасьці | | | | | | | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Беларусы | % | Жыды | % | Расійцы | % | Палякі | % | Інш. | % | |
| Менская выш. партшкола. | 49 | | 23 | | 19 | | 1 | | 7 | | 108 |
| Віцебск. партшкола I ст. | 39 | | 37 | | 18 | | 3 | | 1 | | 98 |
| а) жыдоўск. аддзял. . | — | | 71 | | — | | — | | — | | 71 |
| Менская школа I ст. . | 34 | | 1 | | 3 | | 1 | | — | | 39 |
| а) польск. аддзял. . . | 1 | | 1 | | — | | 17 | | — | | 19 |
| Бабруйская школа II ст. . | 44 | | 10 | | 1 | | 1 | | — | | 56 |
| Магілеўская школа I ст. | 33 | | 15 | | 7 | | 4 | | 1 | | 60 |
| УСЯГО . | 200 | 45% | 167 | 32% | 48 | 12% | 27 | 6% | 9 | 4% | 451 |

Процант беларусаў досыць значны, дык пры адпаведных умовах можна было-б мець актыўных партыйных працаўнікоў, якія маглі-б праводзіць беларускую нацыянальную політыку; але бяда ў тым, што гэтых умоў покуль што няма.

Ступень беларусізацыі партыйных школ ясна паказана ў ніжэйнаступнай табліцы:

ВЕСТКІ

аб % беларусізацыі савпартшкол

| Назва школы | Лік гадзін на ўсіх курсах па навуч. пляну | Лік гадзін на ўсіх курсах у год з выкладаньнем на беларускай мове | %беларусізацыі |
|---|---|---|---|
| 1. Вышэйш. Парт. школа | | | |
| I курс . . . | 930 | 124 | 13,3 |
| II курс . . . | 930 | 124 | 13,3 |
| 2. Віцебская школа II ст. | | | |
| I курс . . . | 930 | 90 | 9,4 |
| II курс . . . | 930 | 90 | 9,4 |
| 3. Віцебск. Жыд. аддзял. | | | |
| I курс . . . | 930 | 90 | 9,4 |
| II курс . . . | 930 | 90 | 9,4 |
| 4. Менская I ступені | | | |
| Беларуск. аддзял. . . | 930 | 620 | 66,6 |
| Польск. аддзял. . . | 930 | 105 | 11,2 |
| 5. Бабруйская I ступені . | 930 | 508 | 54,6 |
| 6. Магілеўская I ступені | | | |
| Беларуская група . . | 930 | 930 | 100 |
| Першая расійская . . | 930 | 45 | 4,7 |
| Другая расійская . . | 930 | 45 | 4,7 |
| УСЯГО. . | 11.160 | 2.391 | 25 |

Гэткая нязначная ступень беларусізацыі партшкол тлумачыцца цэлым шэрагам абставін, якіх мы ня можам пазбавіцца. Першая і самая галоўная перашкода—гэта брак партыйных кваліфікованых у пэўным сэнсе працаўнікоў, якія ведаюць беларускую мову і могуць на ёй выкладаць. Зьмешчаная ніжэй табліца паказвае, што сярод настаўніцкага пэрсоналу і групаводаў % беларусаў вельмі нязначны, а % тых, якія

ведаюць беларускую мову яшчэ менш ы, і то астатнія залічваюцца, галоўным чынам, да беспартыйных настаўнікаў і выкладаюць агульнаасьветныя прадметы.

Нацыянальны склад настаўнікаў у партшколах у 1924-25 г.

| Назва школы | Беларусы | $^0/_0$ | Жыды | $^0/_0$ | Расійцы | $^0/_0$ | Палякі | $^0/_0$ | Інш. | $^0/_0$ | Усяго | Якія ведаюць беларуск. мову | $^0/_0$ уладаючых беларускай мовай |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Выш. П. шк. імя Ў. І. Леніна | 12 | | 9 | | 4 | | — | | 1 | | 26 | 4 | 15 |
| Віцебск. шк. II ступені | 2 | | 10 | | 4 | | — | | — | | 16 | 2 | 12 |
| Менская шк. I ступені | 6 | | 3 | | — | | 3 | | — | | 12 | 7 | 58 |
| Бабруйская шк. I ступені | 4 | | 1 | | 1 | | — | | — | | 6 | 2 | 33 |
| Магілеўская шк. I ступені | 5 | | 1 | | 1 | | 1 | | — | | 8 | 3 | 37 |
| УСЯГО | 29 | 43 | 24 | 37 | 10 | 14 | 4 | 6 | 1 | 0,5 | 68 | 18 | 27 |

Другая акалічнасьць, якая перашкаджае беларусізацыі,—гэта брак падручнікаў і інш. па грамадзкіх дысцыплінах на беларускай мове. Тлумачыцца гэта цэлым шэрагам прычын, аб якіх мы будзем гаварыць, калі будзем разглядаць—з пункту погляду правядзеньня нацыянальнай палітыкі—выдавецтва БССР; але факт застаецца фактам, бо пакуль няма падручнікаў на беларускай мове па грамадзкіх дысцыплінах, мы ня можам перайсьці да беларусізацыі партшкол.

Ня гледзячы на тое, што нацыянальны склад настаўнікаў партшкол рознастайны і $^0/_0$ беларусаў па нацыянальнасьці невялікі, але неабходна адзначыць, што пэдагогічны пэрсонал прыхільна адносіцца да беларусізацыі партшкол; пэрсонал надта добра разумее неабходнасьць паступовага пераходу школ на беларускую мову выкладаньня; у Выш. П. школе імя Леніна і ў некаторых іншых напружана ідзе выўчэньне беларускае мовы ўсімі настаўнікамі, дык ня можа быць сумненьня, што к 1925-26 навуч. году $^0/_0$ тых, якія будуць ведаць беларускую мову, і лік прадметаў на беларускай мове,—павялічыцца.

Апроч таго ў Маскве ва Унівэрсытэце Народаў Захаду ёсьць беларускае аддзяленьне. Гэты Унівэрсытэт праз два гады дасьць выпуск добра кваліфікованых лектароў, якія будуць выкладаць на беларускай мове; частка іх будзе скарыстана настаўнікамі ў партшколах. У пляне Дзярж. Выдавецтва на 1924-25 навуч. год ёсьць падручнікі па грамадзкіх дысцыплінах. Трэба абавязкова гэтыя падручнікі выдаць. Гэткім чынам, будзе падрыхтованы грунт да паступовага пераходу партыйных школ на беларускую мову выкладаньня.

Гэты пераход павінен будзе ўтварыцца, бо гэтага вымагаюць жыцьцёвыя ўмовы Беларусі. З пераходам партшкол на беларускую мову і з выпускам адтуль цэлага шэрагу партпрацаўнікоў, якія могуць ня толькі кіраваць, але і самі праводзіць беларусізацыю, беларускае нацыянальнае пытаньне страціць тую вастрату, якую яно мае ў сучасны момант.

### Клюбы, народныя дамы, хаты-чытальні

Калі праз партыйныя школы Партыя выхоўвае і падрыхтоўвае працаўнікоў моцных, вытрымалых, якія праводзяць асноўныя прынцыпы Комуністычнае Партыі, дык праз клюбы, нардамы, хаты-чытальні Савецкая ўлада і Комуністычная Партыя заўсёды мае ўплыў на рабочых і сялян. Клюбы, нардамы, хаты-чытальні зьяўляюцца аднымі з асноўных апорных пунктаў Савецкае ўлады і Партыі. Сіла гэтых апорных пунктаў залежыць ад практыкі кіраўнікоў і ад дальнабойнасьці і меткасьці тых арудзьдзяў, якія на гэтых пунктах ужываюцца. Адным са сродкаў, якія надаюць асаблівую меткасьць і дальнабойнасьць арудзьдзям культурнага ўплыву і выхаваньня рабоча-сялянскіх гушч зьяўляецца правілова праводзімая нацыянальная політыка. Сэнс яе ў наступным: 1) правільнае і роўнамернае забясьпечаньне экономічных інтарэсаў усіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць Рэспубліку, 2) задаваленьне культурных патрэб гэтых нацыянальнасьцяй, і 3) прыняцьце гэткіх мэтодаў і спосабаў працы адносна кожнае нацыянальнасьці паасобку, пры дапамозе якіх найбольш лёгка, глыбака і поўна можна было забясьпечыць уплыў Партыі і Савецкае ўлады на працоўныя гушчы гэтых нацыянальнасьцяй. Праз культурна-асьветныя ўстановы: клюбы, нардамы і хаты-чытальні, мы часткаю і праводзім апошнія два пункты нацыянальнае політыкі. У клюбах, нардамох і хатах-чытальнях мы можам ажыцьцяўляць нацыянальную культуру, задавальняючы гэткім чынам культурныя патрэбы рабочых і сялян і праз гэтую культуру праводзіць зноў такі ўплыў Комуністычнае Партыі і Савецкае ўлады. Апроч таго, кожная нацыянальнасьць мае свае спэцыфічныя асаблівасьці, сваё нацыянальнае аблічча, якое месьціцца ў характары, тэмпэраманце, спосабах думкі, дзейнасьці і інш. Неабходна гэтыя спэцыфічныя асаблівасьці ведаць і згодна з гэтымі спэцыфічнымі асаблівасьцямі прымаць адпаведныя мэтоды працы.

Гэта ёсьць, проста кажучы, „уменьне падыйсьці“ да селяніна, да рабочага; а паглыбляючы гэтае паняцьце далей—уменьне падыйсьці да селяніна ці рабочага—беларуса, жыда, паляка і інш.

Звычайна, калі гавораць аб нацыянальнай політыцы, дык маюць на ўвазе, галоўным чынам, мову. Але ў рэчаіснасьці мова зьяўляецца толькі адным (праўда вельмі важным) са сродкаў гэтага „ўменьня падыйсьці“; мова—гэта таксама мэтод працы.

Выканаць правядзеньне нацыянальнае політыкі ў адносінах клюбаў, нардамоў і хат-чыталень гэта значыць у значнай меры ўмець пайсьці і

заўладаць тымі, хто ходзіць у гэтыя ўстановы. На вялікі жаль гэтага не хапае ва ўсёй нашай практыцы па правядзеньні нацыянальнае палітыкі, і калі мы дасьледуем працу нашых клюбаў, нардамоў і асабліва хат-чытальнень, дык якраз асноўным недахватам у працы зьяўляецца ў шмат выпадках „няўменьне падыйсьці, ды няўменьне заўладаць“. Дасягнуць гэтага—значыцца мець пролетарскае чуцьцё, разумець клясавую палітыку партыі, ды правілова праводзіць нацыянальную палітыку.

Клюбы, нардамы і хаты-чытальні па нацыянальных адзнаках маюць гэткі падзел:

| ТЫП УСТАНОЎ | Працуюць на мовах | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | белар. | % | жыд. | % | расійск. | % | польск. | % | лат. | % | інш. | усяго | у горадзе | сел. мяс. |
| Клюбы . . . | 1 | 1,5 | 2 | 5 | 50 | 89 | 2 | 3 | 1 | 1,5 | | 57 | 44 | 12 |
| Нардамы . . . | 12 | 14 | — | — | 74 | 86 | — | — | — | — | | 86 | 1 | 85 |
| Хаты-чытальні . . | 38 | 17 | 6 | 3 | 162 | 78,5 | 3 | 1,5 | — | — | | 209 | — | 209 |
| УСЯГО . | 51 | 15 | 9 | 2,5 | 286 | 81 | 5 | 1,5 | 1 | 0,3 | | 352 | 46 | 306 |

Найбольшы лік клюбаў знаходзіцца пры розных профэсыянальных саюзах і абслугоўваюць сяброў саюзаў, па складзе сваім рознай нацыянальнасьці. У такіх клюбах праца вядзецца галоўным чынам на расійскай мове. Па тым-жа самым прычынам і ў рабоча-парт. і комсамольскіх клюбах таксама праца вядзецца на расійскай мове. Ёсьць яшчэ клюбы для абслугоўваньня рабочых ды служачых па нацыянальнасьці: да іх адносяцца ўсе клюбы, якія працуюць на жыдоўскай, латыскай ды польскай мовах. Клюбаў, якія працуюць цалком ці часткай на беларускай мове, за выключэньнем Дому Прац. Асьветы, няма.

Беларуская мова ў працы клюбаў сярод рабочых беларускае нацыянальнасьці замяняецца пакуль што мовай расійскай. Няма адпаведнага складу падрыхтованых клюбных працаўнікоў, якія ведаюць беларускую мову. Належыць азначыць, што асаблівай вастраты ў клюбах праца на расійскай мове не выклікае: клюбы знаходзяцца большай часткай у гарадох, дзе рабочыя і служачыя, якія працуюць у прадпрыемствах, ды ўстановах, асыміляваліся і разумеюць расійскую мову, іх штодзенная гутарка—жаргон паміж расійскай і сваёй роднай мовай.

Значна больш увагі патрэбна зьвярнуць на нардамы ды хаты-чытальні. Яны разьмяркованы, галоўным чынам, у сялянскіх мясьцовасьцях і абслугоўваюць асоб пераважна беларускае нацыянальнасьці. Посьпех іх працы ў значнай меры залежыць ад „уменьня падыйсьці“, ад популярнасьці гэтае працы. Мова тут мае вялікае значэньне. Посьпехі аднак, у

гэтым напрамку нязначныя. Найбольшы лік нардамоў і хат-чыталень працуе яшчэ на расійскай мове.

На беларускай мове, пакуль што, ставяцца толькі спэктаклі і часамі чытаюцца газэты і літаратура. Спэктаклі на беларускай мове выклікаюць вялікую зацікаўленасьць з боку сялян, ставяць іх аматарскія тэатральныя гурткі. Ёсьць адзін недахват і вельмі значны ў гэтым напрамку, гэта брак адпаведных п'ес, але аб гэтым будзе гутарка тады, калі будзе разьбірацца беларускае тэатральнае мастацтва. Газэты і інш. літаратура выпісваюцца ў нардамы і хаты-чытальні на беларускай і расійскай мовах, а для хат-чыталень—жыдоўскіх, польскіх—і на мовах гэтых нацыянальнасьцяй; з кастрычніка 1923 г. па кастрычнік 1924 г. выпісана для нардамоў, ды хат-чыталень рознай літаратуры:

| На якой мове | Колькі назваў | Колькі экзэмпл. | На якую суму |
|---|---|---|---|
| на расійскай . . . . | 305 | 38.136 | 7.302 р. |
| „ беларускай . . . . | 32 | 6.958 | 1.199 „ |
| „ жыдоўскай . . . . | 40 | 519 | 215 „ |
| „ польскай . . . . | 47 | 316 | 240 „ |
| Усяго . . | 424 | 55.929 | 8.956 р. |

У 1924-25 наўч. годзе дастаўка літаратуры ў нардамы і хаты-чытальні дэцэнтралізована; дакладнага вучоту, якая літаратура і на якой мове выпісваецца, няма; непасрэдна Галоўпалітасьветы пасылае беларускія газэты ў ліку: „Звезда"—5 экз., „Савецкая Беларусь"—5 экз. і „Беларуская вёска"—5 экз. Дзьве апошнія газэты—на беларускай мове.

Патрэбна адзначыць, што сяляне вельмі любяць слухаць напісанае пабеларуску, калі хто ўмее чытаць.

Галоўнае колектыўнае чытаньне на беларускай мове ўсё больш і больш уваходзіць у практыку хат-чыталень і нардамоў.

На вялікі жаль у гэтым напрамку мы сустракаемся з новай перашкодай: падрыхтованых працаўнікоў для хат-чыталень наогул мала, а тых, што ведаюць беларускую мову яшчэ менш.

Таксама, як мы перападрыхтоўваем настаўнікаў, мы павінны імкнуцца перападрыхтаваць загадчыкаў нардамоў ды хат-чыталень.

У 1923-24 г. на курсах палітасьветы выкладалася беларуская мова, гісторыя і геграфія Беларусі; праз курсы прашло каля 200 чал. працаўнікоў хат-чыталень; неабходна гэткія курсы адчыняць штогодна; на гэтых курсах мы ня толькі падрыхтуем працаўнікоў па беларускай мове, але

наогул значна павысім іх кваліфікацыю. Праца ў хатах-чытальнях ды нардамох вядзецца таксама настаўнікамі; частка іх працуе на беларускай мове.

### Агітацыйныя кампаніі

Праз клюбы, народныя дамы ды хаты-чытальні вядуцца ўсе агітацыйныя кампаніі Комуністычнае Партыі і агулам Савецкае ўлады. Кампаніі гэтыя маюць вялікае значэньне: лёзунгі, якія мы выстаўляем, робяцца, дзякуючы гэтым кампаніям, агульнай уласнасьцю самых шырокіх гушч работнікаў і сялян, ствараючы сярод іх пэўны настрой.

Кожнае рэволюцыйнае сьвята і кожнае надзвычайнае здарэньне мы агулам стараемся выкарыстаць у мэтах агітацыі ды пропаганды.

Электрызуем гушчы, трымаем іх увесь час у курсе ўсіх здарэньняў, імкнемся зрабіць з кожнага работніка і селяніна сьвядомага грамадзяніна, які орыентуецца ў існуючых навокал яго абставінах і які разумее, чаго яму вымагаць і чаго ад яго хочуць. Кампаніі гэтыя ўвашлі ў сыстэму працы Комуністычнае Партыі і Савецкае ўлады і зьяўляюцца сталым спосабам працы.

У кампаніях прымаюць удзел усе сябры партыі і адказныя савецкія працаўнікі ў парадку партыйнае, профэсыянальнае ці службовае дысцыпліны. Нашыя частыя і шматлікія зьезды ў значнай ступені ёсьць таксама кампаніі. Усе гэтыя кампаніі ствараюць пэўны настрой, зьдзяйсьняюць выстаўленыя намі лёзунгі, а стварыць настрой, гэта ёсьць на 80 проц. зрабіць справу.

Кампаніі адбываюцца з тым большым посьпехам, тым больш зразумелы яны гушчам, чым лёзунгі іх бліжэй да гушч, чым больш яны популярны, як з боку зьместу, так і з боку формы.

Мова, на якой адбываюцца кампаніі, мае надзвычайна вялікае значэньне: яна павінна быць популярнай і ўсім зразумелай, асабліва сярод тых, дзе кампанія вядзецца; ужываньне роднае мовы забясьпечвае найбольшыя посьпехі ў часе правядзеньня кампаній. Лепш за ўсё кампаніі весьці сярод жыдоў—на жыдоўскай мове, сярод палякоў—на польскай і г. д.

На вёсцы сярод сялянства, пераважна беларускага, кампаніі трэба весьці на беларускай мове. Кожны, каму даводзілася выступаць сярод беларускага сялянства на беларускай і расійскай мове добра зразумеў тую розьніцу ва ўражаньні, якое атрымліваецца ад выступленьняў на аднэй і на другой мове. Калі выступаеш на беларускай мове, сяляне разумеюць кожнае слова, кожную думку, слухаюць уважна, з напружаньнем, а калі пачаць казаць парасійску, увесь эфэкт адразу траціцца. Апроч таго, выступленьні на беларускай мове робяць большае псыхолёгічнае ўражэньне, сяляне глядзяць на таго, хто выступае, як на свайго, „такога самага мужыка“, у той час, як таго, хто выступае на расійскай мове, лічаць за „казённага чалавека“. Трэба адчуць усю гэтую розьніцу,

каб зразумець, якое вялікае значэньне маюць кампаніі на вёсцы, што вядуцца на беларускай мове і агулам на роднай мове.

На жаль такіх кампаній мала, большасьць з іх вядзецца на расійскай мове, асабліва мала адбываецца на беларускай мове.

І гэта зусім зразумела, дзеля таго, каб кампаніі на вёсцы адбываліся на беларускай мове, трэба, каб усе партыйныя і савецкія працаўнікі, які маюць дачыненьне да вёскі, ведалі беларускую мову, а гэта магчыма толькі як вынік доўгае працы па практычным правядзеньні нацыянальнае палітыкі. Беларусізацыя агітацыйных кампаній—гэта заключны акорд беларусізацыі ўсіх савецкіх, партыйных і професыянальных устаноў і арганізацый.

Цяпер мовы тых нацыянальнасьцяй, што жывуць у Рэспубліцы, ужываюцца толькі ў кампаніях пры выданьні брошур, лістовак, лёзунгаў і г. д.

З 1 кастрычніка 1923 г. па 1 кастрычніка 1924 выдалі агітацыйнае літаратуры на нацыянальных мовах:

| Назвы выданьняў | Белар. | | Жыдоўск. | | Расійск. | | Польск. | | Інш. | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік наз. | Лік экз. | Лік наз. | Лік экз. | Лік наз. | Лік экз. | Лік наз. | Лік экз. | Лік наз. | Лік экз. | | |
| Брошуры | 15 | 53700 | 2 | 2500 | 44 | 258350 | 1 | 1000 | — | — | 62 | 315500 |
| Лістоўкі | 5 | 12120 | — | — | 42 | 49000 | — | — | — | — | 47 | 61120 |
| Плякаты | 3 | нявед. | — | — | 5 | нявед. | — | — | — | — | 8 | нявед. |
| Лёзунгі | 120 | 60000 | 28 | 13800 | 204 | 102000 | 27 | 12000 | 7 | 875 | 386 | 188675 |
| Усяго | 143 | 125820 | 30 | 16300 | 295 | 409350 | 28 | 13000 | 7 | 875 | 503 | 565295 |

Як відаць з паказанай табліцы ў друку нацыянальныя мовы ўжываюцца больш пры звароце да работнікаў і сялян, чымся вусна і хаця-ж трэба адзначыць, што ўсё-ж такі лік выданьняў на расійскай мове перавышае лік выданьняў на беларускай мове.

У агітацыйных кампаніях адпаведныя выданьні маюць большае значэньне, але для работнікаў і сялян, сярод якіх галоўным чынам адбываюцца кампаніі, друкаванае слова ня здолее замяніць вуснага, бо апошняе больш даступна і зразумела.

Такім чынам павялічэньне друкаваных выданьняў на нацыянальных мовах вырашае пытаньне толькі часткай; трэба імкнуцца, каб агітацыйныя кампаніі цалком адбываліся на матчынай мове работнікаў і сялян.

### Беларускі сучасны тэатр

Тэатры ды кінэматографы адносяцца таксама да ўстаноў масавага ўплыву; асабліва гэта можна сказаць пра кінэматографы. Пры даборы належнага рэпэртуару і кінофільм праз тэатры ды кінэматографы можна

выхавацъ рабоча-сялянскія масы ў пажаданым для нас напрамку. Тэатры ды кінэматографы разам з клюбамі, нардамамі, хатамі-чытальнямі ды агіткампаніямі складаюць значную частку тэй сыстэмы, праз якую рабоча-сялянская ўлада робіць уплыў на грамадзянства.

І чым больш гэтая сыстэма прыстасована да рабочых і сялян, чым больш яна адказвае на іх пачуцьці і запатрабаваньні, тым яна лепшая. Мова, на якой тэатр гаворыць з масамі, мае вялікае значэньне; п'есы на роднай мове глядзяць з большай зацікаўленасьцю, чым на якой-колечы іншай, нават і зразумелай мове. Вось чаму з усіх канцоў Беларусі ідуць запатрабаваньні на беларускую п'есу; народныя дамы і хаты-чытальні, ня гледзячы на тое, што звычайную сваю працу вядуць на расійскай мове,—стараюцца ставіць спэктаклі на беларускай мове. На вялікі жаль п'ес на беларускай мове вельмі мала, а п'ес, прыстасованых да сучаснага жыцьця яшчэ менш. Усе агулам тэатры і кінэматографы, а ня толькі беларускія, адчуваюць вялікі голад на рэпэртуар. Старыя п'есы, адбіваючыя старое жыцьцё, ня могуць зараз нікога здаволіць. Усё пашло ўперад ды настолькі шпарка, што літаратура і мастацтва не пасьпявае за жыцьцём. П'есы вядомых драматургаў і нават клясыкаў ідуць без усялякага зацікаўленьня з боку публікі. Калі так справа абстаіць з п'есамі на расійскай мове, дык з беларускімі, зусім зразумела, яна яшчэ горш. Беларуская літаратура бедная нават і старымі п'есамі, з старым зьместам. Беларускі тэатр у поўным сэнсе гэтага слова стварыўся толькі пасьля рэволюцыі.

Да рэволюцыі беларускія п'есы ставілі аматарскія гурткі дый то з апаскай: пастаноўкі на беларускай мове не заўсёды дазваляліся царскаю ўладай. Сярод беларускіх сялян вялікай пашанай карысталіся народныя п'есы, большай часткай з рэлігійным зьместам, але аздобленыя народнай сатырай, ды беларуская батлейка. Зразумела, што пры такіх умовах (адсутнасьць тэатру, забарона пастановак), не магла разьвінацца беларуская тэатральная творчасьць. Вось чаму так мала п'ес на беларускай мове. Дый цяпер яшчэ ва ўсёй БССР ёсьць пакуль што толькі адзін сталы беларускі тэатр, калі ня лічыць трупы Галубка. Тэатр гэты малады, заснаваўся ён пасьля рэволюцыі, але за невялікі час сваго існаваньня ён усё-ж-такі дасягнуў значных посьпехаў. Ад прымітыўных аматарскіх пастановак ён перашоў у апошнія два гады да высока-мастацкіх. Ідзе ён, па пэўным шляху; яго стварыла рэволюцыя і, як малады тэатр, ён больш адбівае сучаснае жыцьцё, чым усе іншыя тэатры. Праўда, у сваім рэпэртуары ён налічвае ўсяго некалькі п'ес, але кожны год рэпэртуар гэты павялічваецца арыгінальнымі п'есамі і арыгінальнымі пастаноўкамі. З сучаснага рэпэртуару Бел. Дзяр. Тэатру найбольш выдатнымі пастаноўкамі зьяўляюцца: „На купальле“ М. Кудзелькі, музыка Тэраўскага, „Машэка“ і „Кастусь Каліноўскі“ Міровіча, „Мешчанін у шляхецтве“ Мольера, „Чырвоная маска“ Луначарскага і „Каваль-ваявода“ Міровіча. Гэтымі п'есамі тэатр пачаў новую эру свайго існаваньня, пасьля пастаноўкі „На купальле“

п'есы, якія стаўляліся да гэтага часу, павінны былі зыйсьці са сцэны. Некаторыя з гэтых п'ес за два гады вытрымалі больш за сто пастановак і цяпер яшчэ, калі ставяцца, адтрымліваюць „аншляг".

Застановімся кораценька на зьмесьце і характары пастановак некаторых з гэтых п'ес. „На купальле" з народнага быту; пабудована на купальскіх песьнях, абрадах ды вераваньнях. Русалкі, ведзьмы, лясуны, вадзянік, дамавы, кветка папараці, абрады купальскае ночы—усё гэта складае фантастычна-баечны фон, на якім адбываецца дзея. П'еса—музычная. Музыка скомпанована з народных мэлёдый, купальскіх ды іншых народных песень. Сюжэт п'есы самы прымітыўны, таксама звычайна народны; ён вельмі часта сустракаецца ва ўсялякіх народных апавяданьнях і песьнях. Паніч закахаўся ў вясковую простую дзяўчыну-сірату, а паніча кахае паненка. Зайздрасьць паненкі—помста. Вось і ўвесь зьмест; але дзеля таго, што п'еса пісалася ў часы рэволюцыі, аўтар хацеў надаць ёй крыху рэволюцыйны характар: паніч, урэшце, не паніч, а просты мужык, сын вясковае дзяўчыны, якую калісь абмануў пан, і якога ён усё-ж такі выгадаваў дый выхаваў, як роднага сына—ад такога звароту п'еса ня толькі нічога ня выйграла, але набыла народніцкі характар. Каштоўнасьць п'есы ня ў сюжэце, п'еса яскрава і мастацкі адбівае быт народны; на сцэне мастацкі паказаны кавалачкі быту, які адчуваецца ў кожнай песьні, у кожнай дзеі п'есы. Народная сымболіка, вельмі характэрная для беларускага сялянства ў старыя часы, таксама знашла месца ў п'есе, прыгнечаны польскім панам і расійскім чыноўнікам беларускі селянін усё-ж ткі верыў у сваю лепшую будучыну; праўда, вера гэтая часамі пераходзіла ў роспач, але-ж недзе там, у сэрцы заўсёды была маленькая іскарачка. Гэтая вера народная ў п'есе сымболічна выяўлена ў шуканьні кветкі папараці. Штогод беларускія сяляне шукаюць гэтую кветку папараці і ніколі знайсьці ня могуць, бо яна ніколі й ня цьвіце, але ўсё-ж ткі шукаюць, бо вераць у сваю лепшую будучыну.

П'еса пастаўлена мастацкі, артысты ведаюць народны быт і іграюць яе досыць добра.

„Машэка"—Міровіча, перароблена з беларускае легэнды „Сказаньне магілеўскіх лірнікаў пра заснаваньне г. Магілева". Зьмест п'есы з часоў сялянскіх паўстаньняў XVI стагодзьдзя, якія тады насілі напалову зладзейскі, а напалову соцыяльны характар. Сюжэт п'есы, як узяты з народнага сказаньня, таксама вельмі просты. Сялянскі хлапец—Машэка запаляецца помстай на баярына, які гвалтам забраў ад яго каханую ім дзяўчыну, ды йдзе ў лес з ватагай такіх-жа хлапцоў, як ён сам. Пры спачуваньні сялян ватага гэтая робіць напады на паноў. Пасьля некалькіх няўдалых нападаў на самога баярына, ватага, нарэшце, спаймала яго ў лесе ды забіла.

Калісь закаханая ў Машэку дзяўчына, пасьля таго, як Машэка ўцёк у лес, робіцца баярыняй, і цяпер сваёй уласнай рукой забівае Машэку. На тым месцы, дзе быў забіты Машэка, узрос г. Магілеў.

Па сюжэту п'еса прымітыўная, але таксама, як „На купальле“, яна мае досыць значны бытавы зьмест. Вясковыя гульні, калядныя абрады з беларускімі народнымі песьнямі, скокамі надаюць значную вартасьць і бытавую каштоўнасьць п'есе.

Пастаўлена п'еса мастацкі і глядзяць яе з захапленьнем. П'еса вытрымала каля ста пастановак ды яшчэ займае значнае месца ў рэпэртуары тэатру.

Але „Машэка“ як п'еса, па сваім зьмесьце й бытавой вартасьці—горшая за п'есу „На купальле“, „Кастусь Каліноўскі“—Міровіча—першая гістарычная беларуская п'еса з часоў польска-беларускага паўстаньня 1863 г.

Тут ужо падзеі адбываюцца ў сапраўднай гістарычнай абстаноўцы, фігуруюць сапраўдныя гістарычныя асобы. Калі п'еса „На купальле“ зьяўляецца кавалачкам быту, які ў мастацкай апрацоўцы перанесены на сцэну, дык п'еса „Кастусь Каліноўскі“ ёсьць кавалачкам мастацкі зарысованай гісторыі Беларусі. У 1863 годзе за сваю незалежнасьць ад Масквы змагалася ня толькі Польшча, але і Беларусь—за незалежнасьць ад Масквы і ад Варшавы. У той час, калі паўстанцкі рух ішоў у Польшчы пад кураўніцтвам польскае шляхты, якая імкнулася аддзяліцца ад Масквы, на Беларусі ён быў тыпова сялянскім рухам, які меў на мэце аслабаніцца, галоўным чынам, ад паноў і з гэтым зьвязаць сваю незалежнасьць.

Кастусь Каліноўскі—гэта сялянскі гэрой, які павёў сялянскія масы супроць паноў і нарабіў шмат клопату Маскве. Ён і паказан на сцэне ў некалькі ідэалізованым сялянамі вобразе (сцэна з пераапрананьнямі, кража грошай у Мураўёва), але гэта сапраўдны гэрой: гэроічна ён змагаецца з панамі, гэроічна і памірае. Сюжэту п'еса ня мае, яна складаецца з некалькіх паасобных абразоў, зьвязаных паміж сабой гэроем Каліноўскім. Зьмест п'есы вельмі багаты; паказаны і падпольная праца таго часу, тыповае сялянскае паўстаньне, рэгілійны фанатызм, які паны хочуць выкарыстаць у сваіх мэтах, колёрытная фігура дыктатара Мураўёва, шмат псыхолёгічных і гуморыстычна-бытавых месц, адбіваючых эпоху таго часу.

П'еса і пастаноўка вытрымана як з гістарычнага, так і псыхолёгічнага боку і зьяўляецца сапраўды мастацкім творам.

Іграюць п'есу добра, глядзяць яе з вялікім захапленьнем; вытрымала яна больш ста пастановак.

На іншых пералічаных мной, як выдатныя, п'есах спыняцца ня будзем, бо некаторыя з іх пераложаны з чужых моў, („Мешчанін у Шляхецтве“ і „Чырвоная маска“), а некаторыя яшчэ не паказваліся на адчыненых спэктаклях („Каваль-ваявода“) [1]. Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя п'есы пастаўлены мастацкі, орыгінальна і робяць вельмі добрае ўражаньне.

---

[1]) Цяпер ужо „Каваль-ваявода“ ставіцца Дзяржаўным тэатрам.

Беларускі тэатр расьце, праца яго штогод паляпшаецца, рэпэртуар павялічваецца орыгінальнымі і нават уласнымі п'есамі. Рэжысэр тэатру сябра Міровіч зьяўляецца адначасна і драматургам.

Тэатр ідзе па пэўным шляху: у той час, калі ўсе іншыя тэатры Саюзу перажываюць зараз рэволюцыю форм, зьместу, Беларускі Дзяржаўны Тэатр, як тэатр малады, ідзе шляхам эволюцыі, карыстаючы сучасных дасягненьнях у тэатральнай тэхніцы і ў тэатральных формах.

Шкода толькі, што на ўсю Беларусь мы маем пакуль што адзін беларускі тэатр, ва ўсіх іншых тэатрах, па ўсіх гарадох БССР пакуль што працуюць расійскія трупы пераважна „хаўтурныя" ў расійскім сэнсе гэтага слова, бясконца нудныя і застарэлыя. Ніякай карысьці гэтыя тэатры, апроч забавы для гарадзкога мяшчанства, нікому не даюць. Тэатры такога гатунку ня толькі ня выхоўваюць рабоча-сялянскія гушчы ў пажаданым для нас напрамку, але, нават, ня, могуць быць прадметам забавы.

Што датычыць беларускага сялянства, дык п'есы на расійскай мове не карыстаюцца посьпехам; патрэбна зладжыць спэцыяльны сялянскі рэпэртуар рэволюцыйнага зьместу і пакіраваць яго на вёску. Зрабіць гэта вельмі трудна, беларуская мастацкая пісьменнасьць пакуль што багата на вершы, пішуцца таксама апавяданьні і прозай, але драматычная пісьменнасьць разьвінута вельмі слаба. Няма яшчэ драматургаў, бо драму агулам пісаць цяжэй за вершы ды апавяданьні. А вёска вымагае п'есу, прыстасаваную да яе невялічкага тэатрыку пры народным доме з прымітыўнай сцэнаі, без усялякіх дэкорацый, такую п'есу, каб тэатральны гурток з рабочых і сялян здолеў згуляць яе пад кіраўніцтвам вясковага настаўніка. Такую п'есу вёсцы мы павінны даць; лёзунгам на бліжэйшыя часы ўсіх нашых пісьменьнікаў павінна быць п'еса для вёскі—сучасная п'еса, адбіваючая сучаснае жыцьцё, ды адпавядаючая сучасным імкненьням беларускага сялянства.

Спынімся цяпер на другой беларускай трупе, так званай трупе Галубка. Характэрная асаблівасьць гэтае трупы тая, што яна ня зьвязана ніякім тэатрам ці сталым месцам; трупа гэтая вандроўная; яна вандруе па ваколіцах Менску ды стаўляе беларускія спэктаклі з рэпэртуару твораў самога Галубка. Склад трупы аматарскі, асяродак трупы складае сям'я Галубка: ён, жонка яго, дзьве дачкі. Грашовае становішча трупы дрэннае, стаўляюць спэктаклі яны пераважна дарма ці па вельмі невялічкіх цэнах. Рэпэртуар гэтае трупы досыць багаты, але складаецца ён выключна з п'ес самога рэжысэра трупы—Галубка. П'есы прымітыўныя, большай часткай з дарэволюцыйнага жыцьця, але-ж павеі рэволюцыі ў некаторых з іх адчуваюцца, праўда, не без народніцкага напрамку. П'есы гэтыя, як самыя пастаноўкі, падабаюцца сялянству, трупа Галубка вядома па ваколіцах Менску вёрст на пяцьдзесят навокал, час-ад-часу ён прабуе выяжджаць нават за межы Менскае акругі. Свае п'есы ў рукапісах

Галубок дае для пастановак у народныя дамы і хаты-чытальні, а таксама аматарскім драматычным гурткам. Карыстаюцца яго п'есамі і ваколічныя клюбы Менску. Але што цікавей за ўсё, дык тое, што п'есы гэтыя, апроч п'есы „Апошняе спатканьне", нідзе, яшчэ не надрукованы па вельмі розных прычынах; трэба адабраць лепшыя з гэтых п'ес, падправіць іх дый выдаць. Пры поўнай адсутнасьці п'ес на беларускай мове п'есы Галубка набудуць значную вартасьць, з другога боку, Галубку трэба папрабаваць пісаць п'есы з сучаснага жыцьця.

Апроч Беларускага Дзяржаўнага Тэатру ў Менску ды трупы Галубка Беларуская рэспубліка праз нейкі час узбагаціцца яшчэ дзьвюма трупамі: на беларускай і на жыдоўскай мове. Імкненьне да тэатральнага мастацтва сярод беларускіх работнікаў і сялян адчуваецца з самага пачатку рэволюцыі, і вось. Беларуская рэспубліка ў 1921-22 вуч. годзе заснавала ў Маскве беларускую студыю з дзьвюма сэкцыямі: беларускай і жыдоўскай; у Маскве затым, што трэ' было скарыстаць дзеля працы ў гэтай студыі выдатнейшыя тэатральна-мастацкія сілы маскоўскіх акадэмічных тэатраў. Студыя ў Маскве канчае сваю працу ў 1925-26 вуч. годзе, пасьля чаго прыедзе на Беларусь, дзе далей будзе працаваць ужо як студыя-тэатр. Студыя працавала без перабояў, склад студыйцаў падабраны стала, дык думаецца, што студыя дасьць досыць здольныя трупы. Студыйныя пастаноўкі летам 1924 г. „Цар-Максымільян"—беларускай сэкцыі ды „Прадзелкі Скапэна" і інш.—жыдоўскай сэкцыі сьведчаць аб посьпеху ў працы студыі. Як усе Маскоўскія тэатры, студыя пакуль што захапляецца так званымі новымі плынямі ў тэатральным мастацтве—Мэярхольдаўшчынай з яе конструкцыямі, біомэханікай і г. д., але на працягу сваёй працы на Беларусі, яна бязумоўна, знойдзе свой уласны шлях, па якім і пойдзе. З прыездам студыі на Беларусь прыдзецца рэорганізаваць усю тэатральную справу. Беларусь—рэспубліка невялічкая і, дзякуючы гэтаму, пры тых сілах, якія ў нас будуць, можна будзе наладзіць справу так, каб абслугоўваць буйныя акруговыя цэнтры добрымі і сталымі тэатральнымі пастаноўкамі. У некаторых гарадох, як, напрыклад, Віцебск, Магілеў, мы маем стала пабудованыя і тэхнічна прыстасованыя да мастацкіх пастановак тэатры. У гэтых тэатрах зараз іграюць расійскія трупы, па сваім складзе, зьмесьце і мастацтву сваіх пастановак не адпавядаючыя ні жаданьням жыхарства, ні дзяржавы. Матэрыяльнае палажэньне гэтых труп досыць дрэннае, бо ніякіх зваротных сродкаў, каб рабіць добрыя пастаноўкі, яны ня маюць, дый сілы іх гэтага не дазваляюць; з гэтае прычыны зборы іх штодзень памяншаюцца, што ставіць іх яшчэ ў горшае палажэньне.

Апроч таго практыкай пацьверджана, што нават сталыя трупы з мастацкімі пастаноўкамі ў такіх, раўняючы невялікіх гарадох, як гарады Беларусі, ня могуць вытрымліваць цэлага сэзону, бо кліентура тэатру больш-менш аднастайная і адна й тая трупа робіцца дакучлівай

Тэатральную справу трэба організаваць так, каб сталыя мастацкія трупы пакватальна абслугоўвалі больш-менш значныя акруговыя цэнтры Беларусі і наведваліся нават час-ад-часу ў буйныя мястэчкі. Такімі трупамі з нашага погляду могуць быць: трупа Беларускага Дзяржаўнага Тэатру, беларуская студыя з жыдоўскай і беларускай сэкцыямі і адна опэрная трупа, якая магла-б стаўляць спэктаклі на расійскай мове, але паступова падгатаўляць беларускі рэпэртуар. Кожная з гэтых труп магла-б абслугоўваць, прынамсі, чатыры гарады, іграючы пакватальна ў кожным з іх, а калі тэатральны год паменшыць, што фактычна й будзе, то можна абслужыць і большы лік гарадоў. Тэхнічна ўсё гэта організаваць пры дапамозе Акруговых Выканаўчых Комітэтаў і пры невялічкіх выдатках з боку цэнтральных органаў улады, вельмі лёгка, а карысьць ад гэтага будзе вялікая.

Каб скончыць з тэатрамі, спынімся яшчэ ў некалькіх словах на кінэматографічнай справе на Беларусі. Асаблівым уплывам на работнікаў і сялян карыстаюцца кінэматографы, і гэта зусім зразумела: кінэматографы зьяўляюцца больш зразумелымі, па каштоўнасьці больш таннымі і часу на іх прыходзіцца траціць меней, чым на тэатры. У апошнія часы кінэматографы пачынаюць распаўсюджвацца ў сялянскіх мясцовасьцях. Бязумоўна кінэматографам належыць вялікая будучына, і ў нашай сыстэме ўплыву на работнікаў і на сялян яны зоймуць пачэснае месца. Капіталістычныя дзяржавы ўсяго сьвету ўжо даўно скарысталі кінэматографы дзеля агітацыі і пропаганды буржуазнага парадку ды буржуазнае моралі; савецкім рэспублікам трэба таксама выкарыстаць кінэматографы, але ў адваротных мэтах. Даць кінэматографам ідэолёгічна вытрыманую, зразумелую і цікавую для шырокіх работніцка-сялянскіх гушч фільму зьяўляецца нашым безадкладным заданьнем. Найбольш зразумелай і цікавай фільмай будзе такая, якая ўзята з жыцьця работнікаў і сялян тэй ці іншай мясцовасьці, гэта значыць, што і ў галіне кінэматографіі нацыянальнае пытаньне іграе таксама значную ролю. Апроч таго кінэматографія ўсё роўна, як тэатр наогул, гэта мастацтва, якое выяўляе культуру тэй ці іншай нацыянальнасьці. Беларускае кінэматографіі ня было ды яшчэ й няма. Кінэматографія—больш апошні этап у разьвіцьці тэатральнага мастацтва, і калі беларускі тэатр агулам пачынае свае першыя крокі, дык пра кінэматографію і казаць няма чаго. Да рэволюцыі беларуская кінэматографія разьвівацца ня мела магчымасьці, а пасьля рэволюцыі нават і расійская кінэматографія пачала разьвівацца толькі ў апошні год.

Беларуская Дзяржаўная Кіноўправа з'організавалася толькі ў сьнежні месяцы 1924 году, а да гэтага часу кінэматографы Беларусі абслугоўваліся рознымі пастаўшчыкамі кіно-фільм як дзяржаўнымі ды коопэрацыйнымі іншых саюзных рэспублік, так і прыватнымі. Беларуская Дзяржаўная Кіноўправа перш за ўсё ўзяла на сябе беспасрэднае кіраўніцтва самымі буйнымі кінэматографамі, дастаўку ва ўсе кінэматографы кіно-

фільм, а падругое, яна мае на ўвазе рабіць уласныя здымкі і выданьні кіно-карцін і гэтым самым пакладзе пачатак беларускай кінэматографіі. Па вестках, якія ў нас ёсьць, ужо пішацца сцэнары на кіно-фільму з грамадзянскай барацьбы на Беларусі па апавяданьні М. Чарота „Сьвінапас". Апроч таго, каб зрабіць карціны, якія бяруцца напракат, больш зразумелымі работнікам і сялянам, напісы на карцінах будуць рабіцца і на беларускай мове. Так нараджаецца беларуская кінэматографія.

### Беларуская песьня

Кажучы аб беларускім мастацтве нельга абыйсьці моўчкі беларускую песьню ды беларускую музыку наогул. Беларусы народ музычны; жыцьцё беларускага селяніна абстаўлена багатай абраднасьцю, а кожны абрад не абыходзіцца бяз песьні. Беларускі селянін мае асобныя песьні на ўсялякі выпадак жыцьця, на ўсялякае здарэньне, якое зварачае на сябе яго ўвагу.

Радзіны, хрэзьбіны, вясельле, сьмерць, вясна, лета, восень, зіма— усё гэта адбіваецца ў беларускіх песьнях. Асабліва шмат песень пасьвячоных сьвятам і жыцьцю агулам. Зьбіральнікамі беларускай народнай песьні зьяўляецца: Бяссонаў, Шэйн, Нікіфароўскі, Федароўскі, Раманаў, Радчанка Зінаіда, Малевіч, Сяржпутоўскі, Сэрбаў і інш. Шмат беларускіх песень з тых, што сабралі, ужо выдадзена, але ўсё-ж такі значная частка знаходзіцца яшчэ ненадрукованай у Расійскай і Кракаўскай Акадэміях навук і ў іншых навуковых інстытуцыях. Дагэтуль ненадрукованымі застаюцца песьні такіх вядомых этнографаў, як Федароўскі—7 тамоў, Раманаў—6 тамоў. На вялікі жаль значная частка гэтых песень, больш трох чвэрцяй, мае толькі тэкставы запіс бяз нот, і багатыя народна-беларускія мэлёдыі, дзякуючы гэтаму, засталіся незахаванымі. Толькі ў канцы XIX сталецьця была зьвернута расійскімі вучонымі ўвага на арыгінальнасьць і асаблівасьць харавое пабудовы беларускае песьні. Разам з гэтым было заўважана, што беларуская народная песьня пабудована на двутоннай індыйскай гаме, што цяпер захавалася, як рэдкі перажытак у некаторых толькі мясцовасьцях Эўропы—Брэтань, Шотляндыя, ды сярод баскаў на Пірэнэях.

Вельмі багаты і каштоўны па нотных запісах мэлёдый зборнік беларускіх песень сабрала Музычная Этнографічная Комісія „Маскоўскага Таварыства прыродазнаўства, географіі, антраполёгіі". Яна пачала сваю працу якраз перад самай імпэрыялістычнай вайной пад кіраўніцтвам проф. Маскоўскага Унівэрсытэту Міколы Янчука; апошні, як беларус па нацыянальнасьці, асабліва быў захоплены гэтай працай і згуртаваў каля сябе досыць значны гурток аматараў па зьбіраньні беларускае песьні, найбольш выдатным з якіх быў С. Маслаў, забіты ў 1916 г. пад Баранавічамі. У часы імпэрыялістычнай вайны Комісіяй гэтай было падгатована да друку каля 1.500 беларускіх песень з вельмі цікавымі і характэрнымі мэлёдыямі, але дагэтуль па цэлым радзе прычын ня выдадзена. Агульна трэба адзначыць, што архівы расійскіх навуковых інстытуцый

маюць досыць багаты беларускі сыры этнографічны матэрыял, ня выкарыстаны яшчэ навукова (Расійская акадэмія навук, Політэхн. Музэй, Расійскае геогр. Т-ва). Народнаму Камісарыяту Асьветы БССР прыдзецца паклапаціцца аб тым, каб гэты матэрыял атрымаць для навуковае распрацоўкі ў Інстытуце Беларускае Культуры.

Гармонізацыя беларускае народнае песьні была пачата польскімі композытарамі ў сярэдзіне XIX сталецьця.

Першым, хто скарыстаў беларускую народную песьню для сваіх музычных твораў, ёсьць вядомы композытар Манюшка С. Яго опэра „Галька" пабудована ў значнай сваёй частцы на беларускіх мэлёдыях. Манюшкай таксама гармонізованы цэлы рад беларускіх песень, якія цяпер выконваюцца беларускімі хорамі.

З расійскіх музыкаў зьвярнуў увагу на беларускую песьню Агранаў-Славянскі (у 90-х г. XIX ст.), якія музыкальна апрацаваў ды популярызаваў такія беларускія песьні, як „Дуда-весялуха", „Чаму-ж мне ня пець" і інш.

Крыху пазьней у 900-х гадох вядомы расійскі композытар А. Грэчанінаў і украінскі С. Падгарэцкі гармонізавалі значны лік беларускіх народных песень для сваіх публічна-этнографічных концэртаў.

Але ўся гэтая музычная апрацоўка беларускае народнае песьні вялася выпадкова, і толькі, пачынаючы з 1905 г., беларускія організацыі ў Вільні (Белар. Соц. Грамада, Наша Ніва) бяруць на сябе ініцыятыву распрацоўкі ды пашырэньня беларускае народнае песьні, стараючыся зацікавіць ёю композытараў. Вядомы музыка-композытар Л. Рагоўскі, захапіўшыся самабытнасьцю і музычнасьцю беларускіх народных песень, згармонізаваў іх да 50 штук, з'організаваў спэцыяльна беларускі хор у Вільні і выступаў з ім на публічных концэртах. Пяру Рагоўскага належыць таксама так званая „Беларуская сюіта" (твор да роялю), цалком пабудованая з беларускіх мэлёдый.

З літоўскіх композытараў прымалі ўдзел у апрацоўцы беларускае песьні Марыя Кіманд і С. Шымкус.

Вялікай стратай зьяўляецца тое, што ўсе гэтыя песьні раскіданы па розных музычных зборніках, а некаторыя, як творы Рагоўскага, нават зусім ненадрукованы. Чарговым заданьнем Інстытуту Беларускае Культуры ёсьць сабраць усе гэтыя музычныя творы і выдаць асобнымі зборнікамі, прыстасованымі да практычнага ўжываньня.

У 1923 годзе Народным Камісарыятам Асьветы была ўтворана ў Маскве спэцыяльная Комісія для музычнай апрацоўкі беларускіх народных песень вядомымі расійскімі композытарамі. Комісія гэтая зорганізавалася пад старшынствам проф. музыкі Іполітава-Іванава пры ўдзеле Грэчанінава, Прохарава, Аленіна, Аладава і інш. Комісія гармонізавала каля 250 белар. народных песень, частка з якіх будзе сёлета выдадзена.

Апрача беларускае народнае песьні ёсьць пачаткі і беларускага романсу, над якім прабавалі свае сілы композытары Галкоўскі К. (Вільня) Грэчанінаў А., Аладаў.

Трэба адзначыць, што ў гэтай галіне зроблена яшчэ вельмі мала. Папулярызаваў беларускую народную песьню сярод шырокіх гушч работнікаў і сялян кіраўнік хору Беларускага Дзяржаўнага Тэатру—Тэраўскі. Яшчэ ў 1918 годзе ім быў заснованы беларускі народны хор, які захаваўся да гэтага часу. Для свайго хору Тэраўскі апрацаваў свой уласны рэпэртуар з народных песень, большай часткай самім Тэраўскім гармонізованых. Песьні гэтыя з боку тэхнічнай музычнай пабудовы маюць пэўныя хібы, але-ж у выкананьні хору Тэраўскага яны робяць досыць значнае ўражаньне, і карыстаюцца вялікай популярнасьцю. У 1921 годзе зборнік песень Тэраўскага быў выдадзены Народным Камісарыятам Асьветы ў ліку 3 тысяч экзэмпляраў. Выданьне гэта дала магчымасьць распаўсюдзіць гармонізованую, беларускую народную песьню па ўсёй Беларусі. З гэтага часу па прыкладзе хору Тэраўскага, аб якім ведае ўся Беларусь, пачалі організоўвацца беларускія народныя хоры ў розных мясцовасьцях.

Беларуская народная песьня, гармонізованая Тэраўскім, пранікла і на вёску, дзе карыстаецца вялікім посьпехам. Пашыраюць яе настаўнікі праз свае школьныя, а ў некаторых мясцох організованыя пры народных дамох, хоры.

Тэраўскі бязумоўна займе значнае месца сярод популярызатараў беларускае народнае песьні. Яму належыць таксама музыка да драмы М. Кудзелькі „На купальле“, якая карыстаецца вялікім посьпехам. Беларускія народныя мэлёдыі падобраны ў гэтай драме вельмі ўдала.

Апроч Тэраўскага зварачае больш-менш на сябе ўвагу, як хормэйстар, сябра Равенскі; ён кіруе хорам зложаным з беларускага студэнцтва ў Маскве. Яму належыць гармонізацыя беларускіх песень, зьмешчаных у невялічкім „Зборнічку песень Равенскага“, выдадзеным Народным Камісарыятам Асьветы.

Беларуская народная песьня пашыраецца ўсё больш і больш; цяпер яе можна пачуць і ў горадзе, і на вёсцы, і сярод піонэраў, і ў Чырвонай Арміі. Шкада толькі, што ў друку ёсьць толькі зборы Тэраўскага і Равенскага. Трэба ўсе песьні, гармонізованыя да гэтага часу, выдаць пасобнымі зборамі, і гэтым самым даць магчымасьць шырокім гушчам работнікаў і сялян вольна імі карыстацца. Адначасна з гэтым трэба вясьці далей працу па гармонізацыі беларускіх народных песень. Сырых матэрыялаў ёсьць шмат, яшчэ больш іх можна сабраць па вёсках ды мястэчках Беларусі. Гэтую задачу па зьбіраньні і апрацоўцы беларускае народнае песьні павінны ўзяць на сябе музычная сэкцыя Інбелкульту і Беларускі Музычны тэхнікум у Менску. У памянёным тэхнікуме згуртованы ўсе лепшыя музычныя сілы, якія толькі ёсьць у БССР.

З беларускіх народных мэлёдый паступова пабудуецца беларускае музычнае мастацтва, а тэхнікум выявіць музычныя здольнасьці паміж работнікаў і сялян, якія працягнуць распрацоўку беларускае музыкі.

## КНІГАПІС

**Маладняк Каліншчыны № 2.** *Орган Калінінскага Акр. Ком. ЛКСМБ і акруговай філіі Усебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „МАЛАДНЯК“. Клімавічы 5 год з часу вызваленьня Беларусі ад белапалякаў II-VII 1920 г.—II-VII 1925 г. Пад рэдакцыяй М. Модэля, А. Александровіча і А. Пальскага. Выданьне Акружкому КПБ.* г. Клімавічы.

Дзякуючы стараньням сакратара акружкому т. А. Адамовіча ў Клімавічах наладзілася маленькае выдавецтва. Паміма газэты „Наш працаўнік“, выдаюцца час-ад-часу і кніжкі. Ужо выдана чатыры кніжкі, з якіх: „Босыя на вогнішчы“ М. Чарота, „Маладняк Калініншчыны“ № 1 і 2 і „5 год з часу вызваленьня Беларусі ад белапалякаў“. Апошнія дзьве ў даным выпадку мы тутака прагледзім. Першая—„Маладняк Калініншчыны“ № 2, як і сьлед, запоўнена творамі маладнякоўцаў, але не Калінінскай філіі, а сябрамі Менскай організацыі. Езьдзіўшы ў Калініншчыну, па звычаі, менскія маладнякоўцы зложылі там № 2 „Маладняк Калініншчыны“. У ім чын-чынам праходзяць папарадку: Бабарэка, Дубоўка, Гурло, Алесь Дудар, Кузьма Чорны, А. Вольны (з іх палова ня езьдзіла ў Калініншчыну). Невялікая частка адведзена артыкулам мясцовых працаўнікоў і старонак тры допісам з месц. Уцалку № 2 „Маладняк Каліншчыны“ вельмі падобен да іншых маладнякоўскіх зборнікаў, якія імі выданы ў розных акругах. Свае адметкі і мясцовага адбітку ён мае вельмі мала, хоць у Калініншчыне ёсьць ужо філія маладнякоўцаў, якія-б маглі сьмела запоўніць сваімі творамі зборнік у тры аркушы. Само сабою, такі зборнік, мажа, і ня меў-бы тае салідпасьці, якую яму прыдалі прывезеныя з цэнтру творы.

Затое другая кніжка „Пяць год“ за выключэньнем артыкулаў А. Чарвякова і Ў. Ігнатоўскага і вершу М. Чарота, запоўнена мясцовымі сіламі. Ды запоўнена матэрыялам, добра падобраным і дапасованым к тэме дня. Поруч з артыкулам А. Палонскага на тэму „Комсамол і 11 ліпня“ і накіду А. Александровіча „Два ліпнёвыя дні“ зьмешчаны цікавыя ўспаміны Паўлінкі Мядзёлкі з часоў вызваленьня з-пад польскага ярма. Аўтар—вядомая беларуская дзяячка, быўшая ў той час сябрам партыі беларускіх эсэраў, вёўшая падпольную рэволюцыйную працу і папаўшая за гэта „ў крывавыя кіпці белага арла“. Уцякаючы з Менску, польскія паны забралі яе заложніцай. Успаміны адносяцца да моманту, калі ў Менск уваходзіла Чырвоная армія, а палякі ўцякалі, палячы і руйнуючы Менск.

Аб працы моладзі пад польскай окупацыяй 1919-1920 году дае невялічкі ўспамінак М. Адзінец. Апроч гэтага, у зборнічку „5 год“ зьмешчана п'еска С. Музыкі „10 ліпня 1920 г., або партызаны“, да пастаноўкі якое аўтар дае некаторыя тлумачэньні.

Зборнік „5 год“ аздоблены віньеткамі, надрукованы чытэльна, з буквою ў тэксьце. Відаць сьляды ўвагі і стараньня з боку рэдакцыі... пэўна ў скромных мерках, якія дазваляюцца Клімавіцкімі ўмовамі.

Трэба адзначыць гэта пачынаньне Клімавіцкага Акружкому, як дужа

карысную рэч. Яно яскрава сьведчыць за тую сілу і моц, якую хавае ў сабе разьвіцьцё беларускае культуры і яе жыцьцяздольнасьць.

**В. Г.**

*Памятник борцам, погибшим за освобождение* **Белоруссии**. *Истпарт. Белгосиздат, Минск, 1925 г.*

Зборнік гэты на 144 старонкі зьмяшчае ў сабе выключна фотографіі і маленькія біографічныя веды ваяк-рэволюцыянэраў, якія згіблі ў змаганьні за вызваленьне Беларусі. За маленькім выключэньнем гэта ўсё ахвяры польска-панскага тэрору ў часы польскае окупацыі Беларусі. Расстрэленыя і павешаныя таварышы вялі самаахвярную працу ў падпольлі, у ячэйках КПБ і ў партызанскіх атрадах, якімі кіравалі гэтыя ячэйкі, падгатаўляючы глебу для наступу Чырвонае Арміі. Польскія паны нящчадна распраўляліся з сваімі ахвярамі. Сынодык згібшых налічвае куды больш іменьняў, часта невядома прапаўшых, але Істпарту ўдалося сабраць кароткія веды і портрэты толькі каля двухсот пяцідзесяці чалавек. Аб некаторых з іх упамінаецца ў двухтрох словах, а іншым прысьвечаны натхненныя старонкі ўспамінаў. Гэты прабел ясна сазнаецца рэдакцыяй зборніка, якая ў прадмове кажа: „На жаль, дагэтуль нам удалося сабраць патрэбныя веды толькі аб нязначным ліку згібшых ваяк. За гэтым у нашым зборніку няма біографіі многіх згінуўшых рэволюцыйных працаўнікоў, у тым ліку і вельмі вядомых; а ў тых біографіях, што зьмешчаны, маюцца няпэўнасьці і, магчыма, абмылкі“.

Як-ні-як, трэба сазнацца, што і ў даным выглядзе зборнік заслугоўвае вялікага значэньня ў гісторыі вывучэньня Кастрычнікавай рэволюцыі ў Беларусі. Багатая здарэньнямі і праявамі, яна (Кастрычнікавая рэволюцыя ў Беларусі) пакуль вельмі мала вывучана. Істпарт КПБ грунтоўна ўзяўся за гэтую справу і за кароткі тэрмін, пры малых сілах, сумеў зрабіць многае.

Зборнік „Памятник борцам“—першае выданьне назьбіраных Істпартам матэрыялаў. Ён прадстаўляе двайную цікавасьць, будучы прыстасаваным усім сваім зьместам да вялікае для Беларусі даты—вызваленьня Менску ад польскіх паноў. Дагэтуль „Памятник“—першая, прысьвечаная 12 ліпня кніжка.

З надворнага боку зборнік набывае таксама прыемнае ўражаньне. Папера дадзена добрая, набор і малюнкі выразна адбітыя. Справоджана кніжка ўдалаю вокладкаю маладога мастака В. Дваракоўскага. Увогуле відаць пільнае стараньне рэдакцыі над тым, каб „Памятник“, хоць у малой меры, быў аддзякаю тым ваякам і тым здарэньням, якія заслужылі вельмі і вельмі вялікае ўвагі з нашага боку.

**Діск.**

**I І. П. Фурман**. *Крашаніна.*

**II Віцебшчына**. *Непэрыодычны орган Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства.*

Адну з найболей пашыраных і паглыблёных прац у галіне беларускага культурнага будаўніцтва, бязумоўна, нясе на сабе Віцебскае Акруговае Таварыства Краязнаўства. За год свайго існаваньня (першага верасьня Таварыства сьвяткуе сваю гадавіну) Таварыства пад загадам чыннага і таленавітага кіраўніка свайго т. Касьпяровіча выпаўніла вялікую каштоўную працу. Скуткі гэтае працы пройдуць багатым зьнізкам на яго юбілейным сьвяце. Тут мы датыркнемся аднае часткі гэтае працы, выдавецкай. Да гэтага часу Віцебскае Таварыства Краязнаўства стараньнямі здольнага організатара, таго-ж т. Касьпяровіча, выдала пяць кніжак. Прыведзеныя тут „Крашаніна“ і „Віцебшчына“—апошнія выданьні. Першая з іх—„Крашаніна“—зьяўляецца, па словах самых выдаўцоў, толькі „ма-

тэрыяламі да гісторыі крашаніны ў Віцебшчыне. Аднак і матэрыялы гэтыя каштоўны; яны даюць агляд прац па гэтым пытаньні, яе гістарычнае разьвіцьцё, мясцовасьці распаўсюджаньня крашаніны і яе тэхніку. Да тэксту ў 30 стар. далажана 15 узораў. З узораў крашаніны зроблены застаўкі, канцоўкі і першыя літары ў падзелах кніжкі. З іх-жа скомпанавана і вокладка ў адну фарбу.

„Віцебшчына“ прадстаўляе сабою нелапы зборнік на 200 з лішкам старонак густога зьместу.

Зборнік зьмяшчае артыкулы розных сяброў Віцебскага таварыства Краязнаўства, пачынаючыся артыкулам пр. А. Сапунова „Кароткі нарыс гісторыі Віцебску“. Зборнік падзяляецца на шэсьць аддзелаў і уключае ў сябе шмат featuresрознастайнага каштоўнага матэрыялу па выўчэньні краю, пачынаючы ад магільнікаў і чапаючы мастацтва, архітэктуры, музэйнае справы, фауны і флёры, геолёгічных досьледаў, бібліографіі Віцебшчыны, мэтэоролёгічных выведаў і г. д. Многія з артыкулаў складаюць сабою скутак сур‘ёзнае дасьледчае працы, як „Кароткі нарыс гісторыі Віцебску“ А. Сапунова, „Крашаніна“ Фурмана, якая ў нас фігуруе асобным выданьнем, і інш. Шмат менш значнага, дробнага, справачнага матэрыялу, але разам зборнік мае сьляды старэннае працы і дасьць бязумоўную карысьць усім тым, хто імкнецца да пазнаньня свае краіны.

Абедзьве кніжкі справоджаны прадмовамі, у якіх адзначаецца мэта, якая стаяла перад выдаўцамі пры іх выданьні.

З тэхнічнага боку выданьні бедныя, аддаюць провінцыялізмам. Танная папера, шарая фарба ў зьмесьце, газэтны стары шрыфт у „Віцебшчыне“ рознае велічыні. Праўда, умовы, у якіх вядзецца гэта праца, не застаўляюць вымагаць большага. Пры гэтым унутраны зьмест адплачвае за надворны выгляд, чым і трэба здаволіцца.

Увогуле павінна пажадаць Віцебскаму Акруговаму Краязнаўчаму Таварыству надалей тае-ж плённае і карыснае працы, якое яно частку пасьпешна ўжо выпаўніла.

Leder.

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## У Інбелкульце

О Ботанік Л. Байкавец падарыў Інбелкульту каштоўную ботанічную колекцыю беларускае флёры ў 530 выглядаў. Гэта колекцыя будзе асноваю для цэнтральнае ботанічнае колекцыі пры Інбелкульце.

О У 1926 годзе адбудзецца 50-гадовы юбілей жыдоўскага тэатру. Жыдоўская сэкцыя Інбелкульту распачала зьбіраньне адпаведных матэрыялаў да гэтага дня. Выпушчана адозва да ўсіх жыдоўскіх артыстых і тэатральных працаўнікоў.

О У зьвязку з 20-гадовым юбілеем 1905 г., Інбелкульт мае выдаць кнігу „Чырвоная старонка". Кніга будзе зьмяшчаць матэрыялы рабочых, якія прымалі ўдзел у вызваленчым руху 1905 г. і раней.

О Саўнарком БССР адпусьціў для Інбелкульту 10 тысяч рублёў для сканчэньня бюджэтнага году.

О У Менск перабраўся вядомы беларускі этнограф А. Сержпутоўскі, які выехаў у Слуцкі павет для зьбіраньня матэрыялаў, патрэбных яму для канчатку яго буйнай працы аб матэрыяльнай культуры Случчыны.

О Хутка ў Менск пераяжджае для працы ў Інбелкульце вядомы беларускі гісторык Доўнар-Запольскі. Да гэтага часу ён быў рэктарам Бакінскага унівэрсытэту.

## Тэатр і мастацтва

О Беларускім Дзяржаўным тэатрам з вялікім посьпехам дадзена ў ліпні месяцы каля дзесятку пастановак у г. Воршы. На спэктаклі прыходзіла сялянства з блізкіх і далёкіх вёсак і з зацікаўленьнем глядзелі іх. Трупа таксама дала некалькі спэктакляў для дзяцей і для рабочых мясцовых заводаў.

О СНКБ пастанавіў даць субсыдыю ў 1.000 руб. другой беларускай трупе (Галубка) для паездак па провінцыі.

О Беларуская тэатральная студыя ў Маскве ў наступным годзе мае наладзіць чатыры пастаноўкі, з якіх дзьве орыгінальных п'есы, а дзьве пераводных. Таксама будзе закончана пастаноўкаю п'еса ў „Летнюю ноч", недаканчаная ў мінулым навуковым годзе.

О У ліпні месяцы Беларускі Дзяржаўны тэатр наладзіў некалькі спэктакляў у Клімавічах. Спэктаклі мелі вялізны посьпех, праходзілі ўсе з аншлагамі; шмат людзей не магло папасьці. Уражаньне ад тэатру засталося дужа моцнае.

О 16 ліпня Барысаўская Акрана ўладзіла спэктакль з аддзяленьнем вясковага мастацтва (з пяці асоб). Ігра на дудзе і танцы „казачок", „лявоніха", „барыня" і інш. вельмі зацікавілі гледачоў.

О Беларускі Дзяржаўны тэатр у канцы ліпня даваў спэктаклі ў Магілеве. У пачатку жніўня ён выяжджае ў Гомель. На паездку ў Гомель Саўнаркомам Беларусі адпушчаны сродкі.

О 15 кастрычніка гэтага году ў Менску адчыняецца першая ўсебеларуская мастацкая выстаўка з аддзеламі: малярства, графіка, скульптура і мастацкія вырабы.

О Скульптарам Грубе выліты бюст Кастуся Каліноўскага. Бюст дужа ўдачлівы, захаваўшы тонкія рысы правадыра беларускіх паўстанцаў.

О У Менск прыехаў з Кіеву малады беларускі композытар рабочы Тышкевіч, які напісаў вядомую сымфонію „Дэкабрысты".

### Выдавецтва

О Украінскае Дзяржаўнае Выдавецтва мае восеньню выдаць два альманахі: творы маладнякоўцаў на украінскай мове і творы украінскіх пролетарскіх пісьменьнікаў на беларускай мове.

О Маскоўскі кіно-сцэнарыус Тарыч кончыў распрацоўку сцэнарыю водлуг апавяданьня М. Чарота „Сьвінапас".

О У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве вышла з друку пятым выданьнем поэма М. Чарота „Босыя на вогнішчы".

О Вышаў з друку другі нумар „Маладняк Калінішчыны".

О К дню 12 ліпня (вызваленьня Менску ад белапалякаў) Істпарт КПБ выдаў кніжку „Памятник борцам, погибшим за освобождение Белоруссии". Кніжка аздоблена 80 портрэтамі згібшых ваяк-рэволюцыянэраў.

О Белдзяржвыдатам выдзелена рэдакцыя з трох т. т.—Дылы, Шукевіча-Трэцьцякова і Шыпілы для рэдагаваньня сэрыі таннай бібліотэчкі мастацкае літаратуры, якую ў наступным годзе мае выдаваць Белдзяржвыд.

О Выдавецкі плян Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва на 1925-26 г. заключае ў сабе 900 друкованых аркушаў у ліку 1 607.000 экзэмпляраў. Аркушы падзяляюцца па мове: на беларускай 612 арк., на жыдоўскай 135 арк., на польскай 45 арк., на расійскай 90 арк. і на латыскай 18 арк. З беларускіх аркушоў, 300 аддаецца для падручнікў, 130 арк. пад мастацкую літаратуру, 50 арк. пад сялянскія выданьні і інш.

О Апавяданьне „Два" А. Вольнага вышла на жыдоўскай мове.

О Калінінскі Акрполітасьветы выдаў дзіцячыя п'ескі М. Чарота „Пастушкі" і „Данілка і Алеська".

О У Дзяржаўным Выдавецтве Беларусі вышаў з друку першы том збору твораў Янкі Купалы з уступным крытыка-біографічным нарысам З. Жылуновіча і портрэтам аўтара. У першы том уваходзіць „Жалейка" і „Гусьляр".

О У тым-жа выдавецтве вышла з друку „Сымон Музыка" Якуба Коласа.

О Жыдоўскі аддзел Наркамасьветы мае выдаць зборнік беларускіх вершаў і апавяданьняў у перакладзе жыдоўскага пісьменьніка Харыка.

О У Белдзяржвыдаце вышла з друку кніжка У. Дубоўкі „Трысьцё", збор вершаў.

О Віцебскае Акруговае Краязнаўчае Таварыства выдала непэрыодычны зборнік таварыства № 1 „Віцебшчына" і „Крашаніна" І. Фурмана.

О У наступным годзе Белдзяржвыд мае выдаць 150 аркушаў мастацкае літаратуры. З 150 аркушаў, для бэлетрыстыкі адведзена 100 арк., для вершаў 25 арк. для п'ес і музычных твораў таксама 25 арк. З бэлетрыстыкі намечана да выданьня: „На перагібе"—другая частка роману Цішкі Гартнага, „Сьвінапас" аповесьць М. Чарота, „Збор апавяданьняў" М. Гарэцкага, кніжка апавяданьняў К. Чорнага і інш. З вершаў адведзена 15 арк. для другога тому твораў Янкі Купалы і зборніку вершаў М. Чарота.

О 10 жніўня адбылося пяцігодзьдзе з дня заснаваньня газэты „Савецкая Беларусь", якая зьяўляецца адзінай у сьвеце штодзеннай беларускай газэтай.

О З бібліотэкі маладнякоўцаў вышаў чародны выпуск—выбраныя творы М. Чарота.

О У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве вышаў з друку збор вершаў Цішкі Гартнага „Урачыстасьць". Зборнік аздоблены мастацкаю вокладкаю мастака Баранскага.

### Сярод пісьменьнікаў

О Песьняры М. Чарот, А. Вольны і У. Дубоўка зрабілі падарожу ў Харкаў і Кіеў, дзе ладзілі выступленьні з сваімі творамі. Выступленьні вельмі зацікавілі шырокія украінскія колы, і украінскі друк адгукнуўся на гэта спачуваюча.

О У хуткім часе маюць прыехаць у Беларусь вядомыя украінскія песьняры на чале з т. П. Тычынаю, якіх запрасілі езьдзіўшыя на Украіну маладнякоўцы.

О Організацыя беларускіх пісьменьнікаў „Маладняк" пасылае сваіх сябраў у Веліскі, Себескі і Невельскі паветы Віцебшчыны для азнаямленьня беларускага жыхарства з дасягненьнямі беларускае культуры.

О ЦБ „Маладняка" командыравала ў Мазыршчыну для зарысовак характэрных беларускіх тыпаў мастака А. Тычыну.

О М. Чарот напісаў новую поэму „Карчма" з жыдоўскага жыцьця.

О 23 верасьня 1925 г. адбудзецца пятнаццацігодзьдзе літарацкай працы песьняра Зьмітра Бядулі, які ў 1910 г. ў № 39 „Нашае Нівы" надрукаваў першы свой твор „Пяюць начлежнікі".

О Беларускія поэты-маладнякоўцы—М. Чарот, А. Вольны і Ў. Дубоўка ў ліпні месяцы наведвалі Мазыршчыну, дзе зрабілі даклады аб беларускай літаратуры і прачыталі свае творы. З боку слухачоў маладнякоўцы мелі вялікі посьпех.

О Цэнтральнае бюро эспэрантыстых у Беларусі падгатаўляе пераклады беларускіх поэтаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага ды іншых на эспэранцкую мову. Мэта перакладу — пазнаёміць увесь эспэранцкі сьвет з беларускаю поэзіяй.

О З 15 ліпня 1925 году загадам Наркамасьветы Беларусі Янка Купала пераходзіць на пэнсію, якую яму, як народнаму поэту, прызначыў СНКБ. З гэтай прычыны Янка Купала пакінуў працу ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве.

О Зьмітрок Бядуля назначаны Інбелкультам рэдактарам краязнаўчай часопісі „Новы Край".

О Андрэй Александровіч залічаны Калінінскім акружкомам на пасаду рэдактара газэты „Наш Працаўнік"—орган Калінінскага Акружкому.

О Аддзел Друку ЛКСМБ, замест Ан. Вольнага назначыў рэдактарам „Маладняка" маладнякоўца Труса.

О Алесь Гурло падгатаваў да друку другі зборнік сваіх вершаў.

О З. Бядуля здаў у друк зборнік апавяданьняў для сялянства.

О 17 ліпня Магілеўская філія „Маладняк" наладзіла вечарыну для настаўніцтва. Вечарына складалася з уступнага слова т. Паскрэбкі, пасьля чаго т. Зарэцкі прачытаў свой верш у прозе „Комсамолка", а т. Шастакоў прадэклямаваў апошні разьдзел з поэмы Чарота „Босыя на вогнішчы". У заключэньне выступіў хор працаўнікоў асьветы, які выканаў цэлы рад беларускіх песень. Вечарына захапіла настаўніцтва. 21 ліпня прадстаўнікі аб'яднаньня „Маладняк" наведалі Полацак, дзе таксама зрабілі вечары сваіх твораў.

### За рубяжом

О Культурнае таварыства імя д-ра Ф. Скарыны ў Празе чэскай прыслала прывітаньне Інбелкульту.

О У Рызе пачала выдавацца беларуская газэта „Голас Беларуса" пад рэдакцыяй К. Езавітава. Вышлі ўжо 6 нумароў.

О Латыскае правіцельства зачыніла Люцынскую беларускую гімназію, мотывуючы тым, што ў ёй вучыцца мала вучняў, якія вельмі дорага абыходзяцца. Усе беларускія організацыі ў Латвіі падалі протэст прэзыдэнту Латвійскае рэспублікі.

О У літоўскім і латыскім друку ў апошнія дні зьмешчаны рад артыку-

лаў (газэты літоўскія „Lientura“ і „Trimitas“, латыская кніга „Latrira“), у якіх паднімаецца кампанія за хаўрус і сяброўства між латышамі і беларусамі, і літвінамі і беларусамі; у Віленскай і Рыскай беларускіх газэтах дадзены адказныя артыкулы, у якіх гаворыцца, што беларусы ня могуць служыць сродкам для таго, каб з іх дапамогаю буржуйнай Літве выйграваць для сябе тыя ці іншыя справы ў гандлі з вялікадзяржаўнымі імпэрыялістымі.

О У Дзьвінску адчыніўся аддзел беларускага культурна-асьветнага таварыства „Беларуская хата“.

О Дзеля падрыхтоўкі да выбараў у латыскі дзяржаўны сойм у многіх гарадох Латвіі з'арганізаваліся таварыствы беларускіх выбаршчыкаў.

О У Коўне вышаў з друку крыўска-расійскі слоўнік В. Ластоўскага. Тым-жа выдавецтвам рыхтуецца да друку зборнік, прысьвечаны 400-х годзьдзю беларускага друку.

О Ганна Душэўская, якая скончыла ў Бэрліне консэрваторію па аддзеле сьпеваў, пералажыла на беларускую мову некалькі чужаземных опэр. Г. Душэўская жыве зараз у Рэвелі (Эстонія).

О Беларускім культурна-асьветным таварыствам у Рызе „Беларуская хата“ з'арганізаваны духавая оркестра, у якой прымае ўдзел беларуская працоўная моладзь з фабрык ды заводаў. Оркестра працуе пяць месяцаў і зрабіла ўжо значныя посьпехі.

**Краязнаўства**

О У Менску арганізавана Акружнае Краязнаўчае Таварыства. На агульным сходзе выбрана часовая ўправа. У першую чаргу таварыства зьверне сваю ўвагу на раёны, дзе ва многіх мясцох існуюць ужо краязнаўчыя гурткі, якія самі вядуць працу.

Зараз таварыства гатуе да друку зборнік аб Менску й Меншчыне.

О Краязнаўчае Бюро Інбелкульту пачынае выдаваць часопісь Бюро „Новы Край“.

О 3/IX адбываецца гадавіна з дня існаваньня Віцебскага Акружнога Таварыства Краязнаўства. Зараз таварыства налічае 500 сяброў. Ім выдзелена 5 сэкцый і 14 комісій. За год выдана пяць брошур і два сталых выданьні—усяго 10.000 экз. Зроблена 11 агульных сходаў і 33 сэкцыйных.

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# ЗЬМЕСТ „ПОЛЫМЯ“ № 5.



Б. Д. В. № 121. Галоўліт № 10132.

1-я Дзяржаўная друкарня. Зак. № 835—2.000 экз.